# ЗМЕСТ

Крыніца


ТЫ

Віктар КАЗЬКО 2

ЁН

Райнер Марыя РЫЛЬКЕ 24

У НАС

Мікола КУПРЭЕЎ. НА ВУЛІЦЫ КАРЛА МАРКСА З ПАЭТАМ 47

МЫ

Уладзімір АРЛОЎ. У ГОРАДЗЕ, ЯКОГА НЯМА 70

У НАС

Юрась БАРЫСЕВІЧ. ЧАРГА 76

НАША

Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ 99

ЯНО

Анатоль КУДЛАСЕВІЧ, Анатоль ДЭБІШ, Юры СТАНКЕВІЧ, Зміцер ВІШНЁЎ. КАЛІ Б Я БЫЎ ПРЭЗІДЭНТАМ 104

# Віктар КАЗЬКО



*Пісьменнік  чытач,*
*заўсёдная, пракавечная і*
*паўсюдная гульня.*
*Хто з іх пан, хто служка?*
*Каб я гэта ведаў,*
*я б тады пагуляў.*
*Не ведаю, дарагі мой чытач,*
*і таму я з табою не імкнуся*
*гуляць.*
*А мо, наадварот,*
*таму і гуляю.*

**З Віктарам КАЗЬКО гутарыць Юры СТАНКЕВІЧ**

ТРЫ АПАКАЛІПСІСЫ
ДВА ПЕРАКАЗЫ
ХРОНІКА МЁРТВЫХ СЕЗОНАЎ

**Я ВАМ НІКОЛІ НЕ ХЛУСІЎ**

ВІДАВОЧНАЕ
КАНТРАПУНКТ ПАКУТАЎ
ПАХАВАЛЬНАЯ ПЕСНЯ З ПРОБЛІСКАМ НАДЗЕІ





# З Віктарам КАЗЬКО гутарыць Юры СТАНКЕВІЧ

**Юры Станкевіч.** Вось вы нарадзіліся і распачалі свой супрацiў сілам жыцця Найбольш гэты супраціў выявіўся ў пісьменстве Э Хемінгуэй неяк заўважыў, што пісьменнікі – людзі з нешчаслівым дзяцінствам Упартасць, з якой вы вяртаецеся да варыяцый гэтай тэмы, не можа не звярнуць на сябе ўвагі

**Віктар Казько.** Па-першае, аб супраціве Ніколі не супраціўляўся жыццю – проста жыў Хай у вачах іншага гэта выглядае нейкай нават мо недарэчнасцю, жыў, імкнуўся да жыцця прагна, як вясною трава, як дрэва ўлетку, як мох на камені ў кожную пару года. Аб шчасці, няшчасці, аб уласным лёсе не думаў і ніколі нікому не зайздросціў. Не наракаў на жыццё Так жылі ўсе вакол мяне, дзе я спадобіўся нарадзіцца. Хаця і ведаў з кніжак, што ёсць, існуе інакшае жыццё, у якім усе хлопчыкі абутыя і не ў зрэбных палатняных штоніках, а ў картовых, фабрычных, у беленькіх кашульках і пры чырвоных гальштуках, і з горнам у руках, і з белым хлебам, булкай з маслам А мне, як усім маім аднагодкам Калінкавіцкай чыгуначнай ускраіны, не было калі супастаўляць і думаць, чаму так адбываецца, чаму так "няроўна дзеле Бог" І гэта мо і добра. Інакш мы не выжылі б А нам патрэбна было выжыць, застацца пры сонцы і небе, пры зіме і лецe І я вельмі ўдзячны, як вы кажаце, свайму "нешчасліваму дзяцінству" А сёння яшчэ недзе і ўпэўнены, што нешчаслівага дзяцінства няма і не можа быць. Няшчаснымі мы робімся куды пазней

Я ўдзячны дзяцінству, што яно напоўніцу дало мне адведаць, паспытаць салодкага і горкага, дзякуючы чаму мяне не сасмакталі і не выплюнулі Дзяцінства вызначыла, наканавала мне лёс і светлы смутак з-за таго, што ўсё праходзіць, усё заканчваецца. Там, у дзяцінстве, я атрымаў сілу, зведаў першую радасць – натхненне жыць, быць – адбыцца. Прайсці па жыцці і гэтай зямлі, як гэта зрабілі мае бацькі і дзяды Без стогну, плачу, папрокаў і нараканняў. А тое, што ўсё гэта далося не вельмі лёгка, лічу выпрабаваннем мне і недзе проста падарункам лёсу Мяркуйце самі, у дзяцінстве я быў вялікім вандроўнікам, як "вечны жыд" у часе, вандроўнікам у тым жа часе і на зямлі, у прасторы Без ніякай напругі я быў здольны кожную хвіліну збегчы ў іншае жыццё, нават

# ТРЫ АПАКАЛІПСІСЫ

**Віктар Казько ўваходзіў у літаратуру ў той час, калі ў савецкай прозе ўбіралася ў сілу міфалагічная школа, у асобах Ч. Айтматава, В. Астаф'ева, І. Друцэ, Т. Пулатава, Ю. Кіма, В. Гранаўскаса ды іншых.**

**Пачатак міфалагічных шуканняў грунтаваўся на архаіцы – анімізме. Звяры, птушкі, рыбы надзяляліся, апроч інстынкту, яшчэ й чалавечым розумам, і ў выніку літаратуру насялялі істоты, не па-людску і не па-жывёльнаму мудрыя: ваўчыца Акбара з "Плахі" Айтматава, Вавёрка з аднайменнага рамана Кіма, Цар-Рыба з аднайменнай кнігі Астаф'ева, Гаспадар вострава з "Развітання з Мацёрай" Валянціна Распуціна, Стары бабёр з "Палявання на Апошняга Жураўля" Алеся Жука. Сюды ж далучаецца падарожнік па часе і прасторы ўсюды і заўсёдыісны зубр Сноўдала з "Хронікі дзетдомаўскага сада" В. Казько.**

**Але час выявіў дамінанту ў міфалагічнай сістэме беларускага аўтара: біблейская вобразнасць і семантыка.**

**Спярша біблейскія вобразы прарасталі ў ягонай прозе ў выглядзе адасобленых ліній. Напрыклад, міфалагема памерлага і ўваскрэсенага зярняці ў "Аповесці пра беспрытульнае каханне", дзе біблейская прыпавесць стасуецца з лёсам дзяцінства, параненага вайной.**

тагасветнае А наконт прасторы – жыццё проста выштурхнула мяне ў гэтую прастору· горад, вёска, беспрытульніцтва – Беларусь, Расія, часткова Украіна, а пазней Сібір, Алтай, Горная Шорыя І кожны раз не проста геаграфія, мільганне людзей, карцінак, краявідаў Гэта была хоць і вымушаная, але і вялікая школа пазнавання свету, выпрабаванне маленькага беларуса на трываласць, выпрабаванне яго жыццёвай сілы.

**Ю.С.** Беларусы ўвогуле існуюць у этнічнай прасторы, паводле слоў Ч Мілаша, "між гаршком і патэльняй". Неяк і вы апынуліся, скажам так, "у гаршку" – я маю на ўвазе Расію Ведаю, што Расія сустракае "крута" некалькі маіх знаёмых загінулі там Вы не згубіліся на яе прасторах і вярнуліся

**В.К.** Так, Расія сустракае "крута" У маёй "Аповесці аб беспрытульным каханні" былі словы, усім вядомая прымаўка "Масква слязам не верыць" Іх выкінулі пры першай жа публікацыі, у часы так званага "застою". Гэта тады была крамола А сёння я скажу, што "крута" сустракае новага чалавека, прышэльца, прыхадня не толькі Расія Гэта вельмі выразна відно сёння У свой час я рабіў два заходы на Расію і Маскву Першы раз несвядома, беспрытульнікам, пад Малаяраслаўцам, на пад'ездах да Масквы, паспытаў, адведаў рукі "старэйшага брата". Міліцыянты мяне спыталі. ці хачу я есці Пэўна ж, хачу. Накармілі "макаронамі" галава між каленяў міліцыянера і па шыі рубамі далоні Пад'еў З сухініцкага дзетпрыёмніка прывезлі зноў у Беларусь, у Мазырскі дзетпрыёмнік. І дзякуй Богу Дурню добрая навука

Была і другая спроба Расіі Пасля дзетдома паехаў у Сібір на шахты. І зноў жа, дзякуй Богу, што паехаў Якая можа быць "крутасць", калі ў цябе няма ніякіх амбіцый Беларусы добра ведаюць. у чужой царкве свечкі не варта перастаўляць. Я прыехаў у Сібір жыць і рабіць. Па-беларуску, па-сібірску. Як тысячы, мільёны беларусаў ехалі па кавалак хлеба на край свету Дарэчы, сустракаў у Заходняй Сібіры, у тайзе цэлыя вёскі беларусаў, дзе былі захаваныя ўвесь наш побыт і нават мова, школы, падручнікі І сібірскія беларусы навучалі нас, дзетдомаўцаў, шахцёрскай справе І Кузбас назаўсёды застанецца светлым у маёй памяці, хаця я там і губляў прытомнасць у шахце ад знямогі і недаядання, шахта трушчыла хрыбціну і рукі Але ж было і вялікае пачуццё саўдзельніцтва з людскай працай, шахцёрскага братэрства І ніхто з намі, з эшалонам дзетдомаўцаў, якія кінулі ў пяцьдзесят шостым годзе ў гарніла кузбасаўскай індустрыі, "крута" не абыходзіўся Адно, мы былі без амбіцый, другое – мы былі ўжо прыцёрты да жыцця ў якім бы то ні было асяроддзі Мы прынялі і паважалі чужы лад жыцця, іх мову, звычаі Чаго не скажаш шмат аб якіх рускіх, што жывуць сёння на Беларусі Жывуць з засвоеным· мы – старэйшы брат, Мікалай другі.

Але гэта ўжо іншая тэма. Чаму я вярнуўся? А вось узяў і вярнуўся Мой сябра па хойніцкім дзетдоме і кемераўскім рамесным вучылішчы Анатоль Бельскі, калі я ў яго спытаўся, ці хоча ён назад у Беларусь, адказаў мне. пайшоў бы пешкі, падаў бы на каленцы і поўз. Якая гэта вялікая туга, смутак, журба, асабліва ў юнацтве, адчуваць

**Пазней лініі, матывы набылі замкнёнасць, завершанасць, і сталася відавочным, што сюжэт універсальнай біблейскай драмы ў адметным варыянце пракручваецца ў кожным новым творы празаіка. Адметнасць у тым, які менавіта момант гэтай драмы аўтар бярэ ў якасці экспазіцыі. У "Нерушы", прыкладам, экспазіцыяй з'яўляецца матыў сусветнай паводкі, у "Хроніцы дзетдомаўскага сада" – выгнанне з Эдэму.**

**Абсалютнай жа кульмінацыяй амаль кожнага твора ёсць Апакаліпсіс, зруйнаванне Сусвету. Часам аўтар гранічна ссоўвае моманты нараджэння і канца свету, памяшчае Сусвет у адну, неймаверна цяжкую і гарачую кропку Проза робіцца эмацыйна перагрэтай, распаленай да чырвані і белі; тэмпература дасягае такога касмічнага градуса, што як бы перастае існаваць. Крытыкі даволі часта ўпікалі аўтара і за гэтую звыштэмпературу эмоцый, і за сумбур і хаатычнасць апавядання. Але хаос, сумбур і гарачыня – атрыбуты першастварэння Сусвету, матэрыі; распаленая і аморфная плазма – вось матэрыял, з якім працуе аўтар, і гэта даводзіцца прымаць як данасць.**

**Эсхаталогія ў гэтай прозе пераважае над касмагоніяй. Пераважаюць матывы разбурэння створанага свету. Цікава, аднак, што ў розныя перыяды творчасці аўтар па-рознаму бачыў храналогію і тэрміны Апакаліпсіса.**

**У ранейшых творах – "Высакосным годзе", "Аповесці пра беспрытульнае каханне", "Судзе ў Слабадзе" – Апакаліпсіс адбываўся ў мінулым, суадносіўся з катаклізмамі другой сусветнай вайны. Час асноўнага дзеяння – пост-**





сябе адарваным ад роднай зямлі, адрэзаным куском Але з цягам часу пачуццё гэта глухне І той беларускі эшалон хлопчыкаў-дзетдомаўцаў Палесся і па сённяшні дзень амаль цалкам застаўся ў Сібіры А са мной адбылося тое, што я пачаў пісаць. І не галава, а рука, а мо і галава і рука, што бегла па белым чыстым аркушы паперы, памяць рукі павярнулі і пагналі мяне ўжо ў сталым узросце на Беларусь. Так трэба было, пэўна І перш-наперш трэба было самому мне А мо й майму сыну, жонцы, продкі якой, дарэчы, таксама перасяленцы-беларусы І мне наканавана было з'ездзіць у Сібір па жонку-беларуску

**Ю.С.** Вы, як і я, перажылі дзве глабальныя "адлігі" – хрушчоўскую і гарбачоўскую Мне, дарэчы, яны ўсё-ткі неяк паспрыялі ў жыцці Ну, хаця б далі магчымасць пісаць не толькі "пра буракі" А вам?

**В.К.** Як вы бачыце, у час адлігі па яе коўзкай каляіне я трапіў у Сібір І ніякай адлігі я напачатку не адчуў Да нашай рамесніцкай, а потым студэнцкай пайкі хлеба яна і крошкі не дадала Нават напрыканцы хрушчоўская адліга адабрала ад нас той бясплатны хлеб, што стаяў на сталах у студэнцкай сталоўцы А калі пачалі зарабляць самастойна ўжо свой хлеб, мы як былі, так і засталіся парабкамі. Тымі, хто ёсць, застаецца ім пры кожных адлігах, накірунках і зменах улады. Ах, як сёння наракаюць і сумуюць па каўбасе па два рублі дваццаць капеек. Сумуем Таму што два дваццаць пры любым ладзе – гэта ўсё ж два дваццаць, а не сто тысяч пры зарплаце, якая ўдвая-ўтрая паменела, і добра, калі на рукі атрымліваецца чысты мільён пры ранейшых 120 рублях. Парабкі жывуць жыватом, і нельга іх, грэх у гэтым абвінавачваць. Больш за тое, трэба змагацца з тымі, з тым ладам, які апускае, зводзіць чалавека да жывёльнага існавання, у якія б адзенні і як бы той лад ні прыхарошваўся

А што тычыцца "буракоў" – у час першай, хрушчоўскай, адлігі я працаваў ужо ў газеце, – я пісаў пра іх, хоць сёння смешна і ўспомніць, з задавальненнем і шчыра Пасля шахты, геолагаразведкі я адкрываў для сябе журналістыку І мне ўсё было вельмі цікава І калі б у маёй біяграфіі не было "буракоў", фігуральных, канечне, бо я не ведаю і сёння – растуць яны ў Кузбасе ці не, але без тых фігуральных буракоў таго часу, мне здаецца, не было б у мяне і "Нерушы", "Суда ў Слабадзе", і шмат чаго іншага Зразумела, заднім чыслом можна каяцца і біць кулаком сябе ў грудзі. Толькі ці варта. Ці не нагадвае гэта адну знакамітую крытыкесу, у якой спыталіся ў свой час: чаму яна выходзіць сёння з партыі, калі яна раней уступіла туды добраахвотна, пішчом лезла. Вось таму і выходжу, адказала яна

І яшчэ, я і сам не ведаю, адмоўная, станоўчая гэта рыса, але яна вельмі ўласціва беларусу – даверлівасць да хваравітасці, да зацятасці адданасць справе, так званае "трудолюбие" Імкненне давесці, зрабіць кожную справу прыстойна. Упасці, але давесці, зрабіць. Упасці, але зрабіць сваё, а вось тады ўжо і трава не расці

А адлігі, асабліва першая, хрушчоўская, дазволілі мне развітацца са шматлікімі ілюзіямі маленства, з інфантылізмам успрымання жыцця І менавіта праца ў газеце

**апакаліптычны, з рэмінісцэнцыямі Страшнага суда. Але выбух-кульмінацыя фатальным чынам вяртае героя да Апакаліпсіса.**

**Пазней аўтар перанясе Апакаліпсіс у будучыню, прытым недалёкую. Творы набываюць прыкметы антыўтопіі, прагностыкі і папярэджвання. Гэта памянёныя вышэй рамана "Неруш", і "Хроніка дзетдомаўскага сада", дзе амаль літаральна прадказваецца падзенне зоркі Палын.**

**Творы празаіка апошніх гадоў – гэта Апакаліпсіс сёння, гэта прыродная, сацыяльная, нацыянальная катастрофа, убачаная з самога эпіцэнтра, гэта асколкі, хаос і гарачыня свету, які разбураецца ў цябе на вачах. З усіх эмоцый тут наймацнейшае адштурхоўванне, непрыняцце. Апакаліптычны жанр сам па сабе грунтуецца на непрыняцці гісторыі, агідзе да яе; тут – непрыняцце сучаснасці.**

**Што далей? Новы Страшны суд, на гэты раз над сучаснасцю і сучаснікамі? Або вяртанне да згубленай гармоніі? Дарэчы, ёсць у В. Казько і такі гарманічны твор, дзе чалавек, прырода і быццё знаходзяцца ў суладдзі, – гэта напаўзабытая, амаль не заўважаная крытыкай аповесць "Цвіце на Палессі груша". Але праявы сённяшняга дня амаль цалкам адбіраюць у пісьменніка магчымасць вярнуцца да матыву гарманічнага, неспакушанага Сусвету. Майстар надзвычай востра і бурна рэагуе на грамадскія падзеі і мікрападзеі – як дазіметр, што працуе на звышчуйнай шкале: яго адразу ж "зашкальвае".**

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

больш за ўсё паспрыяла гэтаму. "Комсомолец Кузбасса" – была дзіўная газета Гэткае спалучэнне інтэлекту і яго адсутнасці, вартасці, прыстойнасці і прыстасаванства – своеасаблівы зрэз грамадства таго часу А пераважала ўсё ж маладосць і чысціня памкненняў, адсутнасць цынізму У газеце ў той час рабілі выпускнікі амаль усіх факультэтаў журналістыкі ВНУ краіны – вальнадумцы, і без афіцыйнага дазволу адлігі, большасць з якіх пайшлі пазней ці ў пісьменнікі, ці ва ўласныя карэспандэнты цэнтральных газет. Амаль усе яны, хто ў большай ступені, хто ў меншай, адбыліся як творцы, асобы І мне не дазволілі расплысціся, надламацца ў час адлігі, дапамаглі прачнуцца і захавацца. А яшчэ наконт "буракоў" – агляніцеся, зірніце на нашу сённяшнюю афіцыйную прэсу Як і якіх толькі дзяржаўных буракоў не апявае яна цяпер. Нічога не змянілася за дзве адлігі, за час дэмакратыі, незалежнасці і свабоды, бо свабода – гэта ўсё ж стан душы, пытанне больш аб сумленнасці, прыстойнасці, вартасці самога чалавека. Ёсць у ім сорам, сумленне – чалавек, няма – поўны бурак ці проста амбіцыёзны бурачок.

**Ю.С.** Лічыцца, што моц любой краіны трымаецца на "рэднэках" – гэта значыць, "чырванашыіх": механізатарах, вадзіцелях грузавікоў, землярobах, людзях працы. Але ў вашых "рэднэках", прыкладам, з аповесці "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел", больш ад стэйнбекаўскіх бадзяг-анархістаў І канец іх трагічны Вы верыце ў правінцыйную Беларусь, у моц і жыццяздольнасць нашых "чырванашыіх"?

**В.К.** Мне здаецца, што нейкім чынам я ўжо адказаў крыху вышэй на гэта ваша пытанне На чым я тут спатыкнуўся – гэта на стэйнбекаўскіх "бадзягах-анархістах" з маёй аповесці "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел". І адразу ж такая асацыяцыя. У час адной з паездак па Савецкім Саюзе ў Стэйнбека спыталіся з пэўнай, зразумела, шпількай як у ЗША адносяцца да пісьменнікаў, хто ці што такое пісьменнік у Амерыцы А нешта сярэдняе паміж цюленем і акрабатам, адказаў ён Дык вось, мне дзіўна параўноўваць маіх герояў з бадзягамі і анархістамі, як дзіўна дзяліць людзей на "рэднэкаў" і, скажам, яйкагаловых інтэлектуалаў По сваёй прыродзе гэта ўсё роўна нешта сярэдняе паміж акрабатам і цюленем – чалавекі А ў нашы дні і асабліва на Беларусі ўжо неяк увайшло ў звычай, стала модай, як раней партыю, так цяпер ганьбіць, абыходзіцца высыпаткам, калі гаварыць пра свой народ, так званы беларускі менталітэт, правінцыйную Беларусь. А што, інтэлігенцыя ў нас іншая? А ні адзінага лідэра Вылучаю толькі Васіля Быкава Астатнія ўсе лідэрчыкі Дык навошта ж, па-руску кажучы, на зеркало пенять, коли рожа кривая Таму ў кручоны час і пануюць, уладараць нашы крывялі ды круцялі І зноў жа – правінцыйнага, раённага разліву І канец іх будзе трагічны

А ў правінцыйную Беларусь, яе моц і жыццяздольнасць я веру, бо сам такі ж і адтуль. Як і веру гарадскому асфальту, хоць і пісаў у свой час пра нас Міхась Стральцоў "Сена на асфальце". Але ж трава прабіваецца, расце і на асфальце, і дрэва бурыць яго. Вось так у свой час з свайго закаруэлага, падманна толькі трывалага яйка праклюнемся, праб'ёмся і мы. А сама правінцыя – гэта не толькі і зусім не Вандэя, цёмная сіла. Там сярод ночы на вясковым гнаі ўсё ж нешта расце Расце і корміць, і поіць нас. Варыцца варыва.

Нездарма некалькі гадоў таму пэўная частка інтэлігенцыі, у большасці творчай, і не толькі ў нас, але і ва ўсім свеце кінулася ў правінцыю, у вёску. Дэмакратызацыя спыніла гэты працэс Але але ў нечым і паскорыла Паглядзіце сёння на пісьменніка, прафесара, навуковага супрацоўніка Якраз сёння іменна яны бліжэй за іншага правінцыйнага жыхара, таго ж селяніна, да зямлі. Як шчыруюць на сваіх чатырох сотках, куды там вясковаму "рэднэку" Гэта яны сёння самыя "чырванашыія", без косак ..

Не здзекуюся, не жартую Проста сведчу наш "чырвонашыі" беларускі "рэднэк" быў і застаецца вязнем, ён руліцца нешта рабіць, але прыглядзьцеся у яго рукі звязаны за плячыма. Ён усё яшчэ парабак у часе Як казала адна вясковая бабуля пры Гарбачове нешта праблiснула, і зноў зрабілася цёмна.

І яшчэ, што тычыцца "рэднэкаў" сёння. У свой час Надар Думбадзе, наведаўшы Злучаныя Штаты Амерыкі, сказаў, што ён там адчуў і зразумеў розніцу паміж іх і нашымі неграмі – нашы негры белыя Як сцвярджэнне гэтаму словы аднаго са старшыняў нашых калгасаў, яго адказ на папрокі, што, маўляў, нашы людзі – вяскоўцы, калгаснікі – гультаяватыя, не любяць працаваць. Якая бязглуздзіца, абураўся ён, вы толькі пагледзіце, наш сялянін цягне як вол, ён фактычна робіць на дзвюх вытворчасцях: у сябе на гаспадарцы, у хаце і сваіх сотках і ў тым жа калгасе Хто яшчэ ў свеце так руліцца, так пнецца Нешта падобнае сёння адбываецца і з творчай інтэлігенцыяй, з творцам. Ён жа сёння не на дзвюх, а трох ці нават чатырох працах. недзе на адной зарабляе на хлеб надзённы, служыць. Каб выжыць, бегае па ўстановах у пошуках халтуры. Лепіць тую халтуру за кавалак хлеба, прадаецца і здраджвае сабе І для захавання душы знаходзіць час, каб займацца яшчэ і творчасцю

Дык адкажыце мне, хто сёння ў нашым грамадстве "рэднэк" ці, інакш, хто з нас сёння не "рэднэк" У каго не толькі шыя мокрая? Хто з нас хоць і белы, але не негр, не нігер?

**Ю.С.** Ваш раман "Неруш", аповесць "Цвіце на Палессі груша" і некаторыя іншыя творы насычаны матывамі Апакаліпсіса. Ваш прагноз на будучыню Беларусі і беларусаў: што тут будзе, скажам, праз 50 гадоў? Будзе "пепел темнеть, остывая, иль под пеплом алмаз засверкает?" Асабіста мне думаецца, будзе, як у Оруэла: усё больш "чорных ды жукаватых", а на тую набрыдзь будуць гарбаціць нашы "памяркоўныя" тубыльцы, хаця – хто ведае Вы ведаеце?

**В.К.** Вось на гэтае ваша пытанне я нічога не магу адказаць. Тое-сёе я ведаю, толькі калі застаюся ўначы сам-насам з белым аркушам паперы. Дый тады сумняваюся Сумняваюся да першага слова, да першай фразы. А далей павінен пераадольваць, душыць самога сябе Пачаць верыць. Бо без гэтай веры не варта

# ДВА ПЕРАКАЗЫ

**З імем Віктара Казько мяне звязвае ўспамін пра адну гісторыйку.**

**Некалі вучыўся я на падрыхтоўчым аддзяленні Мінскага інстытута культуры. Парадкі там былі даволі строгія, дастаткова хоць бы такога факта, што з нашай групы колькасцю трыццаць чалавек да першага курса дацягнулі толькі дзесяць. І вось аднойчы, на самым пачатку вучобы, выкладчыца мовы і літаратуры дае нам заданне: схадзіць не помню ў які кінатэатр і паглядзець фільм "Ідзі і глядзі", а потым напісаць кароткі пераказ яго, разбаўлены сваімі ўражаннямі. Словам, зрабіць тое, што па-расейску называецца "изложение".**

**– Я асабліва настойваю, – сказала выкладчыца, – каб вы былі шчырыя, каб запісалі толькі тое, што адчуваеце. Вы ўсе пасля войска, многае пазабывалі, хай вашыя тэксты будуць нязграбныя, з граматычнымі памылкамі – няважна, але хай гэта будзе толькі вашае! Я таму настойваю на шчырасці, што мне трэба ўбачыць ступень падрыхтоўкі і развіцця кожнага з вас. Тады пачнём працаваць індывідуальна, слабых я падцягну. Калі ж вы спішаце дзе-небудзь, ці адзін у аднаго – мяне вы падмануць зможаце, але адначасова і саміх сябе: вы не зможаце здаць самых галоўных экзаменаў і інстытут вам будзе "заказаны".**

**Не ведаю, як хто, а я гэтым словам паверыў.**

**І мы пайшлі. І паглядзелі. Вярнуўшыся з кінатэатра, разумнейшыя адразу пакіравалі ў інстытуцкую бібліятэку і сумленна паздзіралі рэцэнзіі з "Вечаровага Мінска". А чалавек колькі такіх, як я, разбрыліся па інтэрнацкіх пакоях і заселі за сталы. Я напісаў прыблізна так: "Скажу шчыра – фільм не спадабаўся. Увогуле "мастацкім фільмам" назваць яго можна з вялікай нацяжкаю. Ён бессюжэтны, герояў дужа шмат, і яны не запамінаюцца, ім не суперажываеш. Мазаіка натуралістычных сцэнак змяняецца, як у калейдаскопе, ад чаго страцаціць у вачах і не атрымліваецца цэльнага малюнка. Магчыма, у мяне склалася б іншае ўражанне, калі б я на днях не паглядзеў па тэлевізары фільм, таксама на тэму вайны, "Сведка" – паводле сцэнарыя В. Казько. Там адзін падлетак жыве, кахаецца з дзяўчынаю, а сам ведае, што жыць яму засталося лічаныя месяцы. І ўвесь фільм прасякнуты тым асаблівым настроем, ад якога шчымліва на душы і хочацца плакаць..." – і ў такім плане я напісаў старонкі чатыры, акцэнтуючы ўвагу на тым, што пацыфізм зусім неабавязкова ўзнікае ад нагрувашчвання розных страхоццяў, а наадварот, узнікае з самых будзённых, на першы погляд, эпізодаў, якія пададзены па-мастацку і закранаюць за жывое.**

**На другі дзень мы здалі сшыткі, а яшчэ праз дзень выкладчыца адвяла цэлы ўрок на разгляд нашых "рэцэнзій". Называліся прозвішчы, адзнакі – чатыры, пяць, рэдка-рэдка**

і гарод гарадзіць. Такіх крывавулін наварочаеш Як казаў мой бацька· пісаў пісака, не разбярэ і З прадчуваннем Апакаліпсіса сёння жыве кожны чалавек на зямлі, я думаю – звер таксама. Бо чым інакш растлумачыць вялікае разбурэнне пракаветных, самых простых нават інстынктаў у кожнай жывой істоце Разбурэнне неверагоднае, жахлівае напрыканцы тысячагоддзя. Кожны дзень як апошні Няма чаго саромецца, не варта ні ў чым стрымліваць сябе

Прагнозаў у мяне ніякіх, толькі сум, сум Але калі б на свеце быў адзін беларус, я б яму і ў яго верыў Толькі вялікае, пэўна, шчасце і такая ж вялікая бяда, што мы ў ланцугу У ланцугах мінулай, бягучай і будучай гісторыі ўсяго чалавецтва Мы звязаны і асуджаны адзіным лёсам. Упадзе недзе нехта адзін і пацягне ўсіх астатніх. І сёння ўсё часцей і часцей праломваецца і надломваецца зямля пад нагамі чалавека А гэта значыць – і пад нагамі ў нас. Так, на першы погляд, чорныя і жукаватыя, здаецца, неяк вылузваюцца, утрымліваюцца на нагах. Але гэта толькі здаецца. На самай справе яны і ёсць першыя нябожчыкі Нябожчыкі, якіх мы ўтрымліваем на сваіх плячах, якіх мы яшчэ і кормім, і поім Жах у тым, што яны гніюць на нашых вачах, яны атручваюць нас, не даюць дыхаць. Мы, "памяркоўныя тубыльцы", гарбацім на іх. Ці можа пайсці зваротны працэс – не ведаю. Але спадзяюся, жадаю, прагну верыць. Бо не верыць самому сябе – апошняе, што можа быць на свеце

**Ю.С.** Заўважыў па вашых творах, што вас прыцягвае касмалогія Яшчэ гадоў 20 таму вучоныя вагаліся Сусвет пульсуе ці пашыраецца бясконца пасля Вялікага Выбуху? Адсюль высоўвалася ідэя існавання Бога маўляў, Галгофа не можа паўтарацца Дык вось нядаўна, у гэтым годзе, астрафізікі НАСА зрабілі канчатковы прысуд. Сусвет не будзе сціскацца, ён толькі пашыраецца Ну, а вы верыце ў Абсалютнага Творцу? Што падмацоўвае вашы высновы навука, інтуіцыя, штонебудзь інфернальнае?

**В.К.** Сёння касмалогія не можа не прыцягваць чалавека, як падсвядома і раней Помніце мележаўскае· а за Гомелем зямля ёсць? Хай прабачыць Іван Паўлавіч, гэта зусім не яго, гэта старое паляшуцкае пытанне Наш век век інфарматыкі І сёння мы ўсе ўжо добра ведаем, што за Гомелем зямля ёсць. Але гэта зусім не значыць, што мы пазбавіліся дзіцячай наіўнасці і цікаўнасці Сёння мы пытаем сябе· а за Марсам ці Венерай людзі жывуць?

Хочацца, вельмі хочацца верыць у сусветны розум, бо мы, як некалі нашы бацькі, губляем, калі ўжо не згубілі веру ў свой уласны розум Таму сёння такі росквіт усякай чартаўшчыны, д'ябалізму, сатанізму і кожны трэці, а мо і другі – экстрасенс У большасці ж гэта людзі ў лепшым выпадку цалкам зняверагныя, у горшым проста вар'яты, хаця можа быць і наадварот А я асабіста веру ў Вышэйшы Розум Да Бога яшчэ і не дайшоў, хоць і хрышчоны і адношуся да яго з вялікай павагай Не ведаю, як з благаслаўленнем, але з яго імем і падтрымкай чалавецтва крочыла ў космас. Не будзь веры, мы б яшчэ мурашкамі коўзаліся ў зямным мурашніку Вера надала чалавеку крылы, бо інакш чалавек не мог і дадумацца, што можа, здольны лятаць, паляціць. І з ёй паляцеў

Сам я далёкі ад таго, каб абмяркоўваць старыя і новыя тэорыі стварэння і існавання жыцця і Сусвету, таму што проста невук, хоць і імкнуся чытаць усё новае, што з'яўляецца ў друку пра гэта У свой час безаглядна паверыў у тэорыю Вялікага Выбуху, як і ў дарвінізм. Але з тае пары крыху эвалюцыяніраваў І калі сёння ў мяне пытаюцца, якое маё прозвішча, адказваю· Казько – ад казы, у адрозненне ад астатніх, якія ад малпы.

Не вельмі мне падабаецца і тое, што Сусвет будзе сціскацца. Гэта значыць, буду сціскацца і я. А мне не вельмі хацелася б сціскацца. Помніце Ф М Дастаеўскага чалавек шырокі Звужваць яго я нязгодны – хай пашыраецца Вось таму я і веру больш у сусветны розум. Бо ў тым розуме, мне здаецца, дурасцю ці разумнасцю буду прысутнічаць і я, як прысутнічаюць там мае бацькі і дзяды.

**Ю.С.** Але ж, вернемся да нашых палеткаў У вас экспрэсіўная манера пісьма Да якой літаратурнай плыні вы адносіце сябе самі?

**В.К.** У дзяцінстве мы, дзетдомаўцы, як і ўсе дзеці, вельмі любілі трапіць на хвалю пасля таго, як па Прыпяці пройдзе параход. Трапіць на хвалю і пакалыхацца, пагойдацца ў рачной плыні Але параход плыў сабе далей, знікаў за даляглядамі Хвалі ападалі, і заставалася толькі магутная плынь вялікай палескай ракі і мы на гэтай плыні ў абдымках цёплай вады, як у руках маці І ўсё І нічога болей Толькі пена на беразе, толькі мокрае і брыдкае смецце І шукаць мне, да якой літаратурнай плыні я адношуся? Хай гэтым займаюцца іншыя, калі тое, што я раблю, варта гэтага. Пачынаў пісаць у Расіі пад вялікім уплывам Андрэя Платонава Сёння люблю чытаць Дастаеўскага, Маркеса, Чэхава, Быкава, Брыля

**Ю.С.** "Да сустрэчы" я прачытаў у рукапісе Ваш твор нагадаўся больш цэласным, больш, так бы мовіць, дыянісійскім Хаця сама ідэя пагранічнай, экзістэнцыяльнай сітуацыі не новая Здзівіла нязвыклая для беларускай літаратуры тэза: ваш Майстра жыве амаль па кодэксе годнасці самураяў· "Калі твае думкі будуць пра смерць, твой жыццёвы шлях будзе прамы і просты "

**В.К.** Калі сядаў за гэтую аповесць, ні аб якой тэзе не думаў, як і аб ідэі пагранічнай экзістэнцыяльнай сітуацыі На вялікі жаль, і зараз цьмяна ўяўляю сабе, што гэта значыць. Мо сапраўды ў гэтым нешта і ёсць, было А было сонечнае зацьменне, у мінулым годзе І шмат пісалі аб тым, што ўсё, чаго толькі вельмі моцна пажадаеш і папросіш у тую хвіліну ў сонца і неба, – збудзецца. Сваім блізкім я пажадаў здароўя, а сабе – сілы напісаць раман І раман ужо быў задуманы. "Калі абудзіцца той, хто спіць". Яго тэза, я думаю, усім зразумелая

Пачаў пісаць раман – не ідзе Для разгону рашыў зрабіць апавяданне – "Хаўтуры па культуры" На аркуш, не больш, апавяданне Гляджу панесла. І рады быў бы стрымацца, не магу І больш за тое увесь мой раманны матэрыял выкладваецца, ідзе

**тры. Стос сшыткаў на стале памяншаецца, майго няма. Я ўжо не сумняваюся, што ён самы ніжні. І вось званок з урока, адзін сшытак застаўся ляжаць.**

**– Усе свабодныя. Акрамя цябе, – мне. Застаюся сам-насам з выкладчыцаю і чую: – Ведаеш, пра каго прымаўка – навучы яго Богу маліцца, дык ён лоб разаб'е? Як ты мог пачаць пераказ словамі, што табе не спадабаўся шэдэўр?**

**– Шчырасць... – мямлю. – Я падумаў...**

**– Нельга ж так літаральна разумець. Я не буду псаваць табе адзнакі – перапішы. І не так, як хочацца, а так, як трэба. Зараз жа сядай на заднюю парту і проста на лекцыі пішы.**

**І я перапісаў. Гэта была груда штампаў, гара збітых банальнасцей, гэта была няпраўда ад першага да апошняга слова.**

**– Вось бачыш, – пахваліла ў канцы лекцый выкладчыца, прачытаўшы, – варта толькі захацець. Усё адно бал я скіну, пастаўлю чацвёрку, бо ты толькі з другой спробы справіўся.**

**Я не сказаў, вядома, пра адну акалічнасць: што пасля першай "спробы" на душы ў мяне было лёгка і прыемна, як бывае пасля любімай фізічнай працы, а пасля другой – непрыемна і сорамна. Такое бывае і цяпер. Чытаеш аднаго пісьменніка – на душы лёгка, адчуванне, нібы папрацаваў фізічна, чытаеш другога – непрыемна і сорамна за яго і чамусьці за сябе...**

**Што да творчасці В. Казько, дык асабіста я заўсёды адносіў і буду адносіць яе да першага рада. Пасля яго прозы – лёгка.**

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

# ХРОНІКА МЁРТВЫХ СЕЗОНАЎ

**Калі ўявіць сабе наша грамадства ў выглядзе цягніка, які "вперед летит", то меншая яго частка – творчая інтэлігенцыя – гэта людзі ў першым вагоне. Яны ведаюць, што асуджаны самі і асуджаны тыя, хто ззаду, але змяніць нічога не могуць, бо не яны загадалі "вперед лететь". Гэтыя людзі бачаць усе небяспекі, якія напаткаюць цягнік, прадчуваюць тую бездань, што чакае іх наперадзе, крычаць пра гэта, але ў цягніку іх не чуюць і не хочуць чуць.**

**Людзі ў першым вагоне – творчая інтэлігенцыя, пісьменнікі. І адзін із іх – Віктар Казько.**

**Думаю, не перабольшу, калі скажу, што ў творчасці Віктара Казько за ўсёй яе фрагментарнасцю, часам публіцыстычнасцю, фантасмагарычнасцю, экспрэсіяй – прыхавана, нібы ў зародку, і спее ўвесь час, раз ад разу прарываючыся, адна і тая ж дамінанта: некрафілічнасць існавання, своеасаблівая хроніка паміранняў.**

ў апавяданне. Плюнуў на ўсе тармазы, на былую задуму Пачаў пісаць аповесць. І атрымалася тое, што атрымалася

А што тычыцца кодэкса годнасці самураяў, пра які вы мне гаворыце, для мяне гэта зноў адкрыццё Мо справа ў тым, што я ніколі не быў у Японіі, хаця з вялікай павагай і цікаўнасцю адношуся да гэтай краіны і жыхароў Даспадобы мне іх літаратура. У свой час была адкрыццём творчасць Акутагавы Руноскэ. Як гэта ні дзіўна, я адчуў у яго пісьме нешта вельмі блізкае мне, блізкае і беларускае На першы погляд, звычайнае, простае, што я некалі ўжо зведаў у дзяцінстве што "прачытаў", чым перахварэў, лежачы на чарэні бабулінай хаты, калі ў тую хату прыходзілі, збіраліся другія бабулі і жанчыны з калаўротамі і верацёнамі. Часалі воўну і лён, сукалі ніткі і вялі бясконцую гаворку пра чарцей, чараўніц і ведзьмаў А я на цёплай печы заходзіўся ад жаху, пільнуючы ката, каб ён мяне не пакінуў аднаго, не збег.

**Ю.С.** Крытыкі не раз папракалі вас у перагружанасці метафорыкай, аморфнасці сюжэтаў і публіцыстычных адхіленнях. Сэнс жа мастацтва, як кажуць, хаваць яго...

**В.К.** Крытыцы відней Дзякуючы ёй я сёння добра разумею свае недахопы. Згодзен, ёсць, ёсць і перагружанасць метафорыкай, і сюжэты мае аморфныя Толькі калі я думаю пра ўсё гэта, часам у мяне ўзнікае пытанне ці магчыма і ці варта вучыць чалавека дыхаць? Памятаю талстоўскае аб тым, чым вышэй чалавек падымаецца па лесвіцы ў неба, тым выразней яму рэчы, што застаюцца ўнізе Так павінна быць, гэта адзін з законаў творчасці. Але ў мяне, калі я выпраўляюся ў дарогу, падымаюся ўгору, заўсёды перацінае горла па тым, што я пакідаю адзаду. Я раблюся вельмі прагным і напраміліы Бог прашу сябе нічога з гэтага не забыць. Узяць, увабраць усё ў памяць і панесці далей, на гады і жыццё

Сюжэтаў не люблю, бо, на маю думку, гэта канструяванне, гэта рамкі А я люблю бегчы, ісці, куды нясуць ногі, куды вядуць вочы. Люблю ісці за асацыяцыямі і думкамі

**Ю.С.** Як вы ставіцеся да свайго іміджу? Вас дастаткова заўважалі, друкавалі, узнагароджвалі? У вас ёсць ворагі?

**В.К.** Ніяк. Некалі адзін з маіх знаёмых, пісьменнік, гледзячы на нашага ж сутаварыша, сказаў· у нас што пісьменнік, што качагар – не адрозніш. Я таксама больш з качагараў Пэўна, ідзе ад дзяцінства. У дзетдоме, пазней у рамесным вучылішчы і індустрыяльным тэхнікуме мы не вельмі прыглядаліся і сачылі за сваім "іміджам" Мы былі дзяржаўныя, казённыя хлопцы, зробленыя і апранутыя па адным узоры, па адной калодцы

Вось толькі жонка ганяе не там, дзе трэба, і не тое, што трэба, скажу, у чым у лес, у тым і ў людзі . Цярплю, але не вучуся.. Друкавалі мяне заўсёды без перашкод. А ворагі? Ворагі, хутчэй, зайздроснікі, казалі: гэта таму, што я жыд, а яшчэ – брат у ЦК партыі ў Маскве Шкада, што на самай справе не жыд – харошая птушка, мы ў дзетдоме на Палессі так вераб'ёў звалі, жывучая птушка. Шкада, што ні брата, ні свата не было ў мяне ў ЦК партыі. А наконт узнагарод, то сёння пра іх неяк непрыстойна нават гаварыць. Але ж скажу· Масква прывячала і адзначала часцей

**Ю.С.** Ну а кіно? Гэта ж нейкая частка вашага жыцця. Вам не сумна бываць у нашым зрусіфікаваным кіно, кіно-пакладанцы: маю на ўвазе нацыянальную прыкмету. Што вас звязвае з гэтым монстрам?

**В.К.** Цікавае пытанне. А жыць вы мне на што загадаеце? У мяне дзесятак шахтавых спецыяльнасцяў Шахты на Беларусі ёсць, ёсць метрабудаўцы. Але па падземных, шахцёрскіх мерках па ўзросце я ўжо выйшаў у тыраж. Зноў ісці ў газету, пісаць пра буракі часоў дэмакратыі і незалежнасці?

Некалі ў Віктара Астаф'ева спыталіся: чаму ён займаецца літаратурай, піша кніжкі? Ён адказаў· ні на што іншае не здольны, а трэба жыць і карміць сям'ю. Вось таму я і ў кіно, і з кіно, кіно Аб яго "зрусіфікаванасці" А што ў нас на Беларусі засталося незрусіфікаваным? Быў адзіны беларускі ліцэй, і таму далі выспятка, пайшоў плакаць па-беларуску Застаўся адзіны астравок беларускасці. Саюз пісьменнікаў, Дом літаратара. Вялікае пытанне, ці дажывуць яны да таго часу, калі гэтая гаворка будзе надрукавана. Такім чынам, кіно сёння – нацыянальная, як вы кажаце, прыкмета і асаблівасць, увасабленне стану ўсёй нашай беларускай культуры І я не ганіў бы яго Там у большасці і за мізэрную плату, дзяржаўную міласціну працуюць людзі, закаханыя ў сваю справу Сапраўдныя творцы І ёсць студыя "Летапіс", і ёсць праграма "Адраджэнне".

Апроч гэтага, кіно мне шмат, шмат чаго дало і дадало Па-першае, дзякуючы яму, я напісаў раман "Неруш", пазнаў Беларусь меліяраваную. Раман узнік з фільма "Паводка" рэжысёра Віталя Чацверыкова. Гэта быў дзяржзаказ аўтарам стварыць новых "Кубанскіх казакоў" Але фільм атрымаўся сумленны, таму адразу і забыты. І я быў вымушаны сесці за раман Я люблю, як вы кажаце, гэтага монстра – кіно. Там хапае ўсяго патроху Але ж больш людзей прыстойных, безабаронных і бясконца шчырых. Вялікіх і малых, але іменна творцаў, бо без іх, без гэтага сёння немагчыма рабіць кіно, нават бяздарнае Так, у нейкім родзе яны ўсе монстры, вар'яты, бо нармальны чалавек так не будзе на кожным кроку заканчваць самагубствам за нішто, спальваць сябе І я такі ж монстр і вар'ят на так званай нашай нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" Як усе мы сёння крыху, а мо і не крыху монстры і вар'яты часоў незалежнасці і дэмакратыі

**Ю.С.** Напаследак пра "братоў нашых меншых" Кот у "Прахожым", кот у "Да сустрэчы" Вы любіце катоў? У вас ёсць дома жывёлы?

**В.К.** Ёсць кот Харошы кот з харошым сібірскім імем – Пім, што значыць "валёнак" Мы з ім двое валёнкаў у адной хаце Жонка пра яго, пра ката, кажа. ніякіх інтарэсаў у жыцці, толькі б пад'есці У гэтым я сёння недзе блізкі да яго Але мы вучымся адзін у аднаго Ён яшчэ малады каток, і яшчэ, я думаю, мо вырасце, пісьменнікам будзе А што? Калі не пашчасціць, то і будзе

---

**Марудна памірае дзетдомавец Колька Лецечка ў аповесці "Суд у Слабадзе", якая выйшла ў друк на пачатку творчага шляху, і памірае Майстра ў нядаўняй аповесці "Да сустрэчы". Віктар Казько прароча бачыць тое, што застаецца, так бы мовіць, за кадрам за ўяўным жыццём, за мяжой свядомага. Ён прадчувае... магчымае паміранне народа. За лакальнымі паміраннямі яго герояў, прыроды, нават гібелі жыцця ў сутыкненні планеты з каметай у "Прахожым", прачытваецца адна несуцяшальная думка: на гэтай зямлі беларусам, пэўна, хутка не будзе месца.**

**"...Капуста ўсё яшчэ расце па нашых агародах, не зваліся яшчэ і матылькі. Але саміх дзяцей знаходзяць усё часцей і часцей на сметніках. І ўпрыгожаны яны цяпер не ружовымі банцікамі, а спехам перагрызенай, крывавячай яшчэ пупавінай, як пятлёй, вяроўкай з шыбеніцы. Парвалася пупавіна паміж дзецьмі і бацькамі. І падаюць, спяшаюцца хутчэй адысці на той свет бацькі. Каб не чуць і не бачыць таго, што творыцца на гэтым свеце. І радуюцца, калі прыспявае час таго адыходу, а не – то і паскараюць яго. Тая ж пяцелька на шыю – і бывайце здаровы, жывіце багата. Навек і навечна ад'язджаюць дадому, дахаты. Сапраўды, нашы дзяды не ведалі бяды, іх унукі спазналі мукі".**

**Колька Лецечка ў рэшце рэшт мог бы вырасці і стаць Майстрам. Але ён ведаў, што памрэ. Асуджаныя і тыя, што прыйшлі за Лецечкам. Асуджаны і Майстра. Скажуць, магчыма: гэта не так. Мо і сам Віктар Казько запярэчыць. Але ў ліхаманкавасці яго пастаянных зваротаў да гэтай тэмы, вяртання раз за разам да матыву смерці, ужо крыецца адказ на пытанне. І яшчэ адна думка прарываецца праз фантасмагарычнае шматслоўе звыклых моўных адступленняў, імправізацый і пасажаў – гэта пасіўнасць народа, яго схільнасць да мадэлі інертнага існавання, яго непаўнавартасць.**

**"У нас жа завядзёнка такая – пачынаць са свінарніка. Ператвараць усё ў свінарнік, а потым чухаць патыліцу: нешта не так, на ўвесь сусвет з таго Млечнага Шляху разляжацца парасячы віскат, смурод і чалавечы плач. Як і на Зямлі, пачнецца барацьба за чысціню сусвету, у выніку якой каменя на камені не застанецца, не застанецца і знака ад самога сусвету. Так ужо было. Так ёсць сёння ў нашай дэмакратычнай хаце. Па былой завядзёнцы замест таго, каб будаваць хаты, мы ўсё яшчэ працягваем будаваць свінарнікі. А людзі, людзі не свінні. Людзі ўсё сцерпяць".**

**Калі ўмоўна падзяліць пісьменнікаў на тых, хто вызнае актыўны, творчы, мужчынскі пачатак і, так бы мовіць, фальклярыстаў-апісальнікаў, то Віктар Казько безумоўна належыць да першых. Упартая смеласць, з якой ён вяртаецца да сваіх прадказанняў, часам нагадвае блазнерства празорцы, які ў шматслоўе сваіх маналогаў укладвае слоўныя выспяткі і злавесныя папярэджанні. Але ж хто іх чуе? Хто ўвогуле будзе ў нас слухаць пракрокаў, ды яшчэ на сваёй бацькаўшчыне?**

**Юры СТАНКЕВІЧ**

# Я ВАМ НІКОЛІ НЕ ХЛУСІЎ

*(Уступнае слова да трохтомніка, які па не залежных ад аўтара прычынах не ўбачыў свету: сканаў у абдымках росквіту рыначнай дэмакратыі, незалежнасці і свабоды.)*

Некалькі гадоў назад на адных прадстаўнічых пасядзелках, выступаючы, я сказаў, што ніколі не пісаў для чытача. Пачынаў чытача ў мяне не было Быў я немаўля, якое вучыцца хадзіць. Вучыцца хадзіць не таму, што хочацца бацькам, хочацца некага ўсцешыць і парадаваць. Не, надыходзіць час, і малы чалавечак становіцца на ногі, спрабуе свае ногі таму, што яны ў яго ёсць і наканавана ім хадзіць. Вось так і я, сеў і пачаў пісаць, таму што ведаў літары, зведаў захапленне пісаным, друкаваным словам Закарцела напісаць нешта і самому І зусім не ў прадбачанні такога ж, як я, чытача. Мне проста хацелася пісаць і падабалася пісаць.

Помніце Пятрушку Гогаля, здаецца, з "Мёртвых душ", якому падабалася чытаць, чытаць усё, што ні трапіць у рукі Ён не мог зразумець цуд як гэта з літарак складаецца слова. Гэта сапраўды цуд. Тым небяспечным цудам быў апалены і я Апалены на ўсё жыццё. І мне не трэба было чытача. Але на сваю бяду ў выступленні я падвёў пад гэта марксісцкую базу, ці, хутчэй, "антымарксісцкую". Я сказаў, што хлусяць усе, хто кажа, што піша для чытача. Таму што ў гэтым "для чытача" хаваецца ўжо няшчырасць, імкненне некаму "патрапіць", спадабацца.

Божа мой, што тут пачалося Варта помніць, што гэта быў яшчэ час, калі ўсе мы рабілі толькі для народа, дзеля народнага шчасця і на двор нават хадзілі Знакаміты крытык біў бранябойным словам з высокай трыбуны, маўкліва выказвалі нязгоду са мной і сябры-пісьменнікі Не скажу, што я быў тады маладзейшы, дурны і зацяты і таму стаяў на сваім Бясспрэчна, толькі з цягам часу чалавек усё ж набывае крыху розуму Тым заднім розумам моцны сёння і я, як і ўсе мы сёння куды як моцныя, волаты, намі б па́лі забіваць Мо была і ёсць праўда за тымі, хто піша для чытача, як гаворыцца, калгас

# ВІДАВОЧНАЕ

**Быў у Віктара Казько артыкул-эсэ 1994 года "Паміж цюленем і акрабатам, альбо Энергія надзеі". Тут пісьменнік вельмі лаканічна і вельмі ўражліва сказаў пра нашу здраду свайму генетычнаму коду. Пра духоўны фашызм і неспасціжны спакой безвыходнасці. У творах В. Казько 90-х гадоў – і ранейшых, і пазнейшых – расчытваецца тое эсэ. У прытчы "Нахаў", у апавяданні "Сенакос у канцы красавіка" яскрава паўстае паслячарнобыльская "Радзіма-магіла" і "апушчаны" савецкаю ўладаю па-за ўсякія межы чалавек. У аповесці "Но Пасаран" ажывае канкрэтыка гэтага апушчанага жыцця, прыватная, пачуццёвая, і таму неабвержная. А сапраўднае жыццё аказалася страчаным, украдзеным праз д'ябальскі падман.**

**Падобнае ж – і ў аповесцях "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел" (часопісная публікацыя – 1991 г.), "Прахожы" (1995 г.), "Да сустрэчы..." (1997 г.). "Гісторыя – гэта якраз і ёсць той самы кліент, пад якім не варта мітусіцца нікому", – піша В. Казько ў апошняй з іх. Піша, як "нешта хруснула і парвалася ў ім", у чалавеку, у герою гэтага твора. Піша, як прах таго, што выгарала ад болю, разносіць "касмічны халодны вецер забыцця і прагі супакаення". Але аповесць 1997 г. "Да сустрэчы..." падалася ўсё ж**





справа добраахвотная, не хочаш, але мусіш. Мо нехта піша як Ванька Жукаў і "на деревню дедушке". Я ж, дарагі мой чытач, прабач мне, ніколі не пісаў для цябе. Тут наконт гэтага дазволь мне прывесці два выказванні Першае, гэта хай будзе Віктар Астаф'еў Некалі на тэлевізійным літаратурным вечары яго запыталі· дзеля чаго ён піша. Адказаў ён, прыкладна, так. пішу таму, што ў мяне ёсць сям'я, жонка, дзеці і ўнукі і яны хочуць есці. Мне здаецца, праўдзіва, хоць і спрошчана. Трохі хітрыкаваў Віктар Пятровіч. Сям'ю можна пракарміць і інакш, можна і красці пайсці, што ў наш час вельмі ўдала многія і робяць і няблага жывуць.

Вядомы амерыканскі пісьменнік Тэадор Драйзер у час прыезду ў Савецкі Саюз, калі яму дурылі галаву ўсеагульным народным шчасцем, сказаў, што ніколі не паверыць, каб для некага заўсёды рабілі так, як для сябе не-не, але майстра калі-нікалі ўсё ж і схібіць, на тое яму і дадзена майстэрства. Майстэрства не для сябе, а для іншых, магчымасць і здольнасць затлуміць галаву Гэтыя словы Драйзера, калі я прачытаў іх, вельмі нагадалі мне бытаваную ў той час прымаўку дэпутат – слуга народа. А слуга, як вядома, заўсёды наровіць падмануць пана.

Пісьменнік – чытач, заўсёдная, пракавечная і паўсюдная гульня Хто з іх пан, хто служка? Каб я гэта ведаў, я б тады пагуляў Не ведаю, дарагі мой чытач, і таму я з табою не імкнуся гуляць А мо, наадварот, таму і гуляю Толькі ведай адно, чытач. у той гульні я ніколі табе не хлусіў, не хлушу і хлусіць не буду, позна ўжо Хаця, па шчырасці, ой як бы хацелася табе схлусіць, зачараваць цябе магутнай, агіднай і прыгожаю хлуснёй. Але ж. Майму веку і маёй натуры наканавана нешта зусім іншае.

Што? А вот гэтага я таксама не ведаю Я імкнуся спазнаць гэта. І з гэтым ужо, спазнаным ці неспазнаным, выходжу да цябе. З тым, што пасылае мне жыццё, чым катуе і песціць Аб гэтым кожны мой радок, апавяданне, аповесць, раман. Мая справа як мага больш праўдзіва пераказаць вам, як гэта было ці магло быць.

А было ў маім жыцці шмат чаго, магло ж быць, пэўна, і значна больш А магло і нічога не быць І я, як конь, зацугляны гэтым магло, было, не было. Я бязмежна шчаслівы жыццём і тым, што ёсць, хоць штодзень і наракаю на яго Але ж самая найвялікшая ўзнагарода чалавеку – нарадзіцца на свет, нарадзіцца чалавекам, глядзець на сонца і зоркі, на золаку прайсціся па роснай траве, зімою замерзнуць, а ўлетку ўгрэцца, бо, як і ўсе, кожны дзень хаджу на мяжы ёсць – няма. І нехта вядзе мяне, вымушае збочваць, пераступаць з няма ў ёсць. І нехта плаціць, сплачвае за кожнае наша ёсць.

Гэта адбылося яшчэ тады, калі ў мяне не цалкам, пэўна, адплюшчыліся на неба і зямлю вочы Маленькая, у некалькі хатак, прыстанцыйная вёсачка на Палессі Чаму яна

**самай сухой па стылю: у ёй найбольш спецыфічнай стылёвай штучнасці, апсіхалагічанага пісьма. Тут заканспектаваны некаторыя нашы "свежыя" палітычныя абсурды (напрыклад, герой трапляе ў аддзяленне міліцыі, дзе абвінавачваюць нямога падлетка ў гучных знявагах улады і прэзідэнта, і дзе блытаюць Славаміра Адамовіча з Алесем Адамовічам); тут апісана адмысловае жабрацтва сучаснага пісьменніка (у адрозненне ад шамякінскага – з сарказмам); тут маральна-этычныя сентэнцыі выказаны амаль публіцыстычна: спадчына XX стагоддзя – трупярня і бессаромнасць; напярэдадні стагоддзя новага ад нас сыходзяць найперш лепшыя – мастакі, сведкі пагібелі нашай Атлантыды, пра якую яны яшчэ памяталі і аб якой сумавалі... (Падобна на тое, што фігура старога, адыходзячага мастака ўсур'ёз усталявалася ў нашай прозе, напярэймы старым кабетам з бяздухоўнымі дзецьмі і ўнукамі. Трэба яшчэ сказаць, што ў 90-я гг. сацыяльная праблематыка пачала асабліва выбівацца ў творах В. Казько, так што пасля так званага "ваеннага" і "экалагічнага" ці не час вызначаць і "сацыяльны" перыяд у яго творчасці.)**

**Прыгадаем, што В. Казько – зусім у традыцыях беларускай прозы – майстра прадметнага рэалістычнага апісання: напрыклад, жыццяпіс кошкі і кацяняці з аповесці "Прахожы" – безумоўны ўзор. Але туга і боль штораз гоняць аўтара ад канкрэтыкі ў тыя ненатуральныя сцэны і дыялогі, дзе рэчаіснасць распінаецца на абстракцыях, на падтэксце; туды, дзе канкрэтыка ў тэксце робіцца зусім фігуральнай, дзе распадаецца псіхалагічная ды ўсякая іншая**

так раптам спатрэбілася і нашым, і немцам, што аж шэсць разоў пераходзіла з рук у рукі? Вайна малаціла там сваё жыта, вяла сваё жніво. І пры канчатковым вызваленні ўсе дарогі, усе палі пад вёсачкай былі засцелены, як снапамі вашымі і нашымі Мо, думаю я сёння, гэта адбылося таму, што ў той вёсачцы была мая маці і сястра, я быў Ноч была разбурана забойствам, вынаходлівасцю чалавечага розуму Сястры было два гады, мне – тры Мы з ёй сядзелі на прамарожанай печы, хуталіся ў нейкія лахманы і скуголілі, таму што вельмі хацелі есці Маці ссадзіла нас з печы і паклала на палаці, дзе перад тым ляжала сама. Заняла наша месца на чарэні У тую ж хвіліну ў лушняк перад печчу ўдарыў снарад, асколкам маці разрэзала шыю. А выбуховая хваля адкінула яе да нас, на палаці. Яна прыкрыла нас ужо сваім мёртвым целам Сястра сканала, замерзла ў той хаце Запаўзла пад печ і там сышла слязьмі. Яна плакала, пэўна, і мёртвая, слёзы прымерзлі да яе вачэй і твару і засталіся на ім і тады, калі яе паклалі ў труну А я выжыў Мне мо наканавана было выжыць, каб расказаць гэта вам Пра гэта адна з маіх першых аповесцяў на рускай мове – “Високосный год” На рускай, таму што шлях мой ад Беларусі да Беларусі быў вельмі кручаны і доўгі І кожны дзень, і кожны крок, як па мінным полі

Было, было і на самай справе і такое. Пасля смерці маці быў Азарыцкі канцэнтрацыйны лагер. У той лагер я дапяў, мусіць, сам, як зверанё, пацёгся за жывымі, за людзьмі Іх гналі пад вінтоўкамі, а я ішоў, поўз сам, мо хто з людзей і падносіў, пэўна, падносіў, аказваў шкадобу, нёс у лагер смерці, каб, прайшоўшы яго, застацца мне жыць І вось, калі Азарычы вызвалілі, даведаўшыся пра мяне, перадалі людзі, да мяне ў той лагер прыйшла мая бабуля. Хадзіць сам я ўжо не ўмеў, развучыўся, я ішоў ужо па дарозе нябыцця Бабуля, пад дзевяноста гадоў ужо ёй было, несла мяне на плячах. Перад сваёй вёскай, Анісавічы, вырашыла спрасціць, пайшла не сцежкай, а напрасткі, па полі, стамілася

Ішла яна тым полем, спатыкалася; за дзевяноста гадоў выхадзілася, а тут яшчэ ўнук абвязножаны за плячыма. На другім канцы поля стаяў дзед, абапіраўся на трэцюю нагу, на кіёк. Убачыў на полі старую з малым, занепакоіўся, набыў ногі і спрыт, затупаў на месцы, запамахваў кійком і лаяцца пачаў брыдка. І лаяўся, і махаў кійком, пакуль старая з малым не перайшла поле. Перайшла, спынілася каля яго, сказаў спакойна.

– Доўгі век вам наканаваны Поле гэта пад мінамі

Не схлусіў Бабуля пражыла з таго дня яшчэ амаль з чвэрць стагоддзя, каб у якой іншай краіне, трапіла б у якую-небудзь кнігу Гінеса, а так ціха і непрыкметна адышла на той свет у вясковай бальніцы, наадрэз адмовіўшыся ехаць да мяне ў Мінск. Спачатку не пазнала мяне, калі я да яе прыехаў, але навобмацак адчула.

– Віцечка. Не, не, не паеду, слабая зусім, клопату табе толькі там нараблю .

Гавораць, старому і малому хлусіць – вялікі грэх. Ці ж можна мне хлусіць перад самім сабой, перад сваёй памяццю маёй маці і сястры, бабе Усцім'і, Кольку Лецечку з аповесці “Суд у Слабадзе” З Колькам Лецечкам мы ж былі разам у Азарыцкім канцэнтрацыйным лагеры І вось як лёс гуляе з людзьмі Ніякая літаратура, ніякае прыгожае пісьменства прыдумаць такога няздольна.

З Колькам Лецечкам, у жыцці Васілём Дзятлавым, мы сустрэліся недзе праз дзесяць гадоў пасля канцлагера. Больш таго, жылі ў адным пакоі, побач спалі ў Хойніцкім дзіцячым доме. І не пазналі адзін аднаго, і не адчулі, што мы ўжо даўно пабраталіся Сустрэліся, пахадзілі аднымі дарогамі, і дарогі тыя разышліся Я паехаў у Сібір, Кузбас, на шахты, Васіль Дзятлаў – тут, на Беларусі, паступіў вучыцца на заатэхніка Але ж нешта звязала нас І тую повязь я ўвесь час адчуваў Нешта ўвесь час гняло і цягнула мяне назад у Беларусь І ў Сібіры, мо з вялікага суму і жалю па былым, я пачаў пісаць на матчынай мове “Суд у Слабадзе” Напісаў адзіны раздзел, адчуў не, не пацягну, няма той глебы пад нагамі, якая патрэбна мне Вельмі часта прыходзіцца пазіраць у неба, каб знайсці неабходнае слова А ад Кузбаса да Палесся, да Беларусі і па небе чатыры тысячы кіламетраў Адклаў рукапіс, кінуў у стол

Прайшло семнаццаць гадоў, я прыехаў на радзіму, у Беларусь На вочы трапілі старонкі пажоўклай паперы з выцвілымі чарнільнымі плямамі І во, зноў жа гульня лёсу, непрадказальнасць і блытанасць чалавечай натуры Я засумаваў па Сібіры, па Кузбасе, па тым часе, калі наіўна крэмзаў пяром, псаваў паперу Я зразумеў, адчуў і паверыў, што я павінен і здолею цяпер напісаць адкінутую аповесць Больш таго, яна ў мяне ўжо напісана, ад першага да апошняга слова, мне трэба толькі неадкладна сесці за стол і перанесці на паперу ўсё напісанае раней.

Раней – гэта было маё жыццё Кожны крок у ім быў скіраваны некім на гэту аповесць. Містыка? Так, пэўна, містыка. Калі прымаць за гэта смерць маці і сястры. Смерць дзеля таго, каб я трапіў у той жа Азарыцкі канлагер Сустрэўся там з Васілём Дзятлавым, на плячах бабы Усцім'і прайшоў празміннае поле, зведаў беспрытульніцтва, дзетпрыёмнікі, дзетдом Страціў недзе сябе ў рамантыцы шасцідзесятых – на шахтах, у газетах, сярод бясконцай сібірскай тайгі. Страціў і знайшоў, зноў вярнуўся да сябе ў родную Беларусь І жыццё, ужо тут, на Беларусі, ускосна, мякенька, але настойліва ўвесь час нагадвала мне, а мо і загадвала, што я павінен рабіць Сёння я думаю, упэўнены, што зусім невыпадкова я трапіў у свой час на судовы працэс над былымі паліцэскімі ў горадзе Хойнікі – гэта быў першы

**“нармальная” чалавеказнаўчая матывацыя. Фабула ў вышэйназваных апавяданнях і аповесцях В. Казько таксама вельмі часта ператвараецца ў пункцір, у плот, за які павінен трымацца чытач, брыдучы вобмацкам сярод фантасмагорый, іранічных і саркастычных перыядаў, рэінкарнацый. Чытач хапаецца за фабульныя вехі, бо ў яго вельмі хутка пачынае кружыцца галава ад розных абагульненняў. Але калі спрасціць падобнае пісьмо – атрымаецца плоска, танна. Нядаўна П. Васючэнка назваў стыль В. Казько архетыпавым мысленнем. Гэта цудоўная рацыяналізацыя, “пуцевадзіцель”. Але ўсё ж проза В. Казько і з такім ключом застаецца цяжкачытэльнай, як найчасцей увогуле любая інтэлектуальная проза. Калі ж ёсць пакуль яшчэ беларускі чытач, то ён адборны, цярплівы, на эпапеях і “апупеях” даўно загартаваны. Дык нават і ў няўвазе да фабульных інтрыг В. Казько – аўтар вельмі беларускі. Нягледзячы на ўсё часцейшую салёнасць і “саўковы” слэнг, грубыя дэталі і чорны гумар, В. Казько не параўнаеш з замежнымі цынікамі ў літаратуры або з прыхільнікамі літаратурных постпошукаў. Бо ў глыбіні душы В. Казько-пісьменнік заўсёды вельмі сур'ёзны; яму баліць усур'ёз; ён прывязаны да сваіх этычных аксіём. Яго можна было б параўнаць з Кафкам, з нашым Чорным і ментальна нашым – тужліва-траўмаваным – Дастаеўскім. Але стылі ўсіх трох больш роўныя, гарманічныя, “старыя”: чытач, чалавек хутка пачынае адчуваць іхнюю спецыфічную гарманічнасць. Казько ж – пісьменнік эпахальна іншы. Пісьменнік эпохі, так сказаць, паслягуманітарнай, калі, па яго словах, “адлятае ў нябыт чалавек, чалавецтва і чалавечнасць”. Такім чынам, В. Казько – пісьменнік выразна арыгінальны і вельмі своечасовы.**

**Некалі “Суд у Слабадзе” найлепш засведчыў, што В. Казько здольны апавядаць пра самае пякельнае. Заўважым між іншым, што і гэта ці не найперш адпавядае беларушчыне. В. Казько не забываецца на тое, што ёсць пеклам сапраўдным, і таму ягоны светагляд не звужаецца з часам, як у герояў таго ж, напрыклад, І. Шамякіна, якім усяленскаю катастрофаю зрабілася страта былых савецкіх прывілей. Умець жа не востранькую белетрыстыку пісаць, а расказваць пра боль, ад якога абыдзённая свядомасць дзеля самазахавання адштурхоўваецца, – гэта вельмі складаная** фармальная задача. **Дарэчы, першым тэарэтычна яе вылучыў А. Адамовіч; ён сам як мастак вырашаў яе – і паслядоўнікі ёсць – на мяжы з дакументалістыкай; В. Быкаў, напрыклад, – на мяжы рэалістычнай і экзістэнцыяльнай паэтыкі. Кожны аўтар робіць тут свае фармальна-мастацкія адкрыцці. Ёсць тут перамогі і ў В. Казько: у яго, як ужо з 70-х гадоў вядома, свой індывідуальны стыль, якраз на болевай этычнай рэфлексіі ўгрунтаваны. На асэнсаванні беларускіх гісторыі з геаграфіяй, на беларускім тужлівым інтанацыйна-рытмічным ладзе, на беларускай спецыфічнай смехавай культуры ўгрунтаваны. Гэта важна падкрэсліць, бо наша новая, маладзейшая проза сёння шукае сябе па большасці якраз на гэтых шляхах; мы сёння вучні-эпігоны не столькі ў традыцыі пластычна-апісальнай, колькі – у тлумачальна-рэфлексіўнай, калі зрабіць грубаваты**

штуршок да напісання аповесці  Але, як я вам гаварыў, не атрымалася  І лёс другі раз пастукаў мне ў душу. Прыехаў з Сібіры, не паспеў атабарыцца ў Мінску, як тут пачаўся судовы працэс над былымі паліцэйскімі, над іх дзейнасцю ў Азарыцкім канцлагеры. І ажыў Васіль Дзятлаў – Колька Лецечка  Усё тое, што праходзіла міма мяне, здаецца, не маючы асаблівага сэнсу і таму не вельмі кранаючы мяне, набыло сэнс і лад  Я адчуў сябе Колькам Лецечкам  Мне трэба было запісаць яго жыццё  І я запісаў

Містычны, здаецца, пачатак меў дзіўны рэальны працяг. Прызнаюся, узгадваючы сёння ўсё, я нават іншым разам адчуваю страх  У Лецечку я пісаў сябе і Васіля Дзятлава. І я ўгадаў Васіля Дзятлава. Угадаў настолькі, што, як потым ён расказваў мне, калі яго дзеці чыталі аповесць і пераказвалі яе змест, Васіль гаварыў ім, што ў той аповесці павінна быць далей  Дзеці працягвалі чытаць, і далей было тое, што гаварыў ім бацька. Гэта выклікала здзіўленне і ў самога Дзятлава. Ён узяў аповесць і прачытаў яе. Успомніў і зразумеў, хто аўтар  Так мы сустрэліся з ім праз дваццаць гадоў пасля дзетдомаўскага расстання.

І вось тут бярэ якраз працяг тое, што я няздольны зразумець  Там, дзе я трохі, скажам, прыдумляў, ён настойваў, што гэта якраз і ёсць праўда. так было, так яно і было. І яшчэ, каб скончыць пра гэта. У далейшым мы з ім хварэлі амаль у адзін і той жа час на адны і тыя ж хваробы, з адной і той жа хваробай клаліся пад хірургічны скальпель

Нешта падобнае я мог бы распавесці табе, мой чытач, і пра астатнія свае творы, бо адчуваю патрэбу сёння крыху паспавядацца, расказаць, адкуль і як ішлі мае кніжкі да цябе  Раман "Неруш"  Гэта мо адно з першых сведчанняў майго вяртання на Беларусь, не цягніком і самалётам, а далучэнне да яе душой

Я пакідаў Беларусь, Палессе, напрыканцы лета пяцьдзесят шостага года з адзіным скарбам – збітым з фанеры чамаданам, паўнюткім наспелых яблыкаў, антонаўкі ды пуцінкі  І само Палессе было як спелы сакавіты яблык. Яшчэ не зніклі ў ім парныя жнівеньскія ночы, якімі радзіла наша зямля белым грыбам – баравіком, яшчэ захаваліся, звінелі ўсе ручаі, не была атрутнаю ранкам раса, не ішлі кіслотныя дажджы, Божым накірункам і наканаваннем цяклі рэкі, у іх плавала мая рыбіна, якую я не паспеў злавіць, раслі, раскашавалі ўсе бары, гаі і дубровы

Да ўсяго гэтага я вярнуўся ў семдзесят першым годзе. Вярнуўся і не знайшоў, не ўбачыў ні свайго грыба, ні сваёй рыбіны, ні рэчкі, ні дуба, ні грыба, ні хвоі  Меліярацыя, вялікая хімія. І гэта вялікае пераўтварэнне прыроды я з групаю пісьменнікаў і кінадзеячаў павінен быў апець і паказаць у кінаэпапеі, каля вытокаў стварэння якой стаяў сам Пётр Міронавіч Машэраў  Якое гэта жахлівае пераўтварэнне, мы ўбачылі на

**абстрактны падзел. Паколькі пасля забойства Максіма Гарэцкага "падчышчалі" нас найбольш пільна якраз тут, дык склалася нават і такая думка, што непасрэднае разважальніцтва, нейкае многа абстрагаванае мастацкае мысленне ўвогуле небеларуская рэч. Таму сёння гэтая, усё яшчэ як бы недавыказаная, "самаўсведамляльная" традыцыя бачыцца такой актуальнай. В. Казько якраз адсюль, з відавочных "асэнсавальнікаў".**

**У суб'ектыўнай прозе (а проза В. Казько такая, аўтар ва ўсім і ўсё ў ім) вызначальныя – статусы апавядальніка і персанажаў. Нельга – па форме – усё жыццё апавядаць ад адной і той жа даволі стабільнай асобы. Каб не быць манатонным у мастацкай рэфлексіі, каб дапяць праз суб'ектыўнае і да аб'ектыўнага, пісьменнік і мусіць кідацца ў розныя бакі: у міфалогію, ад паганства да Бібліі і да ўласнай міфатворчасці; ва ўласнае прыватнае мінулае як рэчыўную канкрэтыку; у гарачую сацыяльную злабадзённасць. Сапраўды, ва ўсім свеце не першае дзесяцігоддзе практыкуюцца рознаўзроўневыя мастацкія вэрхалы. І нават як быццам ад сапраўднай да, так сказаць, віртуальнай рэальнасці гэты свет усё больш імкліва коціцца. Але пры тым ведае, як ведаем і мы, што сапраўднае мастацтва ёсць там, дзе ты пачуццёва, а не толькі рацыянальна, раптам пазнаеш сваё ў несваім, раптам па-сапраўднаму суперажываеш ці бачыш нешта глыбей і па-новаму, або нават перажываеш нешта пэўна ж катарсічнае. Вось дзеля гэтага я чытаю В. Казько.**

**Людміла КОРАНЬ**





свае вочы, калі паехалі па "новым" Палессі  Фільм, што атрымаў назву "Паводка", быў зняты рэжысёрам Віталем Чацверыковым  Дарэчы, праўдзівы фільм  Але ж усё ўбачанае, абмежаванасць кіно таго часу "нашай праўдай", вялікая колькасць праўды, што засталася па-за кадрам, прымусілі мяне сесці за раман, бо раман дазваляў сказаць больш, чым гэта было магчыма ў кіно  Сказаць, што адбылося не знішчэнне прыроды, а беларуса, беларускасці

"Хроніка дзетдомаўскага сада". Усё было так, як ёсць у рамане. Нават з тым жа дзетдомаўскім садам, пасаджаным сіротамі  удзень яго сяклі, а ўначы ён вырастаў зноў, бо я верыў яму, я сам садзіў яго і рос у тым садзе. Гэта мяне высякалі сякерамі. Але ці магчыма мяне ўзяць сякераю, калі не атрымалася снарадам і мінаю  Так, я не здолеў захаваць сваю бацькоўскую хату  Але верыў і веру, што яна паўстане з небыцця, адродзіцца, бо яна ў маёй памяці  І гэта мая памяць лунае над зямлёй, прыходзіць у нечыя сны, некаму вярэдзіць сэрца, таму што гэтым я жыў і, як здолеў, змагаўся за сваю родную хату  Так я працягваў і доўжыў жыццё і памяць маіх бацькоў, а нехта працягне і падоўжыць памяць і жыццё іншых.

Але ж, пэўна, хопіць  Што пісаць пра напісанае, лепш запрагчыся ў нешта новае, не спазнанае яшчэ  Перад табой, чытач, тры мае кніжкі, прабач мне  Я не пісаў іх для цябе  Я пісаў для самога сябе  Але, калі яны закрануць цябе, гэта твае кніжкі, а жыццё ў іх – маё  Прызнаюся табе, каб ты ведаў, што гэта я сам чвэрць стагоддзя ратаваў дуброву на беразе Случы – аповесць "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел"  Я ратую яе і сёння, і калі яна пераажыве мяне, гэта будзе мо самае лепшае, што мне ўдалося зрабіць у жыцці  Бо сярод той дубровы схавалася маё дзяцінства, адтуль бярэ пачатак прага гаварыць і пісаць толькі шчыра. У той дуброве стаіць мой дуб. На дубе тым буслянка, у буслянцы бусел  Паверце мне, я ніколі не прэтэндаваў на такое багацце. мець свой уласны дуб  бусла з бусляняткамі  Але мае аднавяскоўцы самі, без мяне наракли дуб маім

Прывідная ўласнасць, прывіднае жыццё. Прывідная праўда і хлусня  Праўда і моц, пэўна, за тым, калі робіш, імкнешся рабіць як для сябе, калі імкнешся не схлусіць сабе, то не схлусіш і іншаму  Я пішу для сябе. І таму кожны мой радок – твой, чытач. Я спадзяюся на гэта і таму ніколі не перачытваю тое, што напісана мной, бо бачу сябе там распранутым. Гэта тваё – мой боль і мая радасць. І я ўдзячны табе за суперажыванне, калі яно ў цябе з'явіцца, бо дзеля гэтага і заснавана наша жыццё, гэтым і трывалы на зямлі чалавек. У гэтым, за гэтым праўда.

# КАНТРАПУНКТ ПАКУТАЎ

**Калісьці Кузьма Чорны, заўважыўшы на чале беларускага дзіцяці рысу дачаснай сталасці, намагаўся ўявіць вынікі жорсткага ўздзеяння "эпохі войнаў і рэвалюцый" на дзіцячую псіхіку. Празаік, вядомы з часоў рамана "Сястра" сваёй звышчуласцю да глыбінных працэсаў гісторыі, вельмі непакоіўся за стан генафонду беларускай нацыі, за яе душэўнае здароўе і будучыню. Тым самым ён выяўвіў нешта надзвычай істотнае ў духоўным быцці народа, бо ў творчасці найбольш здольных "дзяцей вайны" менавіта гэты псіхалагічны феномен уражанай душы, параненага сэрца, абражанай памяці стаўся аб'ектам павышанай увагі і найвялікшым мастакоўскім адкрыццём.**

**Гэты аголены нерв свайго пакалення Віктар Казько шчасліва намацаў яшчэ ў сваёй першай аповесці "Высакосны год", напісанай па-руску. Аднак у час росквіту "вясковай прозы" руская мова яшчэ супраціўлялася татальнай манументальнасці "навамоўя" і была здатная адчуць і выявіць нясцерпны боль беларускага падлетка-сіраты. У душы Дзімы Прыгоды, героя аповесці, жыве адразу некалькі**

"я": "Я існую адначасова ў некалькіх узростах і не ведаю, у якім з іх больш майго "я". Твор выяўляе тры маштабы вымярэння асобы: індывідуальны – "я" ў сувязях з іншымі людзьмі; сацыяльна-гістарычны – герой як прадстаўнік пэўнага грамадства і часу; антрапакасмічны – ва ўнутраным свеце героя адкрываецца Космас, чалавечы род. Трохгадовы малы памятае, як загінула маці і змерзла, застаўшыся адна ў падвале, сястрычка. Падлетак-пастушок згадвае часы паўгалоднага пасляваеннага існавання. Нарэшце дарослы Дзіма Прыгода, інтэлігент, які шукае адказы на балючыя пытанні: "Самая бязлітасная праўда – гэта праўда пра сябе". Пошук героем В. Казько самога сябе, сапраўднага ў сабе пазначаны асаблівай экспрэсіяй, звязанай з інтэлектуальным спасціжэннем свайго часу.

Маленькі герой "Высакоснага года" інтуітыўна адчувае разрыў сувязі з цэлым светам і спрабуе на свой лад і рызыку вярнуць гэта адчуванне. Але толькі дарослы Дзіма Прыгода пачынае разумець, што мае справу з крызісам традыцыйных уяўленняў пра фундаментальныя, агульначалавечыя каштоўнасці, якія зруйнавала вайна. Вось дзе крыніца яго пакутаў, яго боль! "Чалавек, – сцвярджае Л. Талстой, – можа разглядаць сябе як жывёлу сярод жывёлаў, што жывуць адным днём, ён можа разглядаць сябе і як члена сям'і і як члена грамадства, народа, што жыве стагоддзямі, можа і нават абавязкова павінен разглядваць сябе як частку ўсяго бясконцага свету, што жыве бясконцы час. І таму разумны чалавек павінен усталёўваць, акрамя адносін да бліжэйшых з'яў жыцця, свае адносіны да ўсяго бясконцага свету, разумеючы яго як адно цэлае". У "Аповесці пра беспрытульнае каханне", таксама напісанай яшчэ па-руску, ёсць спроба ўзнавіць адчуванне паўнаты быцця з дапамогай лірыкі першага юнацкага кахання. Аднак жа закаханых акружае жорсткі, бязлітасны свет, які бесцырымонна ўмешваецца ў іх узаемаадносіны і разлучае юнака і дзяўчыну.

Кволае пачуццё першай закаханасці не здольнае абараніць юных герояў В. Казько ад касмічнага холаду і сірочай беспрытульнасці. Наадварот, яно падкрэслівае адзіноту чалавека ў свеце, яго непрыкаянасць, безвыходнасць яго становішча. У нейкай ступені сувязь героя з наваколлем, з жыццём, з мінулым і будучыняй можа наладзіць чалавечая мова. Менавіта родная мова, якою вольна дыхае, не заўважаючы нават гэтага, Колька Лецечка, герой аповесці "Суд у Слабадзе", напісанай па-беларуску, збліжае падлетка з людзьмі і светам, з якімі яго разлучыла вайна. Урэшце яна мірыць яго і з самім сабою. Мова народа, які зведаў за стагоддзі свайго існавання шмат гора, прыходзіць на дапамогу герою, бо ў ёй ёсць ужо ўсе патрэбныя словы, каб выказаць свой боль, свой адчай. Лецечка востра рэагуе на дабро і зло, яму ўласцівая недзіцячая зоркасць, з якою ён распазнае праўду і ману, калі сутнасць падзей схопліваецца імгненна, але гэта зоркасць не столькі індывідуальная, колькі гістарычная, прадыктаваная народным вопытам і мудрасцю. Нездарма самы вялікі сябра падлетка стары Захар'я, які разумее яго як самога сябе. Аднак у памяці маленькага героя жыве і тое, што не мае назвы: у скарбніцы народнай мудрасці няма слоў, якія маглі б ахапіць глыбіню яго пакутаў. Філосаф Т. Адорна тут мае рацыю: "Пасля Асвенцімаў літаратура не патрэбна!" Пасля Хатыняў чалавечае слова бяссільнае, каб адшукаць нешта адэкватнае маштабу перажытага народам і асобным чалавекам. Лецечка, а разам з ім і аўтар, і чытач, напружана шукаюць тое адзінае слова, якое можа прынесці ўсім адразу палёгку. Але Лецечка не ведае, як можна назваць тое, што рабілі ў вайну з людзьмі карнікі. Безвыходнасць і гэтай альтэрнатывы, неадпаведнасці быцця і свядомасці вымушае празаіка шукаць у глыбіні, дзе "палавінкі" яшчэ не падзяліліся. Вось чаму героі наступных твораў В. Казько, раманаў "Неруш" і "Хроніка дзетдомаўскага сада", так званыя каранёвыя людзі, тыя, якія вызначаюць аблічча народнай большасці. Празаік – адзін з тых, хто ў ліку першых зафіксаваў у нашай літаратуры жахлівы працэс абмялення, "меліярацыі" чалавечай душы, калі чалавек перастае быць чалавекам, а беларус беларусам.

У аповесці "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел", акрамя ўжо знаёмай схільнасці празаіка да метафарычнага рэалізму, выказваецца імкненне стварыць мастацкі сімвал эпохі. На экалагічную катастрофу, усе прыкметы якой В. Казько бачыць на Палессі, яго родным і любімым кутку, накладваецца чарнобыльская катастрофа. Героі аповесці, палешукі, якія апынуліся ў "зоне", пакутліва шукаюць адказы на пытанні, на якія адказаў няма. Вось чаму яны звяртаюцца да апошняга сродку, які дае людзям магчымасць не толькі выжыць, але і жыць, адчуваючы сябе не заложнікамі становішча, а паўнацэннымі грамадзянамі. Гэта здольнасць народа смяяцца з сябе і з усяго свету. Аднак смех герояў твора мяжуе з кашчунствам, бо побач увесь час нябачна прысутнічае смерць: яна забірае многіх, яна жыве ў кожным! Тут, як у казцы пра дабро і ліха, пра разумніка і дурня, перамагае дурань, бо ён адпавядае сваёй сутнасцю абсурднай рэчаіснасці і парадоксам жыцця. У творы з кожнай старонкай мацнеюць эсхаталагічныя настроі: "Ёсць знак, быў знак: усё іх калена павінна знікнуць з зямлі. Так ужо загадана, прадпісана,





пэўна, зверху. І Чарнобыль толькі першы званок".

В. Казько кожным сваім новым творам фіксуе іншую ступень глыбокага крызісу, які перажывае грамадства. Метамарфозы традыцыйнай цывілізацыі, пабудаванай на хрысціянскай, гуманістычнай ідэі, становяцца кантрапунктам пошукаў і пакутаў пісьменніка. У аповесці "Прахожы" пa-мастацку даследуецца ідэя фаталізму. Ці ўсё прадвызначана на Зямлі? Якую ролю іграе выпадковасць? Людзі могуць планаваць на дзесяцігоддзі і стагоддзі сваё жыццё, а з'яўленне адной невядомай каметы лёгка можа парушыць гэтыя планы. Як кажуць, чалавек плануе, а Бог выракуе. Аўтар свядома не бачыць і не шукае сутнаснай розніцы паміж вялікім космасам і нехлямяжай вясковай хатай, якая стала для героя аповесці лецішчам, часовым прытулкам. Сам герой і яго коцік-каток у хаце – раўнацэнныя істоты перад чымсьці яшчэ большым у свеце.

Справа не ва ўплыве ўсходніх вучэнняў, паводле якіх усё пераходзіць ва ўсё, а чалавек лёгка можа пераўвасобіцца ў іншую жывую істоту, а то і ў неадушаўлёны прадмет. Справа ў новым светаадчуванні чалавека, які пачынае спасцігаць геніяльны сэнс даўно вядомага адкрыцця фізікаў і хімікаў, што нішто ў гэтым свеце не знікае і што ўсё звязана з усім. "Маё жыццё пераблыталася з жыццём таго коціка і з усімі маімі адзінаццаццю жыццямі, што адбыліся раней. Скрыжаваліся ўсе дарогі, сышліся на нейкай кропцы ў прасторы і часе. Адсюль і маё веданне таго, што было і што ёсць. Толькі вось не дадзена ведаць, скрыта ад мяне тое, што будзе". Журба аўтара светлая, а яго іронія досыць тужлівая: "Нешта я звязаўся з гэтымі катамі і ніяк развязацца не магу. Усюды, куды ні зірні: каты, каты, каты. А стрэнеш чалавека, дык не адразу пазнаеш, чые вусы на яго твары, і ці то твар у яго, ці што-небудзь іншае. Як і ў мяне самога сёння".

Калі чытаць творы В. Казько па часе напісання, то ва ўяўленні ўзнікае своеасаблівая лесвіца, якая сімвалізуе працэс падзення цывілізацыі, духоўнай дэградацыі грамадства і самога народа. Кожны новы твор – прыступка ўніз, сведчанне паніжэння ўзроўню гуманізму ў постсавецкім свеце. У адпаведнасці з гэтым, апавядальная інтанацыя робіцца ўсё больш і больш песімістычнай. У аповесці "Да сустрэчы..." гучыць ужо адкрытая безнадзейнасць і нават роспач. Аўтар раз-пораз перапыняе самога сябе, сваё мастацкае апавяданне пра апошнія дні Майстра, жывога класіка, каб выказацца наўпрост пра наш час: "Ваяўнічы, цывілізаваны вецер дваццатага стагоддзя прымусіў чалавека да найвялікшага за ўсю яго гісторыю існавання адкрыцця – расшчаплення атама, толькі вось бяда, ніхто напачатку не падумаў, не здагадаўся, што гэта сам чалавек так здрабнеў, быў зведзены ўжо да памераў атама. Душу таго чалавека і разбурыў, расшчапіў чалавек. І чалавек больш не валодаў сваёй душой. Няздольны ён быў ні ўтаймаваць яе, ні спыніць яе распаду. Працэс пайшоў. І выхапіліся, што чэрці з табакеркі, з таго атама-душы – Гітлер і Сталін. І як першае папярэджанне чалавеку быў выбух у Хірасіме і Нагасакі. Другое, ужо тут, на Радзіме Майстра – Чарнобыль. Трэцяе..."

У аповесці шмат уражлівых сваёй безвыходнасцю фактаў падзення нораваў у грамадстве, колькасць якіх расце з хуткасцю снежнай гурбы, і ўсе як адзін быццам узятыя з крымінальнай хронікі: малое дзяўчо, якое марыць стаць прастытуткай, бо ў тых прыгожае жыццё; школьнікі, якія адкрыта прызнаюцца ў сачыненнях, што не хочуць жыць... Знакаў, што цывілізацыя падышла да такога глыбокага крызісу, якога не ведала гісторыя, усё больш і больш. Смерць Майстра, галоўнага героя твора В. Казько, з вобразам якога звязваецца ўяўленне пра былую веліч, спакойную ўпэўненасць, укаранёную моц, пра існаванне нормы, ідэалу, іерархіі каштоўнасцей, падкрэслівае: адыходзіць цэлая эпоха, роўная па маштабах геалагічнай, а надыходзіць нешта незнаёмае, малазразумелае, жахлівае і нялюдскае па свайму духу. Для Майстра апошнім званочкам з'яўляецца заняпад маралі: "Пазбаўленне сораму ўжо ва ўсіх і кожнага – апошняе разбурэнне і забойства дваццатага стагоддзя".

Міжволі згадваецца зусім не жартоўнае – пераніцоўка вядомай рэвалюцыйнай песні: "Мы рождены, чтоб Кафку сделать былью". Намаляваны пяром Ф. Кафкі, Д. Джойса, М. Пруста, У. Фолкнера, У. Набокава, Г. Маркеса катастрафічны свет, у якім усё разламалася, калоціцца ад каласальнага напружання, гатова разваліцца на часткі, становіцца явай. Захісталіся самі апоры гуманізму. В. Казько гэта бачыць і крычма крычыць пра небяспеку ў сваіх творах, у публіцыстычных выступленнях. Але яго заклiку апамятацца, спыніцца ў сваім інерцыйным руху па нахільнай плоскасці ніхто не чуе. Гісторыя поўная сведчанняў, калі людзі не чулі папярэджанняў сваіх прарокаў і неўзабаве жорстка плацілі за сваю глухату. У гэтым сэнс назвы аповесці: "Да сустрэчы..." Што мае на ўвазе аўтар? Другое прышэсце? Апакаліпсіс? Адказ ён дае ў сваім інтэрв'ю з выпадку публікацыі твора· "У мяне часам узнікае крамольная думка: хутка мы ўсе сустрэнемся там. ." Адказ, як бачым, вельмі песімістычны. Але іншага пакуль што няма нагоды чакаць.

Міхась ТЫЧЫНА

# ПАХАВАЛЬНАЯ ПЕСНЯ З ПРАБЛІСКАМ НАДЗЕІ

Мастакоўская неардынарнасць Віктара Казько, яркая таленавітасць усяго, што выходзіць з-пад ягонага пяра, даўно не выклікае сумнення. Ён атрымаў прызнанне і ў чытачоў, і ў самых патрабавальных крытыкаў яшчэ сваімі рускамоўнымі творамі (аповесці "Высакосны год", "Цёмны лес – тайга густая", "Дзень добры і бывай", "Аповесць пра беспрытульнае каханне"). Але потым усё ж адважыўся перайсці на родную беларускую мову, ад якой пэўны час быў зусім адарваны складанымі абставінамі жыцця. Мабыць, загаварыў урэшце "голас крыві", абудзілася генная памяць, атрыманая ў спадчыну ад бацькоў, страчаных вельмі рана, яшчэ малым дзіцем (Казько застаўся круглым сіратою ў трохгадовым узросце).

Зрабіць рашучы паварот да родных вытокаў, да беларускага слова, відаць, дапамаглі і сяброўскія парады Івана Мележа, які меў асабліва чуйны слых на ўсё сапраўднае, заўважаў пісьменніцкі талент па самых першых праявах і добра бачыў, у якім кірунку ён можа з найбольшым поспехам развівацца.

У беларускай літаратуры Віктар Казько адразу заняў сваё трывалае і вельмі прыкметнае месца Гэта з усёй перакананальнасцю засведчылі аповесці і раманы "Суд у Слабадзе", "Неруш", "Хроніка дзетдомаўскага сада", "Но пасаран", "Выратуй і памілуй нас, чорны бусел"

Пра ўсе гэтыя творы мне з той ці іншай нагоды ўжо даводзілася выказвацца ў друку. Таму цяпер я спынюся толькі на дзвюх новых аповесцях празаіка – "Прахожы" і "Да сустрэчы..." Яны яшчэ не выходзілі асобнымі выданнямі, апублікаваны ў часопісе "Полымя" (1995, № 9; 1997, № 5).

***

Ужо ў рамане "Неруш" і асабліва ў "Хроніцы дзетдомаўскага сада" выразна выявілася імкненне Віктара Казько да мастакоўскага даследавання самых вострых праблем сучаснасці, а таксама да складанай арганізацыі апавядальнай плыні твора, яго сюжэтна-кампазіцыйнай структуры, у якой, перакрыжоўваючыся, узаемадзейнічаюць састаўныя элементы рознага кшталту: уласна мастацкая выяўленчасць, пісьмо падкрэслена-публіцыстычнае, развагі адцягнена-філасофскія і г.д. А ўласна мастацкая выяўленчасць у сваю чаргу таксама далёка неаднародная, неадназначная ў сваёй разнапланавасці. Паэтыка канкрэтна-рэалістычная, для якой характэрна яркая дэталізацыя, а часта і гумарыстычная падсветка, тут спалучаецца з умоўна-сімвалічнай вобразнасцю і шматзначна-прытчавым пачаткам. Усё гэта цягне за сабой і разнастайнасць экспрэсіўна-стылёвых рэгістраў, сярод якіх усё большую ролю набывае непасрэдна аўтарскае слова рознай эмацыянальнай афарбоўкі. Вельмі часта яно з'едліва-іранічнае, парадаксальна-задзірыстае, поўнае прыхаваных, а то і адкрытых выпадаў супраць многіх прыкрых рэалій нашага часу, непрымальных для гуманістычнай свядомасці пісьменніка.

Прыгадваючы, як стваралася "Хроніка дзетдомаўскага сада", празаік у гутарцы з У. Ягоўдзікам зазначаў: "На пачатку работы я не ведаў, што і як напішацца, але адчуваў сабраны матэрыял патрабуе нейкай свабоднай, раскаванай формы. Наогул, калі прызнацца, я не люблю сюжэта, ён мне не ўдаецца Каб перадаць тое, што накіпела ў душы, выліць увесь свой боль, мне патрэбна была менавіта свабодная форма расказу з частымі вяртаннямі ў мінулае, з аўтарскімі адступленнямі – разгорнутымі роздумамі. Я перш за ўсё ішоў за думкаю, баяўся страціць напружанасць гэтай думкі". Далей, са спасылкай на тэарэтыкаў, яшчэ гаварылася пра вялікія магчымасці не звыклай эпічнасці, а рамана-эсэ, рамана-даследавання.

Гэтыя формы цяпер і сапраўды набываюць усё большае пашырэнне. Іх уплыў на творчасць Казько бясспрэчны і вельмі моцны. Нездарма ж пісьменнік ужо "Хроніку дзетдомаўскага сада" ў часопісных публікацыях называў трохі іначай: "Сад, альбо Заблытаны след рамана". Гэтым загалоўкам падкрэслівалася нетрадыцыйнасць твора, складанасць яго апавядальнай плыні, у якой галоўным формаўтваральным пачаткам выступае не прывычнае для эпічнай класікі разгортванне падзейнага сюжэта, а пісьменніцкая думка. Менавіта яна ўладарна дыктуе апавядальную форму, падпарадкоўвае сабе ўсё ў творы.

Прыярытэт аўтарскай думкі несумненны і ў аповесцях "Прахожы" і "Да сустрэчы...", дзе яшчэ ўзмацняюцца жанравыя прыкметы прозы-роздуму, эсэ, даследавання, рознабакова нюансаваных псіхалагічных экскурсаў з вельмі абмежаванай падзейнасцю. Трывалы непасрэдна падзейны ланцуг з добрай дапасаванасцю ўсіх ягоных звенняў, які трымае ў выразна і нават строга акрэсленым рэчышчы апавядальную плынь у класічнай эпіцы, тут замяняецца скупым свавольна-зігзажыстым падзейным пункцірам, часта няпэўна-загадкавым, а то і прывідна-хісткім, містыфікаваным, калі нельга адназначна сказаць, тая або іншая падзея на самай справе адбылася ў мастацкім свеце твора ці яна толькі прымроілася аўтару-апавядальніку.

Так, у аповесці "Прахожы" падзейную аснову складае ў многім загадкавая гісторыя рудога ката Міхлі, якога за галавастасць і кемлівасць называюць яшчэ і Леніным. "Разумнік, лабасты, ну чыста Уладзімір Ільіч Ленін... Пайшоў у кош", – выносіць свой прысуд кацяняці, пацалаваўшы яго, мусіць, іудзіным пацалункам, гаспадыня той хаты, на гарышчы якой паявіўся на свет гэты разумнік-хітрун. Прысуд быў смяротны, бо ў згаданым кашы кацянят неслі тапіць. Але Міхля не патануў. Ён неяк выратаваўся, каб зноў і зноў трапляць у арбіту пісьменніцкага роздуму, які і складае ўнутрана-глыбінны сюжэт твора, яго сапраўдны змест.

У аповесці "Да сустрэчы..." уласна падзейная аснова таксама небагатая. Гэта твор пра паміранне мастака, выдатнага Майстра, які ўжо на схіле жыцця, у свае самыя апошнія дні, падводзіць несуцяшальныя вынікі пражытаму і зробленаму. Але не паслядоўнае ўзнаўленне пражытага, калі не ва ўсёй паўнаце, вядома, практычна немагчымай, дык у большасці паваротных момантаў, з'яўляецца самым істотным, галоўным у аповесці, а Майстраў роздум пра сваё жыццё і час, эпоху, якая таксама адыходзіць, у пэўным сэнсе памірае разам з мастаком і ягонымі паплечнікамі і праціўнікамі па мастацтву. Многія ж эпізоды, падрабязнасці жыццёвай біяграфіі Майстра і яго творчасці ўвогуле падаюцца сумарна-абагульнена і вельмі няпэўна, толькі намёкамі, якія могуць абрывацца зусім нечакана. У жывым працэсе мыслення такія абрывы і недагаворкі вельмі натуральныя. Але паўнаце і канкрэтнасці ўяўлення пра справы мастака яны, зразумела, не садзейнічаюць. У творы нават не гаворыцца, у якой галіне мастацтва працуе Майстра.

Аповесць прысвечана памяці вядомага беларускага кінарэжысёра Віктара Турава, які нарадзіўся ў Магілёве. З Магілёвам звязаны і лёс Майстра з аповесці "Да сустрэчы..." Як і рэальны Віктар Тураў, памірае намаляваны пісьменнікам мастак адразу пасля свайго шасцідзесяцігоддзя ад страшнай хваробы – рака. Улічваючы гэтыя факты і некаторыя іншыя супадзенні, можна сцвярджаць, што жыццёвая і творчая біграфія менавіта Турава дала галоўную зачэпку для роздуму празаіка пра лёс мастака і мастацтва ў наш час.

Але Казько выкарыстоўвае і некаторыя дэталі, звязаныя, як можна здагадацца дасведчанаму чалавеку, з Андрэем Макаёнкам. Ёсць у творы прамыя згадкі пра Максіма Танка і Пімена Панчанку.

Словам, зусім невыпадкова, што Майстра пакінуты безыменны, а сфера яго дзейнасці ў мастацтве дакладна не называецца. Так падкрэсліваецца "зборнасць", шырокая абагульненасць вобраза, яго характэрнасць, а калі хочаце, і тыповасць для нашай яшчэ савецкай і цяперашняй рэчаіснасці. А пісьменніцкі роздум пра чалавека ў XX стагоддзі, пра пакутлівыя шляхі мастака і мастацтва ў эпоху вялікай, бязлітаснай і, як аказалася, згубнай ломкі ўсяго, распачатай бальшавікамі ў 1917 годзе, – гэты роздум (пераважна ад імя Майстра і праз ягоныя думкі, разважанні, здагадкі, прызнанні) атрымаў прастору для разгарнення, стаў вельмі цікавым, глыбокім і сапраўды маштабным.

***

У абедзвюх аповесцях выдатна паказана бязладдзе нашага цяперашняга і нядаўняга жыцця, яго парадаксальнасць, абсурднасць і нейкая фантасмагарычнасць, адлюстраванне якіх найбольш уражвае і ў "Прахожым", і ў "Да сустрэчы..."

Адна з яркіх праяў гэтай фантасмагарычнасці – уяўная раздвоенасць самога апавядальніка ў аповесці "Прахожы", асэнсаваная з'едліва-іранічна, з выразнай праекцыяй на сучаснае грамадства: "Не ведаю, хто я. Хаця і дакументы маю. Пашпарт дзяржавы, якая ўжо не існуе. Мова чужая, чаравікі заморскія – са старых запасаў, фрэнч шэра-бура-малінавы, а штых... не, штыха няма. А быў, быў нямецкі, у хаце лучыну калоць. Ды нейкія заезджыя калекцыянеры ногі яму прырабілі. І як нешта ўсё роўна прырабілі і мне. Памянялі галаву на адно месца. І я не прыкмеціў бы, навошта мне сёння тая галава, ды толькі ў пэўны неадкладны час блытацца пачаў: ці то есці, ці то... І мерзне, мерзне на ветры новая галава, прывыкла да штаноў. І перад іншымі людзьмі было спачатку крыху няёмка. Але потым прыгледзеўся: бацюхны-светы, ды гэта ж такое сёння не толькі ў мяне аднаго". І працяг: "Добра яшчэ, што мне, як таму арлу, прыладзілі толькі дзве галавы. А каб болей, я адчуваю, яны б проста разадралі мяне што тую жабу, жыўцом з'елі. А так пакуль жывы. Галовы камандуюць, а я ні з месца, хай самі паміж сабой разбіраюцца. Якая пераможа, той і буду падпарадкоўвацца".

Фантасмагорыя разгортваецца і далей. Апавядальнік, яшчэ ўзмацняючы праекцыю дурноты на грамадства і яўна мецячы пры гэтым у адміністрацыйны сверб вялікіх чыноўнікаў, зазначае: "Вось так і ў маёй галаве боўтаюцца нічым не стрыманыя думкі, пазбаўленыя перагародак [як у яйку-баўтуне, дзе жаўток змешваецца з бялком]. Адна наскоквае, наязджае на другую. І атрымліваецца адна толькі дурнота. Падазраю, што такое сёння адбываецца не з адным толькі мной, не сляпы і не глухі, слухаю радыё і калі-нікалі гляджу тэлевізар і чытаю... Спрэс адны толькі людзі без перагародак у галаве. Баюся, што скора-скора ад іх пачне патыхаць гніллю і гноем. За сябе таксама баюся.

Смярдзіць, смярдзіць нешта чалавек напрыканцы другога тысячагоддзя, як тая рыба, гніе з галавы".

Кіраўнічае безгалоўе і агульная людская безадказнасць нараджаюць мноства складаных праблем, сярод якіх у аповесці "Прахожы" звяртаецца ўвага на страту беларусамі "гістарычнай памяці", вялікае пашырэнне п'янства, паміранне вёскі, жахі Чарнобыля, ад якіх пісьмен-

ніцкая думка сягае ўжо і ў космас. Так гранічна завастраецца экалагічная праблема: "Апаганілі сваю матухну-Зямлю, цяпер замахваемся і на іншыя планеты, на сусвет. Космас нас вабіць і прыцягвае да сябе. На Млечным Шляху выспацца і паблукаць, разгадаць яго таямніцы марым. І не толькі марым. Колькі ж гэта ўсяго нашага ламачча круціцца ў тым космасе. Колькі дзірак і праколін над нашай галавой. Якія толькі хапуны і калатуны не хапаюць і не калоцяць нас сёння, тагосяго да смерці. Бясконца доўжацца магнітныя буры ў космасе, а ў чалавека на Зямлі цісне сэрца і кружыцца галава, уціскае і ўкручвае яго ў сырую маці-зямлю. Сярод зімы ні з таго, ні з сяго ўсчынаюцца навальніцы з громам і маланкай. Бясконца, як у ліхаманцы, то на адным краі Зямлі, то на другім узнікаюць землятрусы. І людзі падаюць пачкамі ўжо. Гэта сёння, калі космас яшчэ толькі прыгожая мара. А што будзе заўтра, калі мы, як татара-мангольская арда на чале з новым Мамаем, хлынем туды... Рана, рана нам яшчэ туды. Мы ж абавязкова і там пачнём са свінарніка. У нас жа завядзёнка такая – пачынаць са свінарніка. Ператвараць усё ў свінарнік, а потым чухаць патыліцу: нешта не так. На ўвесь сусвет з таго Млечнага Шляху разляжацца парасячы віскат, смурод і чалавечы плач. Як і на Зямлі, пачнецца барацьба за чысціню сусвету, у выніку якой каменя на камені не застанецца, не застанецца і знаку ад самога сусвету".

Залішне змрочная карціна, занадта вялікае перабольшанне? Але вельмі ж неабачліва гаспадараць людзі на нашай планеце, асабліва ў краінах, якія яшчэ нядаўна называліся сацыялістычнымі і на словах як быццам клапаціліся найперш пра чалавека, аднак менавіта яго і губілі найбольш. Вось і енчыць чалавечая душа, крыкам крычыць, а то і губіць сябе самазабойствам. Пра гэта таксама з вялікай горыччу гаворыцца ў "Прахожым".

Развіваючы матыў разбурэння чалавечай душы як вынік шматгадовага бязладдзя ў краіне, аўтар згадвае і ўсё больш пагрозлівае ўзмацненне разладу паміж бацькамі і дзецьмі, што таксама з'яўляецца прыкметай крызіснага стану грамадства. "Раней дзяцей знаходзілі ў капусце з каляровай соскай у роце", – разважае апавядальнік з пэўнай жартоўна-казачнай гуллівасцю, якая хутка змяняецца на іншы тон, ужо зусім горкі, бо "дзяцей усё часцей і часцей знаходзяць на сметніках. І ўпрыгожаны яны цяпер не ружовымі банцікамі, а спехам перагрызенай, крывавячай яшчэ пупавінай, як пятлёй, вяроўкай з шыбеніцы. Парвалася пупавіна паміж дзецьмі і бацькамі". Пакутуюць ад гэтага не толькі дзеці, але і самі бацькі, якія з-за вялікай крыўды на жыццёвую неўладкаванасць "спяшаюцца хутчэй адысці на той свет... Каб не чуць і не бачыць таго, што творыцца на гэтым свеце. І радуюцца, калі прыспявае час таго адыходу, а не – то і паскараюць яго. Тая ж пяцелька на шыю – і бывайце здаровы, жывіце багата. Навек і навечна ад'язджаюць дадому, дахаты. Сапраўды, нашы дзяды не ведалі бяды, іх унукі спазналі мукі".

Апошнія фразы паказальныя і для стылістыкі "Прахожага" і іншых твораў Казько. У гэтай стылістыцы шырока і звычайна трапна выкарыстоўваюцца ўстойлівыя моўныя клішэ рознага паходжання, якія, як і ў згаданых прыкладах, найчасцей пераасэнсоўваюцца ў іранічным ключы, а ўвогуле ж ствараюць шырокі культурны кантэкст, для твораў з моцнай інтэлектуальна-філасофскай скіраванасцю вельмі істотны. У такім кантэксце натуральна ўспрымаюцца і па-свойму дасціпная фразеалогія анекдота пра шчырага камуніста, які пэўна сцвярджаў пра сябе толькі тое, што ён "без цара і Бога ў галаве", і тыя ж цытаты, часам трохі перайначаныя, з вядомых песень ці паэтычных твораў, напрыклад, Маякоўскага, што ледзь не жывасілам убіваліся ў нашы галовы яшчэ са школьных гадоў, і добрыя прыказкі, і ходкія, у пэўным сэнсе таксама трапныя, штампы палітычнага жаргону эпохі, і выразы, стылізаваныя пад біблейскую ўзвышанасць ці, наадварот, пад жартоўна-зніжаны раёк.

Заканчваецца аповесць "Прахожы" трохі загадкава, ці не гібеллю жыцця на зямлі ў выніку сутыкнення з каметай, куродымны хвост якой "накрыў зямлю хмарай. Камета абрынулася на людское мора. Апошні раз заспявала ці то застагнала скрыпка. А мо так пранізліва заскрыпеў на лузе дзяркач. Заскрыпеў і змоўк". Назаўсёды? Зусім пэўна адказаць цяжка, бо заключны раздзел аповесці, з якога ўзяты працытаваныя радкі, мае яшчэ некалькі аддзеленых вялікім інтэрвалам абзацаў, дзе ўжо гаворыцца, нібыта "чыясьці касмічная душа", "адыходзячы ад зямлі", пачынае "маліцца за яе". І вось вынік: "Бласлаўлёнае, мяккае святло легла на страху хаты, на прыбярэжныя, непраглядныя і ў сонечны добры час хмызы. І хмызы тыя засвіціліся, заззялі, зазіхацелі, няйнакш, як нехта асвячаў і мілаваў зямлю. Бласлаўляў яе сярод глыбокай ночы і цемры на доўгі і шчаслівы шлях у сусвеце".

Значыць, пасля катастрофы жыццё на зямлі адродзіцца і заззяе ў новай красе? Здавалася б, трэба думаць так. Але чамусьці ад таго бласлаўлёнага святла ўжо ў самых апошніх радках аповесці "гарэла хата", пакінутая двума рудымі катамі, якія "зніклі" ў хмызах. Больш іх ніхто нідзе не бачыў".

Апошняя дэталь (што рудых катоў стала два) таксама трохі нечаканая, бо на працягу твора дэманстраваў свае ўсёведанне і містычныя прароцтвы адзін вусаты рудзька, які доўга спадарожнічаў апавядальніку. Зноў раздваенне, цяпер ужо ката? У фантасмагарычным свеце яно не павінна здзіўляць.

А тое, што гарыць хата, усё ж азадачвае, бо пажар ахоплівае хату не простую, а выразна сімвалічную. Відаць, менавіта яе будаваў апавядальнік як надзейны прытулак у жахлівы, "цьмяны і няпэўны час". І будаўніцтва тое таксама з сімволікай – яно вялося на месцы, дзе некалі жыў старажытны чалавек. Адсюль, сцвярджалася ў яшчэ адным фантасмагарычным эпізодзе, "пойдзе пачатак новага жыцця Беларусі", "пойдзе ў свет і па свеце новы чалавек". І вось такая хата гарыць. Дык ці не перакрэсліваюцца такім фіналам заяўленыя перад гэтым спадзяванні на шчаслівы ўрэшце лёс зямлі? Ці яна мысліцца шчаслівай без людзей?

Гаворка ж пра новага чалавека, якая вялася трохі раней, таксама нясе ў сабе нешта легкаважнае, можа, нават знарок парадыйнае, бо вельмі ж яна нагадвае фанабэрыстую фразеалогію бальшавікоў, якія бясконца трубілі пра нібыта распачатую імі новую эру і стварэнне таго ж новага чалавека. А што засталося ад іхніх зманлівых абяцанкаў-цацанкаў? Адно расчалавечванне людзей, пра якое шмат і з вялікім эмацыянальным напалам напісана ўжо ў аповесці "Да сустрэчы..." Крытыка нядаўняй і сённяшняй рэчаіснасці, да якой мы прыйшлі, паверыўшы ў прывід камунізму, што яшчэ з часоў жывога Маркса блукаў па Еўропе, тут надзвычай вострая і рэзкая. Значыць, меў рацыю рускі крытык Л. Аннінскі, які ўжо ў канцы 70-х гадоў хвостка сказаў: "Казько піша – як рэжа: напор гравёра – папера гарыць і рвецца". Часам гарыць яна і ад эмацыянальнага, вядома, крытычнага, напалу ў аповесці "Да сустрэчы..."

Вось як успрымае горад свайго пастаяннага жыхарства Майстра, вяртаючыся сюды з чарговай паездкі: "Горад быў чужы яму, нейкі асуджальна, а мо і асуджана пахмурны. Лагодны і ветлівы раней, ён за нейкі тыдзень непазнавальна і брыдка перавярнуўся, перакруціўся. Не горад, а пярэварацень. Ваўкалак. За адзін толькі тыдзень, што не бачыў яго Майстра, горад непрыемна агаліўся, бессаромна, як старая баба, якой ужо нечага сарамаціцца... Горад быў перапоўнены войскам у пачварна балотна-стракатай уніформе, накшталт вужынай скуры, калі той рыхтуецца скінуць яе. Вужачым цёкам яны займалі ўсе пад'езды і пераходы каля Дома ўрада, усе падыходы да плошчы Незалежнасці, бежкі паўзлі да выйсцяў з метро і застывалі там, як прыкіпалі ці прыклейваліся да мокрага, чорнага асфальту. Толькі няспынна, як у барабаны ці тамтамы, білі гумавымі дубінкамі ў чорныя шчыты, што трымалі перад сабой і былі вельмі падобны на застаялых жарабцоў перад злучкай. Уражанне гэта ўзмацнялі гумавыя чорныя дубінкі, што як у раз'юшанага жарабца пад узмакрэлым ільсняным ад жадання чэравам увесь час падымаліся і пагойдваліся, узляталі і апускаліся на чорныя металёвыя і пластмасавыя шчыты".

Карціна зноў у нечым фантасмагарычная. Але хто, не трацячы сумлення, адважыцца сцвярджаць, што яна не адлюстроўвае нашу цяперашнюю рэальнасць? А хіба можна назваць нармальнымі для нармальнага грамадства мару дзяўчынкі-школьніцы стаць прастытуткай ці такія парадоксы, як абвінавачванне глуханямога падлетка ў выкрыкванні абразлівых заклікаў, або тое, што ўвогуле прыстойныя жанчыны п'юць віно ў тэлефоннай будцы ці ў нейкім заснежаным садзе ў зімовую ноч? З гэтага ж разраду і гучная юбілейная ўрачыстасць, афіцыйна наладжаная для смяротна хворага чалавека, які з тых урачыстасцей ужо не даехаў і да бальніцы.

Прыкрая рэальнасць, адлюстраваная ў аповесці, таксама і масавае прыслужніцтва нашай інтэлігенцыі камуністычнай уладзе. Ды ці толькі ёй? Грэшны ў гэтым прыслужніцтве і Майстра: "Бог даў яму голас і слова, адметны слых і мову. Даў тое, чаго мо і ў самога мелася няшмат, што ён даваў мо аднаму толькі на мільён ці нават на некалькі мільёнаў. А ён так бязглузда, бяздарна распарадзіўся гэтым дарам. Прадаў гэты дар, прадаў сябе. І нават невядома каму прадаў.

Фаўст хоць заклаў душу чорту, мярзотніку, але ўсё ж інтэлекту і сіле. А ён саступіў тую ж душу звычайнаму прывіду, хай жорсткай, бязлітаснай, але ўвогуле дубаватай машыне. Машыне ў пагонах і без, якая сяк-так вывучылася пісаць, складаць пратаколы, весці дасье, брахаць на дзень светлы і на гарэлы пень, хапаць, цягнуць, саджаць. І хоча ён прызнаць ці не, але ён таксама хапаў, цягнуў, судзіў, дапамагаў, чысціў дарогу той машыне, бо яна набыла, купіла яго. І вельмі танна. Дзярмо ніколі не было ў цане".

Сказаны гэтыя горкія, але вельмі слушныя словы ад імя аўтара. Але па сутнасці гэта няўласна-простая мова, роздум самога Майстра. І вастрыня, нават бязлітасная здзеклівасць ягонага самаасуджэння азначае, што нешта жывое ў чалавека засталося, захавалася яно да самых апошніх імгненняў жыцця. Сваю смерць ён сустракае з годнасцю, як заслужаную расплату за нязробленае ці зробленае не так, як належыць сапраўды вялікаму Майстру, адказнасць якога таксама дужа вялікая – каму многае дадзена, з таго і найбольш патрабуецца, бо калі "дзічэе творца, дзічэе народ, дзічэюць улады".

Такім чынам, Віктар Казько, таленавіта і ў многім закавырыста, але з адчайнай рашучасцю адлюстроўваючы фантасмагарычнасць нашага жыцця, піша пахавальную песню. Аднак гэтая песня пры ўсёй яе надзвычай горкай скрушлівасці, небезнадзейная. Бо на змену перакуленаму, звар'яцеламу часу з бяссіллем чалавека і мастацтва ў ім павінен прыйсці час новы. Вера ў гэта ў пісьменніка ёсць. І выказваецца яна дастаткова пэўна ў абедзвюх аповесцях. Вось толькі ці доўга давядзецца нам чакаць таго новага часу? Адказы на такія пытанні дае толькі само жыццё. Слова за ім.

Дзмітрый БУГАЁЎ

# ЁН | Райнер Марыя РЫЛЬКЕ



*О, дзе ён, дзе ён –*
*часу валадар,*
*які аж так узвысіўся*
*з галечы,*
*калі, на рынку агаліўшы*
*плечы,*
*без вопраткі стаяў,*
*але – святар.*

*Пра Яго*

## ВЕРШЫ

ПАБЛІЗУ ВОБЛАКАЎ І ВЕТРУ
З ДАВЕРАМ ДА ЗЯМНОГА
РЫЛЬКЕ-ОРФІК
З РАЗАРВАНЫМ ЦЕЛАМ АРФЕЯ
РУСКІ РЫЛЬКЕ





***

**З таго, што Нехта хацеў цябе мець,**
**я знаю, хацець права маю.**
**Нават, калі ўсе глыбіні пазасыпаем:**
**калі золатам горы будуць звінець,**
**не раскапае яго людская рука,**
**яго выведзе на святло рака;**
**як у цішыню каменя – уваходзь,**
**у моўчу.**
**Нават калі мы не хочам:**
*спеліць Гасподзь.*

***

**Калі твайго жыцця эмблемай сталі**
**бязглуздзіца, абсурд і млосць,**
**дык выгнаў ты**
**з палаца радасць, дзе ты ёсць**
**сам радасна-часовы госць**
**у цеплыні вячэрняй мілаты.**

**Яго самотнасці прычаснік ты Другі,**
**ягоных маналогаў цэнтр і асяродак;**
**і кожны круг вакол цябе ёсць сродак**
**павузіць часу ніклыя кругі.**

***

**Вось і яе, саспелую для плоду,**
**красу нясмелую, без роду-зводу,**
**любоўю карануую выбраў Бог.**

## ПРА ЯГО

***Нарадзіўся Рэнэ Карл Вільгельм Ёзаф Марыя Рыльке 4 снежня 1875 г. у Празе ў сям'і служачага чыгуначнага ведамства.***

*У **1882–1886 гг.** вучыцца ў пачатковай школе.*

*У **1886–1890 гг.** атрымлівае адукацыю ў ніжэйшай рэальнай ваеннай школе (Санкт Пельтэн).*

*У **верасні 1890 г.** паступае ў вышэйшую рэальную ваенную школу (Мерыш-Вайскірхэн), з якой, аднак, ужо ў чэрвені наступнага года адлічаны па стану здароўя.*

*У **верасні 1891 г.** Рыльке становіцца навучэнцам гандлёвай акадэміі ў Лінцы, але і яе ўжо ў маі 1892 г. пакідае і зноўку апынаецца ў Празе.*

*У **1892–1895 гг.** жыве ў Празе і рыхтуецца экстэрнам здаць іспыты на атрыманне атэстата сталасці. Адначасова шмат піша і прыкладае намаганні, каб выдаць першую сваю паэтычную кнігу. Пад назвай "Жыццё і песні" яна была выдадзена ў 1894 г.*

***9 ліпеня 1895 г.** Рыльке здае іспыты і атрымлівае атэстат сталасці, а з восені гэтага ж года пачынае займацца на філасофскім, а затым на юрыдычным факультэце Пражскага нямецкага універсітэта.*

*У **1896 г.** выходзіць кніга*

# ПАБЛІЗУ ВОБЛАКАЎ І ВЕТРУ

*(Штрыхі да філасофска-эстэтычнага партрэта Райнера Марыі Рыльке)*

**За час, што прайшоў з дня смерці геніяльнага аўстрыйскага паэта Р.М. Рыльке, спробаў прачытання, спасціжэння філасофска-эстэтычнай прыроды яго творчасці, у тым ліку надзвычай глыбокіх, было мноства. І ўсё ж, здаецца, ніхто так блізка не змог падысці да разумення метафізічнай сутнасці рылькеўскага таленту, як Марыя Цвятаева ў сваім "Навагоднім" – вершы-рэквіеме, вершы-плачы, першым і таму насычаным амаль фізічным болем водгуку на смерць чалавека і мастака, што так многа значыў для яе:**

*.. Что мне делать в новогоднем шуме*
*С этой внутреннею рифмой: Райнер – умер.*
*Если ты, такое око, смерклось,*
*Значит жизнь не в жизнь есть,*
*смерть не в смерть есть.*
*Значит – тмится, допойму при встрече! –*
*Что ни жизни нет, ни смерти, – третье,*
*Новое...*

*...С незастроеннейшей из окраин –*
*С новым местом, Райнер, светом, Райнер!*

*вершаў Рыльке "Ахвяры ларам" У канцы верасня гэтага года паэт пакідае Прагу і накіроўваецца ў Мюнхен Слухае лекцыі ў Мюнхенскім універсітэце.*

*У **1897 г.** апублікавана кніга вершаў "Увянчаны снамі" У сакавіку – красавіку Рыльке ў Італіі. 12 мая ён знаёміцца з Лу Андрэас-Саломэ, дачкой нямецкага генерала, які служыў у Расіі. На ўсё жыццё паэт захавае дружбу з ёю; у суправаджэнні Лу ён здзейсніць абодва свае падарожжы ў Расію. З-пад пяра Лу Андрэас-Саломэ выйдзе кніга ўспамінаў пра Рыльке.*

*У **чэрвені 1897 г.** Рыльке прыязджае ў Германію, жыве непадалёк ад Мюнхена (Вольфратсхаўзен), а ўжо на пачатку кастрычніка ён – у Берліне, становіцца студэнтам Берлінскага універсітэта.*

***1898 г.** надзвычай плённы ў творчых адносінах: выходзяць у свет кніга вершаў "Куцця", зборнік навел і замалёвак "Наўсцяж жыцця", п'еса. У красавіку – маі паэт зноў у Італіі, наведвае мясціны ўжо знаёмыя і новыя – Фларэнцыю, Віярэджа і іншыя. Адбылося знаёмства з нямецкім паэтам-сімвалістам Стэфанам Георге. Улетку Рыльке вяртаецца ў Берлін.*

*У **1899 г.** выходзіць з друку кніга вершаў Рыльке "Мне на свята" 24 красавіка – 18 чэрвеня паэт упершыню ў Расіі. Увосень ён стварае першую частку кнігі вершаў "Часаслоў" ("Кніга пра манаскае жыццё"), а таксама*

**Квет неразгаданы знутры, спадсподу,**
**у якім ёсць тысячы шляхоў-дарог.**
**Яе лунаннем шчодра адарылі,**
**і ў ёй прадвызначанае расло;**
**і ўсё жыццё служэнскае Марыі**
**па-царску велічным цудам было.**
**І, як святочны перазвон царкоўны,**
**ва ўсе дамы яе жыццё ўвайшло;**
**і дзеўчанё, чый свет наіву поўны,**
**сусвету неспазнаны плод дало,**
**і споўненага Тым Адным улоння**
**хапіла тысячам на ўсе гады,**
**каб асвяціць усё, спрадвек да сёння,**
**як вінаграднік вечна малады.**

*** * ***

**Што зробіш, Божа, як што я загіну?**
**Я кубак твой – а што, як дам шчарбіну?**
**Я трунак твой – забраснею, застыну?**
**Тваё адзенне я – яго я скіну;**
**са мною страціш сэнс ты, Госпадзе.**

**Не ацалее дом святы твой, дзе**
**вітаны словам цёплым ты і шчасным,**
**абутак – я абутак твой атласны –**
**з тваіх ног, стомай зморaных, спадзе.**

**І доўгі плашч цябе не ахіне.**
**Ласкавы позірк твой, які шчакою**
**я чую, і нібы пушынак рою,**
**яму даю апекавацца мною,**
**шукацьме марна; з зольнаю зарою**
**між скал чужых сканае без мяне.**

**Што зробіш, Божа? Страшна мне з віною.**

С доказуемости мысом крайним –
С новым оком, Райнер, слухом, Райнер!

Все тебе помехой
Было: страсть и друг
С новым звуком, Эхо!
С новым эхом, Звук!..

**Чым прыведзеныя фрагменты (як і верш у цэлым) уражваюць у першую чаргу, дык гэта ўсведамленнем пазачасавай праасновы твораў Рыльке, поглядам на іх sub specie aeternitatis (з пункту гледжання вечнасці), як на з'яву, у пэўным сэнсе, касмічную, універсальную, а на аўтара іх – як на своеасаблівага пілігрыма, для якога смерць – усяго толькі пярэйсце на "новае месца", здабыванне "новага гуку", толькі "новае пасвячэнне" ("В небе лестница, по ней с Дарами... // С новым рукоположеньем, Райнер!").**

**Сапраўды, касмічным, універсальным Рыльке быў як мала хто з паэтаў, і не толькі па сваёй унутранай прыродзе. Яго універсалізм дэтэрмінаваны і шэрагам цалкам аб'ектыўных чыннікаў, сярод найважнейшых з якіх – ужо сама прыналежнасць да Аўстра-Венгрыі, гэтай, так бы мовіць, Еўропы ў мініяцюры. У выніку першай сусветнай вайны "шматковая" імперыя абрынецца ў невараць, а пакуль у яе ўваходзяць землі паўднёваславянскія, польскія (Кракаў), украінскія (Львоў), а таксама тыя, што складуць пазней Аўстрыю, Чэхію, Венгрыю. Адпаведна гэтаму гратэскаваму стварэнню, якім была Аўстра-Венгрыя ў цэлым, і Прага жыве жыццём рознанацыянальным, разнамоўным, рознакультурным, не судакрануцца з рознымі бакамі якога Рыльке не мог. Але яму і**





*** * ***

**Ты, пашаптанец закарэлы,**
**у запечках усякіх спіш.**
**Прыходзяць з часам веды. Ты ж –**
**няведнік цёмны, ты ж – няўмелы,**
**адзін у вечнасці стаіш.**

**Ты толькі просьбіт падуладны,**
**што сэнсу рэчаў фальш дае.**
**Ты – толькі гук у спеве зладным,**
**што, нібы падгалас павабны,**
**да моцнай долі прыстае.**

**На больш цябе і не стае.**

**Цябе не цешаць рызы-шаты,**
**багацце несці – не твой крыж,**
**ашчаднік сціплы, не для платы,**
**нібы мужык той барадаты,**
**адзін у вечнасці стаіш.**

*** * ***

**У ноч імя твайго нырнулі,**
**бадай што, процьмы святароў.**
**Дзяўчаткам юных, іх сяброў**
**ты абудзіў, яны памкнулі**
**свой пал табе, ты іх збароў.**

**Ў тваіх даўжэзных анфіладах**
**усе – паэты, песняры;**
**ад іх сугуччаў і руладаў**
**аж парахманелі цары.**

**Ты – час вячэрняе пяшчоты,**
**шчадроты ўсім даеш свае,**

*піша некалькі апавяданняў і "Песню пра каханне і смерць карнета Крыстафа Рыльке"*

*У **1900 г.** выходзіць зборнік апавяданняў "Пра Госпада Бога і іншае" 7 мая – 22 жніўня Рыльке ў другі раз наведвае Расію. Пасля вяртання з Расіі паэт прымае запрашэнне мастака Генрыха Фогелера і з канца жніўня да пачатку кастрычніка жыве ў Ворпсвэдэ, непадалёк ад Брэмена. Тут у яго ўсталёўваецца дружба з мастачкай Паўлай Бэкер і скульптарам Кларай Вестхоф.*

*У **канцы сакавіка 1901 г.** Рыльке абірае месцам жыхарства Вестэрвэдэ. Гэта зусім побач з Ворпсвэдэ, дзе ён часта бывае. 28 красавіка Рыльке бярэ шлюб з Кларай Вестхоф Паэт працягвае працу над зборнікам вершаў "Часаслоў", піша другую яго частку – "Кнігу пра паломніцтва" 12 снежня ў Рыльке нарадзілася дачка Рут.*

*У **1902 г.** здзейснена першае выданне зборніка вершаў "Кніга вобразаў" Пабачылі свет таксама п'есы "Апошнія" і "Паўсядзённае" Рыльке працуе над мастацтвазнаўчай манаграфіяй, прысвечанай групе "Ворпсвэдэ" У чэрвені гэтага ж года ён атрымлівае ад вядомага мастацтвазнаўцы Мутэра прапанову напісаць манаграфію пра Радэна. Рыльке ахвотна пагаджаецца. У канцы чэрвеня ён звяртаецца да Радэна з лістом, а ў верасні Рыльке ўжо ў Парыжы, у майстэрні славутага скульптара.*

*У **1903 г.** манаграфія пра*

**тут не хапае паветра, ён увесь час імкнецца вырвацца за межы краіны, у якой яму давялося нарадзіцца. Ён заўсёды ў дарозе, рэдка мае пастаянны адрас, кватэру ці службу; у людзей, якія яго ведалі, часам складвалася ўражанне, што Рыльке нават не заўсёды ведаў сёння, куды павядзе яго дарога заўтра. Кажучы словамі Стэфана Цвэйга, ён належаў да "роду, што не мае прамых нашчадкаў у нашы адчыненыя ўсім вятрам дні". Усё тая ж Марына Цвятаева адчула гэта нашмат раней за іншых. "Хто ж ты ўсё-такі, Райнер? – дапытваецца яна ў адным з лістоў. – Не немец, хаця – цэлая Германія! Не чэх, хаця нарадзіўся ў Чэхіі (NB! у краіне, якой яшчэ не было, – гэта падыходзіць!), не аўстрыец, таму што Аўстрыя *была*, а ты – будзеш! Ну ці не цуд? У *цябе* – няма радзімы!" Сам Рыльке ў адным з лістоў ад 1926 г. скажа: "Вы лёгка можаце сабе ўявіць, які ўплыў аказвала на мяне атачэнне або шматлікія краіны, у якіх я праз ласку майго шчодрага і паблажлівага лёсу меў магчымасць спыняцца не толькі як падарожнік, але і па-сапраўднаму там жыць, беручы самы дзейны ўдзел у сучасным і мінулым гэтых краін...".**

**Да ліку "гэтых краін" належаць Італія і Францыя, Іспанія і Данія, Швецыя і іншыя. Таму заканамерна, што ў сталых вершах Рыльке ўяўленні пражаніна аб найважнейшых праблемах жыцця арганічна спалучаюцца з адчуваннямі насельніка сусвету, а актуальна-сучаснае перасякаецца з філасофскім, універсальна-быційным.**

**Па словах паэта, "рашаючым жа ўплывам была Расія"; у час двух яе наведванняў, у 1899**

*Радэна, а таксама папярэдняя праца, пра групу "Ворпсвэдэ", выдадзены Рыльке піша заключную частку "Часаслова" – "Кнігу пра беднасць і смерць". У верасні ён прыязджае ў Рым; нейкі час тут разам з ім і жонка Клара. Паэт вывучае дацкую мову, паглыбляецца ў філасофію Сёрэна Кіркегара. У чэрвені Рыльке накіроўваецца ў Швецыю.*

*У **1905 г.** апублікаваны "Часаслоў" Рыльке шмат падарожнічае, нарэшце пры пыняецца ў прыгарадзе Парыжа Медон Валь-Флеры. Менавіта тут працуе на той час Радэн. Рыльке на працягу шасці месяцаў выконвае абавязкі яго сакратара.*

*У **1906 г.** выходзіць у свет "Песня пра каханне і смерць карнета Крыстафа Рыльке" 14 сакавіка ў Празе памірае бацька паэта. У маі Рыльке пакідае Радэна, селіцца ў Парыжы, дзе працуе над першай часткай "Новых вершаў". У жніўні паэт наведвае Бельгію, а пазней накіроўваецца на востраў Капры, дзе ў пачатку 1907 г. знаёміцца з Максімам Горкім. Затым зноў вяртаецца ў Парыж, працуе тут над другой часткай "Новых вершаў", перакладае санеты Элізабэт Броўнінг. З'яўляецца другое выданне манаграфіі "Радэн"; на гэты раз да напісанага раней Рыльке далучае прысвечаны Радэну даклад, з якім ён неаднойчы знаёміў слухачоў у Германіі і Аўстра-Венгрыі. У кастрычніку 1907 г. Рыльке наведвае выставу Сезана ў*

**шукаеш дар у цемры рота,**
**і кожны, думаючы, што ты**
**знайшоў, табе хвалу пяе.**

**На сотнях арфаў цябе ў свеце**
**узносяць з моўчы незямной.**
**І твой стары спрадвечны вецер**
**усіх і кожнага прывеціць**
**павевам святасці тваёй.**

*******

**А сонца рэдка ў сэрцы храма.**
**З фігураў вырастаюць сцены,**
**праз дзеўну, праз старыя целы,**
**нібы на ўзлёце крылы-цені, –**
**расце з іх залатая брама.**

**І з краю крыецца сцяна**
**за золатам іканастаса,**
**і камянёў жывая маса**
**як хор узносіцца, яна**
**спадае ў срэбры ў ногі Спаса**
**маўклівая спрадвек, здаўна.**

**Над імі, як блакіт уся,**
**уся бялюткая,**
**лунае дзеўна, ўся – краса:**
**прыбрамніца, з начы раса,**
**цвіце чысцюткая сляза,**
**збавіцелька твая.**

**І акругляе купал храма**
**напоўнены табою сын.**

**І ты, на троне, – нечувана**
**жахлівы твой спачын.**

**і 1900 гг., яна адкрыла перад Рыльке "прастору нечуваных вымярэнняў", стала яго "духоўнай радзімай", адным з падмуркаў яго жыццеўспрымання. "Дарагі друг! Калі б я прыйшоў у гэты свет як прарок, я б усё жыццё прапаведаваў Расію..." – прызнаецца Рыльке. Зноў і зноў называе ён Расію "незабыўнай казкай", "святой і блізкай", краінай, што назаўсёды ўвайшла ў асновы яго існавання.**

**Рыльке быў знаёмы з расійскімі мастакамі Л.В. Пастарнакам, А. Бенуа, І. Рэпіным, з пісьменнікамі Л. Талстым, М. Горкім, С. Дрожжыным і інш. Вывучыўшы рускую мову, ён пераклаў "Слова пра паход Ігаравы", "Чайку" А. П. Чэхава, фрагменты з "Бедных людзей" Ф.М. Дастаеўскага, вершы М.Ю. Лермантава і С. Дрожжына, К. Фофанава і З. Гіпіус, апавяданне Ф. Салагуба "Чарвяк" і сам, як вядома, напісаў восем вершаў па-руску. Цвятаева неяк заўважыць, што не толькі ў жыццёвым лёсе, але і ў творчасці Рыльке "не раз – павее Расіяй". Так яно і было: рускі досвед, вынікі вывучэння рэлігійна-гістарычных звычаяў і культуры Расіі знайшлі ўвасабленне ў паэтычных зборніках "Кніга вобразаў" (1902), "Часаслоў" (1905), "Новыя вершы" (чч. 1-2, 1907–1908), у невялікім апавяданні "Як на Русі з'явілася здрада" (з цыкла "Пра Госпада Бога і іншае", 1900); рускія матывы далі аб сабе знаць і ў рамане "Запіскі Мальтэ Лаўрыдса Брыге", самым буйным празаічным творы пісьменніка. Да месца заўважым, што прысутнічаюць у творчасці Рыльке і ўкраінскія ўплывы (у "Часаслове", у апавяданнях "Песня аб праўдзе" і "Як стары**





*******

**І я ўвайшоў як пілігрым**
**і быў пакутнікам у ім,**
**адчуўшы на чале сваім**
**цябе, о камень.**
**Мінорай сямісвечнай я**
**абставіў змрок твайго быцця**
**і ў кожным вобразе тваім**
**угледзеў знак радзімы я.**

**Стаяў я каля жабракоў,**
**худых, панылых і пустых,**
**і з іх паклонаў зноў і зноў**
**я разумеў, што вецер ты.**
**Я бачыў мужыка, які**
**у барадзе, як Ёахім, –**
**з таго, з якой пакорай нёс**
**ён на сабе свой горкі лёс,**
**убачыў я цябе такім**
**адкрытым, шчырым і у ім.**

**Ты часу бег даеш,**
**а што табе дае бязмеж?**
**свой сэнс? і меру мер?**
**Мужык твой сэнс бярэ, увысь**
**яго шпурляе, як калісь,**
**так і цяпер.**

*******

**Што я не быў тут за хвіліну,**
**ты ведаеш? І кажаш – не.**
**Я адчуваю, што жыцця не кіну,**
**і час мяне не абміне.**

*парыжскім "Асеннім салоне", якая зрабіла на паэта, паводле шматлікіх яго ўласных прызнанняў, надзвычай вялікае ўражанне. Удалося паразумецца з Радэнам, у доме якога пазней, у 1908 г., Рыльке нейкі час будзе жыць.*

*У **1908 г.** выходзіць "Новых вершаў другая частка" Працягваецца распачатая яшчэ ў 1904 г. праца над раманам "Нататкі Мальтэ Лаўрыдса Брыге", які будзе завершаны ў 1909 г. Убачыць свет гэты празаічны шэдэўр Рыльке ў 1910 г.*

*У **1910 г.** Рыльке піша мала. У красавіку ён упершыню патрапляе ў замак Дуіна, той самы замак на беразе Адрыятычнага мора, з якім многае будзе звязана ў творчасці Рыльке і які пазней дасць назву яго славутай кнізе элегій Наведвае паэт і Венецыю, затым Алжыр і Туніс, а на пачатку 1911 г. – Егіпет.*

*Увесну **1911 г.** хвароба вымушае Рыльке перарваць падарожжа і вярнуцца ў Парыж. Але паэт нядоўга застаецца на адным месцы: пасля вандровак у Германію і Аўстра-Венгрыю ён зноў прымае запрашэнне княгіні Марыі фон Турн-унд-Таксіс пажыць у замку Дуіна.*

*Да **мая 1912 г.** Рыльке знаходзіцца ў Дуіна, потым едзе ў Венецыю, дзе знаёміцца з Элеанорай Дузэ. Увосень Рыльке – зноў у замку Дуіна, адкуль у кастрычніку выпраўляецца ў Іспанію і падарожнічае па ёй*

**Цімафей спяваў, паміраючы" з вышэйназванага цыкла "Пра Госпада Бога і іншае"); надзвычай важнымі яе складовымі сталі таксама італьянскія, французскія, скандынаўскія ды іншыя тэмы і ўражанні.**

**Універсалізм Рыльке быў абумоўлены і часавай прыналежнасцю паэта: духоўнае, у тым ліку літаратурнае жыццё на памежжы культурна-гістарычных эпох заўсёды мае характар сінтэзу, а памежжу XIX–XX стст. гэта было ўласціва ў асабліва вялікай ступені. Згадайма хоць бы, што калі раней старая эстэтычная плынь цалкам змянялася новай, як гэта было, да прыкладу, з класіцызмам і рамантызмам, пазней – з рамантызмам і рэалізмам, дык цяпер, у другой палове XIX – пачатку XX стст., у эпоху дэкадансу, розныя накірункі і школы хоць і супрацьстаяць адна адной, і імкнуцца адна адну абвергнуць, аднак жа – суіснуюць; часта, як ні парадаксальна, даюць плыні-антыподу глебу для новых мастацкіх адкрыццяў, а часам і сыходзяцца, узаемапранікаюць на ўзроўні не толькі творчасці аднаго аўтара, але і аднаго твора.**

**У найвышэйшай ступені сінкрэтычнай была і творчасць Рыльке. Яна не ўкладваецца ў "пракрустава ложа" нейкага аднаго напрамку, не паддаецца бясспрэчнаму вызначэнню, нават калі гаворка датычыцца таго ці іншага канкрэтнага твора. Тым больш гэта справядліва ў дачыненні да творчасці Рыльке ў цэлым: кожны новы цыкл яго вершаў сведчыць аб філасофска-эстэтычнай эвалюцыі паэта. Калі ў ранніх творах знітоўваюцца элементы**

*амаль да канца лютага 1913 г. 27 лютага Рыльке вяртаецца ў Парыж, затым – паездкі па Германіі, у кастрычніку – зноў у Парыжы.*

*У* ***1914 г.*** *убачыў свет пераклад Рыльке “Вяртанне блуднага сына” Андрэ Жыда. Паэт шмат ездзіць (Германія, Швейцарыя, Італія, зноў Германія).*

*У* ***1915 г.*** *Рыльке жыве пераважна ў Мюнхене, стварае шэраг вершаў.*

*У* ***студзені – чэрвені 1916 г.*** *паэт праходзіць ваенную службу ў Вене. У ліпені ён у Мюнхене, дзе будзе заставацца да чэрвеня 1919 г Сусветная вайна ды ўласныя праблемы абумовілі стан цяжкага душэўнага крызісу, што доўжыўся на працягу 1917–1918 гг і з якога паэт выходзіў надзвычай складана.*

***11 чэрвеня 1919 г.*** *Рыльке накіроўваецца ў Швейцарыю, у розных яе гарадах выступае з лекцыямі і чытаннем вершаў.*

*У* ***1920 г.,*** *пасля наведвання Венецыі, Парыжа, жыве (з 12 лістапада 1920 г. да сярэдзіны мая 1921 г.) у замку Берг. Тут ім створана нізка вершаў, якая выйдзе пазней пад назвай “Са спадчыны графа К.В.” У ліпені Рыльке пасяліўся ў замку Мюзот. Натрапіўшы на лірыку і эсэ Поля Валеры, Рыльке надзвычай узрушаны, ён перакладае паэму Валеры “Марскія могілкі”*

*У* ***1922 г.*** *Рыльке працуе як апантаны. Паводле яго ўласнага сведчання, за тры тыдні лютага ён заканчвае працу над цыклам “Дуінскія элегіі” і стварае цыкл “Санеты Арфею”.*

*У* ***1923 г.*** *абодва цыклы выходзяць у свет. Даюць аб сабе знаць першыя праявы невылечнай хваробы – лейкеміі, у сувязі з чым Рыльке накіроўваецца на бераг Жэнеўскага возера, у швейцарскую клініку Валь-Монт.*

*У* ***студзені 1924 г.*** *паэт вяртаецца ў замак Мюзот. У красавіку адбываецца асабістае знаёмства з Полем Валеры. Рыльке шмат перакладае з французскай, піша сам як на французскай, так і на нямецкай мовах. Напрыканцы года Рыльке зноў у клініцы Валь-Монт.*

***Першую і большую частку 1925 г.*** *Рыльке жыве ў Парыжы. Ён перакладае Поля Валеры, працягвае сам пісаць па-французску Абвастрэнне хваробы зноў прыводзіць яго ў клініку Валь-Монт, дзе ён знаходзіцца з восені 1925 г. да мая 1926 г.*

*У* ***1926 г.*** *выходзіць кніга французскіх вершаў Рыльке “Vergers” (“Фруктовыя сады”). У канцы лістапада стан здароўя паэта рэзка пагоршыўся.*

***29 снежня ў клініцы Валь-Монт Рыльке памёр. Пахаванне адбылося 2 студзеня 1927 г.***

**Падрыхтавала**
**Ева ЛЯВОНАВА.**

**Я больш, чым проста сон у сне.**
**А што патрэбу мае ў флёры,**
**яно – як дзень, як гук у моры,**
**яно ў руках тваіх чужое,**
**свабоды прагне той, якое**
**дамогшыся, здаюць сябе пакоры.**

**Таму табе на долю морак,**
**і праз пусты святла паморак**
**гісторыя сусвету ўстала**
**з камення зыркага, са скалаў.**
**Каму йшчэ трэба гэтакіх аскалаў?**
**Зноў масу дай галодным масам? –**
**каменне вызвалена часам,**

**і каб жа хто каменнем быў пабіты...**

*** * ***

[А.С ]

**Малітвай не блюзнеру я, Гасподзь,**
**як вычытаў я з кніг прадаўніх, бо**
**з табой з‘яднаны я тысячакроць.**

**Любоў хачу аддаць. Маю любоў...**

**Ці любяць бацьку? Ці без жалю прэч,**
**як ты, ідуць ад немачных старэч,**
**без веры ў сілу рук яго і плеч?**
**І ці ж,**
**ці ж не кладуць завялых слоў паміж**
**старонак даўніх прахлых кніг,**
**даўно ўжо не чытаў ніхто якіх?**
**Ці ж не сплываюць з сэрца, быццам воды,**
**пакуты, радасці яго, нягоды?**
**Ці ж бацька нам не тое, што было:**
**мінулае, счужыненае ўсё,**
**старыя жэсты, спрахлае рыззё,**
**бяссілласць рук, адцвілае чало?**
**Героем часу быў свайго. Лісцінай**
**ён ападзе, як прыйдзе час цвісці нам.**

*** * ***

**Ты ўжо стары, ў сабе замкнёны,**
**і валасы твае, як дым.**
**Ты той вялікі Невядомы**
**сівы каваль, свае гады**
**куеш адвечна, ты нястомны,**
**самотнік ля кавадла ты.**

**І святаў у цябе няма,**
**бо час твой забірае праца –**
**мячы куеш, загартавацца**
**без рук не можа сталь сама.**
**Калі стаяць піла і жорны,**
**і дрэмле люд запойна чорны,**
**твае званы гудуць і горны,**
**і кліча нас твая сурма.**

**Ты саматужнік наш нястомны,**
**і не вучыўся ты нідзе;**
**заезны майстар невядомы,**
**пра кога нішкам і ў стазвонны**
**набат паўсюдна слава йдзе.**

*** * ***

**Пакоры зычыш ты. І ўсе абліччы**
**каб скруха разумення крыла, зычыш.**
**Паэты-пачаткоўцы гэтак носяць думу**

**імпрэсіянізму і неарамантызму, дык з цягам часу да іх усё выразней далучаюцца сімвалісцкія тэндэнцыі, вобразы і матывы становяцца полісемічнымі, губляюць празрыстасць, шматмерна ўскладняюцца і ўзбагачаюцца, набываюць перспектыву шматварыянтнага свайго асэнсавання.**

**Мастак успрыняў шматлікія ўплывы не толькі пісьменнікаў (датчаніна Е.П. Якабсана, аўстрыйца Г. фон Гофмансталя, немцаў С. Георге, Г. Гаўптмана, Дз. фон Ліліенкрона, бельгійца Э. Верхарна, французаў Ш. Бадлера, М. Пруста, П. Валеры, рускіх Л. Талстога, І.С. Тургенева і інш.), але і жывапісцаў, скульптараў (Мікеланджэла, П. Пікаса, П. Сезана). Выключную ролю ў лёсе Рыльке адыграў Агюст Радэн, чыім асабістым сакратаром паэт быў у 1905—1906 гг. Менавіта пасля знаёмства з ім Рыльке зразумеў, што не асмеліцца, паводле ўласнага прызнання, шукаць і патрабаваць ад жыцця ніякіх іншых здзяйсненняў, апрача творчых: “у іх мой дом, у іх тыя істоты, якія мне насампраўдзе блізкія, у іх жанчыны, якія мне патрэбны, і дзеці, якія вырастуць і доўга пражывуць”. Роўнага Радэну сярод мастакоў-сучаснікаў Рыльке не бачыў, ён быў літаральна апантаны мастацтвам французскага скульптара, абсалютнай дасканаласцю многіх яго твораў, яго самаахвярнасцю, нечалавечай сканцэнтраванасцю на сваёй справе.**

**Вялікую цікавасць выклікала ў Рыльке экспрэсіяніснкае мастацтва, у прыватнасці – вершы Георга Тракля (вось толькі адно з аўтарскіх сведчанняў: “...я быў вельмі ўсхваляваны і захоплены якраз вершамі Георга Тракля; кола ягонага лёсу тым часам замкнулася, і зараз, вядома, яшчэ яскравей бачна, наколькі яго творчасць ужо выйшла, вырвалася за межы тленнага і мінучага”) і жывапіс загінуўшага на першай сусветнай Франца Марка, што не магло не адбіцца і на яго ўласнай творчасці.**

**Зрэшты, адчуванні бездапаможнасці і адзіноты, безабароннасці і катастрафізму, характэрныя для экспрэсіяністаў, у паэзіі самога Рыльке наўрад ці можна расцэньваць адно як вынік творчых уздзеянняў апошніх; відавочна, яны – плён сацыяльна-грамадскіх варункаў, у якіх мастаку наканавана было жыць. У лісце да маладога нямецкага паэта Бернгарда фон дэр Марвіца ад 9.3.1918 г. Рыльке, у прыватнасці, напіша: “Ці ёсць для нас дзе-небудзь прагал у гэтым згубіўшым надзею свеце? Ці не належала б усім, чыя свядомасць абцяжарана жахамі, што год за годам чыняцца ў гэтым свеце, сысціся, урэшце, у такім месцы, дзе людзі стаяць на каленях і крычаць, – гэта я зразумеў бы і кінуўся б да іх і далучыў бы мой крык да іх енку”. Радкі гэтыя не толькі выклікаюць асацыяцыі са знакамітым “Крыкам” нарвежскага жывапісца і графіка Эдварда Мунка, аднаго з пачынальнікаў экспрэсіянізму, або з драмамі-”крыкамі” нямецкага экспрэсіяніста Георга Кайзера, але ўспрымаюцца і як квінтэсенцыя трагічных настрояў “канца веку”.**

*Die stillen Kräfte prüfen ihre Breite*
*Und sehn einander dunkel an.*

*Моўкныя сілы сваю моц выпрабоўваюць*

присадамі, далёкімі ад шуму.
Сяляне так стаяць вакол труны,
з дзіцём, якое смерць не ў час забрала,
і велічы хвіліны ім замала,
вялікай тайнасці няймуць яны.

Таму, хто першы раз цябе ўспрыняў, –
завадаю гадзіннік і сусед,
ідзе панура, твой трымае след,
пад ношай цяжкаю гадоў і з'яў.
Яму так цяжка зблізіцца з прыродай,
ён адчувае далеч і вятры,
твой шэпт з улонняў чуе, як заўсёды,
цябе ён бачыць, як пяеш згары,
з далёкіх зорак велічныя оды, –
а як адчуць не знешне, а знутры?

Ты ў добрасці ягонай і ў руцэ,
табе цудоўна з ім, бы ў падарожжы
на ціхім караблі пад знакам божым
на паўнаводнай велічнай рацэ.
Зямля шырокая, ў вятрах, раўніна,
нябеснай неабсяжнасці даніна
спрадвек падданая старым барам.
І вёсачкі абапал тут і там
сплываюць міма, быццам параходы,
як Сёння, як Учора, як народы,
і як усё, што толькі сніцца нам.
А ўздоўж патоку гэтага сады
нанова паўстаюць і гарады,
і праплываюць урачыстым плывам
на ветразях анёлаў легкакрыла.

І часам карабель той вабяць далі,
дзе на самоце праз гады ў рады
чакалі іх, тулягаў вечнай хвалі,
малой радзімы гойныя сады...

а там ужо напагатове воз
і конь чакае;
і вось ужо туды павёз,
дзе ў вечнай цемрадзі знікае
дарога доўгая і лес...

* * *

Ці ведаеш пра тых святых, мой Божа?
Яны ж і ў норах, у манастырах
смяяцца не зракаліся з цяжкай ношай,
яны, у зямны атуленыя прах.

І кожны выдыхаў сваім святлом
паветра каліўца з нары, дзе ён
забыў свой век і твар, акрыты тлом,
і жыў нібыта ў доме без акон,
нябожчык, пахаваны ў ім жыўцом.

Яны чыталі рэдка; ў кожны том
нібы мароз запоўз траскуча-шорсткі
і расаю уросся ім у косткі,
і сэнс звісаў са слоў і моўк.
І не спрачаліся падчас бясед
на трапезах ці ў анфіладах чорных,
пазапускалі валасы у поўным
перакананні, што яго сусед
стаіць памерлы.
У ратондзе тут,
дзе срэбныя лампады п'юць бальзамы,
дзе спадарожнікі збіраліся часамі
пад Брамай залатой у цесны гурт,
як перад залацістымі садамі,
і недаверліва ў свой сон глядзелі,
аж сівыя бароды ў іх трымцелі.

*І адна на адну цёмны позірк кідаюць, –*
(Падрадкоўнік наш)

такую эмблематычную выяву памежжа стагоддзяў дасць Рыльке ўжо ў кнізе "Часаслоў". Шматкротна запыняецца ён на спецыфіцы сваёй эпохі ("Ich lebe grad, da das Jahrhundert geht" ) ("Я жыву якраз, калі стагоддзе адыходзіць"), прадчуваючы жудасныя катаклізмы, нябачнае раней распаўсюджванне жорсткасці, якая на радзіме паэта ўзялася правіць баль ці не раней, чым у іншых краінах Еўропы; па словах С. Цвэйга, "у апошняе дзесяцігоддзе перад новым стагоддзем у Аўстрыі ўжо пачалася вайна ўсіх супраць усіх". Інтэлігентнасць, духоўнасць, далікатнасць у прынцыпе не сумяшчаюцца з атмасферай цемрашальства, маніпуліравання масавай свядомасцю; двойчы і тройчы варожымі былі такія варункі для Рыльке з яго "жыццём напаўголаса". Што ўжо казаць пра ваенную казарму ці ваенную вучэльню, калі Рыльке стамлялі і раздражнялі кожная неўпарадкаванасць побыту, кожная нястрыманасць пачуццяў; як ні дзіўна, яго, вечнага вандроўніка, на доўгія гадзіны пазбаўляла раўнавагі адна толькі думка, што некалькі хвілін трэба будзе праехаць у шматлюдным трамваі.

Адзінота – адно з вызначальных пачуццяў Рыльке-чалавека і Рыльке-мастака. Неймаверна абвастраецца яно ў горадзе – няхай то будуць Прага, Венецыя або "горад вечнай маладосці – Парыж", які Рыльке любіў страсна, як ніякі іншы горад. Аднак і ў Парыжы – найперш у Парыжы – яму бясконца адзінока; і вось ужо ў лісце ад 18.7.1903 г. да Лу Андрэас-Саломэ гучаць





Жыццё – як тысяча гадоў было,
з часоў, як больш на ноч і на святло
не падзялялася; быт быў улонны.
Сядзелі, як ва ўлонні эмбрыёны
з вялікімі галовамі, з рукамі
маленькімі, не елі, быццам ежу
давала ім зямля з свайго бязмежу,
што спеліў плод бясконцымі вякамі.

Цяпер паломнікі іх там глядзяць,
якіх навала на любыя хошчы
у манастыр імкнуцца, дзе ляжаць
гадоў за трыста ў саванах іх мошчы,
і ўжо не тлее там святы нябожчык.
А цемра, як закуранасць святла,
на ложах доўгіх цела атуліла,
якія ў тайнасці аберагла
сама зямная іхняя магіла, –
і рукі іх грудочкам на грудзях
дабраслаўляюць мілатой іх прах.

Вялікі правадыр на неба ўзятых:
чаму забыў ты гэтых небажатых
пасласць у смерць, каб іх зямля ўзяла,
каб ім прытул дала і спажыла?
Няўжо ты іх на тое толькі сцвердзіў,
каб даказаць непрамінучасць іх?
І гэта ёсць жыццё у пазасмерці?
І ў гэтым падабенства да жывых?
І гэтыя замумленыя трупы
ператрываюць час у час загубы?

Яны твой план вялікі уцялесняць зноў?
І ты трымаеш іх тут, як сасуды,
куды у пэўны час велікасудны
сваю нятленную пераліваць меш кроў?

* * *

Старэюць каралі зямлі
і спадчыны не пакідаюць.
Сыны падлеткамі ўміраюць,
а з іх дачок сілком здзіраюць
кароны цноты круцялі.

Каронам тым ліхая смерць,
бо іх звядзе на грошы смердзь,
укіне ў полымя плавільні,
бо волі іх служыць павінны,
але не ўшчасцяцца іх чыны.

Металу нудна у манеце
хадзіць разменаю па свеце,
жыццём марнуючыся будным.
Ён прагне з фабрык, з кас туды –
вярнуцца у запаснік руднй
і ў ім сумецца назаўжды.

* * *

І ты вялікі будзеш. Нават большы,
чым той, што мусіць жыць і гаварыць
з табой. Больш незвычайны і харошы,
старэйшы патрыярх, старым-стары.

Цябе адчуюць, бо плыве духмянасць
з тваіх прысутна зблізканых садоў;
як хвораму з прадметаў мілых радасць,
так людзям з любасці плыве любоў.

Збіраюць бо людзей у гурт не модлы.
Цябе не будзе ў лучнасці; бо хто

словы бязмежнай роспачы і страху: "Я хацеў бы сказаць табе, дарагая Лу, што ў Парыжы я зведаў нешта падобнае на тое, што і ў ваеннай школе; як тады мяне ахапіла велічэзнае гнятлівае здзіўленне, так і зараз на мяне зноў напаў жах перад усім тым, што па нейкай невымоўна жудаснай памылцы завецца жыццём. Тады я быў хлопчыкам сярод хлопчыкаў, я быў адзінокі сярод іх; але які адзінокі быў я цяпер сярод гэтых людзей, як адмаўляла мяне пастаянна ўсё, што сустракалася на шляху; экіпажы праязджалі скрозь мяне... каціліі, поўныя пагарды, прама праз мяне, як праз калюгу, у якой сабралася застаялая вада". "О, гэты мой страх узводзілі тысячы рук, – зрываецца з вуснаў Рыльке прызнанне, – ён быў глухой вёскай і стаў горадам, вялікім горадам, у якім творыцца невыказнае... калі настаў Парыж, страх хутка набыў велізарныя памеры".

Важна, аднак, наступнае: адзінота для Рыльке была ў такой жа ступені невыноснай, у якой і жаданай, ці не адзіна для яго як для творцы неабходнай, адзіна прымальнай: "Я баюся, што захварэю, калі мой лад жыцця не будзе зменены ў бок адзіноцтва і прыроды", – гэта з ужо цытаванага ліста да Б. фон дэр Марвіца. І ў апошні год жыцця, дзелячыся з М. Цвятаевай шчасцем "прарастання" і "выспявання" апошніх паэтычных цыклаў – "Элегій" і "Санетаў Арфею", Рыльке зазначыць: "Захапленне і перамога, Марына, што не маюць сабе роўных! Але каб *гэтага* дамагчыся, мне неабходна была тая празмернасць адзіноты ва ўсёй сваёй знішчальнасці". Чатырма гадамі раней за Рыльке і за

праз радасць да цябе прыйшоў, той годны,
таму не трэба кліканы натоўп:
ён і ў самоце будзе ўсюдыісны,
сабраны і адкінуты, ў тузе
і ў радасці, маленькі і вялізны,
як хата і дзяржава, як усе.

✱✱✱

Чырвоны барбарыс даспеў, ірдзее,
на летасхіле астраў жухне пах,
і хто цяпер багацця не дасяг,
хваробу той ужо разбагацее.

Не бачыць з-пад апушчаных павек,
якія звонку вобразы, карціны,
і ён, чакаючы начной гадзіны,
каб поначы узвысіцца над імі, –
прапашчы ён, лядашчы чалавек.

Наперадзе нічога, дзень пусты,
усё ілжэ яму, чаго так прагне,
і нават ты, Гасподзь. Бы камень, ты,
які штодня яго ў прадонне цягне.

✱✱✱

Зрабі каго цудоўным, а каго
вялікім; цноту сораму яго
прыгожай вежаю узвысь, Гасподзь,
у русым лесе валасоў хлапечых,
і дай любові фаласу, каб вечніў
ты нас у войску белым, чалавечым,
дзе семя наша згуртавала плоць.

Дай ноч, каб людзі і ў душы і ў целе
маглі пранікнуць у патайны спрат,
дай ноч, каб рэчы ўсе паўсюль квітнелі,
і каб духмяна самі, як жалейкі, пелі,
каб калыхалі, як вятроў паветы,
як перамогай шчасны Ёсафат.

Дай часу ношу несці, падары
навырост росту з ростам тленнай рызы,
самотай зор самотнасць азары
і каб вачам на подзіў час тварыў
на твары зменлівасці кожнай рысы.
Дай моцы чыстай ежай і расою,
жыццём жывых раслін, не бітай плоццю,
мацуй, як багавейнай мілатою,
што – як дыханне цепліцца упоцьмах.

Зрабі, каб ён неспасцігальна зноў
дзяцінства слодыч і цудоты зведаў
і каб наіў пачаткаў і асноў
стаў грунтам неразгаданых легендаў.

Хай дачакаецца сваёй гадзіны,
бо ён народзіць смерць; Суддзю ўчыні:
які, нібы вялікі сад, адзін і
сабраны ўвесь з адной далечыні.

✱✱✱

О, дзе ён, дзе ён – часу валадар,
які аж так узвысіўся з галечы,
калі, на рынку агаліўшы плечы,



без вопраткі стаяў, але – святар.
Чаканы і любімы, навагодак,
прыйшоў і жыў з людзьмі хлапчук-святло;
румяны брат тваіх звяркоў-салоўкаў, –
у ім і цуд, і водар асалодаў,
і захапленне ўсім зямным было.

Бо ён не быў з тых прытамленцаў вечных,
бязрадасна-панылых у жыцці;
ён з праскамі жывымі, як з дзяцьмі,
хадзіў па лузе, гаварыў, не енчыў,
пра місію сваю, людскі даверца,
пра мілату, якую ім нясе,
былі бясконцыя яго душа і сэрца,
і адчувалі гэта дзеткі ўсе.

Прыйшоў з святла, святло ўзвялічыў,
і ў келлі радасці агонь не гас.
Расла усмешка на яго аблічча,
маленству сталасці ён зычыў,
і выспеліўся, як дзявочы час.

Спяваючы, нібы ва ўчора ўроствоў,
нібы ў мінулае назад пранік;
і цішыня запанавала ў гнёздах,
і толькі сэрцы енчылі у сёстрах,
якіх расчульваў ён, нібы жаніх.

І абляцеў пылок ягоных песняў
з пунсовых вуснаў і на самы спод
асыпаўся тым любасным і веснім,
чароўна-сціплым квецікам кудзесным
і апладніў іх сэрцы і даў плод.

І прынялі пакорна цноту мужа
у плоць сваю, што іх душой была.
І вочы іх самкнуліся, як ружа,
і ноч кахання у вачах жыла.

І прынялі яго ўсе жывароды.
Да кожнага спусціўся херувім
сказаць, што самкі іх прадоўжаць роды, –
і прынялі яго як дар жывой прыроды,
і даравана была плоднасць ім.

Калі ж памёр ён без імя, ціхмяна, –
шчаслівы лёс: ён выйшаў з берагоў,
насенне заспявала безыменна
у ручаях і дрэвах, і з лугоў
душа глядзела кветкамі духмяна.
Ляжаў ён і спяваў. І сёстры зрана
прыйшлі аплакаць любага свайго.

✱✱✱

О, дзе ж ты, Ясны наш? Чаму ніколі
не распасцёр сваёй магутнай волі
па-над надзеямі святла, дабра?

Чаму не апрамяніў нам юдолі,
о ты, Вячэрняя Зара?

*Пераклаў*
*Васіль СЁМУХА.*

---

няпоўныя два гады да смерці Франц Кафка ў лісце да М. Брода скажа нешта да жудасці падобнае: "Страх перад поўнай адзінотай. Па сутнасці, адзінота з'яўляецца маёй адзінай мэтай, маёй вялікай спакусай... І нягледзячы ні на што, страх перад тым, чаго я так моцна прагну... Гэтыя два віды страху перамолваюць мяне, як жорны".

Адчуваннем вялікай духоўнай адзіноты, якая ўжо сама па сабе ёсць "праца, і годнасць, і прызванне", цяжкая ноша і, адначасна, "святы" стан, прасякнуты і паэзія, і проза Рыльке. "Du meine heilige Einsamkeit" ("О ты – мая святая адзінота!") – пачынаецца адзін з першых яго вершаў. З гэтага часу матыў адрынутасці, адчужанасці пройдзе праз усю яго творчасць. Адзінокі мастак адзінокі кожны чалавек наогул – нарэшце, ашаламляльна, невымерна адзінокі сам Бог:

*Галетнік беспрытульны ты і ўбогі,*
*як камень без гнязда, без месца ты,*
*як пракажоны йдзеш наўзбоч дарогі*
*з трашчоткаю, мінаеш гарады, –*

(Пераклад В. Сёмухі)

сказа паэт у адным з вершаў "Часаслова", кнігі, што азнаменавала пачатак славы Рыльке. Тая ж мелодыя прагучыць і ў "Элегіі" – своеасаблівым спадчынным тастаменце.

Адзінота і беспрытульнасць даюць аб сабе знаць і ў "Новых вершах", і ў іншых кнігах Рыльке, аднак яны далёка не вычэрпваюць усяго дыяпазону пачуццяў і перажыванняў яго лірычнага героя. Гэта асабліва датычыцца на адным дыханні напісаных "Дуінскіх элегій" (1923) і "Санетаў Арфею" (1923) – двух "ветразяў", як назваў іх аўтар ("колеру іржы малы ветразь Санетаў і вялізны белы ветразь Элегій").

Большасць твораў, склаўшых гэтыя цыклы, пабудаваны па прынцыпу кантрапункта: у адным вершы лучацца аддаленыя і нават палярныя вобразы і матывы – вечнага і тленнага, жыцця і смерці, адзіноцтва і прыналежнасці:

*Зноў услаўляй і ўслаўляй бясконца, бязмерна;*
*помні: герой бессмяротны,*
*і нават пагібель яго –*
*толькі нагода, каб зноў нарадзіцца,*
*каб нанава жыць.*

(Першая элегія. Пераклад В. Сёмухі)

*Бог гэта змог А як жа – чалавек?*
*Праз вузкасць ліры ён не прадзярэцца.*
*Дваісты ён...*

(Санеты Арфею, III.
Пераклад В. Сёмухі)

Антынамічнасць – адна з вызначальных канстант у мастацкай сістэме Рыльке; яна прысутнічае як у структуры верша або апавядання ў цэлым, так і ў структуры паасобкавага вобраза, што часта спалучае ў сабе і апалагета той ці іншай ідэі, і яе апанента. Заўважым, што антынамічнасць, дваістасць дае сябе адчуць і ў рылькеўскіх прачытаннях чужых твораў, і ў яго светаадчуванні наогул. Да прыкладу, усю сутнасць лермантаўскага "Дэмана" Рыльке бачыць у процістаянні "двух магутных пачуццяў" – "пачуцця волі і пачуцця вышыні, ці, калі гэта трэба выказаць іначай, пачуцця крылаў, якое ўзнікае ад блізкасці воблакаў і ветру, і вялікай, да болю салодкай самоты, што зыходзіць ад бездані, ад таго, што так вабіць знізу з глыбіні глыбіняў і неймавернага змроку, смерці". Жыццё і смерць, палёт і падзенне, рух уверх і рух уніз

ураўнаважваюцца адно адным да такой ступені, што знікае розніца паміж імі; і тыя і іншыя ў сваёй непарыўнасці складаюць сутнасць нашага існавання, нашую існасць. Вядома, што нават самыя прыцягальныя філасофскія тэорыі гублялі ў вачах Рыльке ўсякую каштоўнасць, як толькі выкрышталізоўваліся ў нешта цалкам пэўнае, пазбаўляліся кожнадзённа новага, "як той, хто абвяргае сам сябе".

Гэтаксама ў лірыцы і прозе Рыльке метафізічнае транспануецца на канкрэтнае і наадварот, суіснуюць у дыялектычнай супакладзенасці зямное і патойбочнае, агульнае і прыватнае, пакута і радасць, адчай і надзея. Яшчэ ў "Часаслове" адной з мастацкіх дамінантаў становіцца антытэза "жыццё – смерць"; напрыклад:

*Du sagtest **leben** laut und **sterben** leise*
*und wiederholtest immer wieder: **Sein**.*
*"Прамовіў **жыць** ты гучна, а **памерці** – ціха,*
*ды зноўку паўтараў ты: **Быць**"*

(Падрадкоўнік наш)

І нашмат пазней Рыльке, ужо маючы на ўвазе цыкл "Элегій", канстатуе: "Сцвярджэнне жыцця і смерці ў іх ёсць адзіным цэлым". Разасобленымі і ў той жа час цэласнымі бачыліся аўтару "Элегій" чалавек ("анёл і лялька"), яго свядомасць, намеры і памкненні.

Асаблівае месца ў шэрагу паэтавых двухадзінстваў займае двухадзінства "Бог і чалавек". Што Бог знайшоў у асобе Рыльке свайго найвялікшага песняра, непараўнальнага і праніклівага мастака-тлумачальніка і суразмоўцу, – гэта бясспрэчна. Як, праўда, бясспрэчна і тое, што песняра не першага і не апошняга. Адметнасць звернутай да Бога паэзіі Рыльке ў тым, у прыватнасці, што яна, па вялікаму рахунку, не была апалогіяй канкрэтнай рэлігійнай догмы. Ёсць сведчанні, што амаль неад'емнымі атрыбутамі ў інтэр'еры пакоя Рыльке, дзе б ён яго ні здымаў, звычайна былі і руская ікона, і каталіцкі крыж. Рэлігійнасць Рыльке – гэта, хутчэй, пэўны стан душы, шукальніцы і пакутніцы, які можа быць аднолькава ўласцівы любому верніку і зусім не абавязкова каардынуецца з нейкай адной рэлігіяй.

Вяч. Іванаў у свой час пісаў: "Рэлігійная праблема на першы погляд уяўляецца дваякай: праблемаю аховы рэлігіі, з аднаго боку, праблемаю рэлігійнай творчасці – з другога. На самой жа справе яна застаецца адзінай. Без унутранай творчасці жыццё рэлігіі захавана быць не можа, – яно ўжо мёртвае". Калі ўнутраную рэлігійную творчасць разумець як стварэнне Бога для сябе і ў сабе і сябе для Бога, як духоўнае самабудаўніцтва, самаўдасканальванне, здабыванне гармоніі – з хаосу, дык менавіта такое адзінства мы і знойдзем у Рыльке. Спрабуючы суцешыць свайго адрасата, паэта і вайскоўца ў адной асобе, Рыльке раіць: "...запытайцеся ў сябе, мілы N., ды ці сапраўды Вы Бога – згубілі? А што калі Вы яго яшчэ ніколі не знаходзілі? Бо – калі ж гэта магло быць? Няўжо Вы думаеце, што дзіця можа яго абняць, яго, якога мужы нясуць з цяжкасцю?.. Няўжо Вы думаеце, што, насампраўдзе яго знайшоўшы, можна згубіць яго, як каменьчык..? Чаму Вы не думаеце, што ён – ад веку наступны, той, хто мае адбыцца, будучы, канечны плён дрэва, лісце якога – мы. Што Вам перашкаджае перакінуць яго нараджэнне ў будучае і жыць сваё жыццё як балючы і цудоўны дзень у гісторыі вялікай цяжарнасці? Ці ж Вы не бачыце, як усё, што здараецца, заўсёды здараецца спачатку... І які сэнс мелі б мы, калі б той, якога мы прагнем, ужо быў?" (Згадайма тут зноў "Навагодняе" М. Цвятаевай:

*...Не ошиблась, Райнер, Бог – **растущий***
*Баобаб? Не Золотой Людовик –*
*Не один ведь Бог? Над ним другой ведь*
*Бог?..).*

Бог Рыльке, як бачым, – гэта не толькі неспасцігальная сіла, якая стварае або асуджае на нябесныя кары. Вельмі часта Бог прыпадабняецца і да Арфея – "пеўчага бога" старажытнагрэчаскай міфалогіі, у якім Рыльке бачыў сутнасць мастацтва, яго ахвярны сэнс, здольнасць да ўсёпранікнення, – Арфея, разарванага "помслівым роем", але паспеўшага напоўніць спевам "сэрца скалы або льва" ("Санеты Арфею"). І заўсёды Бог у Рыльке, у якім бы абліччы ні паўставаў, сам – будаўнік, сам – мастак, што стварае чалавека, дрэва або песню.

Стварае, але і чалавекам творыцца, ствараецца, у чалавеку патрэбу мае, без чалавека абысціся не можа, бо чалавек – асяродак, прытулак для яго. Неаднойчы прагучыць у Рыльке матыў роўнасці чалавека і Бога (ці нават вяршыннасці чалавека); прысутнічае гэты матыў ужо ў "Часаслове":

*Ці ж ты – Усё, а я – Часціна,*
*што вечна скардзіцца павінна*
*і выстаўляць свой горкі плач?*
*Бадай што я – **Усё**, Прычына,*
*а ты – Часціна, мой Слухач.*

*Няўжо ўспрымаеш ты з-за мура*
*яшчэ чыесьці галасы?*
*Кіпенне буры? Я ж ёсць бура! –*
*табе шумяць мае лясы.*

(Пераклад В. Сёмухі)

Варта падкрэсліць, што "Часаслоў" – наогул адно з самых магутных у сусветнай паэзіі ўвасабленняў духоўнага досведу, дакладней – патаемнага, глыбока імтымнага працэсу яго фарміравання. "Той свет (не царкоўна, хутчэй, геаграфічна), – чытаем ліст-хваласпеў М. Цвятаевай да Рыльке, – ты ведаеш лепей за гэты, ты ведаеш яго тапаграфічна, з усімі гарамі, астравамі і замкамі. Тапаграфія душы – вось, што ты такое. І тваёй кнігай (ах, гэта была не кніга – гэта стала кнігай!) пра беднасць, паломніцтва і смерць ты зрабіў для Бога больш за ўсіх філасафаў і прапаведнікаў разам". Усе тры цыклы "Часаслова" – своеасаблівае





адзінае цэлае, звернуты да Бога маналог, які склалі незвычайныя па моцы душэўнага самараскрыцця (нават – самаўскрыцця!) малітвы, малітвы-споведзі і малітвы-сумненні, недаўменні і скаргі, самаадрачэнні і абяцанні. Роспач і годнасць, гордасць і пакорлівасць – усё, што толькі можа быць ведама душы, прынесена да Бога, звернута да яго ў надзеі на супакой.

Вызначальная для творчасці аўстрыйскага паэта філасофія духоўнага будаўніцтва распаўсюджваецца і на вобласць паэтыкі, стылю. "Тут час вымаўлення. Тут словаў радзіма" ("Дуінскія элегіі", IX), – абвесціць Рыльке, бездакорны слуга і валадар мовы. Суразмернасць і сабранасць, вытанчанасць і сіметрычнасць былі аднолькава ўласцівы яго асобе, яго абліччу і – яго творам. Улюбёныя прыёмы паэта – скразная рыфмоўка, алітэрацыйныя паўторы, прынцып кантрапункта, метафарычная і сінтаксічная ўскладненасць, алюзіі і рэмінісцэнцыі, перасячэнне розных асацыятыўных палёў – філасофскага, гістарычнага, культурнага. Асаблівай увагі заслугоўвае стыль, у якім створаны найперш "Новыя вершы" і які даследчыкі часта вызначаюць як "новая рэчыўнасць".

Між тым усведамленне паэтам філасофска-эстэтычнай каштоўнасці рэчаў, якім прасякнуты "Новыя вершы", не раптам нарадзілася. Яшчэ ў 1903 г. Рыльке пісаў: "Толькі рэчы гавораць са мною. Рэчы Радэна, рэчы гатычных сабораў, антычныя рэчы – усе рэчы, якія цалкам рэчыўныя. Якраз яны і паказваюць мне ўзоры, рухомы, жывы свет..." Праз чатыры гады, маючы на ўвазе менавіта кнігу "Новыя вершы", дакладней – першую яе частку, Рыльке паведаміць жонцы: "Я атрымаў першыя карэктуры ад выдавецтва... У вершах адчуваецца нешта падобнае да... цвярозай праўдзівасці". Тое новае, што паэт назваў "цвярозай праўдзівасцю", а пазней – "цвярозай дакладнасцю", пераадоленнем "лірычнай паверхні", "прыблізнасці", сталася ўвасабленнем рылькеўскай канцэпцыі рэчы (Ding). Прыблізна яе станаўленне можа быць акрэслена ў такой паслядоўнасці: сузіранне рэчы – адлюстраванне рэчы – спасціжэнне і перастварэнне рэчы. (Зразумела, аб хімічна чыстым існаванні гатых этапаў гаварыць не выпадае.) Не магчымая без дзвюх папярэдніх, заключная стадыя аказалася найбольш плённай і ў філасофскіх і ў эстэтычных адносінах. Патэнцыяльна яна адчуваецца і ў "Часаслове": аднак калі тут рукою Рыльке яшчэ водзіць прырода ў шырокім сэнсе слова, а рэчаіснасць – асноўны "працаўнік", дык паступова паэт становіцца яе сатворцам. Рэчы, не губляючы сваёй прасторава-часавай канкрэтнасці, працягваючы несці на сабе і ў сабе семантыку душэўна-духоўнага "выхавання" лірычнага героя і аўтара, набываюць у творах Рыльке больш глыбокі, экзістэнцыяльны сэнс, а рэцэптыўны, сузіральна-містычны пачатак саступае месца пачатку ініцыятыўнаму. Праз паэтычнае ўвасабленне рэчы спасцігаецца логіка быцця, бо рэч – яго надзейнае сховішча, частка матэрыяльна рэалізаванай духоўнасці. Рэч належыць разначасавым пластам; застаючыся самадастатковай і заўсёды – сама сабой, яна не ізалюецца ад свету, сёння яна – яшчэ і нешта іншае, тое, чым учора не была, што ў ёй раней не было адкрыта. Клапоцячыся аб зберажэнні рэчы ў яе сутнасцях, з эмпірычнай уключна, паэт зберагае само жыццё ў яго сапраўдным святле, гарантуе чалавеку яго пасмяротны працяг, непарыўнасць быцця. "Першапачаткова рэч акрэслена, – выкладае сваю канцэпцыю Рыльке. – Рэч, створаная мастацтвам, павінна быць яшчэ больш акрэсленай; вызваленая ад усіх выпадковасцяў, пазбаўленая ўсякай няяснасці, выключаная з часу і аддадзеная прасторы, такая рэч становіцца нятленнай, здольнай да вечнасці. Прадмет, які служыць мадэллю, *здаецца*, – рэч, створаная мастацтвам, *ёсць*. Такім чынам, адно пераступае праз другое, выходзіць за яго безыменныя межы, становіцца нарастаючым і спакойным здзяйсненнем таго жадання быць, якое зыходзіць ад усяго, што ёсць у прыродзе". Канкрэтнасць, пластычнасць пры гэтым не супярэчаць філасофскім абагульненням; наадварот, Рыльке гаворыць аб адказнасці за захаванне не толькі "чалавечай", але і "боскай" каштоўнасці рэчаў.

Традыцыя Dinggedicht (верша аб рэчы, аб прадмеце, "на прадмет", нават верша-рэчы) узыходзіць да старажытнага жанру надпісу; неабходна мець на ўвазе, што нямецкае слова "Ding" па свайму значэнню істотна адрозніваецца ад рускага "вещь" або беларускага "рэч", і найперш – філасофскай ёмістасцю, сэнсавай глыбінёй. Да ролі рэчы ў чалавечым існаванні філасофская, эстэтычная думка звярталася здаўна. У кнізе шведскага вучонага Эмануэля Сведэнборга "Ісцінная хрысціянская рэлігія", у раздзеле, прысвечаным нямецкаму багаслову, паплечніку Лютэра, Філіпу Меланхтону, ёсць шэраг эпізодаў, што ў святле нашай праблемы надзвычай уражваюць. Дазволю сабе прывесці адзін з іх, 797-мы: "Я даведаўся, што калі ён увайшоў у духоўны свет (патойбочны, "іншы". – Е.Л ), дык быў забяспечаны домам, падобным да таго, у якім жыў на гэтым свеце... Усе рэчы ў ягоным пакоі нагадвалі тыя, якія ён меў раней, – стол, канторка з шуфлядамі і шафа з кнігамі. Таму, абудзіўшыся ў сваім новым жыллі, ён сеў да стала і пачаў пісаць, як звычайна, сваё апраўданне толькі вераю і працягваў займацца гэтым некалькі дзён, не напісаўшы ні слова аб любові. Гэта было заўважана анёламі, і яны паслалі вешчуноў запытацца:

чаму ён нічога не напісаў аб любові? Меланхтон адказаў: “У любові няма нічога ад царквы, бо калі б любоў успрымалася як надзённая для яе, чалавек прыпісваў бы сабе заслугі апраўдання і выратавання і адмаўляў бы духоўную сутнасць веры”. Анёлы маюць зносіны з кожным навапрышэльцам, але калі яны пачулі гэта ад Меланхтона, дык адступіліся ад яго. Праз некалькі тыдняў рэчы, якімі ён карыстаўся ў сваім пакоі, пачалі блякнуць і знікаць...”. Цяжка сказаць, ці ведаў Рыльке гэтую працу слыннага філосафа-містыка; у кожным разе, хто-хто, а ён, безумоўна, змог бы ацаніць стаўленне да рэчы як анёльскай узнагароды за любоў і ўсведамленне веры як любові, выратавальнай каштоўнасці апошняй. Апекаваў жа лірычны герой Рыльке перад анёлам чалавечую веліч, спасылаючыся – у якасці доказаў – менавіта на рэчы:

*...Мы, спажываючы сэрца,*
*нешта ашчадна збіраем. І кожная рэч,*
*намі здабытая просьбамі, мольбамі, прагне*
*цалкам з Нябачным самкнуцца...*
*...Анёле,* ***табе***
***Тут*** *гэта я пакажу. У паглядзе тваім*
*хай ратаванаю стройнасцю ён узнясецца.*
*Сцены, калоны, упоры, аркады і сфінкс*
*у заняпалым паселішчы – велічны храм.*

*Хіба ж не цуд? І яго –* ***мы*** *зрабілі, анёле.*
*Вызнай, вялікі, што здольныя мы на такое...*
*...Вежа высокая, праўда, анёле? І нават*
*у параўнанні з табою высокай была...*

(Сёмая элегія. Пераклад В. Сёмухі)

*Свет услаўляй перад анёлам,*
*не свет невымоўны,*
*не фанабэрся сваім пачуццём велізарным.*
*Бо ў тым сусвеце, дзе адчуваюць пачуцці,*
*ты – немаўля. Лепш раскажы там анёлу*
*простае нешта, што з роду ў род перадаецца,*
*наша спрадвеку – даткніся рукою да зор.*
*Выкажы рэчы яму,*
*і ён здзіўлена стане...*

(Дзевятая элегія. Пераклад В. Сёмухі)

У прадстаўнікоў розных нацыянальных літаратур ёсць бліскучыя ўзоры “вершаў-рэчаў”. Да прыкладу, у французскага паэта Шарля Бадлера, чые “Кветкі зла” (своеасаблівая біблія новых мастакоў слова другой паловы XIX–XX стст.) узыходзяць, як лічаць даследчыкі, да шэрагу твораў Анарэ Бальзака, у прыватнасці – да філасофскага эцюда “Луі Ламбэр”; менавіта ў Бальзака знайшоў нібыта Бадлер асэнсаванне рэчаў у іх існасці, быційнай сутнасці, пазнанне рэчаў больш рэчыўных за самі рэчы (res realiores). Яшчэ раней тая ж тэндэнцыя выявілася ў рамантыкаў, што з пэўнай доляй грэблівасці адвярнуліся ад усяго штучнага і скіравалі позірк на прыроду з яе канкрэтнасцю і натуральнасцю, а летуценне, мару, фантазію сумясцілі з трывіяльнасцю, прапанаваўшы ў выніку дзве res у сваёй творчасці – жадана-фенаменальную і відавочна-прадметную.

Філасофска- эстэтычнае асэнсаванне рэчы мае грунтоўную традыцыю і ў самой аўстрыйскай літаратуры, як у сучаснікаў Рыльке (характэрныя радкі ёсць у “Тэрцынах пра тленнасць усяго зямнога” Г. фон Гофмансталя: “Und drei sind Eins: ein Mensch, ein Ding, ein Traum”. – “Вось трох-адзінства: чалавек, рэч, сон”), так і ў папярэднікаў, у прыватнасці – у Адальбэрта Штыфтэра (1805–1868), аднаго з аўтараў літаратурнага бідэрмаера. Праўда, Штыфтэра прыцягвала перадусім вонкавае аблічча рэчы, яе даступная пачуццёвай сферы фактура, што б ні мелася на ўвазе пад рэччу – прадмет прыроды (дрэва, камень і да т.п.) ці хатняга ўжытку. У працы “Аб становішчы і годнасці пісьменніка” Штыфтэр заклікае мастакоў слова з максімальнай дакладнасцю адлюстроўваць “рэчы ў іх аб’ектыўнай сутнасці”, у іх “істотнасці”. Як пазней і Рыльке, Штыфтэр аперыруе паняццем “Ding”; часам ён выходзіць за межы ім самім праклямаванай “аб’ектыўнай значнасці”, “рэальнай рэальнасці” (“die wirkliche Wirklichkeit”), уключаючы ў кола рэчаў не толькі ўласна прадметы, але і з’явы рэчаіснасці, і тое і іншае разглядаючы як плён боскай волі. Хоць “новая рэчыўнасць” Рыльке надта адрозная ад успрымання рэчы літаратурным бідэрмаерам, усё ж апошні, разам з творамі Штыфтэра, адгукнуўся ў рылькеўскай паэзіі, ды і запатрабаваны быў у XX ст., як лічаць нямецкія гісторыкі літаратуры, не ў апошнюю чаргу праз зварот да яго Рыльке і Гофманстала.

Менавіта Рыльке з яго “Новымі вершамі” найбольш глыбока і шматгранна распрацаваў жанр Dinggedicht. Кніга “Новыя вершы” пісалася пад моцным уражаннем ад творчасці Радэна, ад яго здольнасці засяродзіцца на адной рэчы, нават на яе паасобкавай дэталі: “І заўсёды тое, на што ён глядзіць, што ён ахоплівае сваім зрокам, становіцца для яго адзіным – светам, у якім усё адбываецца; і калі ён лепіць руку, дык яна толькі адна і ёсць у прасторы, няма больш нічога, апроч гэтай рукі, і Бог за шэсць дзён стварыў толькі адну руку, вакол яе праліў усе воды, над ёю ўзвёў строп неба і адпачываў, калі ўсё было завершана, – і было адзінае хараство і адзіная рука”, – у захапленні піша Рыльке.

Такая засяроджанасць у вышэйшай ступені адпавядала ўяўленням самога паэта аб шляхах пазнання рэчы, пазнання яе высокасці, яе пастаянства і зменлівасці. “Для таго каб рэч Вам гаварыла, Вы павінны ўзяць яе на нейкі час як адзіную існуючую, як адзіную з’яву, змешчаную руплівасцю і выключнасцю Вашай любові ў самай сярэдзіне Сусвету, і на гэтым непараўнальным месцы яна будзе абслугоўвацца ў той дзень анёламі”, – парадзіць Рыльке адной адрасатцы.

Радэна хвалявала “станаўленне” рэчаў; Рыльке часам здавалася, што Радэн наогул абыякавы да іх знешняга выгляду і ўспрымае адно іх унутранае, суверэннае быццё, настолькі істотнае, што “яны нават не стаяць на Зямлі, а рухаюцца вакол яе”. Самога паэта таксама не толькі не бянтэжыць, а наадварот – вабіць наяўнасць руху ў рэчы; больш таго, лічыць Рыльке, “ва ўздымах і спадах спакойнай плоскасці таксама ёсць рух”. Адпаведна гэткаму бачанню рэчы героямі “вершаў-прадметаў” Рыльке становяцца не толькі рэчы нерухомыя (сабор, акно, партал і інш.), але і жывыя істоты – ад прадстаўнікоў фауны (газель, пантэра, лебедзь) да проста чалавека, да нават Хрыста з яго пакутамі і пошукамі. І, зразумела, творца, паэт:

*Адлятаюць гадзіны і сэрца*
*крыллем ранілі мне, летучы.*
*Я адзін: і няма куды дзецца,*
*часе горкі, ні ўдзень, ні ўначы.*

*Дзе каханне? Дзе дом? Дзе паэт*
*адпачне ад ганення людскога?*
*Я аддаў сябе свету самога,*
*а цяпер прадае мяне свет*

(“Паэт” Пераклад В. Сёмухі)

Паўсюль – рэчы, звыклыя, побытавыя, і – вышэйшыя, апошнія, і ўсе разам яны – рэч, і ўвесь свет – як рэч, адзіная, цэласная (“Wie *ein* Ding”). Як парадыгма гэтага свету, як разгорнутая метафара быццёвага руху ўспрымаецца і кніга Рыльке “Новыя вершы”, і ўся яго творчасць.

Філасофска-эстэтычныя адкрыцці Рыльке ў той ці іншай форме знайшлі водгук у многіх паэтаў: расійскіх – М. Цвятаевай, Б. Пастарнака, В. Мандэльштама, нямецкіх – Г. Маўрэра, Л. Фюрнберга і інш. З “новай рэчыўнасцю” Рыльке асацыіруюцца творы Алеся Разанава (перадусім яго вершаказы і некаторыя паэмы, такія, як “Гліна”, “Камень”), шэрагу іншых беларускіх паэтаў. Ёсць падставы спадзявацца, што публікацыя новых высокапрафесійных перакладаў на беларускую мову Васіля Сёмухі з Рыльке пашырыць кола чытачоў і даследчыкаў слыннага творцы на Беларусі.

Ева ЛЯВОНАВА

# З ДАВЕРАМ ДА ЗЯМНОГА

Наш зямны свет усё больш ператвараецца ў вялікі музей. І чалавек у ім пачынае адчуваць сябе таксама экспанатам, рэччу сярод рэчаў, сэнс якой паўзабыты. Мы глядзім на рэчы пад шклом, а рэчы глядзяць на нас, з цяжкасцю прыпамінаючы нешта даўняе, далёкае, намагаючыся ўзнавіць страчаныя значэнні і адчуванне каштоўнасці. Рэчыўнасць нашага зямнога свету, бадай, яго галоўная характарыстыка. У іншасвеце, падобна, усё іначай: няма ні дамоў, ні мэблі, ні скульптур, ні старых фатаграфій – нічога гэтага, назапашанага на працягу свайго зямнога шляху мы з сабой не возьмем. Гэта раней чалавек мог верыць, што пакладзеныя ў магілу рэчы і прадметы, якія ён некалі любіў, а то і прыраўняныя да іх слугі і жонка, будуць разам з ім і на тым свеце. Паэзія, мастацтва слова наогул, часам здаецца, ставяць менавіта гэту задачу перад сабой: захаваць памяць пра рэчы хатняга ўжытку, пранесці праз час сутнасць гэтых рэчаў, бо без іх нельга зразумець чалавека і яго эпоху. Можа, таму з такой хваравітай падрабязнасцю любіў стары Бальзак апісваць рэчы, а ў Гогаля які-небудзь цяжкі камод крыкам крычаў: “Я – Сабакевіч!”

Лёгка заўважыць (нават і ў перакладзе, а арыгіналы гэта пацвярджаюць), якое месца ў лексіконе Р.М. Рыльке займае слова-паняцце “рэч” (“Dinge”). Яно сустракаецца ледзь не ў кожным яго вершы, і ёсць нават цыкл пад назвай “Вершы пра рэчы” (“Ding-Gedichte”). Гэта слова з’яўляецца своеасаблівым “мечаным атамам”, які дазваляе меркаваць пра сутнасць паэзіі Рыльке, яе глыбіню і шматграннасць. Увага да рэчаў, а за гэтым стаіць увага наогул да ўсіх прыкмет зямнога існавання чалавека, – адзін з галоўных прынцыпаў эстэтыкі Рыльке. Можна казаць нават пра культ малых, непрыкметных рэчаў, якія паэт сузірае сам-насам: “Я так люблю слухаць спевы рэчаў. Вы да іх дакранаецеся – яны застылі і змоўклі. Усе мае рэчы вы заб’яце” (даслоўны пераклад). У іншым выпадку не менш шчырае прызнанне: “Нават малая рэч для мяне цуд і ў маім малюнку квітнее на зіхоткім фоне”. У вершы “Пажарышча” апісваецца, як сын гаспадароў дома, які згарэў датла, ратуе апошняе, што яшчэ ацалела: катлы і пагнутыя карыты. Рэчы штодзённага ўжытку нагадваюць яму пра тое, што на гэтым месцы быў дом, поўны дарагіх, звыклых рэчаў, без якіх ён сябе не ўяўляе і як бы страчвае частку самога сябе. Але гэтыя абгарэлыя, пакарабачаныя катлы і карыты ў вачах людзей, якія з жахам назіраюць за неразумнымі паводзінамі хлопчыка, з’яўляюцца ўсяго толькі слабым намёкам на былое жыццё: “Ён быў, як з краіны чужой, – чужым”. Многія вершы носяць назву той ці іншай рэчы: “Дамавіна дзяўчыны”, “Сабор”, “Партал”, “Акно-ружа”, “Капітэль”, “Кружала”, “Блакітная гартэнзія”, “Юнацкі партрэт бацькі”, “Перавозка мармуру”, “Карусель”, “Вежа”, “Чаша ружаў”, “Куфар з рэліквіямі” і г.д., і г.д.

З часам мастацкі прынцып, паводле якога апісанне рэчы ўжо нясе ў сабе паэзію, праводзіўся Рыльке ўсё больш паслядоўна. Яго апісанні вельмі маляўнічыя і пластычныя і нагадваюць сабою жывапіс у слове. У вершах “Ружовая гартэнзія” і “Блакітная гартэнзія” з небывалай вытанчанасцю апісваюцца ўсе магчымыя адценні кветак: “як пласт сухой зялёнай фарбы ў тыглі, шурпатая яе лістота”,

"як у старой блакітнай паперы, у іх ёсць ліловасць, шэрасць, жаўцізна, "як дзіцячы фартух зношаны, любімы, – выцвіла яна". Паэт спяшае зафіксаваць мімалётнае хараство кветкі, бо цудоўна ведае, "як адчуваецца кароткасць гэтага жыцця". Ён ведае, што "ўсё цячэ і ўсё змяняецца" і што "нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку". Ён ведае і тое, што менавіта ў гэтай зменлівасці жыцця і заключаны яго галоўны сэнс. Прага "схапіць імгненне", зафіксаваць яго на паперы ператвараецца ў паэта ў страсць, якая не ведае межаў. Можа, таму Рыльке з такой хваравітай увагай назіраў за працай дойліда, свайго блізкага сябра Радэна, і так часта звяртаўся да апісання твораў старажытнага дойлідства і архітэктуры. Менавіта гэтыя "вялікія рэчы" па памерах, зробленыя з моцнага матэрыялу, здольныя ўнушыць адчуванне вечнасці мастацтва, яго неўміручасці. Па сутнасці, Рыльке шукаў у навакольнай рэчаіснасці, у самой гісторыі з'явы, якія давалі яму магчымасць пранікнуць у сутнасць рэчаў і сэнс сэнсаў. У кнізе вершаў "Часаслоў" Рыльке выказвае сваю запаветную мару пра час, калі "дамы адчыняцца шырока, насцеж, і зноў ахвярнасць сцвердзіць сябе ў свеце – ў тваіх учынках і ў маіх справах", "зноў стане ўсё вялікім і магутным". Па сутнасці, ён, не ведаючы нічога пра філасофію М. Фёдарава, які распрацоўваў планы адраджэння ўсяго, што было на Зямлі, і ўсіх, хто некалі жыў на ёй, паўтарае на свой лад тое ж самае. Але гэта наогул, мабыць, самая патаемная і самая неверагодная мара любога чалавека, які хоць крыху даражыць жыццём. Нездарма "Часаслоў" адносіцца да таго перыяду, калі Рыльке падоўгу жыў і падарожнічаў у Расіі, дзе разбуральная сіла часу асабліва востра адчуваецца, няма амаль нічога вечнага, усё змяняецца штоміг.

У "Лістах да маладога паэта" Рыльке вельмі выразна і цалкам усвядомлена праводзіць свой прынцып, выяўлены ў яго павышанай увазе да зменлівага ходу жыцця: "Усё Ваша жыццё Вы павінны стварыць нанова, па закону неабходнасці; Ваша жыццё – нават у самую малую і безадносную хвіліну яго – павінна стаць запаветным сведчаннем і знакам гэтай творчай волі. Тады будзьце бліжэй да прыроды. Тады паспрабуйце, як першы чалавек на зямлі, сказаць пра тое, што Вы бачыце і адчуваеце, і любіце, з чым развітваецеся назаўжды... Каб выказаць сябе, звяртайцеся да рэчаў, якія Вас акружаюць... Шукайце глыбіню прадметаў... У глыбіні рэчаў ужо няма выпадковасці, а ёсць толькі закон..."

Будучы ў Рыме, у самым вялікім музеі пад адкрытым небам, Рыльке, уражаны мноствам старажытных каштоўнасцяў, адкапаных з-пад зямлі і з вялікай цяжкасцю захаваных для нашчадкаў, пісаў нават пра "завышэнне каштоўнасці ўсіх гэтых разбітых і пашкоджаных рэчаў, якія ўрэшце ёсць не што іншае, як выпадковыя сляды іншага часу і іншага жыцця, зусім не нашага, якое нашым і быць не павінна". У вершы "Павільён" пра тое ж самае адчуванне сказана коратка: "і запомняцца да скону дзён даўнія патрэсканыя урны, што схавалі ад жыццёвай буры попел, як забыты дзіўны сон". Найбольш выразна гэта нездаровая страсць да рэчаў, якія ўтрымліваюць у сабе памяць пра мінулае, выяўляецца ў жыцці... халасцяка. У вершы "Халасцяк" чытаем: "Ноч тыцкалася ў шафы, дываны, камоды. Быў стол завалены абрыўкамі папер", "і мэбля ганарыста ўзвышалася ля сценак, быў фанабэрыяй поўны кожны стул, з усіх куткоў цягнула самалюбствам". На жаль, гаспадар усіх гэтых рэчаў і прадметаў таксама звыш меры перапоўнены пачуццём самазадаволенасці і не здольны заўважаць, як "дробным-дробным залатым памолам з гадзінніка струменіў час", што яго рэчы больш нагадваюць "халодныя трупы пад покрывам", якія з'яўляюцца знакамі "іншых часоў". Толькі люстэрка, у якім герой мімалётна бачыць сябе, падказвае, што і сам герой-халасцяк такі ж прывідны, як і яго рэчы.

Чалавек у вершах Рыльке – рэч сярод іншых рэчаў: "Я – на полі бойкі дзіда сярод іншых рэчаў", "Я цябе, спавіты жэзл, вазьму і як смерць сабой цябе запоўню, як магіла, перадам далей – усім рэчам". Сэнс рэчаў можна адкрыць толькі з дапамогаю слова. У вершы "Смерць паэта" гаворыцца, што разам з паэтам, майстрам слова ў прорве вечнасці гіне "ўвесь знешні свет", бо толькі сам паэт ведаў, "наколькі цесна ён быў з гэтым звязаны: з вадою гэтай, з вірам гэтым, з гэтаю вярбой". Паэт – люстра вонкавага свету. Гэты ж вонкавы свет адлюстроўваецца ў вачах святога Себасцьяна, героя аднайменнага верша, які жадае толькі аднаго, каб "выкінуць са зрэнкаў адлюстраванне таго, хто апаганіў такую цудоўную рэч", – маецца на ўвазе забойца, які параніў атручанымі стрэламі святога Себасцьяна. Калі паэт, аддаючы рэчам сваю душу, потым з жахам бачыць, як гэтыя рэчы яго "па частках раздаюць", а святы Себасцьян сам з'яўляецца "цудоўнай рэччу", то рылькеўскі Буда, імкнучыся ахапіць як мага больш усяго, як бы складаецца з рэчаў, якія здолеў ахапіць і зразумець.

Але бывае і так, што "свет адлюстраванняў-ценяў рэальнейшы за рэчы у стакроць". Можа, таму што змяшчае ў сабе не іх вонкавы выгляд, а ўнутраную сутнасць. Успрымаць усур'ёз прадметна-рэчыўны свет таксама не варта. Лепш браць у гэтым прыклад з хлапчукоў, якія весела збягаюць з гары, да магілаў гетэр, запоўненых рэчамі, "цацкамі, каменьчыкамі, мішурой", і гуляюць з імі, пакуль рачная плынь не саб'е іх з ног. Чаму? Адказ на гэта можна адшукаць у вершы "Чаша ружаў". Рэчы, лічыць паэт, загрувашчваюць прастору, абмяжоўваюць магчымасць рухацца, адчуваць сябе вольным. У той час, як жыццё жыве патрэбаю ў прасторы і поўнай свабодзе. Тую ж чашу ружаў немагчыма забыць таму, што яна "поўная бязмежным быццём, амаль зыходам, бояззю і немагчымасцю аддачы". У свеце, дзе "і цары ў палоне часу, як рэчы звання самага простага", патрэбныя веды і разуменне, што "вянок рэчаў – стагоддзяў караван, тысячагоддзі і цэлыя сузор'і ў свядомасці, прынамсі, акіян".

Аднак жа стагоддзі, а тым больш тысячагоддзі знаходзяцца па-за межамі кароткага зямнога існавання асобы. Ва ўладзе чалавека, пакуль ён жывы і здольны кантраляваць сябе, свае ўчынкі, толькі імгненне паміж наступным і былым: "Я сёння не больш, як рэч у Божай руцэ, магчыма, найменшая". Адказ толькі адзін: давяраць жыццю, не закідаць лішне думкамі ў недасяжныя нябёсы, як кажуць палякі, "жыць, жэбы жыць", і такім чынам пазбегнуць ілюзій, магчымых памылак, якімі і без таго перапоўнена чаша жыцця. Р.М. Рыльке – адзін з тых вялікіх мастакоў слова, якія заклікаюць на зямлю, каб абнаўляць наша адчуванне жывога жыцця, давяраць усяму зямному, мімалётнаму, хуткаплыннаму і ў гэтай імгненнасці вечнаму.

**Міхась ТЫЧЫНА**





# РЫЛЬКЕ-ОРФІК

*Арфей на струнах ліры.*
*Выйсця няма,*
*заўтра няма...*
*Вынікае з небыцця ў*
*існаванне новае істоты.*
Д. Серабракоў.

*"...ненавідзець Арфея"*
Л. Дранько-Майсюк

***"И дольше века длится день..."*** – гэты пастарнакаўскі радок, напісаны з другой нагоды, дакладна перадае адчуванне пары дзяцінства, пары, калі чалавек жыве па вертыкалі – знізу ўверх. Тады няма для яго нічога больш важнага, чым гэты прамалінейны рух, дзе кожны пройдзены адрэзак – падстава самаідэнтыфікацыі. Старэйшы за яго здаецца дарослым і далёкім, маладзейшы – нецікавым, як яшчэ ненароджаны. Дзіця вымярае ўсё сабой, з другога боку, яно і жыве ў другім вымярэнні.

*Хіба што ў дзяцінстве нешта звыш*
*былога за прадметамі хавалася,*
*і з будучым не сутыкаліся мы.*
*Расці даводзілася, гэта праўда,*
*расці хутчэй, каб задаволіць*
*усіх тых, чыё багацце – толькі ўзрост,*
*аднак сучасным сам-насам*
*задавальняліся мы, стоячы*
*ў прасторы паміж цацкаю светам,*
*на месцы тым, што з самага пачатку*
*адведзена для чыстага бывання.*

Гэтае "чыстае быванне" ў Рыльке – кропка зліцця паміж быццём і небыццём, якія паэт ніколі не супрацьстаўляў, гэта масткі, па якіх чалавек ідзе са смерці ў жыццё. Менавіта так – са смерці ў жыццё: "Хто з хлеба зляпіць смерць, хто пакладзе яе ў рот дзіцячы, як зерне ў яблык?.. Няцяжка зразумець забойцу, але гэта: смерць у сабе, усю смерць насіць у сабе, яшчэ не жыўшы, насіць, не ведаючы злосці, гэта вось неапісальна". Тое, што дзіця да пэўнага моманту належыць больш смерці, чым жыццю, было заўважана і да Рыльке, больш за тое, гэтае меркаванне спарадзіла шэраг абрадавых дзеянняў, забабонаў, прымхаў, відавочнае падабенства якіх заўважаецца ў самых розных народаў свету. Адным з самых распаўсюджаных табу з'яўляецца разгляданне малечай да пэўнага ўзросту ўласнага адбітку на паверхні вады альбо люстэрка, якія спрадвеку сімвалізавалі іншабыццё ці смерць.

Найбольш грунтоўна да праблемы іншабыцця падышоў Рыльке ў восьмай з дуінскіх элегій, дзе вобраз "чыстай прысутнасці" раскрываецца з усёй мажлівай паўнатой. "Адкрыты свет", "адчыненасць", "чыстая прастора, дзе кветкі нябачна расцвітаюць", "чысціня" ці проста "там", "нетутэйшае", "тое, што за краем" – шматлікасць семантычных сінонімаў лішні раз падкрэслівае ашаламляльную навізну – у тым ліку і для самога паэта – рылькаўскай высновы аб тым, што зямное бытаванне для чалавека ненатуральнае, неістотнае, яно толькі працэсія згубленай на час сапраўднай радзімы, да якой увесь час падсвядома імкнёмся і якая вяртаецца да нас неакрэсленым успамінам.

*... нас так часта ўражвае: успамін.*
*Як быццам усё, чаго мы прагнем,*
*было калісь больш блізка і бясконца*
*больш пяшчотна, чым цяпер.*
*Тут – аддалена, там усё дыхала зблізку.*
*Пасля той – так зыбка-ўяўна новая айчына...*
("Дуінскія элегіі", VIII)

Гэты прывідны ўспамін, згодна з Рыльке, знаёмы нам па снах дзяцінства, яго бачыць смяротнік, калі "на мяжы са смерцю не бачыць смерць, а бачыць з а м я ж у", ён дадзены "каханкам, калі каханы ім не засціць погляд". Аднак нават нябачнае ўвесь час адчуваецца як блізкае, але недасяжнае: "Завецца гэта лёсам: зблізку быць, быць блізка, побач – але ў вечным аддаленні..."

Разуменне іншабыцця як страчанай радзімы прадвызначае і спецыфіку рылькеўскага бачання смерці, якая, на думку паэта, існуе толькі ў чалавечай свядомасці: "Толькі нам знаёма смерць, а вольная жывёла як друз мінулага даўно адкінула гібель".

**Тэма ўмоўнасці смерці, уяўнасці трагізму, які мы непазбежна, міжвольна звязваем з самім гэтым паняццем, актуалізуецца не толькі ў "Дуінскіх элегіях", якія прадстаўляюць ужо сталага майстра (элегіі пісаліся на працягу дзесяці гадоў, з 1912 да 1922 года), але і ў Рыльке больш ранняй пары. Можна прыгадаць яго санет "Морг"(1906), які звычайна згадваюць толькі ў сувязі з іменем Бадлера, выкарыстоўваючы верш як своеасаблівую ілюстрацыю ў гаворцы пра ўплыў французскага паэта на мастацкі светапогляд маладога Рыльке. Антыэстэтычнасць гэтага твора, на якую звяртаюць увагу даследчыкі, праводзячы паралель з бадлераўскай "Падлай", у большай ступені звязана з традыцыяналізмам гуманістычных поглядаў саміх навукоўцаў, а не з канкрэтным аб'ектам адлюстравання. Гэтае імкненне звязаць канцэптуальна імёны двух класікаў затушоўвае цалкам самастойны экзістэнцыяльны сэнс рылькеўскіх радкоў.**

**МОРГ**

*Паміж сабой з'яднаўшы і з марозам,*
*Злучалі целы з папярэднім актам.*
*Іх рыхтавалі да гульні пастфактум,*
*Як быццам справа за апафеозам.*

*Інакш – пра смерць і гаварыць не варта!*
*Кішэні трэслі ў пошуках імёнаў,*
*І з губ нуду сціралі утрапёна,*
*Якая праступала зноўку ўпарта.*

*Нуды не сцерці, не схаваць... Аднак,*
*На густ чужы прычэсаны бароды,*
*Каб весялей было глядзець народу,*
*Каб не сышлі, пабачыў смерці знак.*

*А вочы паварочваюцца ў змроку –*
*Углыб глядзець, ў сябе, а не навокал.*

**(Пераклад наш)**

**Згаданы санет семантычна звязаны з творчасцю Рыльке-орфіка. Арфізм як светагляд прываблівае паэта яшчэ да з'яўлення ў 1922 годзе знакамітых "Санетаў да Арфея", штуршком для напісання якіх стала смерць маленькай дзяўчынкі, дачкі сяброў паэта. Сутнасна арфічнымі з'яўляюцца такія вершы ранняга перыяду творчасці Рыльке, як "Смерць каханай", "Спевы жанчын, звернутыя да паэта", "Смерць паэта", "Анёл", "Развітанне", "Пазнанне смерці" і, безумоўна, бліскучае вырашэнне тэмы – "Арфей. Эўрыдыка. Гермес", дзе вобраз іншабыцця як сапраўднай радзімы прадстаўлены найбольш блізка да апафеозных "Дуінскіх элегій".**

**У вершы "Арфей. Эўрыдыка. Гермес" увага аддаецца якраз знешне і ўнутрана бяздзейнай Эўрыдыцы, якая міжвольна ідзе за мужам, аднак застаецца закрытай для жыцця, для новага вяртання, бо яна ўжо належыць с а п р а ў д н а м у.**

*Ішла яна, бо вёў яе той бог,*
*і спатыкалася аб доўгі саван,*
*ішла пакорліва, цярпліва і няроўна,*
*як будучая маці – ўтаропіўшыся ў сябе,*
*не думаючы пра дарогу і таго,*
*хто за сабою да жыцця яе павёў.*
*Яна ішла ў сябе, дзе смерць, як плод,*
*яе перапаўняла.*

*І калі*
*раптоўна бог яе спыніў*
*і з горыччу сказаў: "Ён абярнуўся!",*
*яна спытала ціха толькі: "Хто?"*

**У першай з "Дуінскіх элегій" чытаем пазнейшае рэха гэтых жа думак: "Што ім да нас, тым, хто з юнацтва з жыццём развітаўся? Мякка адвыклі яны ад зямнога, як дзеці ад матчынай ежы". Парадаксальна, але гэтая "лінія Арфея", якая выяўна праходзіць праз усю творчасць Рыльке, амаль не згадваецца каментатарамі "Дуінскіх элегій", у якіх знаходзяць уздзеянне Гёльдэрліна і ўсходняй філасофскай думкі. Парадаксальна ўжо таму, што вядомыя словы самога Рыльке, звернутыя да яго польскага перакладчыка: "Мяне здзіўляе, што "Санеты да Арфея", якія, прынамсі, такія ж складаныя і напоўненыя тым жа зместам, не з'яўляюцца для вас дапаможнікам у разуменні "Элегій".**

**Значнасць арфеічнай праблематыкі неаднаразова падкрэслівалася самім паэтам, для якога міфалагічны персанаж перарос межы хрэстаматыйнага ўвасаблення паэтычнага пачатку. У творчасці Рыльке вобраз Арфея больш звязаны з ідэяй вяртання, вечнага расставання, якая выяўна гучыць у "Дуінскіх элегіях". У пятым з "Санетаў да Арфея" чытаем:**

*Так, ён – Арфей. Яго метамарфоза*
*жыве ў прыродзе. І не трэба ведаць*
*другіх імёнаў. Уславім сталасць.*
*Завуць яго Арфей. У сваю чаргу*
*і ён памрэ, але ўбору чырвань*
*асенняй ружы ён пераўжыве.*

**"Метамарфоза" – пераўтварэнне – гэта таксама новае жыццё, жыццё ў іншай форме быцця. Як невычарпальны дух Арфея ў прыродзе, гэтак жа невычарпальная і яго гісторыя, якая жыла і жывіць сабой творчую свядомасць – і антычных орфікаў, так і апалагетаў мадэрнізму. Так, М. Бланшо ў невялікім эсэ "Погляд Арфея" разглядае ўзаемаадносіны Арфея і Эўрыдыкі як узаемаадносіны творцы і твора.**

**Феномен вяртання да аднаго міфа вытлумачваецца мажліва не столькі яго універсальнасцю, колькі самой кругаваротнай сутнасцю быцця.**

**Само слова "вечнасць" утвараецца ад "веча", што значыць "кола". Усё вяртаецца на кругі свае – усё вяртаецца ў вечнасць, за якой трэба бачыць не час, а форму. Тое, што ў дзяцінстве здавалася простай лініяй, аказваецца кавалачкам акружнасці. Затое тыя, хто здаваліся далёкімі, з цягам часу становяцца бліжэй. І адчуваюцца поруч Рыльке, Пастарнак, Цвятаева, якія калі-небудзь абавязкова вернуцца, зноў разам, каб пацвердзіць ці абвергнуць ужо сказанае:**

*Але і зменшыць не можа зыход наш*
*свяшчэнную лічбу:*
*успыхні, ўпадзі, – вернешся зноў ты*
*ў пачатак пачаткаў.*
*Значыць, усё – толькі гульня, паўтарэнне,*
*кружэнне па крузе,*
*толькі бяздомнасць, міраж, безыменнасць?*

**(Элегія. Марыне Цвятаевай-Эфрон)**

**Ганна КІСЛІЦЫНА**





# З РАЗАРВАНЫМ ЦЕЛАМ АРФЕЯ

**Я з Рыльке запазналася праз Пастарнака. "Чытач" і "Сузіральнік" у ягонай аўтабіяграфіі: "Бо ён навучаны змагацца // і моцы мужнага скараецца, // і ў гэтым рост ягоных сіл (пераклад В. Сёмухі). Як у ангельскага паэта эпохі барока, у якога дрэвы ад штормаў толькі мацней укараняюцца...**

**Я цешылася сінтаксісам такіх вершаў, як "Заклінанне змеяў" у маленькай хрэстаматыі па нямецкай літаратуры, прамінаючы аднастайныя пратэсты супраць "машыны", *але арыгінал* Пастарнакавых перакладаў знайшла толькі праз гады, у крэмавай кніжцы выдавецтва "Рэкламфэрлаг" з "Архаічным торсам Апалона": "Я не ведаю грандыёзнае галавы, // у якой спеляцца яблыкі вачэй. Але // торс яшчэ палае...//...ніводнае месца,// якое не бачыць цябе. Пераменi жыццё". Абедзве цытаты я паўтарала так часта, што цяпер ужо з цяжкасцю ўсведамляю іхні дакладны сэнс, – гэтае ўцелаўленне згнілых воч...**

**Пазней, праз дзесяцігоддзі, я ўпадабала санет пра аднарога. Упадабала, бо ён падабаўся аднаму квакеру: "О, гэты звер, не бачаны яшчэ! // ...Ён мог *не быць*. Жыццё яму далі // Любоўю вы, жыццю яго пасля – // прастору неабсяжную зямлі" (пераклад В. Сёмухі); праўда, іншаму квакеру больш падабаўся іншы санет: пра восень, пра лістапад, лішне лагодны для сталага Рыльке: "існуе адзін, хто падзенне // бясконца мякка трымае ў руках". Нават адзін абат некалі выказваў мне сваё захапленне вершамі на хрысціянскія тэмы – ах, мне ўжо выпала з памяці, ці то ішлося пра "Жыццё Марыі", ці то "Абмыванне нябожчыка", ці то "Уваскрашэнне Лазара".**

**Вось жа, Рыльке такі паэт (ці, прынамсі, быў некалі такім), якога чытаюць не толькі паэты, якога чытаюць нават хрысціяне, нягледзячы на ягоныя ніцшэанскія закіды да іх. "Што б ты рабіў, Божа, калі б я памёр?..", "...свет як збавенне Бога, відзежа пакутніка, які творыць ілюзіі, каб пазбегнуць агоніі ўнутраных канфліктаў...": цытаты з Ніцшэ – нібыта пра Рыльке, што змагаецца з анёлам у "Сузіральніку".**

**Можа, ягоныя яблыкі і растуць з біблейных зернят ("Калі зернейка..."), *але самі* хрысціяне гэты малюнак ужываюць рэдка, – вось жа, тут няма нічога надта пабожнага (хоць ранні Рыльке і граў на рэлігійных пачуццях). "Мы толькі лушпіны і лісце, // Вялікая смерць, якую кожны мае // у сабе – вось плод, які ўсім варочае", – вядучы і найчасцей згадваны матыў, што праходзіць праз усяго ранняга Рыльке. Зусім пахрысціянску ён вяртае смерць на яе месца ў жыцці...**

**"Слівы, яблыкі, агрэст, маліны – // гэты смак, садовы спелы дар // жывіць нас і губіць безупынна (Арфею 1.13. Пераклад В. Сёмухі). Ці сам "Яблыневы сад", у Даніі: "Прыходзь адразу, як сонца зойдзе: // ...як быццам мы збіралі доўга, // каб з пачуццяў і ўспамінаў // яго высыпаць перад намі // разам з унутраным ценем... // ...тым часам як жыццёвая працягласць толькі аднаго // хоча, расце і маўчыць". Чыстае сэрца хоча толькі аднаго, кажа Кіркегар. Рыльке яго чытаў...**

**Аднак, чытаючы паваенных немцаў, я пабачыла, што Рыльке выгналі з пантэона. Што ж, цяпер мы ведаем пра ягонае жыццё аж зашмат, не толькі пра ягоныя падарожжы з жанчынай, якая была закахала ў сябе Ніцшэ, а потым Фрэйда – не раўнуючы як Розанаў ажаніўся з каханаю Дастаеўскага. Сноб-жабрак (няўжо? як Пруст?), ён блукаў ад графіні да графіні – і атрымліваў (патаемна) грошы нават ад аскета Людвіга Вітгенштэйна.**

**Оды пенісу, якія маглі з'явіцца толькі у 50-я гг., не дазваляюць нам угледзець той самы пеніс у элегійных вежах; страціўся сапраўдны рай для псіхааналізу, бо пасля элегій ён свядома "песціў маленькую вежу, як вялікага звера" і ўважаў за лепшае комплексы і творчасць, чым такое "лячэнне". Оды пенісу – гэта чыста рылькеўскі Рыльке, *пра* знадворнае і ўнутранае, – хіба што крыху камічны ў сваёй урачыстасці.**

**Ён пісаў пра сады, пра статуі, пра жывёл у заапарку, у клетцы, у рамцы, пра намаляваныя кветкі можа нават больш, як пра жывыя (ці можа проста ён так бачыў, як мастак, замыкаючы ў рамку?): не дзіва, што чытачоў часамі нудзіла ад лішне пераўжаванае жвачкі, ад мастацтва, якое з'ела само сябе. Дрэвы ў "Яблыневым садзе" – "нібыта з гравюраў Дзюрэра"! Ці не занадта гэта пасіўна – пазбягаць цяжкай задачы выбіраць самому, *што* сузіраць...**

**Магчыма. Але тут ідзецца пра духоўнае практыкаванне: закуць у кайданы знешнія пачуцці, каб адчыніць унутраныя магчымасці. "Такая дзівосная рэч – увага: мы цалкам звяртаемся вонкі, але, здаецца, якраз калі мы найбольш туды звернутыя, у нас саміх адбываюцца рэчы, якія чакалі моманту, каб застацца незаўважанымі; пакуль яны адбываюцца ў нас безыменна, *без нас*, – іхняе значэнне прарастае вонках у аб'екце, як адзіна магчымае імя..." (ліст 1907 г.).**

**І ніякае пасіўнасці: ён глядзіць узахлёб, як той анемон у санеце да Арфея: "Мускул той, што зранку ў анемоне пружыцца, каб кветка расцвіла... // што і ў час апошняга змяркання... //**

ледзьве здольваеш пялёсткаў крылы // зноў згарнуць у першасныя чашы..." (Пераклад В. Сёмухі). Рызыкоўна: трапіўся ў рукі альбомчык, каб адзначаць даты, з шматлікімі цытатамі з ранняга Рыльке, усе надта сентыментальныя, але адна – з Льюіса Кэрала: "Калі ты будзеш намагацца верыць усяму, то мускулы твайго розуму стомяцца, а ты сама гэтак саслабееш, што ўжо не знойдзеш сіл паверыць нават у найпрасцейшыя рэчы!" Вось жа, чытайце Рыльке, але толькі разам з Моргенштэрнам!

Больш сур'ёзны аргумент супраць Рыльке, наколькі я разумею, палягае ў тым, што ён, паказаўшы шлях да ўнутранага выгнання, перашкаджаў процістаяць фашызму. Надта суб'ектыўны падыход, – маўляў, усё тое, што *па-за*, мы творым проста любоўю... Толькі нешта больш аб'ектыўнае творыць салідарнасць. Так ці інакш, Рыльке стаўся ахвяраю паваеннае "праполкі", што ідэалізавала пратакольныя фразы.

Нарадзіўшыся ў Празе, якую ён называў местам без уласнае мовы (бадай, такое места было ў Аўстра-Венгрыі не адзінае?) – і гэтая нястача азмрочыла яму ўспаміны дзяцінства – Рыльке стварыў сваю: не проста голас, якога ні з чым не зблытаеш, але новыя імёны, новыя словы (нават артыклі і злучнікі паводзяць там сябе не як у штодзённай гаворцы, – пісаў ён у лісце, адразу па скончэнні элегій), – кантэкст змяняе іх дашчэнту, творачы нешта моцнае і трывалае.

Ён нават мову другую прыняў. Пад канец жыцця ён пачаў пісаць па-французску, і атрымаліся сотні васьмірадкоўяў куды больш празрыстага стылю: вершы пра святло і цені, надвор'е, хмары, колеры; я толькі кагадзе адшукала іх і са здзіўленнем адчула, што яны *мае*, у маёй стылістыцы...

Можна бедаваць, што Рыльке-творца доўга заставаўся ў цяні Рыльке-аракула; але чым больш чытаю, тым больш хочацца цытаваць, тым лепей бачу, што ён бароніцца ад сябе самога, ад "толькі садоў", адгароджваючыся ці то мурам, ці то бразгатам бляшанае накрыўкі ў "Мальтэ"... ці то дэталёвым апісаннем, як п'юць з паглыблення ў абрубку дрэва... Вясна ў санеце да Арфея выступае без банальных кветак – толькі жаць і ўгнойваць: "Нават лісты ззімавалага дрэва // будучай мрояцца жаўцізной..." (Пераклад В. Сёмухі).

А ў другім – "Кажуць, што рыбы нямыя... А хто гэта ведае, дзе? *Можа*, у далечы моваю рыбінай будзе // ісціна сказана *ўглыб*" (Пераклад В. Сёмухі) – Моргенштэрн вяртаецца! – прыгадайце ягоную дакладную "Начную песню рыбіны"!

"А *калі*, у каторым з жыццяў нашых // так раскрылімся мы для ўспрымання?" (Пераклад В. Сёмухі) – канец санета пра анемон, адразу пасля таго, што пра адзінарога. Што ж такое – раскрыліцца? Выраз твару чалавека за акном цягніка выдае лучнасць з некім паблізу, хто, нябачны, адыходзіць прэч... Голас у тэлефоне гучыць, як голас чалавека, да якога мы звяртаемся, але якога не пачуць... Вы вітаецеся з некім на вуліцы, і ён нібыта вас пазнае, ягонае прывітанне адрасаванае чалавеку, што ідзе следам за вамі... Лёгка знайсці малюнак, які паказвае людзей у іх неадпаведнасці да саміх сябе.

Сам Рыльке ў французскім вершы пісаў: "...нехта расказвае пра маці // і, гаворачы, ён падобны да яе", але больш даспадобы яму было казаць пра мяч (па-нямецку не рыфмуецца!), які людзі перакідваюць паміж сабою "па дузе Богам створанага моста", пра тую прастору, якую людзі твораць у стасунках паміж сабою. Але ці можна гэтак ставіцца і да рэчаў? Ягоны сучаснік Марцін Бубэр адказваў "так": у кнізе "Я і Ты" ён пісаў пра асабовае стаўленне да дрэва...

Рыльке надзвычай дэталёва, на многіх старонках, апісваў выпадак, які здарыўся ў год элегій: на яго абаперлася высокае разгатае дрэва, і "нібыта з сярэдзіны дрэва ў яго перайшлі амаль незаўважныя вібрацыі..." Ён "трапіў па той бок прыроды", дзе цела ўжо ў нейкім сэнсе "разглядаецца як душа..."

Адной сяброўцы ён прызнаўся, што найболей прагне "глядзець *нейчымі вачыма*" (сабачымі, чалавечымі, камарынымі...) Таму занадта прывязацца да аднаго чалавека было б дакучна: ён мусіў бы нібыта прасіць дазволу на такое знікненне... Закахацца рызыкоўна, бо каханкі могуць перацяць дарогу адно аднаму. Ён захапляўся лістамі Бэрціны да Гётэ: той не адказаў на яе каханне, але дзякуючы гэтаму яна "стварыла прастору"...

І вось (можа ў звязку з любоўю да разнастайнасці?) гэтулькі вершаў з прысвячэннямі, і ці не кожнае ў адмысловым стылі, нават калі голас самога Рыльке немагчыма не пазнаць. Гэтыя вершы не канечне пісаліся так, каб спадабаліся адрасату (здараліся нават пратэсты!), гэта было "тое, што сказаў бы ягоны адрасат на месцы Рыльке"...

Быць раскрыленым... "Прыкра, праўда ж, што вочы заплюшчваюцца?" – пісаў ён (па-французску). Паэт – істота "без павекаў", сказаў, здаецца, ягоны сучаснік Гофманшталь. І Рыльке напісаў эпітафію самому сабе: "О ружа, чыстая супярэчнасць: прага // быць нічыім сном пад гэткім мноствам павекаў". Паэт – без павекаў. Ружа – толькі павекі. Вочы ў вочы, шчыра, быццам пазіраючы на заплюшчаныя вочы таго, хто спіць побач...

Стварыць вакол сябе свет з вачэй (люстэркаў для Нарцыса?), як статую Апалона. Або з вушэй, якія ўслухоўваюцца... Напрыканцы жыцця ён аддаваў перавагу гукавым малюнкам перад зрокавымі, гонгу як знадворкаваму вуху...

Але Рыльке не проста ўзіраўся навокал. Звычайна ён толькі з кніжкай у руках умеў бачыць так, як у "Чытачы" або ў выпадку з дрэвам. А каб пісаць вершы, мусіў "быць у кокане". Ён прагнуў (згодна з адным лістом) нейкае слепаты, прагнуў быць вожыкам, які толькі ўвечары разгортваецца, каб узняць пыску да зорак (але адчуваў сябе – мурашом з завялікай саломінаю, якога вось-вось затопчуць)... – і найлепш, каб вакол не шумела нямецкая гаворка, каб мова магла сканцэнтравацца ў ім да крышталёвае яснасці.

Трэба ўнутрана *працаваць*, быць як бы *каўчэгам* для творнага свету з вачэй і вушэй, прадметаў, кранутых людскою цеплынёй, са слядамі пакаленняў; быць "пчоламі нябачнага", паводле славутых словаў...

Гэта гучыць прыгожа, але напісана гэта ў лісце да перакладчыка: ці верыць паэту, які бярэцца сам сябе тлумачыць? У адной з лонданскіх галерэй цяпер экспануюцца фатаграфіі яек, грыбоў, часнаку, цыбулі, радыскі, каштанаў у руках французскіх сялян з элегічнымі подпісамі пра тое, што традыцыйныя сродкі існавання неўзабаве адыдуць у нябыт. Ці Рыльке думаў пра гэта? Наўрад ці. Рыльке не меў такіх моцных каранёў. Ён быў занадта артыстычны. Ягоныя пратэсты супраць машыны, можа, проста нараканні арыстакрата на масавую вытворчасць.

Гофманшталь у сваім развітанні з паэзіяй – лісце да лорда Шандаса (1902) казаў пра невычэрпныя рэчы, такія, як пакінутая палівачка пад арэхавым дрэвам, дарога для вазоў, што віецца па схіле; віры віруюць вірамі, скура на пальцы выглядае пад лупаю полем з барознамі і ямінамі. Але і не пра гэта гаворка. Позірк Рыльке не віраваты, а люстраны.

(Напрыканцы элегій у яго згадваюцца каташкі ляшчыны; згодна з лістом, напачатку ён напісаў "вярбовыя" (дзеля малюнка вярбы з павіслым голлем?), але потым пагадзіўся з заўвагаю, што вярбовыя каташкі не вісяць – значыць, то не сапраўдны малюнак з-пад лупы!..)

Ён мусіў знайсці ўласны позірк, захаваны, як жамяра, у бурштынавых вачах чорнага ката... Арфея разарвалі на кавалкі. Рыльке не згадвае пра гэты бок казкі, але... Няўжо я дагэтуль бачу ўсё праз прызму "Сузіральніка"? Або, можа, вось вам Рыльке ў арэхавай шкарлупіне: (бес)паспяховая барацьба з сузіраным? "Паэт", у амаль эпіграматычным васьмірадкоўі, кажа: "без каханай, без дому ці жытла // аддае сябе рэчам // і ўсе ўзбагачаюцца і аддаюць яго назад" (Пераклад В. Сёмухі: "Дзе каханне? Дзе дом?.. // Я аддаў сябе свету самога, // а цяпер прадае мяне свет").

Мэва МАРОН

*Пераклад з эсперанта Міколы РАМАНОЎСКАГА.*

---

* Там, дзе перакладчык вершаў не пазначаны – літаральны пераклад з эсперанта Міколы Раманоўскага.

# РУСКІ РЫЛЬКЕ

Шмат гадоў таму я чытаў адзін з дэтэктыўных раманаў Грэма Грына. Яго герой – наёмны забойца, адзінокі, з прыкметамі дэгенератыўнай хваробы на твары (заечая губа). Кілер, тым не менш, аматар паэзіі і цытуе не каго-небудзь, а Рыльке.

Цяпер, адзначаючы псіхалагічную дакладнасць англійскага пісьменніка, я, мабыць, разумею, чаму злачынцы так часта звяртаюцца да Рыльке: яны людзі хоць і жорсткага складу, але сентыментальныя і іх прыхаваную істэрычнасць вабіць менавіта процілегласць. Рыльке з яго спакоем, жаноцкасцю і вытанчанасцю не мог не прыцягваць іх увагі, і будзе прыцягваць і далей.

Як нядаўна выказаўся адзін з удзельнікаў традыцыйнага Пражскага літаратурнага фестывалю, літаратурная Еўропа амаль не рухаецца наперад, а ў большай ступені бавіць час, сузіраючы свой літпупок. Частка гэтага пупка – безумоўна, Райнер Марыя Рыльке.

Перачытваючы Рыльке, я злавіў сябе на пачуцці, што ён, быццам, неяк пацьмянеў. Гэтая цьмянасць, мяркую, узнікае ад таго, што тыя памылкі, якія мы можам дараваць палітыкам, дзеячам, вучоным, не даруюцца паэтам. Адна з іх – прабелы ў прадбачанні і дрэннае веданне жыцця.

Танчэйшы лірык, як толькі Рыльке пакідаў свой абжыты кніжны плацдарм, сваю вежу і скіроўваў шлях у жыццё, ён пачынаў фальшывіць. Хаця, здаецца, і сам падсвядома ведаў гэта.

*Эскіз імгнення звыкла мы ўспрымаем*
*на фоне процілегласцяў, і цяжка*
*нам бачыць гэта, бо тут ясна ўсё.*
*Бо мы абрысаў пачуцця не бачым,*
*а толькі абалонку фармавання.*

На жаль, схільнасць "абрысаў пачуцця не бачыць, а толькі абалонку фармавання" яскрава праявілася ў Рыльке праз яго адносіны і дачыненні да Расіі.

У рускім фільме Абдрашытава "Слуга", які незаўважна прамільгнуў нядаўна на экранах і тэлебачанні, ёсць выразная сцэна, калі муж і жонка – эпізадычныя і другасныя ахвяры д'ябла – бягуць за ім на вакзале. Д'ябал, звычайны чалавек сярэдняга веку, стаіць на падножцы вагона адыходзячага цягніка і назірае, як імкнуцца за ім яго "людзі", як прагнуць яны захаваць тыя нябачныя ніці паміж імі, што ніяк не могуць, хаця і павінны быццам вось-вось разарвацца. Праз нешта падобнае, пэўна, праходзіў на сваім жыццёвым шляху і Рыльке. Мяркую, у глыбіні душы яго цягнула да дэманічнага, а жаноцкасць паэта прагнула разняволення. Гэтым дэманічным падсвядома стала для яго

Расія. Рыльке не ўстаяў перад часам і самім сабой, бо ім кіравалі адзіноцтва і імкненне да чагосьці моцнага. У рэшце рэшт такое адхіленне не закранула ў агульным аспекце творчасці паэта, але пакінула ўсё-ткі даволі значны след. Істэрычная Расія, якая нібы сцялася ў спружыну перад дзікім усплёскам агрэсіі і прышэсцем на яе абшары ўсё таго ж старога нашага знаёмага Д'ябла, чамусьці прыцягвала яго да сябе. Так цнатлівую дзяўчыну жывёльна прыцягвае брутальная мускулістасць якога-небудзь татуіраванага блатара.

Рыльке наведаў Расію ў 1899 і 1900 гадах. "Калі б мая душа была горадам, яна была б Масквою", – пісаў ён у лісце да А.М. Варонінай. "Я станаўлюся ўсё больш чужым да нямецкіх рэчаў, а калі я буду ведаць мову і здолею гаварыць на ёй, я буду адчуваць сябе да канца рускім". Рыльке становіцца, дарэчы, сапраўдным глушцом, калі ў яе, Варонінай, рускай па нацыянальнасці, пытаецца: "...адчуваеце Вы Расію? Дарагі сябра! Калі б я прыйшоў у гэты свет як прарок, я б усё жыццё прапаведаваў Расію як выбраную краіну..." і г.д.

Двойчы Рыльке наведваў Л. Талстога ў Яснай Паляне, ездзіў у Пецярбург, вядома, у Маскву, падарожнічаў на Волзе, пабываў у Саратаве, Яраслаўлі, Варонежы, нават жыў каля тыдня ў вёсцы, гасцюючы ў малавядомага і другараднага, але ідэалізаванага ім сялянскага паэта С. Дрожжына.

І паўсюдна, нібы зачараваны, вялікі паэт праяўляе сябе ўсё тым жа глушцом, які бачыць усяго толькі "абалонку фармавання". Так, Л. Талстой, асобай якога Рыльке быў, вядома, захоплены, прама ў твар папярэджваў таго "не поклоняться русским суевериям", а руская пісьменніца Соф'я Шыль мякка і тактоўна намякала яму, што як паэт Дрожжын проста пераймальны і саступае Кальцову і Нікіціну, – Рыльке упарта вёў сваю песню, свой рэй. Ён піша пра "прымітыўнае жыццё", якое "было поўнае хараства", перакладае на нямецкую мову і друкуе ў пражскіх газетах чатыры вершы С. Дрожжына, робіць яшчэ шмат якіх захопленых недарэчнасцяў. Паэт нават прымае рашэнне назаўсёды (!) перабрацца ў Расію, на што ў лісце да яго мастак Аляксандр Бенуа адгаворвае Рыльке ад задуманага кроку і рэзка крытыкуе краіну, у якой мусіць жыць.

Мы толькі можам будаваць розныя версіі пра гэты дзіўны працэс, які адбываўся з паэтам на пачатку дваццатага стагоддзя. Можа, яму спадабалася і цешыла самалюбства традыцыйнае трымценне рускіх перад іншаземцамі? Успомнім французаманію расійскага дваранства, урэшце, такія мазахісцкія звычаі, як распаўсюджаны сярод рускіх дваран – браць у жонкі цыганак прама з хору: абы не сваіх. Ці, можа, паэт, як калісьці Стэндаль, імкнучыся пабываць у іншых краінах, цікавіўся найперш тамтэйшымі жанчынамі? Але па пісьмах Рыльке не адчуваецца нейкай асаблівай эратычнай цягі паэта да тых жанчын.

Урэшце, не ён першы, каго сустракалі ў Расіі гарачымі абдымкамі (нават у сталінскай) і хто за гэта спяваў ёй асанну.

Але вялікі паэт настолькі губляе пачуццё рэальнасці, што пачынае пісаць у стылі "а ля рус" аповеды ў прозе, кшталту, "Як стары Цімафей спяваў, паміраючы", "Як на Русі з'явілася здрада", "Песня пра Праўду" і г.д. Мала таго, ён спрабуе пісаць па-руску. Захаваліся некалькі вершаў, напісаных Р.М. Рыльке на расійскай мове. Прывяду адзін з іх, на мой погляд, самы "моцны" (не ў сэнсе іроніі, вядома):

*Я так один. Никто не понимает*
*молчанье: голос моих длинных дней*
*и ветра нет, который открывает*
*большие небеса моих очей.*
*Перед окном огромный день чужой*
*край города; какой-нибудь большой*
*летит и ждёт. Думаю: это я?*
*Чего я жду? И где моя душа?*

Калі ў празаічных творах кшталту "Цімафея" паэт даходзіў нават да сюсюкання, то верш, згодзімся, усё-ткі нясе на сабе пры ўсіх недахопах і граматычных хібах адбітак магутнага таленту.

Прасочваючы "рускую" эпапею Р.М. Рыльке, міжволі згадваеш пытанне: а што адчуваў паэт напрыканцы свайго жыцця, калі Расія захлыналася ў крыві, і дваране, ратуючыся ад сваіх жа мужычкоў, эшалонамі і параходамі разам са сваімі французскімі, цыганскімі і іншымі жонкамі і дзецьмі беглі на Захад? А валадальнікі загадкавых рускіх душ, за "неимением" дваран, выкалвалі вочы іхнім коням?

З гэтай нагоды можна прыгадаць і тое, што паэт, па сутнасці, не зразумеў глыбіні творчасці Ф. Дастаеўскага, у якога найперш расхвальваў яго самыя слабыя рэчы: "Белые ночы" і "Бедных людзей"; а па-за яго ўвагай засталіся "Бесы" – грознае і прароцкае папярэджанне пісьменніка аб надыходзячай крывавай драме, што чакала Расію. Урэшце, дапусцім такую думку: паэт здзяйсняе сваю мару і пераязджае назаўсёды ва ўлюбёную ім краіну. Што адбылося б з ім пасля кастрычніцкіх падзей, не пакідае ніякіх ілюзій. Сапраўды – не ствары сабе куміра.

Жаноцкасць Рыльке, адарванасць яго ад жыцця адчуваў і Агюст Радэн, у якога паэт нейкі час выконваў абавязкі сакратара. Таму і адносіны іх, пэўна, былі не заўсёды роўнымі: знакаміты скульптар не раз спрабаваў, магчыма, і ў грубай форме, вяртаць паэта на зямлю. Адбылася сварка, і Рыльке пакінуў свайго работадаўцу, хаця потым мастакі паміръліся.

Мы ўсё-ткі разумеем, любім і паважаем Райнера Марыю Рыльке разам з усімі яго хібамі і недахопамі. Ён быў і застаецца паэтычным "пупком" Еўропы, хаця яму і не пагражае масавая любоў. Але ж сапраўднаму мастацтву, здаецца, яна ніколі не пагражала.

Юры СТАНКЕВІЧ



# Мікола КУПРЭЕЎ





*– Скажы, Паэт, білі цябе ўжо ці яшчэ не? Я ніколі цябе не ўдару. І ведай: найбалючай б'юць словам.*
*І асабліва невыносна, калі словам ударыць любімы чалавек.*
*Добра вам, сабакам: вы не разумееце чалавечай мовы.*
*О, калі б вы разумелі чалавечую мову – як бы вы пакутавалі!*

# НА ВУЛІЦЫ КАРЛА МАРКСА З ПАЭТАМ

*(аповесць)*




быў яшчэ зусім маленькі, гэты сабачка – кругленькі, лабасценькі, пад колер попелу, з белай плямкай над правым вокам і з белым кончыкам кароткага хвосціка. Сустрэліся мы ля дзвярэй гасцініцы Я выйшаў на ганак з сумкай у руцэ (а там – ручнік, мыла, газеты ) – сабраўся гэтай раніцай, як і ўчора, на рэчку, з берага памыцца, пасядзець там на камені-валуне, пачытаць дый проста паглядзець на ваду, дыхнуць паветрам, яно там настоенае на аеры, расцы і мяце

Ён сядзеў у куточку ля бетоннага вушака і насцярожана глядзеў мне ў вочы сваімі цёмнымі вачынкамі Але, мусіць, сабачым розумам уцяміў, што я ў гэтым доме не гаспадар, а, як і ён, прыблуда, – таму вільнуў хвосцікам, прыўзняў пыску і ціха віскнуў· маўляў, можа, не ўдарыш, не прагоніш. Я сеў на прыступку, працягнуў руку ў яго бок – хацеў пагладзіць, а ён, дурненькі, убіўся задком у куток, падняў лапку і махнуў ёю на руку, як на муху-назолу, і вуркатнуў Я пасміхнуўся, маўляў, не бойся, не ўдару, не праганю. Ён гэта зразумеў, таму выцягнуў шыйку і, не спускаючы з мяне вока, лізнуў у палец цёплым ружовым язычком. І калі я раптам на хвіліну задумаўся, сабачка зноў вуркатнуў: ну, чаго ж ты, чалавек, душу маю сабачую развярэдзіў і – усяго толькі? Не мог жа я яму давесці, пра што я задумаўся. А задумаўся я таму, што ўспомніў іншы цёплы і ружовы язычок – маленькага цяляці ў даўнім-даўнім і такім далёкім хляве на дзедавым падворку, такога маленькага, што яно яшчэ і ног сваіх адужаць не магло, каб паставіць і толькі прутка шоргала імі па саломе, пад каровай

Я сышоў з ганка, азірнуўся· сабачка, пераваліўшыся з прыступкі на прыступку, торкнуўся пыскай мне ў калашыну

Шчаня, падумаў я, не паспела яшчэ здаволіцца ласкай маткі-сучкі, таму й горнецца да ўсяго жывога.

Калі я зрабіў крок, асцярожна, каб не наступіць яму на лапку, сабачка завішчаў так прарэзліва, што ажно варона ў паветры махнулася ўбок і ўверх, і я пачуў, як ён халодным носікам тыцнуўся мне ў скуру пад калашынай Я стаяў нерухома Ён апусціў мордачку, прыціснуў да цэментаванай дарожкі і знізу ўдумна глядзеў мне ў вочы І тады я сказаў яму·

– Хто ж цябе, малое, падкінуў сюды? Ты ж сам не мог пакінуць сваю будку і свой двор. І матка твая цябе не праганяла Нехта ж узяў цябе з будкі, запіхнуў у торбу, павесіў торбу на рулю ровара і вывез у людзі як лішняга ў тым двары. Так было, га? Та-ак, малое Ну, што ж, пайшлі разам.

Рэчка была блізка, адразу за гасцініцай, і вуліца Маркса выходзіла проста на яе Адно што вуліца не да самага берага, не да самага моста была заасфальтаваная, далей ішла гравійка Мост і гасцініца былі новыя, мост жалезабетонны, а гасцініца – мураваная і пабеленая, і дзверы яе, калі зачыняліся, грукалі так, што чутно было, мусіць, і на тым, дальнім, канцы вуліцы, што ўпіралася ў глухую і высокую сцяну Дома Саветаў Вось і цяпер гасцінічныя дзверы грукнулі, і рэха таго стуку-груку адбілася ад сцяны Дома Саветаў, пранеслася ўгары нада мной і сабачкам у "наш" канец вуліцы Маркса, патанула ў тарфяніках за рэчкай. Але ж і там, на ганку Дома Саветаў, дзверы таксама грукнулі, ды так грукнулі, што рэха адтуль панеслася кудысьці над горадам – высока за аблокі.

Шчаня ззаду вуркатнула нясмела, потым пагрозліва Я азірнуўся сабачка крыху адстаў ад мяне і прыпаў мордачкай да асфальту і ўвесь напружыўся Значыць, там у яго нешта сур'ёзнае. Я вярнуўся да яго і ўбачыў· з травы, ад краю дарогі, напялася на ножках, гатовая вось-вось скокнуць, лупатая, тоўстая жаба. Яны ўпарта глядзелі адно аднаму ў вочы, сабачка і жаба. Ён яшчэ раз вуркатнуў, яна надзьмула шчокі, і я схіліўся над імі. Жаба разявіла рот, сабачка адпіхнуўся пярэднімі лапамі назад і з надзеяй глянуў на мяне знізу, але я зноў выпрастаўся Шчаня ўбачыла маю ненадзейнасць і папаўзло задам на асфальт, жаба яшчэ больш надзьмула шчокі, павярнулася і скокнула ў траву Я пабавіў сабачку ісці далей, але той не зварухнуўся з месца – пакрыўдзіўся На мост уз'ехала і набліжалася да нас легкавушка Я схапіў яго за шкірку, увапхнуў у сумку, там ён сціх – мабыць, адчуў, што, нарэшце, у бяспецы, што ніхто ўжо яму там, у сумцы, не пагражае. ні жаба, ні машына, ні чалавек.

Я прайшоў па мосце, з'ехаў нагамі па сыпучым пяску з абочыны дарогі на ўтравелы бераг рэчкі, спыніўся ля высокага каменя-валуна. Тут ля берага цвёрдае дно – можна стаць і абліць сябе вадой з далоняў. Асцярожна, каб яшчэ чым не пакрыўдзіць, каб не ўдарыўся балюча, я перакуліў сумку – шчаня ўпала на спіну, заплюшчыла вочы, бо ў іх біла сонца; я паказытаў яму жывот, шчанюку стала добра і ад сонца, і казытання, і ён задраў угору ўсе чатыры лапы Я распрануўся, узяў яго на рукі, сышоў у рэчку, акунуў яго з галавой у ваду, ён затрымцеў ад такой нечаканасці і, мабыць, ад першага ў сваім шчанячым жыцці знаёмства з вялікай вадой, захлынуўся, чмыхнуў, падумаў і яшчэ чмыхнуў.

– Не, – сказаў я сабачку, – гэта не ўсё

Узяў з берага мыла і добра-такі памыў немаўля. Але яно аказалася не такім ужо й бездапаможным· калі мыла зайшло яму ў вочы, сабачка так гаўкнуў на мяне, намерыўшыся нават укусіць за палец. Я спаласнуў яму вочы, і ён супакоіўся, лізнуў мне руку Ага, а я ж дасюль не ведаю, хто ты: сабачка ці сучачка? Паглядзеў: ён "Добра, хлопец, лезь на бераг" Я дапамог яму, даланёю пад хвост, ускараскацца з-пад навіслага над вадою беражка наверх, на траву Ён шырока расставіў лапы, атросся ад вады, потым сеў і ўсё глядзеў, што я раблю: як мыюся, як плыву, як выныраю А калі я на беразе стаў махаць рукамі й нагамі, каб сагрэцца (а вада ж цякучая летняй раніцой золкая), сабачка здзіўлена завішчаў і мячыкам пайшоў скакаць вакол мяне Босымі нагамі я чуў, што трава яшчэ росная, халодная; апрануўся, абуўся, сеў на камені, дастаў з сумкі газету "Літаратура і мастацтва", разгарнуў яе там, дзе ажно на дзве старонкі стаяў загаловак з вялізных літараў Сабачка забаўляўся – схаваўся пад газету і знізу драпаў яе кіпцюрамі

– Гэй, ты! Но-но!

Сам сабе схамянуўся: "ты" – а як жа будзем зваць цябе? І надумаўся. паклаў газету на траву – на якое слова ў тым загалоўку шчаня наступіць, тое слова й стане яго клічкай А яно не толькі наступіла, а і ўдарыла лапай па слове "паэт"

– З гэтага рання, – сказаў я юнаму сабаку, – ты – Паэт І зараз адзначым твае імяніны.

Я дастаў з сумкі бутэльку піва, адкаркаваў яе, глынуў, даў панюхаць Паэту, ён панюхаў, піва было свежае, яшчэ з газам, і – чмыхнуў Потым ён падняў нагу, і раўчучок пацёк па газеце, лужынкай сабраўся на слове-клічцы

– Ну, што ж ты, Паэт, самога сябе абсікаў? Ды яшчэ ў такой шаноўнай газеце Іншым разам падсцялю табе "Политический собеседник" з артыкулам Кобелева. Ну, усё? – Паэт сеў ля маёй нагі, неяк увесь абвяў, апусціў вушы – Што зажурыўся? Канешне ж, пара ўжо нам і з'есці чаго. – Я дастаў з сумкі пакецік, а з яго – скібачку хлеба і кавалачак кілбасы – тое, што засталося яшчэ звечара – Падзелімся, малое На.

Паэт накінуўся на кілбаску Мусіць, даўнавата ўжо нічога не еў

Ён, аблізваючыся, ляжаў на траве, махаў лапай на чмяля, які назаляў яму, а я сядзеў на камені, курыў і глядзеў на рэчку Над вадой стаяў рэдкі туманок, па берагах, над травой ён даўно ўжо пад сонцам высах – тут яму не было дзе схавацца, за што зачапіцца А калісьці ля рэчкі зеляneў густы алешнік, а за алешнікам чарнела купінамі балотца, на якім пасвіліся каровы з вуліцы Маркса Цяпер, вакол гэтага каменя, стаяў мой сорак пяты чэрвень, і як я ні хацеў прагнаць адзін успамін – бо сорамна ж помніць такое ў мае гады, – ён, гэты ўспамін, прымусіў мяне ўсміхнуцца, нават слязу выціснуць з вока мы, падлеткі, шастаем у алешніку і выглядваем з-за кустоў на дзяўчатак-аднакласніц, а найбольш – на дзяўчат-дзесяцікласніц, што ў трусіках і ліфчыках, з вясёлым крыкам, скачуць з берага ў раку і сцішана, паважна, як жанчыны, выходзяць з ракі...

Паэт, прыгрэты сонцам, палажыў мордачку на лапы, заснуў, але ненадоўга мусіць, і ў сне баяўся, што й гэты чалавек яго пакіне Я ўзяў шчаня на калені і стаў (старэю, малое, старэю) гаварыць з ім, як з самім сабою·

– Шэсць гадзін .. Вада цёплая, ранне свежае Нам з табой у райком партыі на семнаццаць гадзін. Я цябе пакіну на гадзінку ля ганка, а сам пайду на прыём да сакратара па ідэалогіі. Ты, сабака, не ведаеш, што такое ідэалогія Ну, гэта рэч сур'ёзная Напрыклад, ты гаўкнеш ля райкома, дык мне з-за цябе можа дужа ўляцець. Што ты, скажуць, таварыш Кухараў, ля райкома гаўкаеш? Нельга. Вось ты – Паэт з вялікай літары Быў і я некалі паэтам – з маленькай літары. Пісаў вершы Нават кніжачку выдаў. Потым перастаў пісаць – пры Леанідзе Ільічу Мог бы пісаць – толькі ў стол. Але ў стол пісалі адно расійскія ды ўкраінскія пісьменнікі Там, у Расіі і на Украіне, і дысідэнты былі. Праўда, цяпер, у восемдзесят другім годзе, іх там ужо няма.

Паразганялі, каго ў Сібір, каго ў Амерыку, каго ў Францыю Нашых няма там. Там бульбы няма. А нашыя паэты без бульбы жыць не могуць. Яшчэ да Леаніда Ільіча я быў пажартаваў рыфмай "Генсек Хрушчоў знішчыў ракаў і хрушчоў. Па ўсяму Саюзу ён рассыпаў кукурузу", – дык мой сябар гэты жарт – свайму сябру, той свайму. Ну, мяне запрасілі ў адзін орган і там паківалі пальцам. Добра – што толькі пальцам. Некалі я і прозу пісаў – ліст да Мікіты Сяргеевіча пра завышэнне ўраджайнасці буракоў у звяне дэлегаткі дваццаць другога з'езда капэсэс. Ну, і сталі мяне ганяць па вобласці – быццам з-за віна Дык жа тое віно прадаецца паўсюль. Што з ім застаецца рабіць? Ты – Паэт з вялікай літары, ты не ведаеш, што гэта такое – віно. А я – з маленькай літары, дык ведаю .. Што, папісяць захацеў? Ну, ідзі сюды, пад камень, толькі – не на мае штаны! . Ах ты, распуснік, усё-такі пырснуў Ну, так, быў я некалі, як мяне называлі, паэтам. Бацька сварыўся, казаў· жаніся, садзі бульбу, гадуй свіней, бяры ў школе чым паболей урокаў.. Потым жонка, ужо даўно былая, казала. напісаў бы якога вершыка, была б капейчына якая А цешча. хай не піша, бо пойдзе з Гарыкам у "Голубой Дунай" .. У тыя гады ў кожным райцэнтры, пасёлку былі "Голубые Дунаи" Так, Паэт, калісьці, калі я быў старшакласнікам, і мы сям'ёй жылі тут, у гэтым гарадку, а наш домік стаяў во тут, дзе цяпер гасцініца, стаяў у вішнёвым садзе, – калісьці ў рэчцы гэтай цякла чыстая-чыстая вада, ажно каменьчыкі на жоўтым дне свяціліся, і ў рацэ было поўна ракаў Мы лавілі іх цэлымі мяшкамі і здавалі ў наш "Голубой Дунай" – за рублі. А вунь там, недалёчка, было балотца, а за ім на ўзгорачку рос бярэзнічак, у маі ён кішэў хрушчамі Але потым па рашэнні цэка балотца асушылі, бярэзнічак пасыпалі лётчыкі хімікатамі, з поля ў рэчку таксама пацяклі хімікаты – ні ракаў, ні хрушчоў, ні бярэзнічку, ні чыстае вады Былое балотца паднялося ў неба пылам, пыл той блукае недзе ў космасе. Што ты там, Паэт, скрабеш кіпцюрамі па зямлі? Можа, запісваеш за мной? Глядзі Будзь хоць ты разумны А то – трапіш у псіхушку Але не бойся. Я не дам Я перастаў баяцца І сёння, калі што, у райкоме заяўлю проста у рэдакцыі ёсць месца, бярыце на работу, рэдактар згодны, а калі не возьмеце – падпалю ваш Дом Саветаў. Сакратар, канечне, пасмяецца: Дом жа Саветаў жалезабетонны, не гарыць. Толькі ты там, ля ганка, не гаўкай .

Паэт падняўся з травы, сцепануўся, пазяхнуў, спусціўся з берага, глытнуў вады, чмыхнуў, узняў галаву і раптам завыў, як ваўчаня

– Пацярпі. Сталоўка адчыняецца ў восем, яна блізка Давай пройдземся берагам

Я ўжо заўважыў, што Паэт мой – сабака непаслухмяны Паказаў яму пальцам, каб бег уперадзе, а ён валюхаўся ззаду – як я, паэт з маленькай літары, апошнія гады таптаўся ззаду грамадства з пяццю-шасцю самотнымі верлібрамі

Я наступіў на нейкую даўнюю, патрэсканую костку, узяў яе, паказаў сабачку і кінуў уперад.

– Паэт, на!

Паэт пабег за косткай, схапіў яе зубамі і, радасна віхляючы хвастом, кінуўся назад да мяне, паклаў костку ля маёй нагі, прыпаў мордачкай да зямлі і вернападдана глядзеў мне ў вочы. Тады я шпурнуў костку ў раку На маё здзіўленне, Паэт скокнуў з берага ў ваду і паплыў, весела фыркаючы, да таго месца, куды ўпала костка, спыніўся, азірнуўся, пакрыўджана заскуголіў і паплыў назад да берага, выскачыў на траву, падбег да мяне і схапіў зубамі калашыну маіх штаноў, злосна вуркатнуў Я адпіхнуў яго ўбок. Паэт перакуліўся, сеў на заднія лапы і радасна гаўкнуў – мусіць, падумаў, што я з ім гуляю Але я пагрозліва паківаў яму пальцам і паказаў на месца, ззаду за сабой Паэт зразумеў, і калі, ідучы далей берагам, я азірнуўся, – убачыў· ён паціху, стомлены гэткай цяжкой для яго ўзросту нечаканай ранішняй муштрай, валюхаецца за мной Я прыпыніўся

Паэт, падыдзі да былога паэта.

Працягнуў да яго руку, Паэт лізнуў яе

– Далей не пойдзем Далей рэчка стала канавай, бачыш – зусім прамой, смярдзючай – з таго боку ў яе сцякае раўчук з усякімі брыдотамі з двара спіртзавода Добра табе Падрасцеш – ні піць, ні курыць не будзеш А мы, чалавекі, у гэтым жыцці ўсякае атруты зведаем. Так нам трэба грэшныя мы А завошта прырода – трава, дрэва, вада – пакутуе? Завошта чалавек здзекуецца з яе? Тысячу разоў грэшны Хадзем адсюль. Хадзем назад.

Паэт бег паперадзе мяне, да нашага каменя Дыхнуў збоку свежы ветрык, кінуў





сабаку пад ногі нейкую паперчыну· ён схапіў яе зубамі, вярнуўся да мяне, паклаў паперчыну на траву Я ўгледзеўся: гэта быў аркуш са школьнай хрэстаматыі – з вершам Петруся Броўкі "Пахне чабор".

Мы селі – я на камень, сабака побач Я перакуліў яго на спіну, пазазытаў жывот, Паэт задраў лапы ўверх і шчасліва глядзеў у неба.

– Паэт!

– Гаў!

– Устань!

Сабака падняўся.

Глядзі, – я паказаў рукой за раку, за мост – Перад намі вуліца Карла Маркса. Глядзі. у канцы вуліцы, упоперак яе – чатырохпавярховы гмах, гэта Дом Саветаў. Нам з табой сёння трэба туды. Там сёння вырашыцца мой далейшы лёс.

– Гаў-гаў!

– Маўчы, Паэт, і слухай У нас з табой да прыёму яшчэ даволі часу, і мы зойдзем у тры хаты Першая – адразу за гасцініцай. У ёй жылі дзядзька Антон і цётка Люба. Цяпер яны дзед і баба. Калі жывуць. . Не ведаю . Прайшло дваццаць тры гады, як мы з'ехалі ў іншы раён, і я сюды болей не прыязджаў .. Дык от – не ведаю, што яно і як у гэтай хаце і ў іншых хатах.

Паэт падпоўз да маіх ног, схіліў галаву набок і слухаў.

– Двор дзядзькі Антона Чырвоная дашчаная агароджа, у двары – старая яблыня, пад ёй – невялічкая альтанка. За ёй – калодзеж з адзіным на ўсю вуліцу жураўлём. А пад сценамі, пад агароджай – буйналістае лапушынне Кожнай раніцы вясной, летам і восенню да халадоў дзядзька Антон выходзіў з акардэонам у двор ды іграў мелодыі вядомых песень. Музыку чулі па ўсёй вуліцы Мы, ужо ладныя хлопцы, схілялі галовы на чырвоную Антонаву агароджу і слухалі, а я дык іншы раз ішоў да дзядзькі ў двор, садзіўся побач з ім, браў у рукі барабан – маленькі, з жоўтай ільснітай скуры з бомамі і меднымі круглымі бляшкамі І барабаніў, чырванеючы ад заўсёднай сваёй сарамлівасці перад хлопцамі· што вось я ўмею барабаніць, ды так, што дзядзька Антон ажно падміргвае мне. Ён схіляўся вухам да меха акардэона, прытопваў нагой пад музыку і ціха ўсміхаўся З коміна ішоў дым: цётка Люба варыла свінням і цяляці З хаты праз насцеж адчыненыя дзверы пахла смажанай цыбуляй і скваркай, весела вішчала патэльня – пякліся дранікі ці аржаныя блінцы Вялікія блакітныя вочы выглядвалі з ганка Цётка Люба сыходзіла ў двор з місаю ў руцэ, ішла да агароджы і частавала хлопцаў, а дзядзьку і мне давала па чарцы вішнёвае настойкі Пітво салодкае, але мы з дзядзькам, як заведзена ў мужыкоў, крякталі, выцíралі рукавамі губы, закусвалі дранікам ці блінцом і – зноў пайшло, дзядзька йграў, я барабаніў "Ну, Толя, усё, – казаў дзядзька і апошні раз сціскаў мех акардэона. – Трэба й за справу брацца" Мы адыходзілі ад агароджы, я азіраўся на двор дзядзька тэпаў з сенцаў ужо з сякераю

Паэт, здаецца, заснуў Але – не. калі я злёгку пхнуў яго нагою, ён адразу расплюшчыў вочы – значыць, слухаў уважліва

– Дык от, той акардэон... А чаму сёння я не чую яго? Няўжо? . Няўжо дзядзька Антон? . Ой, не! Ой, неба ўпала на мяне! Добрае, чыстае неба! Чуеш, сабака? Чуеш музыку? Гэта той акардэон! Гэта дзядзька Антон!

З двара дзядзькі Антона вылілася й пацякла па вуліцы Карла Маркса мелодыя песні "Широка страна моя родная"

– Гаў-гаў!

– Маўчы, Паэт. Такая мелодыя! Маўчы, сабака!

І я расказаў Паэту-шчанюку гісторыю дзядзькавага акардэона

..Лета 1938 года Малады Антон з бацькам скасілі свой лужок за рэчкай ля Азярца Антон прывязаў да ровара клуначак з хлебам, салам і цыбуляй, разагнаўся з двара на вуліцу праз расчыненыя вароты, адштурхнуўся ад зямлі, закінуў нагу цераз сядло і выехаў з вёскі на гасцінец – на Дубітава, на Касаў, на Ражану, Беласток – і паехаў проста ў Еўропу; руля – канцамі ўперад, як рогі ў барана У Варшаве на злотыя, што збіраў тры гады, купіў акардэон. На рынку ў Старым Мясце. Выехаў з Варшавы на беластоцкі тракт-брукаванку, збочыў з дарогі, паставіў ровар пад старой вярбой, з'еў хлеба з салам, развязаў мяшок, дастаў акардэон – з бардовым мехам, з беленькімі бліскучымі клавішамі, і толькі ўзяў першыя акорды роднай азярцоўскай песні (а вучыў Антона йграць на старым, ужо даволі дзіравым акардэончыку бацька – выменяў на

кілбасу ў германцаў, што йшлі вайною на Расію і спыніліся ў Косаве), – так, толькі ўзяў першыя акорды роднай песні, як на бруку, проста перад ім, спынілася чорная легкавушка і з яе вылезлі два паліцыянты. І тады Антон расцягнуў мех акардэона на ўсю шырыню і зайграў "Ёшчэ Польска не згінела", паліцыянты сталі на месцы як укапаныя Калі Антон скончыў іграць, яны сышлі з дарогі пад вярбу, селі на траву, Антон адразу ж пачаставаў іх хлебам-салам з цыбуляй, тыя ахвотна падсілкаваліся, сказалі "дзенькуе", пайшлі да машыны і паехалі ў бок Беластока, а Антон усё-такі *падняў* у польскае неба родную песню Ужо добра звечарэла, калі ён угледзеў у баку ад дарогі стажок і хацеў ужо збочыць да яго, каб пераначаваць, а тут раптам з-за павароту яго асляпілі фары машыны Яна спынілася перад роварам, і з яе зноў выйшлі два паліцыянты, падышлі ўшчыльную да хлопца і запатрабавалі паказаць ім *дакуманты* Гэта былі тыя самыя паліцыянты Антон паказаў дакуманты Адзін з паліцыянтаў сказаў, што дакумантаў не хапае, другі даў Антону па шыі, яны селі ў машыну і як нічога і не было паехалі, а Антон павёў ровар з дарогі да стажка Усё-ткі польскае сена пахне не гэтак смачна, як беларускае, азярцоўскае, – падумалася ноччу ў стажку, дый калолася сена ў шыю балюча

У Гайнаўцы пад Беластокам Антон іграў местачковым беларусам – у канцы вуліцы на зялёным выгане, на беразе вузенькай чыстай рачулкі – полечку-трасуху, "Лявоніху", "Мяцеліцу" і абэрак. Але і тут атрымаў па шыі ад паліцыянта Сеў на ровар і – хутчэй дахаты, праз Ціхаволю, Ражану, Косаў

Восенню Антон пабраўся з суседкай Любай, белакосай прыгажуняй Бацька перад сватаннем сказаў яму· "Хопіць дзерці штаны аб плот па начах, гарод у суседа ўвесь стаптаў" У верасні трыццаць дзевятага азярцоўскай вуліцай прайшла запыленая Чырвоная кавалерыя, дзіравыя абмоткі матляліся па баках у коней Двое коннікаў спешыліся ля новай Антонавай хаты ў канцы вуліцы, зайшлі, павіталіся, папрасілі вады, а Люба дала ім малака. "Спасибо, – сказалі яны, і тут адзін з іх угледзеў акардэон – Подарите нам аккордеон!" – "Не, – сказаў Антон – Дужа цяжка дастаўся ён мне" – "Ну, как же так? Мы ваши братья, мы ваши освободители" – "Не, хлопцы, не дам" – "Ну, так мы сами возьмём как *подарок*" – "Не! " Яны ўзялі акардэон і пайшлі з хаты. На ганку Антон учапіўся за акардэон "Родной брат" даў Антону па шыі, але ён не выпускаў акардэон са сваіх учэпістых рук і разам з ім упаў з ганка на зямлю Люба выбегла з хаты ў двор, з двара на вуліцу і залямантавала Кавалерысты пабеглі з двара да сваіх коней Яшчэ два дні йшлі праз вёску *чырвоныя* Антон намерыўся быў схаваць акардэон, але перадумаў – выходзіў на вуліцу, сядаў на лаўку пад вішняй і йграў "Інтэрнацыянал" – чырвоныя бадзёра падскоквалі на сёдлах, казыралі Антону. У час вайны Антон, каб болей не рызыкаваць акардэонам, аблажыў яго маладой сухой саломай, абгарнуў у некалькі столак радном ды брызентам і закапаў у сухой клуні Антона забралі служыць у паліцыі, але ён праз тыдзень, разам з Любай і нямецкай вінтоўкай, уцёк у партызаны, у слонімскія лясы Калі я пытаўся ў дзядзькі Антона, чаму ён уцёк з паліцыі, ён адказваў· "Зразумеў, што немцы і паліцаі па шыі не даюць, а расстрэльваюць і вешаюць" Малых сына і дачку аддалі сваякам у Быцень, але сюды, у мястэчка, неўзабаве прыйшла і Люба, бо зацяжарала. Пасля вайны Антон перацягнуў хату з Азярца ў гарадок Чацвёрты раз па шыі Антон атрымаў у КДБ за тое, што тыдзень праслужыў у паліцыі Дзядзька Антон шмат гадоў працаваў загадчыкам гаспадаркі сярэдняй школы Вуліца разраслася, ёй далі імя Карла Маркса На школьных вечарах Антон Іванавіч іграў дзецям на акардэоне полькі, вальсы, танга, факстроты, а то, бывала, і сам ляцеў па зале ў вальсе пад патэфон ці спаважна – у ботах бліскучых, чорных галіфэ і кіцелі – ішоў у паланезе з маладзенькай настаўніцай Сабінай Францаўнай – за гэта дзядзька Антон аднойчы атрымаў пяты і апошні раз у сваім жыцці па шыі – ад цёткі Любы, але ўдар той быў слабы, бо даланя жончына мяккая, цёплая. Дзядзька Антон, мусіць, даўно ўжо на пенсіі.. Ну, што, Паэт, пойдзем у двор да дзядзькі Антона і цёткі Любы – адтуль ужо чуецца голас акардэона.. Э-э, Паэт, ды ты, бачу, спіш Ах і сабака ж ты! Ну, добра, спі Э-э, пастой, пастой у мяне ж кілбасы яшчэ крыху ёсць

Я дастаў кілбасу, палажыў яе ля Паэтавай пашчы, сабака адразу яе ўнюхаў, расплюшчыў вочы, схапіў кілбасу і пабег падалей ад каменя, лёг на жывот ля палыновага кусціка, узяў кілбасу ў лапы і кусаў яе маладымі зубамі, потым перавярнуўся на спіну, склаў лапы на жываце і, здаецца, зноў заснуў Мусіць, ладна аслабеў за дні





бадзяжніцтва Ну, добра, спі, Паэт А я ўспомню, сам з сабою пагавару – пра яшчэ дзве хаты па вуліцы Маркса

У адной з іх, за сотню метраў ад Антонавай, жыў мой школьны сябра Юра. Ён некалі хацеў дапамагчы мне хутчэй стаць мужчынам – дужым целам і духам

У другой хаце, за метраў дзвесце ад Юравай, жыла мая і Юрава аднакласніца Тамара. Гэта яна некалі хацела дапамагчы мне толькі ў адным каб заўсёды быў сумленным – перад людзьмі, а найперш – перад самім собой

Таварыш Кухараў, ты, вядома, помніш· у апошні дзень вучобы ў дзевятым класе ты зайшоў у кабінет гісторыі і геаграфіі на другім паверсе, знайшоў на сцяне адміністрацыйную карту БССР з часткай Чарнігаўскай вобласці Украіны, адшчапіў зашчапкі ў акне, адарваў ад карты вузенькія драўляныя рэечкі, склаў карту ў некалькі столак і кінуў яе праз акно ў бэзавы зараснік пад сцяной школы, звінеў на калідоры званок з апошняга ўрока, ты зачыніў за сабой дзверы кабінета і адчуў, што ні кроку больш ступіць не зможаш, прыхінуўся спіной да сцяны – спіна дрыжэла, ты чуў, як па скуры цячэ халодны пот Міма, у кабінет, прайшла наша добрая, старэнькая настаўніца Ірына Віктараўна, яна ласкава зірнула мне ў вочы, ціха сказала: "Віншую, Толя. Ты ўжо дзесяцікласнік. – Адчыняючы дзверы кабінета, яшчэ ласкава паўтарыла· – Віншую, дарагі хлопчык".

Ты кінуўся ўніз з другога паверха, выбег на школьны двор, пераскочыў праз невысокую агароджу ў агародчык, за вуглом школы ўбіўся з лёту ў бэзавы зараснік, але. Але перад табой стаяў Юра Стаяў, маўчаў і сурова глядзеў у твае разгубленыя і вільготныя вочы Клятчатая кашуля яго на грудзях была адтапыраная – там ён схаваў карту Ён быў ніжэйшы ад цябе ростам, але крэпкаплечы, з мужчынскімі кулакамі і квадратнай сківіцай Глядзеў на мяне спадылба, сказаў рашучым шэптам "Толя, чаго ты сюды?. Усё! Вечарам да мяне" Ён пераляцеў з кустоў праз агароджу на вуліцу. Ты ўскараскаўся на гэтую высакаватую агароджу, азірнуўся на вуліцы· тратуарам ішла Ірына Віктараўна. Ты скочыў назад, сцішыўся за агароджай і ведаў· парваў аб цвік белую святочную кашулю Вечарам ты ўпотайкі ад бацькоў і сястры пакінуў свой дом, у садзе закінуў за спіну зладкаваны загадзя ранец – нямецкі, рудой цялячай поўсцю наверх, – у ім былі· паўбуханкі хлеба, з кілаграм жоўтага сала і дакумент – камсамольскі білет Юра дома ўкраў (ці можна так казаць у той нашай сітуацыі?) з паўпуда мукі, прадаў яе некаму – каб былі ў нас хоць якія грошы Ноччу вы дасталі з кішэняў штаноў па ладнаму каменю, падышлі да Тамарынай хаты. Вакол было ціха і цёмна, і таму трэск шыфернага даху пад ударамі камянёў гулка раздаўся над хатай, над вуліцай, а вы беглі, беглі і беглі ад таго трэску-грому, ад бразгату расчыненых дзвярэй той хаты, ад уключанага на ганку святла, ад грознага баса брата. " в-ва-шу м-маць!" – беглі ад брэху сабак у дварах па ўсёй вуліцы, беглі на ўскраіну гарадка – да вузкакалейкі. Там на світанні залезлі на пустую платформу, і паравозік паціху, спакойна павёз вас праз Палессе ў Целяханы, там вы саскочылі з платформы і, ужо амаль апоўдні, ступілі на пінскую гравійку Перад вамі вялікая дарога· пяшком і спадарожнымі машынамі да Пінска – адтуль цягніком да Лунінца – і далей – праз Сарны – у Чарнігаўскую вобласць, да Юравай цёткі За Целяханамі вы выйшлі на драўляны мост праз Агінскі канал. Разгарнулі карту· канал вядзе на Ясельду Рашылі гэта вельмі цікава Паелі хлеба з салам, запілі вадой з канала, а яе, вады той, – вузенькі, з пояс, раўчучок, затое яна празрыстая і смачная, бо цячэ між густой зялёнай травы і кветак белых, жоўтых, ружовых, і яны пахнуць мёдам. Берагам канала вяла вас белая, цвёрдая сцежка, і вы запіхнулі чаравікі ў ранец. Праз які кіламетр пачаўся густы забалочаны лес – высокія чорныя вольхі, елкі, бярозы, ля самай сцежкі кусты малін і ажын – з ягадамі буйнымі, чырвонымі і чорнымі І пачалася вада ў канале, глыбокая і шырокая Ля берага стаяла лодка, у ёй – мокрае вясло Вы скокнулі ў лодку, адштурхнуліся ад берага, паплылі, а ззаду нехта крычаў· " ну-у, су-кі!" Нехта бег за вамі, вы выскачылі з лодкі на бераг і пабеглі крэпкімі маладымі нагамі па сцежцы, крычаць ззаду перасталі. Ты рабіў тады ўсё, што рабіў Юра, ён ва ўсім быў вядучым Ты збіў пальцы ног да крыві, Юра – не, бо ў яго скура на нагах была быццам свінячая, і ён табе сказаў: "Ступі ў балота, вымажы ногі гразёю", – ты стаяў на месцы, тады ён піхнуў цябе са сцежкі ў чорную гразь, потым вы пайшлі далей, гразь на нагах засохла, стала коркай, і пальцы не смылелі, і нагам было лёгка.. Звечарэла, калі выйшлі на шырокую, у лузе, і сінюю Ясельду, за тым берагам ціха стаяла вёска, толькі недзе вуркатаў рухавічок кінаперасоўкі. Той бераг быў узгорысты значыць, сухі, а гэты, ваш бераг, быў нізінны, упоравень з вадой, і тут

начаваць не выпадала. Вы распрануліся, звязалі адзежыны тонкім лазовым веццем, Юра ўзяў ранец за рэмень разам з адзежынай сваёй у левую руку, ступіў у раку, падняў левую руку з грузам над галавой, лёг правым бокам на ваду і, фыркаючы, паплыў праз раку Ты ўвайшоў у ваду следам Юра ўжо скакаў, чакаў на беразе, а ты раптам не здужаў, не змог – і рука з адзежынай упала ў ваду... Юра сказаў мне на беразе: "Збірай сухі чарот", – а сам пабег да гародаў і прывалок адтуль сухіх альховых калкоў, збегаў яшчэ раз прывалок дзве тоўстыя жэрдкі, потым ён хутка расклаў вогнішча, іскры паляцелі ў цёмнае неба, мы грэліся ля вясёлага агню, і Юра сказаў· "Сушы сваю адзежыну .." На золку ён разбудзіў цябе: "Твае сухія штаны засталіся на тым беразе, плыві за штанамі, але сушыць іх ужо не будзе калі, дый згарэла ўсё". І ты пераплыў раку назад, узяў перавязаныя штаны ў левую руку, лёг правым бокам на ваду, а яна была цёплая, паплыў Стараўся дыхаць роўна, правай рукой паболей зачэрпваць пад сябе вады, але рука левая пасярэдзіне ракі стала, як я ні тужыўся, апускацца – усё ніжэй і ніжэй. "Дрыгні левай рукой", – сказаў з берага Юра Ты дрыгнуў рукой, штурхнуў яе ўгору, дыхнуў глыбока і сказаў сабе. даплыву Так, ты тады перамог самога сябе, ты стаяў на беразе перад Юрам, трымаў у руцэ сухія штаны і радасна ўсміхнуўся Юравым палагаднелым вачам, але хутка Юра зрабіў свае вочы суровымі, сказаў· "Апранайся". Потым вы спяклі на вуголлі сала. Ах, і смачна ж паелі – як ніколі дома... У Пінску ноччу залезлі на задні вагон пасажырскага цягніка і, калі цягнік рушыў, вы ўчапіліся рукамі за нейкія металічныя цыліндры, прыніклі тварамі да вагоннага даху і разам з цягніком ляцелі, ляцелі. У Лунінцы з перона вам нехта грозна загадаў· "Злазьце!" – а вы ўжо й самі мерыліся злезці Першым, між вагонаў, злазіў Юра. Яго ўжо нехта ўнізе трымаў за каўнер, чакаў цябе Міліцыянер схапіў і цябе, і ў гэты момант Юра вырваўся з ягонай рукі і пабег па пероне ў цемру – з тваім ранцам на спіне. Цябе завялі ў міліцэйскую дзяжурку, дапыталі, пасадзілі на лаўку ў калідоры, а ля дзвярэй сядзеў міліцыянер, тоўсты, чырванашчокі, у ботах і сіняй форме, ногі працягнуў упоперак усяго вузкага калідора і спаў, і ты, нарэшце, падумаў· а што цяпер зрабіў бы Юра? І ты зрабіў· ціха-ціха пераступіў ногі міліцыянера, ціха адчыніў дзверы, ціха іх зачыніў і пайшоў далей ад вакзала, у сквэрыку залез пад лаўку. Потым цэлы дзень выглядаў з кустоў у сквэрыку, але ні на прывакзальнай плошчы, ні на пероне Юры не ўбачыў. А ноччу залез у таварняк заехаў у Баранавічы, адтуль дахаты, у свой гарадок. А Юра праз месяц вярнуўся – прынёс табе ранец, камсамольскі білет. Ён усё-ткі здолеў дабрацца да чарнігаўскай цёткі Вы разам з ім прайшліся вуліцай, міма дома Тамары на даху ў яе замест разбітага шыферу – новыя лісты. Вы стаялі на старым драўляным мосце, абаперліся локцямі на парэнчу, глядзелі ў ваду, там бачылі сябе, і Юра сказаў: "Кахаеш Тамару?" Ты зманіў· "Не!" Юра плюнуў у ваду і сказаў· "А я кахаю". І вы разышліся па сваіх хатах

Я й не заўважыў, успамінаючы сваё, калі Паэт прыйшоў да каменя Ён ціха сядзеў перада мной і глядзеў мне ў вочы. Мусіць, быў здзіўлены мною такім – маўклівым, з апушчанай галавой, са скрыжаванымі на грудзях рукамі, са слязой у вачах. Калі я падняў голаў, ён падпоўз на жываце да маёй нагі, лізнуў яе, зноў паглядзеў у вочы, потым пайшоў да берага, сеў там і глядзеў у ваду, а вада тая ціха цякла, цякла, цякла

Глядзі, Паэт, глядзі ў ваду і не вяртайся да каменя, таму што сёння я пакажу табе Тамарыну хату, а можа, і ў двор зойдзем, а цяпер пакуль што я ўспомню на камені і тое, тое... Таму ты не вяртайся да каменя, каб не бачыць маіх слёз..

.. Тамара выйшла з-за сваёй, пярэдняй, парты, павярнулася тварам да класа і лёгка, светла ўсміхнулася. Усміхнулася яна і маладому настаўніку матэматыкі, маладому і нейкаму нягегламу Ён стаіць ля стала, упарта глядзіць у журнал і не ўласцівым яму басам просіць запісаць на дошцы формулы сінуса, косінуса, тангенса і катангенса. Тамара крутанулася на месцы так хораша, што ажно яе паркалёвая, квятастая сукенка двойчы ахінула стрункія ногі – а ногі ў простых чорных чаравіках са шнуркамі, жоўтая доўгая каса са спіны цераз плячо ўпала на грудзі – на вострую, пад сукенкай, цыцачку, (Юра, я бачыў, адным вокам, лавіў спадылба гэты момант – палёт Тамарынай касы, ды й усе хлопцы, і я, таксама спадылба, зіркалі туды), яна брала крэйду і пісала на дошцы няспешна, упэўнена, акуратна. Паварочвалася да класа, зноў усміхалася ўбок аднаму настаўніку, а той, не адрываючы вачэй ад журнала, нават скоса не глянуўшы на дошку, казаў: "Пяць, Васільцава. Сядайце"

..Вечарам я йшоў нашай вуліцай – проста, каб прайсціся ля Тамарынай хаты, а перад хатай, у святле яе вокнаў, ціха стаялі ў агародчыку кусты вяргіняў – жоўтых, чырвоных, белых, пунсовых, понізу бялелі астры, бялелі па-восеньску самотна-вечарова, і тады плойма ясных зорак у небе здавалася мне вяснушкамі, якія нанач пакінулі Тамарын твар – навошта яны ёй ноччу?

..У школьным калідоры вісіць аб'ява: "После уроков состоится заседание комитета комсомола школы с повесткой дня.. " Юра, самы здольны ў класе да вучобы, быў выкліканы на камітэт ужо не раз – з-за "двоек" Ён сказаў мне. "Атрымай "двойку" – патрапіш на камітэт, убачыш дзіўную Тамару" Мы сядзелі з ім за адной, задняй, партай, і ён бачыў, што я, як і ён, паглядваю на Тамарыну касу Я атрымаў не тое што "двойку" – "адзінку" (хаця й вывучыў дома на памяць верш, але на ўроку, калі мяне настаўніца рускай літаратуры выклікала да дошкі, сказаў, што забыўся), і ў канцы ўрокаў Тамара строга сказала мне. "Сёння – на камітэт"

Я стаяў з апушчанай галавой перад сталом, пакрытым чырвонай тканінай. За сталом сядзеў камітэт, мудра падпёршы рукамі галовы Пасярэдзіне стаяла Васільцава, упершыся кулачкамі ў стол, і казала "Комсомолец Кухарев, как тебе не стыдно! Редко "тройку" получал А тут – на тебе: "единица"! Позор всему классу! Какой позор! Видите: он опустил голову Подними голову! Посмотри всем нам в глаза!"

Я падняў галаву, паглядзеў у Тамарыны суровыя, нават злыя, але такія прыгожыя сінія вочы – і мне стала смешна, і я ўсміхнуўся на ўвесь свой рот Тамара не вытрымала і таксама ўсміхнулася Потым села і сказала: "Ладно, комсомолец Кухарев, иди домой и впредь смотри.. "

Юра чакаў мяне на школьным двары: "Ну, як?" – "А нічога, цікава" – "Яшчэ пойдзеш на камітэт?" – "Пагляджу" – "Ну, ты глядзі ў мяне". – Юра паказаў мне кулак.

. Мы ўсе ў класе плакалі тым сакавіцкім ранкам Дырэктар школы прыйшла да нас на ўрок, села на крэсла, паклала далоні на журнал, на далоні апусціла сівавалосую галаву і зарыдала так, што трэслася яе галава, трэсліся плечы, тросся стол. На момант сціхла і, захлынуючыся слязамі, прашаптала, не падымаючы галавы з далоняў: "Умер!.. умер. Сталин" І зноў плакала, трэслася Тут за пярэдняй партай, перад сталом настаўніцы, роспачна крыкнула Тамара – "Ой!" і ўпала галавой на свае рукі, галасна заплакала За Тамарай расплакаліся ўсе дзяўчаты Хлопцы паапускалі галовы, выціснулі слязу Тамара падышла да мяне на перапынку, сказала, каб я склаў верш на смерць Сталіна ў насценгазету Я напісаў. На другі дзень школа чытала ў насценгазеце: "Мир слёз сдержать не может Умер наш великий вождь. Сердца́ нам горе гложет Слёзы льются, словно дождь".

Праз некалькі дзён Тамара сказала мне строга, як камсамольская начальніца. "Я вырежу твоё стихотворение и помещу в свой альбом на память, но – с условием· чтобы больше – ни одной двойки, тем более, единицы" Я сказаў: "Тамара, дазволь яшчэ хоць раз атрымаць двойку" Яна зрабіла свае вочы яшчэ больш суровымі, але ненадоўга – не вытрымала, засмяялася. "Ну и шутники вы с Юрой". Міма нас па калідоры праходзіў, угнуўшы голаў, малады матэматык, спатыкнуўся аб нешта, я паглядзеў на падлогу: нічога, здаецца, – толькі Тамара паспела ўжо прыставіць адну нагу сваю ў чорным чаравіку да другой..

Летам мы з Юрам кінулі каменне на шыферны дах яе хаты Восенню на вечары ў школьнай зале я, нарэшце, асмеліўся – запрасіў Тамару на вальс "Амурскія хвалі", і не я, а яна мяне вяла ў вальсе, бо я быў слабы танцор, а яшчэ больш слабы як хлопец, бо, заікаючыся, шаптаў ёй· "Т-тамара, гэта мы з Юрам к-кінулі к-каменне" Яна абмякла, прыпынілася і сказала. "Толя, Толя! Што прызнаўся – добра. Гэта значыць – пакаяўся. Але навошта Юру выдаў? ."

Я стаяў у далёкім цемнаватым кутку залы, чуў, як гарэў мой твар, як выступіў пот на спіне, бачыў, як праз некалькі танцаў Тамара, калі аб'явілі "белы вальс", прайшла праз усю залу, запрасіла Юру .

– Паэт! – крыкнуў я сабаку і штурхнуў яго нагой – Прачніся, Паэт! Тыя Тамарыны словы "навошта Юру выдаў?" пякуць мяне ўсё жыццё! Я баяўся сюды прыязджаць, баяўся гэтай вуліцы, гэтай хаты! Баяўся!

Сабака спалохаўся майго крыку, ускочыў на лапы, жаласліва, ціха гаўкнуў, задам адступіўся далей ад мяне, ад каменя· мусіць, падумаў, што ўдару. Але я працягнуў да яго руку, ласкава паклікаў·

– Цю-цю. – Паэт супакоена вільнуў хвосцікам, падпоўз да мяне Скажы, Паэт, білі

цябе ўжо ці яшчэ не? Я ніколі цябе не ўдару. І ведай· найбалючай б'юць словам. І асабліва невыносна, калі словам ударыць любімы чалавек Добра вам, сабакам. вы не разумееце чалавечай мовы. О, калі б вы разумелі чалавечую мову – як бы вы пакутавалі! Столькі брыдоты чалавек вылівае на вас, ды ўсё-ткі многія з нас, чалавекаў, о як хацелі б быць простымі сабакамі.

Але, на жаль, і сабакі ўсё разумеюць, мову чалавечую разумеюць асабліва – тон яе, голас. І ціха сказаў я свайму сабаку· – Ты ж, Паэт, разумееш мяне? Разумееш?

Паэт ад задавальнення заблытаўся ў калашынах маіх штаноў, гуляў там, лізаў мне ногі цёплым язычком

Мы ідзём з ім ад каменя – на дарогу, праз мост, па вуліцы. Насустрач, задраўшы галаву ўгору, важна, не гледзячы па баках, ступае рыжы сабака, параўняўся з намі, скоса зірнуў на Паэта Я здагадаўся сучка. Паэт быў памкнуўся да яе, дружалюбна вільнуў хвосцікам, ціха-мірна заскуголіў, але рыжая пагрозліва ашчэрыла клыкі, забурчала. Паэт адступіўся. Рыжая пабегла Магчыма, Паэтава матка. Мусіць, адчула сваё, крэўнае – і таму пабегла Ганарлівая, як адна сталічная паэтэса ..

Мы з сабакам перад Антонавым дваром Я стаю з сумкай у руцэ, Паэт сядзіць ля маёй нагі, неспакойна б'е хвосцікам па зямлі Агароджа не дашчаная, як некалі, а зваранaя з металічных прутоў, але, як і тады, пафарбаваная ў чырвоны колер З абодвух бакоў агароджы – густое лапушынне, у глыбіні двара – тая самая, але ўжо нахіленая альтанка, яблыні над ёй няма, толькі тырчыць з травы счарнелы пянёк, за альтанкай – той самы калодзеж з адным на ўсю вуліцу жураўлём Калупаюцца, шамацяць у лапушынні куры, вогненна-чырвоны певень глядзіць на нас, і мой сабака сказаў яму ці, можа, прыадчыненым у сенцы дзвярам·

– Гаў!

Певень паставіў грэбень, выцягнуў шыю, кукарэкнуў – адгукнуўся на сабачае прывітанне

І тады з сенцаў на ганак выступіла вузлаватая кульба ў сухой далоні, за кульбай пераступіў парог стары дзед – лысы, з сівымі валасамі за вушамі Следам на ганак выйшла гэткая ж сівая бабуля, але наўздзіў, блакітнавокая Абое ў тапцях на босыя ногі. Бабуля вызірала з-за пляча дзеда Так мы й стаялі, маўчалі Потым я сказаў·

– Добры дзень, дзядзька Антон і цётка Люба!

Яны адказалі – паздароўкаліся

– Дзядзька Антон, – сказаў я, – а вынесіце свой акардэон і барабан

Ён паставіў сухую далонь паверх жоўтых броваў, паўзіраўся ў мяне, моўчкі пайшоў у хату, цётка – за ім Ён вынес барабан, яна, трымаючы абедзвюма рукамі на грудзях, – акардэон Дзядзька Антон сеў на лаўку пад сцяной, цётка Люба паставіла яму на калені акардэон і не ведала, што рабіць з барабанам Я адчыніў веснічкі, зайшоў у двор, сеў ля дзядзькі Антона, узяў барабан, сказаў·

– Грайце, дзядзька Антон, польку

Глядзеў, глядзеў на мяне потым, адразу – нечакана і бадзёра – сыпануў у двор, на вуліцу польку Я патрос барабанам, бомы і медныя бляшкі зазвінелі, ударыў палачкай па шэра-жоўтай скуры, забарабаніў; дзед тупнуў нагой па зямлі, і я тупнуў, баба стаяла збоку і ўсміхалася, куры з пеўнем пабеглі за вугал хаты, Паэт стаў на заднія лапы, пярэднія паклаў мне на калені і глядзеў, што я раблю У хаце насупраць парасчыняліся вокны, і з іх вытыркнуліся галовы, жаночыя і дзіцячыя.

Калі мы з дзядзькам прысталі, цётка Люба сказала.

– Толя?!

Дзядзька Антон ажно ўстаў, абапершыся на кульбу·

– Толя?!

– Я. Пачуў вашу музыку “Широка страна ”

– Во-во, Толя Толькі гэта і граю ды яшчэ гімн А калі, бывала, зайграю польку, ці вальсы, ці якую песню нашую, і хай адно пачуе хто з міліцыі, дык прыйдзе і скажа гражданін, вы парушаеце *абшчэственны парадак* Магнітафонам, транзістарам – ім можна грымець на вуліцы дзень і ноч, а калі акардэон, гармонік – нельга, *абшчэственны парадак. .* Ну, дык што, баба, кліч Толю. Кажу – Толю. Колькі табе ўжо?

– Сорак пяць.

– Та-ак. Ну, што ж. А мне і бабе па семдзесят Ну, пайшлі ў хату... Але ведай, Толя





як адно адчую, што мне во-во пара туды Ну, туды... выпаўзу на вуліцу ды гэтак урэжу “Лявоніху”, ох і ўрэжу! .

Я паказаў Паэту месца пад лаўкай, ля сумкі Цётка Люба вынесла і кінула яму пад лаўку цёплую, з мясам, костку

Мы з гадзіну пасядзелі ў хаце за сталом, пагаманілі, паўспаміналі Дзядзька Антон наліваў у чаркі крэпкую, чыстую самагонку, цётка Люба даставала з цёплай печы дранікі Я выпіў адну чарку-стограмоўку, з другой – крышачку, сказаў, што больш мне нельга Старыя пажаліліся, што дзеці іхнія далёка, прыязджаюць рэдка, больш – на каляды, калі над печчу развешаны кілбасы, і ў хаце пахне свежынай .

Дзядзька Антон падпіў і весела, у каторы ўжо раз, расказвае мне, як некалі, пры паляках, ездзіў роварам – “рогі рулі – уперад, на Еўропу” – у Варшаву па акардэон, успамінаў – смяяўся, – як давалі яму па шыі.

– Скажы, Толя, а ці даюць цяпер за што-небудзь па шыі?

– Даюць, – кажу – Я сам ні разу не атрымліваў, але чуў, што даюць.

– То яно, Толя, так і даўней усё было – паліцыя, міліцыя. А от як выганяюць з Савецкага Саюза дык даюць па шыі?

– Не Дзядзька Антон, не даюць.

– І пад сраку – не?

– Не ведаю

Дзядзька Антон прыставіў далонь да рота, шэптам сказаў·

– Мне сын пакінуў транзістар, дык я калі паслухаю. Чуў, што даюць у нас у нейкіх бальніцах такія ўколы, што людзі ну, тыя, што пішуць ці кажуць супраць марксізму-камунізму.. што гэтыя людзі ад тых уколаў дурнеюць.

Я азірнуўся па хаце, на вокны І сам сабе падумаў· а ты чаго, Кухараў, азіраешся? Ты ж нічога такога яшчэ не сказаў тут, дык чаго азіраешся?

– Не ведаю, дзядзька Антон, не ведаю Не быў ні ў міліцыі, ні ў бальніцы той

– А чаму ж ты, Толя, такі граматны, і не быў?

Што было адказаць на гэтае шчырае пытанне старога чалавека? І я прамаўчаў, мне не было чаго сказаць. Хаця мяне й ганялі . Ды я й сам сябе ганяў

– А Юра патрапіў да іх. Ты ж помніш Юру?

Я насцярожыўся За дзвярыма ў сенцах заскуголіў Паэт Баба Люба пусціла яго ў хату Паэт згарнуўся на падлозе ў мяне пад нагамі.

– Помніш Юру? – паўтарыў дзядзька Антон

– А што з ім? І дзе ён цяпер?

Мне было балюча пытацца пра Юру, але я павінен ведаць.

Дзядзька Антон наліў сабе на дно чаркі.

– Дзе-эд! – цётка Люба ад печы паківала яму пальцам

Але дзед глытнуў, захрумсцеў маладым, з грады, гурком – зубы ў яго былі крэпкія, не тое, што ў мяне Мае зубы даўно адбалелі, сталіківацца, перашкаджаць есці, дык я пальцы ў рот, крутну зуб, дастаю і кідаю ў карабок ад запалак Шкада мне сваіх зубоў, старэю, балюча выкідваць – усё ж такі колькі гадоў служылі. Старэю А можа, і хобі адзін збірае маркі паштовыя, іншы – значкі, а я Той карабок з пяццю-шасцю зубамі і цяпер у мяне ў сумцы. Зубы счарнелыя, падгнілыя, але яны – мае, родныя .

Раптам дзядзька перастаў закусваць, насцярожыў вуха, прыслухаўся.

– Ты, баба, лепей глянь у акно – у двары нікога няма?

Яна глянула

– А хто там будзе? Няма Але ўсё адно не дужа мянці ты ўжо языком сваім

– З Толем можна. Можна, Толя?

Я прамаўчаў

– Ну, калі маўчыць, то – можна

Я паставіў локці на стол, сашчапіў скроні далонямі· прадчуваў, мне будзе цяжка слухаць пра Юру

Дзядзька Антон узяў бутэльку, але цётка Люба так паглядзела на яго, што ён паставіў яе пад стол і стаў гаварыць.

– А што многа казаць. Юра быў *дасядэнтам..* Гэта ж скончыў інстытут, канстуктарам стаў... Ды ўзяўся чытаць нейкія самаробныя кніжкі, і сам у іх нешта пісаў проці Брэжнева. Не пад сваім імем А нейкі друг узяў ды й выдаў яго Ну й павалаклі Юру ў

тую бальніцу, праз год выпусцілі Прыехаў Юра дахаты, а хата пустая – бацькі паўміралі. Вярнуўся ён зусім хворы, твар распухлы, вочы як не свае, усё ў неба глядзяць, рукі, ногі дрыжаць. . Брат малодшы яго, у Мінску токарам, памагае Юру грашыма – на хлеб, малако, цукар... А ён сноўдае з торбай па скверыках, па кустах, па вакзале, збірае пустыя бутэлькі, здасць, купіць віна, зачыніцца ў хаце, п'е . Добра, што не курыць, а то спаліў бы хату ..

Я расшчапіў на скронях рукі, закурыў. Цётка Люба паставіла на стол попельніцу Дзядзька Антон пайшоў да канапы, прылёг, і адтуль, з кута, казаў·

– І някепска, здаецца, жывём. Ёсць і ў хаце, і ў дварэ, і ў краме. Але жывём, як свінні.. От, паеж, паработай, паеж, паляжы, пахрукай, да ветру сходзі, зноў паработай, ну, хто ўмее – пайграй "Широка страна..." Ну, хто малады – паработай, пагрымі транзістарам, напіся, пабіся, напаскудзь, палайся; з дзяўчатамі хлопцы ноччу не ходзяць, салаўёў не слухаюць, футбол па тэлевізары глядзяць, а самі ў футбол не гуляюць, слабыя, а старога могуць на цёмнай вуліцы пабіць, паланез не станцуюць, толькі дрыгаюць нагамі пад магнітафон, кніжак не чытаюць, але пішуць, драпаюць на сценах у туалетах, на спінках сядзенняў .. Але калі папросіш, то .. нейкае дзіва. з аўтобуса памогуць сысці, ці ўвайсці

Дзядзька Антон уздыхнуў, паскроб патыліцу

– Нешта ж ёсць у людзях добрае, але глыбока-глыбока схаванае. – Ён на момант аціх у сваім кутку, потым прыўзняў з падушкі галаву, зноў, як за сталом, прыслухаўся Цётка Люба засмяялася – на крэсле ля акна яна нешта вязала з ружовых ваўняных ніттак – і сказала, смеючыся·

– Ой, *сідэнт* ты мой сівенькі, лысенькі, п'яненькі...

Я ўсё маўчаў. Не выходзіў з маёй памяці Юра – Юра тых далёкіх, як за густым туманам, дзіцяча-юначых летаў

Дзядзька Антон, здаецца, засынае і, засынаючы, ціха, амаль шэптам, як сам сабе ўжо, кажа.

– А ўсё гэтыя вусатыя Хто гэтым першым вусатым быў? Маркс. Потым? Пілсудскі, Гітлер, Сталін.. Некага я пасля Маркса прапусціў Мікіту вусы не йшлі б – белыя былі б, як вусы на кукурузіне Трэба, каб вусы ў іх былі чорныя Але чаму Лёнька без вусоў? Яму вусы пайшлі б А то й сківіцы відно па тэлевізары, не работаюць, і вусоў няма А ў нас, у Беларусі, Толя, чарнавусыя галоўнымі былі ці не? – Ён не чакае, ці адкажу я. – Не было дык будуць..

Апошнія словы дзядзька Антон сказаў ужо зусім ціха і адвярнуўся тварам да сцяны. І ўсё-ткі яшчэ бурчаў з-пад сцяны·

– Жыву на вуліцы Маркса, а Маркса не ведаю, "Капітал" не чытаў. І ты не чытаў І райкомаўцы не чыталі . Толя, ты яшчэ пабарабаніш мне

Дзядзька Антон заснуў

– Толя, кажа цётка Люба, – хадзем пакажу табе свой гарод.

Мы выйшлі з хаты, Паэт за намі, прайшлі праз двор за хлеў Там былі грады Зямля для гарода прыдатная – чорная, тлустая. І гэтая зямля буяла – вынесла з сябе наверх крамяныя сцябліны, лісце, стручкі Над усім стаялі дзябёлыя сланечнікі з залатым кветам, кіеўкі з шаўковымі кутасамі, ніжэй – зараснік кропу над гурочнікам, ускрай барознаў – высокія кусцікі бобу з буйнымі стручкамі і густое гарахавінне распаўзлося па тоненькіх вяроўчынках між калкамі, града з ружавеючым бацвіннем буракоў і морквай, града памідораў – чырвоных і жоўтых, краямі гэтае грады сінеюць бліз зямлі – цяжкія ўжо – баклажаны і па ўсім гародзе, урассыпную, каляндра і яшчэ кроп ды ўсякая іншая "пятрушка", асобная града цыбулі, паўграды часнаку, і яшчэ – сцябліны з буйнымі, яшчэ зялёнымі галоўкамі маку.

Паэт схаваўся ў баразне, валтузіўся там у лісці, задаволена папіскваў

– Ідзі, Толя, у грады, пашукай гуркоў і гарох ужо можна. А я пайду трохі ўпраўлюся Ідзі

Цётка Люба пайшла ў хату, бразгатала ў сенцах чыгункамі, вёдрамі

Я сышоў у баразну між градамі Баразна была такая глыбокая, што я проста патануў да плячэй у зяленіве Кіёўкі стаялі высока нада мной, а стручок гароху даткнуўся да маіх губ Стручок быў зялёны, але ўжо поўны, цвёрды Даўно-даўно я не каштаваў зялёнага, свежага, сакаўнога гароху – даўно, з часоў гародаў і барознаў маленства ў Ямнаўцы, Вікаўцы, Чорных Пясках. І я сарваў стручок, доўга жаваў яго, разам з гарошынамі, і





яшчэ два-тры стручкі сарваў, – хай даруе мне цётка Люба, – заплюшчыў вочы – каб адчуць далёкія, пасляваенныя барозны...

Паэт папоўз перада мной, а я расхінаю асцярожна зяленіва па баках, ступаю баразной. Раптам мне захацелася нечага такога, чаго ўжо даўно-даўно не зведваў, і зразумеў, чаго – я схіліўся, зняў чаравікі, шкарпэткі, кінуў іх у траву перад градамі І адчуў босымі нагамі гэтую зямлю – свежа-прахалодную пад цёплым паветрам зверху І мне захацелася сесці ўсім целам – нагамі, рукамі, плячыма й галавой, легчы ў баразне. Але ўвесь я не лёг, сеў толькі на край грады, але й так зяленіва густа самкнулася нада мной Промні сонца йшлі праз лістоту ўніз, на дно баразны, і я бачыў тое, чаго таксама даўно ўжо не бачыў· ружовых чарвякоў, чорных жучкоў, сініх мушак, белых і жоўтых матылькоў І йшоў на мяне сюды зградаў пах гурочніку і кропу Паэт падпоўз да мяне, згарнуўся, цёпла дыхаў на ногі Здаецца, сядзеў бы так доўга-доўга – гэтак добра тут, у глыбокай баразне, у зяленіве, гэтак цесна паядналіся мы тут – усе і ўсё. Зямля пад нагамі, лісце, макрыца, сцябліны высокія і маленькія, пах зялёны, чарвякі, казюркі, матылькі, і – я з усім гэтым, і ціхае святло зверху ..

– Т-оля! – голас цёткі Любы амаль побач.

Маўчу Але азваўся Паэт – гаўкнуў

– То-оля!

Маўчу Нібы знямеў Як нешта са мною здарылася. Ударыў кулаком па галаве – баліць. Значыць – адчуваю, значыць – усё добра. Ах, гэта мне проста сорамна Сорамна от так узяць і падняцца з баразны і стаць перад цёткай Любай

А яна ўсё зразумела, яна падышла бліжэй і ціха сказала

– Толя, пайшлі ў хату

Я расхінуў рукамі над галавой зяленіва, выйшаў з гарода Цётка выцірала рукі фартухом, ціха, як сабе, усміхалася

Я абуўся і сказаў·

– Дзякуй, цётка Люба, дзякуй вам і дзядзьку Антону Я пайду Мы, дасць Бог, яшчэ пабачымся

Пад страхой (патрэсканая, гнілая гонта з купкамі чорнага моху) хлява вісела ржавая рама з выгнутымі ўперад, як рогі ў барана, канцамі рулі ..

Праз дзве-тры, ад дзядзькі Антона, хаты – будынак з ашаляванымі брудна-шэрымі сценамі – "Столовая" На тратуары перад сталоўкай з паўсотні мужчын і маладых хлопцаў Натоўп гэты крычыць, стаіць, хістаецца, калышацца, рухаецца – людзі пераступаюць з месца на месца, натоўп плюецца, смаркаецца, лаецца, задзіраецца, рагоча. Былі тут з чырвонымі насамі, з пакалечанымі насамі, з сінякамі пад вачыма; былі ў дзіравых кашулях, даношаных чаравіках; за вуглом, ля сцяны, двое-трое расшпільваюць прарэхі дрыжачымі рукамі, зашпіліць забываюцца, смурод ад рыжай лужыны, з расчыненых вокнаў сталоўкі патыхае пратухлай мойвай, з натоўпу чуецца, апроч лаянкі, адно. "дваццаць капеек", "рубля", "дваццаць пяць капеек ёсць?", "давай па рублю", "не хапае дзесяць капеек дай!", – "капеек. ", "дай", "дай", "а ў рыла не хо?", ". .іздуй адсюль!" – "пайшоў на . уй!" – "дваццаць? Вазьмі, . .лядзь!.."

Усё гэта я пачуў і ўбачыў адразу на падыходзе да натоўпу, прайсці праз яго тратуарам немагчыма, ды мне й не хочацца ісці праз яго, і мы з сабакам ступілі на асфальт, каб абагнуць гэты "вавілон" ці перайсці на той бок вуліцы. І тут да мяне рынуўся з натоўпу мужчына ў памятым брудным капелюшы, з ружовым носам, з прыпухлымі мяшкамі пад вачыма, у дзіравых спартыўных тапках. Ён груба схапіў мяне за локаць, глянуў на мяне спадылба і памкнуўся зрабіць на азызлым твары ўсмешку, але гэта ў яго не атрымалася, і ён проста, з мальбой у вачах, сказаў:

– Гражданін харошы, дайце рубля...

Сабака гаўкнуў Я даў яму рубля Ён злёгку стукнуў мяне па плячы – маўляў, хаця й пры гальштуку, але свой чалавек, – і сказаў·

– Благадарствую

Павярнуўся шырокай, яшчэ, мусіць, крэпкай спіной, пайшоў у сталоўку – там ёсць буфет, дзе даюць за рубля шклянку "чарніла", а за дваццаць дзве капейкі – куфель кіслага піва.

Ступіў я яшчэ колькі крокаў па вуліцы і тут да мяне падбеглі пяцёра-шасцёра маладых хлопцаў, і адзін з іх, таўстагубы, таўстаносы, прамямліў:

– Дзядуля, а не даў бы й нам пару рублікаў А канкрэтна – трошку.
Ён палажыў мне на плячо цяжкую далонь і не міргаючы, глядзеў мне ў вочы і дадаў скрозь зубы
– Юру ты даў А мы яго друзья
Я рашуча страсянуў плячом. І тут Паэт узарваўся забрахаў на ўсю вуліцу, скокнуў да таўстагубага і праз штаны, мусіць, усадзіў яму ў нагу зубы. Хлопец гаркнуў на сабаку, махнуў нагой, падняў яе разам з сабакам. Што было б тут, паміж усімі намі, не ведаю, – калі б пасярэдзіне вуліцы, ля натоўпу не спынілася машына з будкай – міліцыя. Сабака адарваўся ад той нагі, бэйбусы спешна пайшлі ад мяне па тратуары Чацвёра міліцыянераў выскачылі з будкі, кінуліся да прыціхлага натоўпу, схапілі аднаго, першага з краю, каторы няпэўна трымаўся на нагах, вытрашчыўшы на іх асалавелыя вочы, кінулі яго ў будку, потым – другога, трэцяга, бразнулі дзверцамі знутры, і машына паехала. Але адзін міліцыянер, нізкарослы, рыжавусы сяржант, застаўся ля сталоўкі і крыкнуў натоўпу·
– Усе астальныя – пара на работу! Ну, што я сказаў! Скарэй бы ўжо ўвялі дубінкі.
Натоўп пакрысе радзеў. Я глянуў на гадзіннік: было адзінаццаць. Сяржант пайшоў у сталоўку Я з сабакам – за ім як там Юра? Калі што якое – трэба ж ратаваць яго.
А Юра сядзеў адзін за кутнім столікам, адкінуўшы галаву на сцяну за спінкай крэсла, і спаў
– Па работах! – крыкнуў сяржант у сталоўцы
Мужыкі спешна дахлёбвалі віно і піва, яно цякло з ратоў на сталы, на падлогу, стаяў смурод. Я падышоў да кутняга стала, Паэт спалохана блытаўся ў мяне ў нагах. Туды ж падышоў і сяржант, хацеў Юру нешта сказаць, але толькі махнуў рукой. Уважліва паглядзеў на мяне, кінуў вокам на гальштук, на сумку і адышоў. Буфетчыца падняла перад ім шырокую, з дээспэ, дошку на ўваходзе ў буфет, адчыніла дзверы ў чысты, светлы пакойчык, зачыніла, праз дзве – тры хвіліны недзе там бразнулі яшчэ дзверы, і міліцэйская фуражка мільганула ў бакавым акне сталоўкі
– Юра! – сказаў я. – Юра!
Ён крэпка спаў
– Не трывожце чалавека! – крыкнула мне буфетчыца. – Чалавек хворы!
– Юра! – Я патрос яго за плячо
Ён цяжка расплюшчыў вочы, доўга глядзеў на мяне і, нарэшце, успомніў, сказаў·
– А-а, той, што даў мне рубля
– Юра, выйдзем на вуліцу!
– А – я толькі вазьмі з сабой бутэльку віна
– Вазьму, Юра Толькі ўстань, ідзі
– Вазьмі я йду.
Ён упёрся рукамі ў стол, неяк падняўся, пахістаўся і, трымаючыся рукамі за сцяну, выйшаў са сталоўкі Я купіў віна – на ўсякі выпадак, будзе відаць, – схаваў бутэльку ў сумку, выйшаў на вуліцу Юра трымаўся аберуч за агароджу, звесіўшы галаву, глядзеў збоку, ці выйшаў я Убачыў, адштурхнуўся ад агароджы, паклікаў мяне пальцам
Я вёў Юру пад руку па тратуары – у бок яго хаты, і мы абодва хісталіся – Юра хістаў мяне Той самы рыжавусы сяржант сустрэўся нам амаль каля хаты, уважліва зноў паглядзеў на мяне, але не зачапіў, пайшоў
Юра штурхнуў дзверы нагой і першы пераступіў парог, азірнуўся ў сенцах – ці йду
У хаце было цьмяна, вокны завешаны бруднымі фіранкамі, пахла сырасцю й мышамі, сухія скарынкі хлеба, косткі рыбы раскіданыя па падлозе Юра ўпаў на крэсла за сталом, узяў з падаконніка брудную шклянку
– Нал-лівай!
Я стаяў перад ім і думаў: даставаць бутэльку ці не?
Юра падняў на мяне вочы·
– А ты хто будзеш?
Я доўга маўчаў Ён не вытрываў·
– Нал-лівай!
І тады я сказаў·
– Юра! Успомні школу, успомні Толю Кухарава, успомні наша з табой падарожжа ў Чарнігаў
І Юра ўсміхнуўся – нешта ўспомніў, спадылба, як і некалі даўно, глядзеў на мяне, ціха сказаў·





І пераплывалі Ясельду Ну, добра, налівай . І яшчэ сходзіш
Ён упаў галавой на стол
Усё, Юра, – падумаў я, сустрэчы ў нас з табой сёння не атрымалася.
На сцяне, проста над Юрам, прымацаваная кнопкамі, – вырваная з часопіса "Советское фото" рэпрадукцыя каляровага здымка Брэжнеў і каўказец у бурцы, Герой Сацыялістычнай Працы, – трымаюць фужэры з іскрыстым вінам на фоне снегавых вяршыняў і белых аблокаў, абодва – як горныя арлы..
Я дастаў з сумкі бутэльку, паставіў на стол і выйшаў з хаты Паэт чакаў мяне на ганку Я сеў на калоду, што стаяла ў густой, высокай крапіве Паэт стаў на заднія лапы, пярэднія паклаў мне на калені і задуменна глядзеў на акно. Я чуў, як там, за акном у хаце, стукнула па стале, мусіць, адкаркаваная бутэлька, і раптам мне захацелася вярнуцца ў хату – напіцца разам з Юрам на фоне снегавых вяршыняў і белых аблокаў. Але ж трэба ў райком, і мы з сабакам выйшлі на вуліцу
Крыху не дайшоўшы да хаты Тамары Васільцавай, мы з сабакам перайшлі на другі бок вуліцы Пашанцавала пад агароджай чыёйсьці хаты – лаўка, і я сеў якраз насупраць двара Васільцавых. Сабака бегаў за матыльком, хацеў ухапіць яго лапай у паветры. У агародчыку насупраць, як і тады, даўно, – кусты вяргіняў, але кветкі на іх яшчэ не распусціліся, а восеньскія астры толькі ў зялёным лісці Весела, ясна цвітуць півоні, касачы, чырвоны мак. Кветкамі, помніцца, заўсёды турбаваўся Тамарын брат Барыс, сама ж Тамара была занятая вучобай і камсамолам.
У іхнім двары – нікога, адны куры да індыкі Нехта там, у хаце, выглянуў у акно, пільна паўглядаўся ў мяне і захінуў фіранку Але вось бразнулі дзверы, і з сенцаў у двор выйшлі дзве жанчыны ў квятастых халатах Адна вынесла вёдры, з іх ішла пара, другая трымала на шырокіх клубах бляшаныя начоўкі з бялізнай За імі ў двор, а з двара на вуліцу высыпала з хаты малеча – напэўна, унукі Тая, што з начоўкамі, крыкнула ім
Дети, далеко не бегайте!
А дзеці ўжо забаўляліся з маім сабакам – працягвалі да яго рукі, ён скакаў да іх, яны адмахваліся, смяяліся Жанчына, ані не зважаючы на мяне, зноў гукнула з двара.
– Дети! Может, собака заразная Не трогайте!
Малыя адступіліся ад сабакі, пабеглі па вуліцы, Паэт весела кінуўся за імі, але хлопчык ухапіў з зямлі камень, шпурнуў у Паэта, той лоўка ўхіліўся, недаўменна гаўкнуў услед дзецям і зноў прыбег да маіх ног, сеў
Жанчыны ў двары сталі мыць, паласкаць. Я зірнуў на дах, шыфер на ім новенькі – бліскучы, чысты
Дзеці вярнуліся і зноў, забыўшыся, прычапіліся да Паэта І зноў шыракаклубая крыкнула.
– Я что вам сказала! Собака может быть заразной!
І што тут здарылася Паэт як зразумеў, што яго ганяць, і кінуўся праз расчыненыя веснічкі ў двор Васільцавых, схапіў зубамі за халат жанчыны, пацягнуў на сябе, ірвануў Я паклікаў·
– Паэт! Паэт!
Але той як не чуў мяне і ўсё скакаў вакол тоўстых ног, а жанчына цяжка махала нагамі на сабаку і яшчэ больш раз'юшвала яго
– Уберите эту сволочь! – крыкнула яна мне праз вуліцу
Я хуценька зайшоў у двор, злавіў Паэта за вуха, ён, як дзіця, заенчыў Другая жанчына сціішана, спакойна сказала
– Ой, што ж вы яго так..
А тая, мажная, вяла сваё.
– Ещё и об землю его, об землю! Такую мразь
І тут я аслупянеў· у гэтай жанчыны на твары, асабліва пад блакітнымі вачыма – вяснушкі, не – рабацінне, рабацінне на скуры рук, ног ніжэй халата, адно крысо якога разадранае Паэтам
Я стаяў перад Тамарай, трымаў на руках сабаку, і мы ўсе маўчалі. Яна трымала ў руцэ мокрую кашулю, з якое падалі ў траву мыльныя кроплі Васільцава ўважліва, хоць і збоку, паглядзела мне ў вочы і ўжо супакоена сказала.
– Сядьте на скамейку .
Я сеў і пасадзіў сабаку ля ног Жанчыны выпаласкалі бялізну, выкруцілі яе Тамара

пайшла ў хату і вярнулася ў двор, села побач са мной, на каленях трымала разбухлы альбом у рудой, аксамітнай старой вокладцы

– Не помню, кто, – сказала Васільцава, – но вы кто-то из моих бывших одноклассников. Сейчас...

Яна разгарнула альбом – і на вочы адразу трапіла вялікая фатаграфія нашага выпускнога дзесятага класа.

– Вот, это вы, – яна паказала пальцам на мой здымак – хлопчык з "боксам", каўнер белай кашулі паверх каўняра "футболкі" – Кухарев А.А. Имя забыла.

– Анатоль... Толя. А вы – Тамара Наш камсамольскі сакратар. Вы мяне некалі за "адзінку" на камітэце .

Васільцава ўсміхнулася, усміхнулася вачыма так, як тады, даўно-даўно – гулліва і светла

– Ах, мало ли кого я отчитывала в школе, и в институте, и в райкоме, и в министерстве просвещения, и теперь вот снова в школе. Я директором в Минске . Ну, а ты – где и как?

Васільцава перайшла на ты Я вельмі коратка сказаў пра сябе

– А вот с Юрой, – сказала яна, – плохо Совсем непутёвый оказался. Бывший диссидент, а теперь никто

Я перавёў гутарку на зусім іншае.

– Помніш, Тамара, каменне па вашым даху?

– Помню, помню, Толя! А признайся – ты хотел меня провести? А может, и поцеловать?

Даўно ўжо ўсё тое было, як у тым стагоддзі, і я прызнаўся·

– Хацеў.

Тамара засмяялася, паклала мне руку на плячо:

– А надо было Вот Юра однажды догнал меня вечером у дома, схватил за плечи и поцеловал, чёрт, да так, что у меня голова закружилась.. Ах, была юность! А стихотворение твоё о Сталине потерялось

Мой сабака гыркнуў ля нагі, я паківаў яму пальцам.

– Ну, что, бывший комсомолец Кухарев, прости пойду развешивать бельё!

Яна загарнула альбом, кінула яго побач на лаўку, паднялася, пайшла да начовак. Мы з Паэтам выйшлі на вуліцу, і тут я ўспомніў, што мы з Васільцавай нават не развіталіся

А праз якую паўсотню метраў (ужо і Дом Саветаў блізка) – двухпавярховы, белацагляны будынак райаддзела міліцыі, і на яго высокім ганку стаяў той самы рыжавусы сяржант

– Гражданін, – сказаў ён, – астанавіцеся

Я прыпыніўся, Паэт гаўкнуў на міліцыянера, скокнуў у яго бок Сяржант сышоў з ганка да мяне, паэт памкнуўся схапіць яго зубамі за галіфэ, але той паспеў падчапіць Паэта ботам пад чэрава і адкінуць убок, сабака агрызнуўся, але канфлікт з міліцыяй вырашыў не працягваць, адбег да ліпы, зрабіў сваю справу, сеў пад дрэвам і назіраў за намі Сяржант узяў мяне за руку вышэй локця

– Гражданін, пройдземце ў аддзел

Я сказаў·

– Няма калі, мне трэба ў райком

– Нічаво Скажаце – міліцыя задзяржала.

– Не, я гэтага не скажу.

– Пройдземце!

Я хацеў вырваць руку з яго ўчэпістых пальцаў, але мне гэта не ўдалося

– Сапраціўленне аказваеце? Пройдземце!

Я спатыкнуўся аб верхнюю прыступку і, як ні трымаў мяне сяржант, ударыўся лбом аб шурпатую жалезабетонную калону. Сабака мой тут як тут, ён лізнуў мяне мокрым цёплым языком у лоб і гаўкнуў на міліцыянера, памкнуўся зноў да яго калена, але перадумаў, адступіўся, я паказаў яму на дрэва, і ён пабег туды – маўляў, не буду ўскладняць сітуацыю

Я прыклаў далонь да лба, паглядзеў· кроў

– Дайце маю руку! – кажу міліцыянеру і тузануў рукою, другая – занятая сумкай – Дастану насоўку з кішэні.





Э, нет, гражданін А вдруг там у вас нож?

– Няма нажа.

– А эта пасмотрым

Ён увёў мяне ў калідор аддзела. Там, за бар'ерам, за сталом з тэлефонамі, сядзеў дзяжурны-міліцыянер

– Вот, – сказаў "мой" сяржант, болтаецца по уліцы узад упярод, у сталовай з Юркай сашолся, дамой к няму хадзіл, оба шаталіся, пры задзяржанні аказаў сапраціўленне, вот – упал, конечно – не трэзвый

– Дакументы!

Я паказаў дакументы

– Цэль прыезда ў наш горад?

Я сказаў

– Вы пасматрыце! Учыцель! Вышшае абразаваніе! На работу ў рэдакцыю!

Міліцыянеры павялі мяне ў нейкі кабінет Там рыжавусы даў мне дыхнуць у шклянку, панюхаў яе, сказаў:

– Сколька выпілі?

– Чарачку ў восем гадзін.

– З самага вутра! .

Дзяжурны абшмыгаў усе мае кішэні, паставіў на стол маю сумку, дастаў з яе на стол усё дзве газеты, ручнік, мыла, люстэрка, скарынку хлеба, брытву, свежую кашулю, шкарпэткі і – карабок з-пад запалак.

Дзяжурны склаў пратакол, даў мне прачытаць яго і падпісацца. Я адсунуў убок пратакол і сказаў·

– Падпісваць не буду Тая чарачка гарэлкі даўно выйшла з галавы, супраціву не аказваў, Юра – мой школьны сябра, я дапамог яму зайсці дахаты Усё. Вярніце мне дакументы Мне трэба ў райком...

– Нам віднее, куда вам нада ілі, как вы гаварыце, трэба.

Рыжавусы ўзяў у рукі запалкавы карабок, адкрыў яго і ажно вылупіў вочы

– Зубы? Чыі зубы?

– Мае, – сказаў я.

Сяржант пайшоў з тым карабком некуды па калідоры, доўга яго не было, нарэшце вярнуўся

– Пайдзёмце!

Ён вывеў мяне з калідора ў двор, там стаяў міліцэйскі "газік", адчыніў перада мной дзверцы, я сеў у машыну, рыжавусы за руль, і мы паехалі Спынілася машына на ўскраіне горада, у двары паліклінікі

Перад кабінетам з шыльдачкай "Стоматолог" стаяла, сядзела людская чарга, але міліцыянер са мной адразу ўвайшоў у кабінет Сяржант падышоў да ўрача, нешта ціха сказаў яму, працягнуў карабок. Урач высыпаў на стол мае зубы, сказаў, каб я падышоў і адкрыў рот, паўглядаўся ў мае дзясны, у зубы, пералічыў іх, яшчэ паўглядаўся ў дзёсны і сказаў міліцыянеру·

– Его зубы

Вярнуліся ў аддзяленне Дзяжурны зрабіў вопіс "маёмасці" (у тым ліку – "спичечная коробка с зубами"), сумку маю паставіў у куток, узяў у шуфлядзе стала звязку ключоў і некуды павёў мяне – у канец калідора, потым – па прыступках уніз, у цемнаваты, сыры падвал, падвёў да жалезных дзвярэй з доўгай і тоўстай жалезнай клямкай і "вочкам", адамкнуў цяжкі замок, адчыніў дзверы і злёгку папіхнуў мяне ў спіну Я апынуўся ў змрочным памяшканні, дзверы за мной бразнулі, замкнуліся, а я ўсё стаяў, пакуль не згледзеў уверсе, пад столлю закратаванае акенца. Калі вочы асвойталіся са змрокам, я ўбачыў: уздоўж доўгай сцяны – дашчаны "ляжак", пад самай сцяной – наўскос прыбітая дошка-"падушка", і нешта ў кутку варушыцца Тры чалавекі, скурчыўшыся, нацягнуўшы на галовы каўняры адзежы, драмалі насупраць З другога кутка цягнула смуродам, гэты смурод ішоў ад "парашы"

Та-ак, вось ты і ў камеры, як некалі тыя бальшавікі. Эх-эх, грамадзянін Кухараў, да чаго дажыўся! . І сумна стала мне, і смешна. Я сеў на дошкі Сыра, халаднавата – падлога ж бетонная.

Адзін з тых, траіх, падняў галаву, сеў, паглядзеў на мяне (быў я ў касцюме і пры

гальштуку), выдаў на ўсю камеру гук, пстрыкнуў скрозь зубы слінай на падлогу, прахрыпеў:

А, б. . , і ты папаўся!

Селі ў кутку і астатнія двое – усе яны з нейкімі чорнымі, зарослымі шчаціннем тварамі, з ускудлачанымі, як даўно нечасанымі валасамі на галовах.

– Хадзі сюды, б. ! – сказаў адзін з іх.

Я маўчаў Тады той, хрыпаты, падняўся і, расшпільваючы прарэх, прайшоў міма мяне да парашы..

Курыва забралі?

– Не было, хлопцы, курыва

Гаварыў я спакойна. Можа, палагаднелі й яны, бо той, хрыпаты, спытаў·

– За што ўзялі?

Я не адказаў, і яны – не, не палагаднелі:

– Маўчыш культурна, б ?

Я падняўся з дошак, падышоў да дзвярэй, ціха пастукаў пальцамі ў бляху

– Не бойся. Мы мірныя бамжы..

Я прыслухаўся – крокаў у калідоры не чуваць.

– Грымець, грымець трэба! – кажа бомж. – Дзяжурны далёка. Што? Прасіцца будзеш? Не-э, б..., не туды папаў, каб прасіцца

І я грымнуў кулаком у дзверы і яшчэ раз грымнуў Паслухаў· у калідоры ціха.

– Галавой, б !

Я грымнуў зноў кулаком па жалезе. Недзе далёка ў калідоры бразнулі дзверы, пачуліся няспешныя, цяжкія крокі. З таго боку "маіх" дзвярэй сціхла, потым там бразнула ў замку, дзверы адчыніліся перада мной стаяў маладзенькі міліцыянер – мусіць, новы дзяжурны, у яго былі шырокія плечы і кароткая крэпкая, як у быка, шыя.

– Выходите, – сказаў ён спакойна.

Я выйшаў у калідор Ён зачыніў дзверы камеры.

– Ни разу не имел дела с учителями, журналистами, – усё гэтак жа спакойна сказаў ён і раптам, без размаху, ударыў мяне кулаком у жывот Я скурчыўся, схапіўся рукамі за жывот, але не ўпаў Ён ударыў мяне яшчэ раз – па схіленай шыі, і я зваліўся на падлогу І ён яшчэ ўдарыў – нагою ў бок.

– Што ж вы, няго! – я хацеў сказаць "нягоднік", але не сказаў – Што ж вы робіце! – гэта я казаў знізу, з падлогі – яму, туды, уверх. – Што ж вы робіце!

Я хацеў падняцца з падлогі, падняцца і – ад душы ўдарыць яго па чырвонай, укормленай мордзе. Я ўпёрся рукамі ў дошку падлогі, але падняцца не здужаў· гэтак балела ў жываце Міліцыянер узяў мяне пад пахі, прыўзняў, і тады я стаў на ногі. І тут здарылася неверагоднае: праз прыадчыненыя дзверы дзяжуркі праціснуўся мой сабака! Ён падбег да міліцыянера ззаду, той не бачыў яго. Паэт учапіўся зубамі ў міліцэйскія штаны, напяўся, тузануўся, і штаны трэснулі Мне нават стала смешна· такія моцныя штаны а трэснулі. Але смешна мне стала толькі на нейкі момант і толькі ў душы – я не мог усміхнуцца, мне ўсё балела.

– Во гад! – крыкнуў міліцыянер.

Ён развярнуўся, схапіў Паэта рукамі за глотку, сціснуў, падняў сабаку высока над сабой і – з размаху ўдарыў ім па падлозе. Паэт ціха піскнуў, торгнуўся цельцам, выпрастаўся, сціх – на падлозе, паміж мной і міліцыянерам

Я глянуў міліцыянеру ў вочы і сказаў:

– Што ж вы робіце

Ён спакойна адказаў·

– Будете знать, как нарушать общественный порядок. Идите в камеру – Ён адчыніў прада мной жалезныя дзверы

– Я вазьму з сабой майго сабаку.

Міліцыянер павысіў голас:

– Идите в камеру!

І штурхнуў мяне рукамі і нагой за дзверы, у камеру, бразнуў з таго боку замком.

– Ну, што, б пад галстукам? Яны б'юць так – без знакаў, умеюць. Ладна, ідзі да нас, пагладзім, пашкадуем.

Я сеў на дошкі, сашчапіў далонямі скроні. біліся, біліся там, у скронях, здавалася, ужо й не маіх скронях, – біліся жылкі...





Праз якое паўгадзіны адчыніліся дзверы камеры, і той жа міліцыянер паказаў мне пальцам за мной Я выйшаў у калідор, сабакі майго нідзе тут не было.

У дзяжурцы міліцыянер паказаў мне на крэсла – каб я сеў, падсунуў да мяне пратакол, даў ручку, сказаў:

– Подпишитесь.

Я адразу і лёгка падпісаўся. можа, падумаў я, на гэтым усё скончыцца, скончыцца гэтае пекла, і абы хутчэй выйсці адсюль на вуліцу, на паветра на вуліцу, на паветра, на волю

Міліцыянер узяў пратакол, сказаў мне ісці за ім Мы падняліся на другі паверх, прайшлі міма некалькіх кабінетаў, спыніліся ля дзвярэй са шкляной шыльдачкай "Начальник. ", міліцыянер паправіў на сабе фуражку, кіцель, штаны на ім былі другія, пастукаўся ў дзверы, прапусціў мяне ўперад, і мы ўвайшлі ў кабінет Начальнікам быў даволі малады маёр, ён сядзеў за шырокім сталом, на якім стаяла некалькі тэлефонаў, з кімсьці гаварыў па адным з іх, а другі прыціскаў плячом да вуха Мы з міліцыянерам стаялі перад ім. Начальнік спадылба кінуў на нас позірк, сказаў у адзін з тэлефонаў·

– Поговорю в райкоме

Потым адразу паклаў на апараты абедзве трубкі, утаропіўся вачыма спачатку ў мяне, потым у міліцыянера – маўляў, што? Міліцыянер падаў яму пратакол Начальнік прабег вачыма, падпісаў нейкую паперчыну, сказаў·

– Штраф – десять рублей И как вы до такой жизни дошли? Учитель. Журналист. Со всякой мразью пьете. Как вы дошли?

Я стаяў перад ім спакойна, стараўся трымацца як мага годна, глядзеў на яго адкрыта, цвёрда і сказаў·

– Нікуды я не дайшоў, таварыш начальнік .

– Гражданін начальнік, – паправіў мяне маёр.

– Грамадзянін начальнік.

Гражданин начальник! – гыркнуў ён, але затым ужо спакойна працягваў· – Говорите человеческим языком

Я гавару з вамі на самай чалавечнай мове – на мове маёй маці Яе забілі фашысты

– Ну, ладно, ладно, ужо зусім спакойна сказаў маёр

– Дык вось, нікуды я не дайшоў.. А былы дысідэнт – мой таварыш па школе. І не ён сам скалечыў сябе. Скалечылі яго

– Ну, ладно, ладно, гражданин Кухарев Так вы – в райком?

– Так. У райком.

– Хорошо Вы свободны

У дзяжурцы "мой" міліцыянер растлумачыў мне, што далей – пайсці на пошту, заплаціць штраф, прынесці квіток – ён аддасць дакументы і сумку .

Пошта была побач, і я хутка справіўся, выйшаў з аддзела на ганак, і толькі тут стукнула мне ў галаву· чагосьці не хапае, а чаго – ніяк не ўспомню. Стаю на ганку, нават вочы заплюшчыў, сціснуў далонню лоб – чаго, чаго ж не хапае?

І тут, нарэшце, аднекуль збоку і не зусім далёка я пачуў ціхае, жаласлівае скуголенне Я збег з ганка – туды, на голас, за кусты Паэт ляжаў у крапіве, трымцеў усім сваім цельцам Белая плямка над вокам была ў засохлай крыві Ён дыхаў – цяжка, але ж дыхаў І знізу, ад зямлі, неяк зусім бяздумна глянуў мне ў вочы сваімі вачанятамі і адвярнуў іх убок ад мяне

Я паставіў сумку на зямлю, асцярожна ўзяў Паэта на рукі, ён злітаваўся нада мной слаба лізнуў мне пальцы Язычок яго быў сіні і не такі ўжо цёплы, як раней Яму, мусіць, стала балюча ад дотыку маёй рукі, і ён ціха-ціха скавытнуў Я палажыў яго ў сумку, расшырыў па баках шчыліны – каб даволі было там паветра. Нас ніхто не бачыў за кустамі, ніхто не чуў – Паэт маўчаў

Я зірнуў на гадзіннік: заставалася з паўгадзіны да аўдыенцыі ў райкоме Узяў сумку, ступіў з-за кустоў на тратуар, і – мы пайшлі. Мне балела-ныла ў жываце Няўжо, падумаў я, іх вучаць біць па пячонцы, па нырках, што й знакаў ніякіх? І нікому не паскардзішся, сорамна. здаровага мужчыну гэтак збіў малады міліцыянер, які па ўзросце яму ў сыны гадзіцца. Та-ак, сапраўды. калі дадуць міліцыі дубінкі, ох і будуць барабаніць па спінах, асабліва калі надарыцца дзе якая заварушка. А заварушкі маюцца быць – без гэтага грамадскі лад доўга не трывае.

Ішоў я тратуарам да Дома Саветаў, нёс у сумцы Паэта, які паміраў, і мне ўсё балела. І раптам стала смешна, і я засмяяўся, хаця й не надта голасна: я ўявіў, што вось гэтак, як я – сабаку, нехта фантастычна вялізны й дужы паклаў мяне самога ў агромністую валізу і нясе, нясе, і я там дыхаю сабе пaціху, і мне там добра й лёгка, бо я спакойна бяздумна паміраю, закалыхваюся ў той прасторнай валізе. .

Але Паэт, нарэшце, азваўся, ціха гаўкнуў з сумкі Ага-а, жывы жэўжык! Вось зараз мы з табой увойдзем у партыйна-савецкі храм, толькі прашу цябе. не гаўкай там і не пісяйся.

Ззаду, хаця й здаля ўжо, данеслася лаянка. Я азірнуўся: з ганка сталоўкі падаў на вуліцу Юра, нехта моцна штурхнуў яго там. Юра ляжаў на зямлі, хапаў рукой паветра – хацеў падняцца й не мог. Крык і рогат стаялі там. Я памкнуўся пайсці, пабегчы да сталоўкі, але здарылася зусім нечаканае. ад хаты Васільцавых подбегам ішла Тамара, завязвала на хаду паясок халата. Яна нахілілася над Юрам, потым махнула некаму рукой, і той нехта памог ёй паставіць Юру на ногі. Тамара паклала Юрыну руку сабе на плечы, абняла яго падпахі і павяла на тратуар Юра паслухмяна перастаўляў ногі, так і дайшлі яны да яго хаты .. А мне, калі я стаяў і глядзеў ім услед, чамусьці ўспомніліся Тамарыны словы. “Схватил меня за плечи и поцеловал, чёрт, да так, что у меня голова закружилась. .”

Мы з Паэтам пайшлі далей. Пад маладой ліпай ля тыльнай сцяны Дома Саветаў стаяла драўляная, пафарбаваная ў блакітны колер, лаўка. Я паставіў на яе сумку, дастаў люстэрка, паглядзеўся. на лбе быў сіняк з чырвонай драпінай Наслініў насоўку, пацёр ранку, люстэрка паказала: крыві няма. Паэт скурчыўся ў сумцы, сумна глядзеў на мяне Насупраць Дома Саветаў, з другога боку шырокай вуліцы-шашы, на двух ці трох металічных слупах прымацаваная доўгая і вузкая бляха, па яе чырвоным полі – вялікія жоўтыя літары “Вперёд — к победе коммунизма!” Правы слуп моцна пахіліўся назад – мабыць, грунт пад ім быў плыткі, мяккі, і таму канец бляхі, услед за слупам, быў скурожаны, а разам з бляхай было скурожана і апошняе слова лозунга, толькі клічнік стаяў цвёрда і непахісна.

Мы з Паэтам абагнулі Дом, падышлі да высокіх прыступак фасада. І тут, раптам, парасчыняліся ўсе дзверы Дома, і ўніз па прыступках на плошчу рушыў натоўп па-святочнаму апранутых жанчын – і старых ужо, і сярэдняга веку, і маладых. Над дзвярамі Дома вісеў свежы лозунг: “Привет участникам районного совещания передовиков животноводства!” Следам за жанчынамі йшла купка мужчын, адзін з іх – я пачуў – сказаў· “Па рублю, мужыкі”

Я ўвайшоў у вестыбюль. Сухенькая, з загарэлым, дужа маршчакаватым тварам кабеціна ціха, як чаго саромеючыся ці баючыся, спыталася ў мяне

– А дзе тут, чалавеча, кілбаса прадаецца? Кажуць, па дзяшоўцы? Я ж за паўгода па дзве тысячы літраў надаіла

Я адказаў, што не ведаю, дзе Нейкая раскошная, расфарбаваная дама праходзіла міма, трымала ў руцэ вялізную гаспадарчую сумку, зверху якой звісаў тлусты канец кілбасы. Кабеціна – да яе·

– А дзе тут, даражэнькая, кілбаса прадаецца? Кажуць, па дзяшоўцы? Я ж за паўгода па дзве тысячы літраў надаіла

Дама мімаходзь азірнулася на перадавую даярку, махнула некуды ўбок вялай рукой маўляў, там Тады я павёў кабеціну па калідоры, паказаў ёй на дзверы буфета Яна хутка выйшла адтуль, сказала, што кілбасы ўжо няма. І я рашыўся. паставіў сумку ў калідоры, сказаў даярцы, каб пачакала, зайшоў у буфет, там было ўсяго трое-чацвёра чалавек – яны пілі за столікамі каву. Я рашуча падышоў да прылаўка, дастаў з кішэні грошы, даў іх буфетчыцы, сказаў важна: “Тры кілаграмы кілбасы. І загарніце, калі ласка”.

Разлік мой быў дакладны інтэлігентна апрануты, пад гальштукам, гаворыць па-беларуску – няйначай нейкі карэспандэнт . Буфетчыца ўсё-ткі падазрона зірнула на мой лоб, але хуценька пайшла ў бакоўку, вярнулася да прылаўка з пакункам, зважыла .. У калідоры я аддаў кілбасу даярцы.

– Гэта ж я за паўгода па дзве тысячы надаіла, – сказала на развітанне кабецінка, на імгненне задумалася, як нешта ўспамінаючы, ага – успомніла. – Ад кожнай каровы сваёй групы...

І пайшла да выхаду з Дома, пайшла хуценька, амаль подбегам, лёгенькая,





сухенькая і, мабыць, шчаслівая і перадавая даярка яна, і на раённай нарадзе была, і па гэткім вялізным, светлым, бо амаль увесь у шкле, вестыбюлі ідзе, і такая тут падлога ў клетку, а дзверы ледзь-ледзь адчыніш, а якія прыступкі высокія – божачка мой! ні разу па такіх прыступках не ўзыходзіла і над галавой такія словы: “Привет. ”, а перад гэтым Домам, на плошчы, з трубак вада цурчыць уверх, на сонцы вада бліщчыць і падае вясёлымі пырскамі ўніз – у шырокія, круглыя, бетонныя начоўкі, і яна яшчэ купіць у краме малым унукам абаранкаў, а да абаранкаў – бутэльку лімана-ду, – ой, як добра жыць, людцы мае, што б там ні казалі ампералісты

Я прайшоў за кабецінай, бачыў праз шкляныя дзверы яна сапраўды спынілася на верхняй прыступцы, паглядзела радасна на фантан, і, здаецца, нават сляза шчаслівая з яе вачэй упала на шэры бетон. Я хацеў ужо выйсці з Дома і пастаяць, хоць крыху сёння пастаяць ля чужога шчасця, але ўспомніў-схамянуўся· на прыём трэба .

Паэт у сумцы маўчаў, але я чуў яго цяжкое, натужнае дыханне – як хрыпенне, але ціхае Перад дзвярамі прыёмнай сакратара па ідэалогіі я шапнуў яму: ты ж там, глядзі, маўчы, не гаўкай.

У прыёмнай за столікам, перад пішучай машынкай сядзела маладзенькая белавалосая дзяўчына, пад сталом – аголеныя вышэй каленяў ногі Усе яны і ўсюды падобныя, гэтыя сакратаркі-машыністкі Ветліва запрасіла мяне сесці і нават прыгожа ўсміхнулася, сказала, што “ён” скора прыйдзе, што “ён” ужо быў, што, мабыць, гэта пра мяне “яму” званілі Ужо нізкаватае, бо далекавата за поўдзень было, сонца біла промнямі проста ў акно прыёмнай, у пакоі пахла духамі, касметыкай, але раптам з сумкі панеслася зусім іншымі, як кажуць – альтэрнатыўнымі, пахамі. Паэт там пaціху рабіў свае Ды, здаецца, сакратарка нічога не ўчула. Я сядзеў у мяккім крэсле, у кутку стаяла этажэрка з газетамі і верхняй ляжала раённая газета “Шлях да камунізму” Я ўзяў яе, кінуў позіркам па першай старонцы – па загалоўках, па першых словах інфармацый “Стаўшы на працоўную вахту ў гонар. ”, “Паспяхова выконваюць узятыя сацыялістычныя абавязацельствы ”, “Першымі выканалі план другога квартала. ”, “Штодзённы клопат пра датэрміновае выкананне планаў праяўляюць. ” Якое нудоцце! І за гэта, за гэтую шэрасць, можа, давядзецца і мне трымацца? Навошта мне ўсё гэта трэба? З-за вечнай нейкай маёй неўтаймаванасці – скрушнага жадання нечага новага? От выйсці б зараз на ганак Дома – можа яшчэ стаіць там кабецінка тая? І стаць побач і глядзець разам з ёю туды, куды глядзіць яна – на вясёлыя, залацістыя пад сонцам пырскі фантана? І радавацца разам з ёю?

Але – позна Дзверы прыёмнай шырока расчыніліся – і ўвайшоў “ён” Я ўстаў з крэсла. Ён інтэлігентна, з нахілам галавы, прывітаўся са мною, спыніўся пасярод прыёмнай, пералажыў чорную скураную папку з рукі ў руку, павярнуўся да мяне і сказаў·

– Вы – Кухарев? .

Ён меўся яшчэ нешта сказаць, але Паэт не даў· раптам мой сабака там, у сумцы, ля маёй нагі, гаўкнуў – першы раз слаба, потым мацней, а пасля яшчэ мацней Сакратар ніколькі не здзівіўся, быццам і чакаў гэтага сабачага брэху Ён зачыніў за сабою дзверы кабінета Тыя дзверы былі абабітыя чорным дэрмацінам.

Паэт сціх, і цішыня ў сумцы здалася мне надта падазронай Я хуценька схапіў сумку і амаль выскачыў – з прыёмнай у калідор, з калідора ў вестыбюль, адтуль на вуліцу, на плошчу – той кабецінкі нідзе ўжо не было – бегам абагнуў вуглы Дома, паставіў сумку на лаўку, расхінуў яе Паэт ляжаў дагары, пярэднія лапы склаў на грудзіне, вочы былі шырока адкрытыя, і ён глядзеў паверх мяне, некуды ў неба. Ружовы жывоцік не дыхаў Я закрыў Паэтавы вочы, зашпіліў сумку

Потым я стаяў і думаў· зусім нядаўна тут, на лаўцы, перад візітам у Дом – чаго мне не хацелася рабіць і што хацелася зрабіць? Успомніў· ну мне ж не хацелася ісці ў Дом і я хацеў падысці да тых пахіленых назад і ўправа металічных слупоў і выпрастаць іх – як жа так, пабыў у некалі сваім гарадку і не пакінуў тут хоць якога добрага следу, ды й сорамна мне як патрыёту· па шашы йдуць і йдуць машыны з Масквы на Варшаву і з Варшавы на Маскву – міма гэтак скурожанага транспаранта. Я ўзяў сумку, пайшоў туды, азірнуўся па баках: людзі, хаця й рэдка, ішлі тратуарам. А мне было ўжо ўсё адно Я падставіў плячо пад крайні, справа, слуп, напяўся, яшчэ напяўся – і слуп выпрастаўся Потым я падставіў плячо і гэтак жа выпрастаў сярэдні слуп, і бляха, хаця й не зусім, разгладзілася, літары слова “коммунизма” занялі свае месцы, нават, здаецца,

павесялелі, бліскуча-жоўтыя ў жоўтых промнях сонца. Ля блізкай агароджы я ўбачыў даволі ладны камень, узяў яго і стаў біць, утрамбоўваць зямлю вакол слупоў. Для пэўнасці я яшчэ раз добра ўпёрся плячом у крайні слуп, але тут раптам нехта палажыў мне на тое плячо цяжкую руку. Гляджу: перада мною стаіць "мой" рыжавусы міліцыянер. Ён моцна сціснуў мне плячо і злосна – нарэшце не вытрымаў – сказаў:

– Гражданін, вы прадаўжаеце нарушаць абшчэственны парадак у нашым горадзе. Немедленна астаўце наш горад!

Ён зняў руку з майго пляча, адышоў крыху ўбок – чакаў, што я буду рабіць далей. А я яшчэ колькі разоў ударыў каменем вакол слупа, занёс камень назад пад агароджу, узяў сумку і пайшоў праз шашу на маю *марксісцкую* вуліцу Я хутка ішоў гэтай вуліцай – міма аддзела "маёй" міліцыі, міма шумлівага натоўпу ля сталоўкі, міма хатаў вечнай камсамолкі Тамары, хворага, затурканага Юры, добрых дзядзькі Антона і цёткі Любы, міма гасцініцы на месцы нашай былой хаты. Я прыйшоў за мост, на бераг рэчкі, да свайго каменя. Ля каменя стаяла з ганарліва ўзнятымі ўгору вушамі сучка – можа, матка Паэта. Яна панюхала сумку, нешта ў ёй пачула носам, чмыхнула і пабегла за мост, па вуліцы.

Я падышоў да адзінага тут, недалёка ад берага, куста алешыны, зямля пад ім была чорная і мяккая, выкапаў рукамі неглыбокую ямку, заслаў яе дно травой з жоўтымі кветкамі курасляпу, паклаў у ямку Паэта – ён быў ужо халодны, засыпаў зямлёй Знайшоў востры камень, падрэзаў ім і ададраў рукамі ад зямлі некалькі палосак дзірвану, уклаў ім зямлю над Паэтам – хай зарасце пагорачак травой, хай ніхто не ведае, што тут пахаваны Паэт

Вярнуўся да свайго каменя, доўга сядзеў на ім, перада мной у рэчцы калыхалася ўжо нізкае чырвонае сонца. Па мосце прагрукацелі за белым канём калёсы. Мужчына ў пыльнай кашулі звесіў босыя ногі з драбінаў, сказаў мне

– Добры вечар!

– Вечар добры!

Ад калёсаў дыхнула пахам дзёгцю, канюшыны, свежага аеру

Сядзеў на камені і казаў сам сабе: пойдзеш берагам гэтай рэчкі, будзеш ісці, ісці па траве між вадой і тарфянікамі, полем, алешнікам, лесам – прыйдзеш разам з гэтай вадой у Шчару, там будзе жалезабетонны мосцік, пойдзеш берагам Шчары, зноў між вадой і тарфянікам, лесам, а можа яшчэ і балотцам – прыйдзеш да Выганаўскага возера, з яго берага махнеш рукой, паклічаш рыбаловаў з маторкі, яны перавязуць цябе на паўднёвы бераг, а там, праз Выганашчы і Целяханы пойдзеш берагам зарослага высокай травой, чаротам, аерам, зацягнутага раскай Агінскага канала – да Ясельды, і далей будзеш ісці, ісці і ля Белага возера звернеш, праз палі і канавы, на Чорнае возера, там станеш пад старой высокай і шырокай таполяй ля брамы і будзеш чакаць – самога сябе малога і хлопцаў свайго пасляваеннага дзяцінства, і вы ўсе пабежыце ў старавечны панскі парк, але ты на нядоўга пакінеш хлопцаў, звернеш на глухую, за спіртзаводам, сцежку, сарвеш кветку, падбяжыш да веснічак бухгалтаравай хаты і кінеш тую кветку, ды ўжо не на комін, як некалі, а проста на падворак, дагоніш хлопцаў, у парку сустрэнеце палонных немцаў, і ты – зноў ударыш рукой Эрыху ў жывот ці – ужо не ўдарыш? Бо ты ж так і не знайшоў за сорак гадоў, не "вылічыў" таго немца, каторы параніў тваю маці, каб пасля паліцыянты закапалі яе, яшчэ жывую, у зямлю З таго далёкага, як за туманамі, азёрамі-рэкамі, дня ты больш нікога ніколі не ўдарыў А ўвогуле яшчэ доўга пасля вайны нашыя людзі не білі адзін аднаго, не біліся ні на вуліцы, ні за вуглом наваяваліся ў вайну, набачыліся чалавечага болю дык доўга ўсім балюча было нават пры ўспаміне. Але потым, як боль прытупіўся, забыўся, сталі сварыцца, біцца – і сусед з суседам, і брат з братам, але начальства чапаць баяліся, і ўладу не чапалі – хаця тыя часта і былі вінаватымі ў людскіх сварках.

І біцца людзі навучыліся адмыслова, і ты неадночы хацеў, збіраўся пабіцца, але Але ты біцца ніколі не ўмеў і не ўмееш і, мусіць, не будзеш умець. А трэба было б.. Бо й ты ўжо прызабыўся на даўні боль. А пачварны час, як хіжая, тупая, жалезная машына, нахабна прэцца на цябе, падмінае пад сябе, і ты павінен бы, павінен пабіцца з пачварай, але ты не ўмееш, аднымі кулакамі не зможаш нікога й нічога А цябе сёння так умела набілі, і знакаў няма – а шыя баліць, у жываце ломіць. . Не, пад таполю твае хлопцы ўжо ніколі не прыйдуць – і іх пасля час пабіў і пакалечыў.

Вярніся назад тымі берагамі сюды – да гэтага моста над знявечанай рэчкай, да гэтага каменя Толькі ён адзін, толькі камень стаіць на месцы, не зварухнецца, не паддаецца нікому й нічому. Расколіна ў камені? Ат, за тысячагоддзі – невялікая яму бяда, дый болю ён не чуе .. А ты спачывай там сабе ў зямлі, Паэт. Не нажыўся як след, а болю сёння, толькі за адзін дзень зведаў замнога. Даруй нам, людзям грэшным, неразумным

Цягнік мой адыходзіў з гарадка ў пяць раніцы Можна было б яшчэ адпачыць на ложку ў гасцініцы, але я ведаў у душным пакоі, на мяккай пасцелі мне будзе сёння мулка. Таму я застаўся сядзець на камені.

Ноч была цёплая. Толькі ад вады крыху патыхала ў твар свежай прахалодай Але ў спіну грэла з дарогі, і з бульбянога поля і камень пада мной быў цёплы, доўга, ажно да золку, не астываў ён, нагрэты за дзень Я правёў пальцам па расколіне у яе набілася пяску Мне закарцела выкалупаць з расколіны пясок, але я не зрабіў гэтага: хай будзе так, як ёсць – пясок з каменем даўно-даўно, без майго ведама, паядналіся, і ты не руш іх вечнага спакою

У цемры за куст алешыны зачапілася нейкая птушка, крыкнула, залапатала крыламі, сціхла недзе за дарогай. У цёмнай вадзе стаялі, ціха дрыжэлі белыя зоркі Рыбіна ўдарыла па рачной плыні хвастом – зоркі разбіліся на аскепкі, вада заіскрылася, але неўзабаве тыя аскепкі зноў сталіся зоркамі. А камень пада мной яшчэ цёплы Раптам ад берага, з травы, нешта скокнула і мякка ўпала ля маіх ног Гляджу месячнае святло блішчыць у маленечкіх жабіных вачах. Жаба згарнулася, сціхла ля мяне І я падумаў каменю добра на зямлі, зямлі добра пад каменем, пяску добра ў расколіне каменя, рыбіне – у вадзе, зоркам – у нябеснай бездані, жабе – ля маёй нагі, птушцы – у полі, Паэту – у сырой зямлі Камень цёплы, і мне добра на камені, і з поля дыхнула цёплым ветрыкам, і гэты ветрык пах бульбоўнікам. А дзядзьку Антону і цётцы Любе, мусіць, добра спіцца ў іхняй ціхай, утульнай хаце – там у іх, пэўна, расчынена насцеж акно, і ў яго ўсю ноч плыве з гароду пах кропу, маладых гуркоў, зялёнай цыбулі, зямлі з глыбокіх барознаў, пах расы з лапушыння ў двары

Над полем, над дарогай, над кустом алешыны, над вадой стала святлець. Камень пада мной хутка астыў, па баках яго бліснула раса, і валасы ў мяне на галаве сталі вільготнымі, я паварушыў нагой, і жаба заварушылася, расплюшчыла вочы, няўцямна паглядзела на мяне, потым скокнула да берага, у траву; крыкнула птушка над полем, прыляцела сюды, лёгка ўдарыла крылом па лісці алешыны, паляцела кудысьці над рэчкай.

Паеду ў сваю глыбінную палескую вёску. Гэтай ноччу мне ўспомніліся мае вучні-сямікласнікі, у якіх я быў класным кіраўніком яны гуртам прыйшлі да вячэрняга аўтобуса і самыя смелыя з іх і найбольш блізкія мне Іра і Дануся казалі мне, калі ўжо набліжаўся белы аўтобус: "Ну навошта вы едзеце? Навошта пакідаеце нас? Мы будзем чакаць вас. " Я вярнуся да іх і я не пабаюся расказаць ім на ўроку, на класнай гадзіне пра тое, якія добрыя былі іх бацькі, суседзі, аднавяскоўцы, усе людзі пасля вайны, пра хлопчыкаў і дзяўчатак майго дзяцінства, пра здаровыя, свежыя травы, кветкі і дрэвы, пра цёплыя дажджы, пра смачны хлеб з шаройкамі, пра смак перамерзлай бульбы, пра сваё першае дзіцячае каханне, пра тое, што не ўмеў і не ўмею біцца, і дзецям скажу: біць трэба так, каб чалавеку нядоўга балела, бо чалавек, як і ўсё жывое – трава, дрэўца, рэчка, – чуюць боль, раскажу пра сваю маці, пра дзядзьку Антона і цётку Любу, пра Юру, раскажу пра аддзел міліцыі, пра перадавую даярку і скажу, чаму нельга пра гэта пісаць у газеце, раскажу пра майго Паэта, пра камень гэты і жабу, і птушку, пра знявечаную зямлю, пра знявечаныя мову і душы людзей .

А дзеці ўмеюць слухаць .

І ўсё-такі птушка яшчэ раз вярнулася сюды, стала ў паветры нада мной, над каменем, над тым дзірваном ля куста алешыны і яшчэ раз крыкнула, і зноў кудысьці паляцела, цяпер ужо, мабыць, далёка і назаўсёды – крыллем біла ў паветры рашуча і адчайна

*4 сакавіка – 12 красавіка 1997 г.*

*в. Вярховічы, тубдыспансер*

# Уладзімір АРЛОЎ



*Рыфмую*
*свае вызваленыя*
*з вязніцы канонаў*
*радкі*
*з трывожным крыкам сойкі,*
*з залатой лотацыю,*
*з прадчуваннем*
*нацыянальнае*
*катастрофы.*

# У ГОРАДЗЕ, ЯКОГА НЯМА





## *Спроба завершанага жыццяпісу*

**Прыйшоў на свет**
**у год Змяі**
**паводле ўсходняга календара**
**і ў год смерці Сталіна**
**паводле календара савецкага,**
**пад знакам Дзевы,**
**у радзільні**
**насупроць Сафійскага сабора**
**ў Полацку;**
**быў таемна ахрышчаны**
**праваслаўным папом,**
**якога схапіў за бараду**
**і не адпускаў,**
**пакуль не паказалі**
**салодкага пеўніка на палачцы;**
**узброіўшыся свечкай**
**і клубком бабуліных нітак,**
**у няпоўныя сем гадоў**
**выправіўся на пошукі лёхаў,**
**што ў часы Сцяпана Баторы**
**злучалі гарадскія манастыры**
**і храмы;**
**з тае пары**
**так і бадзяюся**
**па замураваных лабірынтах,**
**шукаючы**
**Полацкі летапіс,**
**крыж Еўфрасінні**
**і сумнеўную славу;**
**памру ўлетку,**
**калі споўніцца**
**тысяча гадоў**
**князю Усяславу Чарадзею;**
**буду пахаваны**
**на полацкіх могілках**
**святога Ксаверыя**
**па грэка-каталіцкім абрадзе;**
**хтосьці пакладзе**
**на цёплую зямлю**
**букецік валошак**
**і тры гваздзікі**
**вядомых колераў;**
**у беларускім тэксце**
**на помніку**
**згодна з нацыянальнай традыцыяй**
**будзе зробленая**
**арфаграфічная памылка.**

## *Канатаходка*

**Аддаўшыся**
**сонечнаму ветру,**
**ты ідзеш**
**над праспектамі і пляцамі,**
**усміхаючыся**
**сустрэчным чайкам**
**і пасылаючы**
**паветраныя пацалункі**
**п'яніцам на лавачках**
**каля помніка**
**пралетарскаму пісьменніку.**
**Ты ідзеш**
**над гэтым горадам**
**і гэтым жыццём,**
**і мой позірк**
**падтрымлівае цябе**
**надзейней**
**за любы балансір.**
**Ты ніколі не даведаешся,**
**што аднойчы,**
**калі ты аступілася**
**і адчула**
**абыякавае дыханне**
**лянівага звера бездані,**
**я хацеў**
**адвесці вочы.**

## *У нашай краіне*

**У краіне,**
**на вуліцах якой**
**ідзе паляванне**
**на паэтаў**
**і проста на людзей,**
**што гавораць на мове**
**сваіх продкаў,**
**пачынаеш асабліва цаніць**
**смак малака**
**і свежага хлеба,**
**талент жаночых вуснаў**
**і тое, што сёння**
**зноў удалося**
**своечасова прыйсці**
**на спатканне.**

## *Горад, якога няма*

*Валянціну Акудовічу*

**Ты сцвярджаеш,**
**гэтага горада няма,**

бо ён
не вабіць міфамі і
не абавязвае мэтамі.
Напэўна, таму
адусюль я вяртаюся
менавіта сюды.
Гэта так файна:
піць віно,
цалаваць жанчыну і
пісаць вершы
ў горадзе,
якога няма,
як няма
ні лепшых, ні горшых
часін і гарадоў
ні для паэзіі,
ні для кахання,
ні для нашага з табой
пункцірнага сяброўства
бо, ты сцвярджаеш,
цябе таксама няма,
а я маю нахабства
ў гэтым сумнявацца
ў горадзе,
якога няма.

## *Ліст ад цябе*

Адкрываю канверт
са страхам:
а раптам твой ліст
станецца
лубянай старонкаю
палімпсесту
альбо
глінянай таблічкаю
з вусенямі
няўцямных іерогліфаў,
але папера разгортваецца
ў тонкі лісток
срэбра
і звініць
крышталёвым рэхам
твайго наструнена-адданага
цела,
а гаўбец
мякка адрываецца ад сцяны
і плыве праз грызайль
імжыстага горада
ў трымклівую верасовую
вусціш,
навылёт прашытую
срэбнымі ніткамі,
якія ты называла
прадзівам
Святой Дзевы.

## *Ранішні верш пра твае грудкі*

У панядзелак
свяціла сонца, і
твае грудкі
пахлі лавандаю,
а прыклаўшы да іх вуха,
можна было пачуць
бурштынавую музыку
Грыга.
У аўторак
церусіў дождж, і
твае грудкі
купаліся ў водары язміну,
а смочкі таілі смак
вішнёвага лікёру.
У сераду
было хмурна, і
я параўнаў
твае грудкі
з дзвюма козачкамі
на зялёным схіле
вінаградніку —
бо яны частавалі мяне
мускатным віном.
У чацвер
усхадзіўся вецер,
а пад атласнай скураю
тваіх грудак
пералівалася
лютневая мелодыя
невядомага кампазітара
XVI стагоддзя,
кантрапунктам якой
быў дымок
ляснога вогнішча,
якім цягнула
з-пад пашак.
Сёння
грудкі не пахлі нічым —
напэўна таму,
што гэта былі
не твае грудкі.

***

Калі апошняя хваля
вынесе нас на бераг
скамечанага ложка,
мы запоўнім
пярэрву адліву
дзвюма цыгарэтамі
і ціхай размоваю,
здзіўляючыся, што
не развучыліся гаварыць
на зразумелай іншым
мове.
Ты скажаш:
цела не мае таямніцаў —
адно сакрэты,
інстынкты,
рэфлексы,
маленькія хітрыкі —
і з сур'ёзнасцю класнае дамы
зробіш выснову, што
цела чакае
толькі пяшчотнай цярплівасці,
а душа —
інтуіцыі.
Я адкажу
недаверлівым смехам
і віном
у пераблытаныя келіхі
(мне дастанецца глыток
з малінавым прысмакам
памады):
няўжо няма таямніцы
ў гэтай вібрацыі паветра
вакол
падобнага да полымя свечкі
юнага цела,
якое прагне
хутчэй вызваліцца
з сукенкі,
што стамілася падкрэсліваць
скульптурную форму грудзей
і віяланчэльныя лініі
ядвабных клубоў?..
Але ўжо нараджаецца
новы прыліў, і
звечарэлыя вокны
сплываюць па сценах
у зялёнае прадонне,
куды праз хвіліну абрынуцца
самі сцены,
і нашы целы загавораць
на мове вечнасці,
а душы будуць
з зайздрасцю прыслухоўвацца
да іх,
дрэйфуючы
ў пенлівай субстанцыі жыцця
насустрач ночы.

***

Вось ты і пераканалася,
што бывае ў траўні
з матэрыяй,
якую ўмоўна называюць
часам:

заўтра я любіў цябе
учора мы сустрэнемся
мы яшчэ памерлі
мы ўжо не нарадзіліся.

## *Нявеста паўстанцкага камісара*

...а ўвечары,
пагасіўшы кандэлябр,
ён будзе любіць яе
да дзьмухаўцовай бязважкасці,
у іх народзяцца
дзве белагаловыя дзяўчынкі,
і яго ўзнагародзяць
ордэнам святога Станіслава...
Яна ратавала яго,
параненага расейскай куляй,
і, шчыплючы корпію,
атручвала сваю кроў
нянавісцю
да нейкага Каліноўскага
з яго газеткай,
друкаванай для тых самых мужыкоў,
што выдавалі інсургентаў,
атрымліваючы
па пяць царскіх рублёў
за жывога
і па тры — за мёртвага.
Аднойчы ўранні
ён папрасіў
суніцаў з вяршкамі
і памёр,
вінавата адвёўшы позірк.
На таемным пахаванні
яна назаўсёды пракляла
гэтую зямлю,
не патрэбны ёй
вецер свабоды
і яе мову,
якая пахне
арыштамі і крывёю.
Абдымаючы іншых,
яна ўсё жыццё ўспамінала
ягоную радзімую плямку
ў патайным месцы
і малілася, каб Бог пакараў тых,
хто,
страляючы ў маскалёў,
збіваў яблыкі
яе залатых мрояў.

Ягоныя біёграфы напішуць:
да апошняга ўдару сэрца
яна заставалася
палымянай патрыёткай.

## *Дождж*

Гэты дзіўны дождж
населены матылькамі,
што не баяцца кропляў,
усцешана ловячы іх
сердалікавымі крылцамі...
Гэты дзіўны дождж
разбаўляе паводле антычнага
звычаю
змесціва келіхаў і кілішкаў,
кратае чуйнымі пальцамі
невідушчага музыкі
столікі адкрытай тэрасы
і не мае змогі патушыць
нашу зялёную запальнічку
ў Празе на вуліцы Парыжскай
ці ў Парыжы на Пражскай —
трэба загаварыць да прахожага,
каб даведацца, на якой мове
тут перашэптваюцца
закаханыя.
Гэты дзіўны дождж
праяўляе дагератыпы рэмінісцэнцый
і кінакадры эвентуальных
здарэнняў:
бутэлька вішнёўкі,
выпітая з рыльца
на мокрых Градчанскіх усходах;
купэ міжнароднага цягніка,
якое прапануе
вытанчаныя эксперыменты
з удзелам матацыклістаў,
што цнатліва маркоцяцца
на чыгуначных пераездах;
начное рабаванне
паснулых вандроўнікаў,
якім мілажальна пакінуць
пяць цыгарэтаў
і пляшку светлага, як гэты дождж,
мараўскага...
Ужо на ўзмежку
ранішняга вяртання
я паспею выслухаць
тваю нечакана цвярозую
версію:
мы з табою трапілі
ў залеву з хранонаў —
элементарных часцінак,
у якіх увасоблены
час.

***

Надзейны смак мамінага малака
ля акна з відам на
ператвораны ў вар'ятню
кляштар францысканаў,
смак вады дзвінскае лукавіны,
якая рыхтавала мне
цёплае месца сярод сваіх
тапельцаў,
малінавы смак вуснаў
юнай распусніцы
пад перакуленай у вербалозе
лодкай,
смак першага глытка
схаванай бабулінай самагонкі,
горды смак крыві
з разбітых у бойцы
з зарэчнай шпаною
кулакоў,
гаючы смак ветру,
адной з нешматлікіх,
як зазначыў калега Камю,
чыстых рэчаў,
марскі смак жаночага лона,
смак бясконцасці,
што кладзецца на вусны
ў зімовыя месячныя ночы...
А з будучыні
ўжо ляціць насустрач
тая,
чый пацалунак,
як вясёлка над жыццём,
тоіць у сабе
ўсе знаёмыя і нязведаныя
смакі і іх адценні,
тая,
якой вядомыя мае шляхі і спраты,
тая, што кожную хвілю гатовая
грацыёзна памяняць
галс.

***

Даўно няма
ўтравелай сцежкі,
а цёплая антэна
спічастага валуна
дагэтуль пасылае ў сусвет
тое самае паведамленне
пра
белыя мяцёлкі скрыпеню,
расплаўленае ў сонцы лісцё
маладой арабіны,
дзвюх рудых мурашак
на сіняй ад чарніц далоні
і халаднавата-смуглае цела
дарослай дзяўчынкі,
якую ніколі не кахаў,
якую ніколі не забуду.

***

Існуюць розныя погляды
на тую самую з'яву:
хтосьці лічыць, што бусел
стаіць на аднойназе,
бо, падкурчыўшы яе,
грымнецца на дол;
хтосьці перакананы, быццам
Сімяон-стоўпнік
ускараскаўся на верхатуру
з адзінай мэтаю —
каб зручней пляваць
на мінакоў;
хтосьці быў пэўны, што
дакладнае паўтарэнне дзён,
калі наступны
ёсць копіяй папярэдняга,
напазбежна выклікае намер
рыхтавацца да арганізаванага
адступлення на зыходныя пазіцыі.
Я гатовы згадзіцца
з дзвюма першымі версіямі,
але ўжо не збіраюся
ратавацца ўцёкамі
з гэтай анфілады дзён-блізнятаў,
бо іх сцэны берагуць
беззаганную постаць
паганскае багіні,
якой маліліся ў бярозавых гаях
твае і мае продкі;
бо гэтая люстраная бясконцасць
вартуе нязменна гуллівую
блакітнавокую ўвагу,
па-за чыёй акваторыяй
ментолавы водар,
што з чэрвеня заблытаўся
ў тваіх валасах,
страціць азонавую свежасць,
якую я збіраюся
закаркаваць у бутэльку
з тонкага бэзавага шкла,
напісаўшы на этыкетцы
дзень і год,
калі я зрабіў адкрыццё, што
разнастайнасць здольная таіць
смяротную небяспеку,
а лабірынт паўтарэння,
як добрае віно,
надае звыклым рэчам,
сітуацыям і пачуццям
новы аб'ём,
калі нават гукі
набываюць колер і форму
і твой званок у дзверы
асыпаецца на паркет
вадаспадам валошкавых шарыкаў,
а вітальны смех
мае колеры і вусатыя абрысы
маёй рыскі, якая —
адзіная з усіх двух-
і чатырохногіх істотаў —
любіла, у адрозненне ад цябе,
засынаць у мяне на грудзях;
пакуль я дзялюся з табой
гэтым адкрыццём,
па вакоі разыходзяцца
канцэнтрычныя кругі
ўтульнага колеру азёрнай завоіны,
населенай белымі гарлачыкамі,
легканогімі вадамерамі
і вірлавокімі стрыбаўкамі,
адкуль,
як з вялізнага акварыума,
за намі вядуць назіранне
дзве залатыя
рыбінкі-тэлескопы.

## *Я рыфмую*

Рыфмую
свае вызваленыя
з вязніцы канонаў
радкі
з трывожным крыкам сойкі,
з залатой лотаццю
і кветкаю эстэрдэліі,
з Калядамі і Купаллем,
з тваёй вядзьмарскай душою
і тваім геніяльным целам,
з аварыйнай сітуацыяй
на міжнародным авіярэйсе
і прадчуваннем
нацыянальнае катастрофы,
з Беларуссю
і штатам Пенсільванія,
з...
Рыфмую з усім,
што ўдаецца адваяваць
у гэтай сусветнай звалкі
рыфмаў,
набліжаючы дзень,
калі з маімі радкамі
назаўсёды зарыфмуецца
цішыня.

# Юрась БАРЫСЕВІЧ



*Хто мы, адкуль мы, куды мы стаім?*

# ЧАРГА

## І. ТВАР І ПАТЫЛІЦА

Чалавек чалавеку больш чым сябра або вораг Чалавек чалавеку – ён сам, які нарадзіўся і жыў у іншых абставінах. Калі мы гэтага не адчуваем, дык толькі таму, што жывём не ў твар, а ў спіну адзін аднаму Нас яшчэ ў дзіцячым садку навучылі, што нельга высоўвацца з агульнай чаргі, куды б яна ні вяла – на аналізы ці прышчэпкі ад хваробаў да доктара, потым, усярэдзіне жыцця – да акенца касы і, нарэшце, да вачэй Госпада на Страшным судзе

Людзі самі выбіраюць (звычайна, з падказкі бацькоў), у якім свеце і пад якім богам жыць "Культавы" расійскі пісьменнік Віктар Пелевін у рамане "Чапаеў і Пустата" на гэты конт кажа так: "Калі мноства вернікаў пачынае маліцца якому-небудзь богу, ён сапраўды з'яўляецца, прычым менавіта ў той форме, у якой яго ўяўляюць. Але тое ж самае датычыць і ўсяго астатняга. Свет, у якім мы жывём, – папросту калектыўная візуалізацыя, рабіць якую нас навучаюць ад нараджэння. Уласна кажучы, гэта тое адзінае, што перадае адно пакаленне іншаму Калі дастатковая колькасць людзей бачыць гэты стэп, траву і летні вечар, мы атрымліваем магчымасць бачыць усё гэта разам з імі"

Паводле французскага паэта і навукоўца Поля Валеры, усялякі парадак, хай сабе ў грамадстве, мастацтве або ў сферы мовы, трымаецца на пэўных фікцыях, на агульным стаўленні да таго, чаго няма. "Грамадства жыве ілюзіямі Усялякае грамадства ёсць свайго кшталту калектыўная мроя" Людзі ў чарзе, часцей за ўсё, не бачаць нагоды ці мэты, што іх аб'яднала яны яе ўяўляюць Паводле слоў Энгельса, чалавек і адрозніваецца ад жывёлы здольнасцю мысліць абстрактна. І можна меркаваць, вынаходства чаргі або, што тое ж самае, арыфметычнага ліку і дазволіла калісьці чалавеку прыўзняцца над эмпірычнай рэальнасцю (лік можна цягнуць да бясконцасці і нават далей), дазволіла пры патрэбе падмяняць прадметы іхнім сімвалічным адлюстраваннем, а зрок – уяўленнем.

Чым далей, тым болей і сам чалавек прыпадабняецца лічбе. Парадкавыя нумары дадаюць не толькі да імёнаў імператараў і мільярдэраў, шмат у якіх чэргах іх пішуць на спінах (у спартсменаў) або далонях. Кожны з нас пранумараваны адрасам, тэлефонам, датамі нараджэння і смерці, рознага кшталту пасведчаннямі і г.д. Навучыўшыся лічыць, людзі сталі атаясамляць адзін аднаго з лічбамі, і немагчыма цяпер набыць які-колечы сацыяльны статус, пакуль табе не знойдуць арыфметычны эквівалент

У адным з апавяданняў Алесь Асташонак так апісаў начны кашмар сучаснага чалавека. "Мне снілася, што ўсім раздалі нумары, а мне нічога не далі, вось я і заплакаў ці закрычаў ад страху, што застаўся без нумара".

Пакуль жывы, чалавек ніколі не прыналежыць нейкай адной сістэме адліку, ён існуе на скрыжаванні розных традыцый і грамадскіх структур Усе нашыя сумненні, усе ліхаманкі духу маюць сваёй прычынай толькі тое, што мы не ведаем, з якім менавіта нумарам павінны атаясамляць сябе ў першую чаргу

У пачатку магло быць і Слова, і проста іншы чалавек, з якім я ці наш далёкі продак, яшчэ не ведаючы ніводнага слова, раптам усвядоміў сваю супольнасць. Зігмунд Фрэйд называў сацыяльнымі "душэўныя зрухі, якія бяруць пад увагу іншую асобу, але не абіраюць яе сексуальным аб'ектам" Калі б людзі не заўважалі адзін аднаго – яны не заўважылі б ні Бога, ні нават больш дробных каштоўнасцяў, якія могуць надаць сэнс нашаму існаванню.

Ты толькі імкніся да чаго-небудзь, і ў цябе з'явяцца паслядоўнікі (а потым, магчыма, адшукаюцца і папярэднікі) Усялякая вера можа адасобіць чалавека ад братоў па крыві (як калісьці адасобіла яго ад жывёлаў), але дарыць яму братоў па духу

З іншага боку, калі цалкам дэзарыентаваныя, абсурдныя людзі пачынаюць як-небудзь узгадняць свае паводзіны – у іх абавязкова з'яўляецца агульная мэта, якая прымушае іх выстраіцца адзін за адным Ці не таму ў людзей з'явіліся ўяўленні пра нейкія каштоўнасці – і матэрыяльныя, і духоўныя – што яны спакон веку жылі побач? Што маглі б мы ведаць пра Бога, калі б нічога не чулі адзін пра аднаго? (Зрэшты, мы нічога не ведалі б і адзін пра аднаго, калі б не мелі агульнага Бога або менш высокіх станаў духу, да якіх разам імкнёмся)

Альбер Камю аднойчы запісаў у нататніку досыць дзіўную думку· "Кожны чалавек – першы, і ніхто першым не з'яўляецца" Напэўна, рэч не толькі ў тым, што кожны з нас у нечым паўтарае лёс Адама ці Евы Здаецца, чэргі ўжо выстраіліся ва ўсе бакі свету, і ўсё-такі кожны чалавек адораны здольнасцю ўбачыць месца, куды яшчэ не ступала нага або думка ніводнага папярэдніка, знайсці нешта такое, што прапусцілі ў сваіх падліках іншыя людзі Кожны з нас нараджаецца і паміpae як шанец скіраваць сусветную гісторыю ў нейкае іншае рэчышча.

Зрэшты, найбольш цікавай мне падаецца наступная інтэрпрэтацыя думкі Камю: якімі б несумяшчальнымі, "перпендыкулярнымі" ні выглядалі розныя веравызнанні, навуковыя школы ды іншыя традыцыі і чэргі, яны ўтвараюць не "хмызняковую" структуру выбуху энергіі чалавецтва ва ўсе бакі, але нейкую замкнёную сістэму, зачараванае кола, у якім адзіны на ўсіх чалавек наступнічае і папярэднічае самому сабе

Людзей на свеце шмат, а чалавек адзін. Зрэшты, па чарзе кожны з нас бывае ім

Нашую з'яднанасць з іншымі людзьмі мы асабліва востра адчуваем у дні народзінаў і смерці – нашай уласнай або нашых блізкіх. У кнізе "Чалавек у люстэрку смерці" французскі культуролаг Філіп Ар'ес паказвае, што рытуалы, якія спраўляюцца ў пакоі хворага і паміраючага, сцэны апошняга развітання і жалобы выражаюць перакананне ў тым, што жыццё асобнага чалавека – толькі звяно фундаментальнага і непарыўнага ланцуга. біялагічнай пераемнасці сям'і, роду, усяго чалавецтва, пачынаючы з Адама, першага чалавека на зямлі.

Усе мы не вечныя, і таму бывае прыемна пачуць, як у спіну табе дыхае наступнае пакаленне пасля нас – не патоп, а новыя людзі. Заўсёды страшна паміраць чалавекам Але яшчэ страшней было б паміраць апошнім – ведаючы, што твае памылкі ўжо не выправіць ніхто.

Салідарнасць з жывымі і мёртвымі прылучае індывіда да мінулага і будучыні ўсяго чалавечага роду У гэтым паўнакроўным ланцугу ён пакідае быць "чалавекам – у – сабе" і становіцца адным са шматлікіх абліччаў "чалавека-ва-ўсіх". Ці не гэта меў на ўвазе старажытнарымскі гісторык Салюстый, які на папрокі ў нізкім паходжанні адказваў: "Я сам сабе продак"? Сапраўды, кожны з нас, у пэўным сэнсе, – продак і нашчадак усіх людзей Кожны чалавек – першы, і ніхто першым не з'яўляецца .

Усялякае слова набывае канкрэтны сэнс толькі ў акустычным ці візуальным шэрагу іншых словаў Словы з аднаго сказа, людзей з адной чаргі можна назваць адзінадумцамі. Хаця супадае ў іх усяго адна думка, але тая, што здолела стацца галоўнай, аб'яднаць і павесці за сабой.

Людзі могуць думаць, а словы казаць пра што заўгодна, і тым не менш усе мы, хай сабе толькі аднойчы ў жыцці, бываем адзінадумцамі У любых двух людзей, нават з розных канцоў чалавецтва, знойдзецца нейкая агульная думка. Цалкам верагодна, што ў любых дзвюх кнігах таксама ёсць хай сабе адна агульная думка, хаця і па-рознаму выказаная

Няма такой думкі, якая б панавала над розумам усіх людзей, але няма і такой, якая была б зразумелай толькі аднаму чалавеку Мы ўжо сёння ведаем штосьці з таго, што будуць ведаць людзі праз мільёны гадоў

Чалавецтва шырэй за грамадства, як мысленне шырэй за адзінадумства, і заўсёды ёсць нешта такое, у чым мы згодныя з усімі людзьмі, якімі б злачынцамі ці апартуністамі яны ні падаваліся нам

Прыналежнасць да пэўнай традыцыі дазваляе чалавеку падзяліць свет на лішняе і неабходнае, а людзей – на сваіх і астатніх Дастаткова мець хай сабе аднаго адзінадумца, каб ужо можна і трэба было судзіць іншых і апраўдваць самога сябе Калі ніводнага адзінадумца побач няма – чалавек шукае яго ўнутры сябе, ва ўласным мінулым і забытым, шукае інакшае "я", з якім можна было б дамовіцца і аб'яднацца Кожны з нас жыве сярод людзей – калі не вонкавых, дык сваіх унутраных. Прычым, напэўна, унутры чалавека іншадумцаў і незнаёмцаў не менш, чым ва ўсім навакольным асяроддзі.

Далучэнне да нейкай традыцыі забяспечвае нас легітымаванай самасвядомасцю: не трэба самому прыдумляць назвы прадметаў і з'яў, шукаць падставовыя каардынаты быцця, вынаходзіць асабістую мадэль сусветнага веласіпеда.

Каб знайсці сябе, трэба прычапіцца да якой-небудзь чаргі Чалавек па-за грамадствам, мовай, гісторыяй – гэта ніхто ці, у лепшым выпадку, яно (бо і пол чалавек набывае ў грамадстве) Аднаму з герояў Дастаеўскага не давала спакою пытанне· "Які ж я штабс-капітан, калі Бога няма?" Хаця больш па-хрысціянску, напэўна, было б запытацца "Які ж я штабс-капітан, калі перад Богам няма ні эліна, ні габрая, а ёсць толькі браты па веры?" Ледзь не ўсе рэлігіі кажуць пра роўнасць людзей, а некаторыя нават вучаць чалавека быць нікім, адмаўляцца ад усялякага сацыяльнага статуса і не мець асаблівых прыкмет, але на практыцы кожная канфесія мае сваю выканаўчую іерархію, свой каляндар, абмежаваны набор імёнаў для вернікаў, ды іншыя непарыўныя ланцугі. Інакш, напэўна, і немагчыма было б злучыць сучаснасць з яе сэнсатворнымі першавытокамі.

Паводле Гадамера, заснавальніка сучаснай герменеўтыкі, традыцыі прыналежыць вырашальная роля ў гістарычным працэсе і ў спазнавальнай дзейнасці яна з'яўляецца тым цэнтруючым звяном, вакол якога і дзякуючы якому адбываецца структурызацыя ўсяго чалавечага быцця Сапраўды, мы здольны нешта ведаць і разумець, пакуль нам ёсць на каго абаперціся і спаслацца. Чалавек штосьці ведае толькі таму, што знайшоў сабе месца за нейчай спіной

Усе мы – звёны сусветнай сістэмы ланцугоў, нацягнутых паміж зямлёю і небам Магчыма, гэта нашыя чэргі ўтрымліваюць над планетай неба, каб не зляцела, а з іншага боку – не даюць зямлі ўпасці яшчэ ніжэй

Нічога дзіўнага, што на свеце так шмат людзей хтосьці павінен паспрабаваць жыць паводле кожнага з незлічона магчымых светапоглядаў Нагадаю, аднак, што людзей было зусім няшмат, толькі двое, пакуль яны не спрабавалі спазнаць дабро і зло Мне здаецца, у раі, калі нам суджана будзе туды вярнуцца, месца хопіць таксама толькі дваім. Або нават аднаму· новаму Адаму.

Чалавек можа больш-менш дакладна ўпісацца ў структуры грамадства, забяспечыць сэнсам свае духоўныя і фізіялагічныя памкненні толькі ў тым выпадку, калі ён паўтарае іншых або самога сябе Немагчыма быць чалавекам, не маючы нічога агульнага хай сабе з некаторымі людзьмі З іншага боку, усё жыццё мы самі падаём каму-небудзь прыклад, і ў першую чаргу – самім жа сабе Сапраўды, кожны з нас першы, і ніхто першым не з'яўляецца.

Мова існуе толькі таму, што хтосьці ўвесь час паўтарае яе словы і інтанацыі Рэлігію немагчыма ўявіць без штодзённага і штогадовага паўтарэння тых жа самых рытуалаў І нават сусветная гісторыя, паводле Маркса, паўтараецца – прынамсі, двойчы

Калі адзін чалавек нават трохі падобны да іншага – ён ужо мае падставы меркаваць, што жыве не дарма.

Толькі той ведае, навошта жыве, хто не бачыць перад сабой чалавечага твару, але заўсёды мае магчымасць убачыць яго, калі азірнецца назад.

А. дэ Сент-Экзюперы аднойчы слушна заўважыў, што любіць адзін аднаго – значыцца глядзець у адзін бок. І рэч не толькі ў тым, што любіць каго-небудзь мы здольны толькі праз агульную мэту і сістэму каштоўнасцяў Мы наўрад ці маглі б кахаць, а тым больш – паважаць чалавека, калі б мелі магчымасць бачыць зблізу ўсе тыя грымасы, у якія складаюцца часам рысы ягонага твару, і ўсе без выключэння жэсты ягонага цела Лягчэй паважаць чалавека здалёк альбо калі мы бачым яго толькі ўскрайчыкам вока

Дарэчы, у царкве вернікі саромеюцца разглядаць не толькі адзін аднаго, яны амаль не бачаць тых абразоў, на якія моляцца, бо вельмі цяжка наважыцца падняць на іх вочы. Усё, што надае сэнс нашаму жыццю, – казаў той жа Сент-Экзюперы, – мы бачым не вачыма, а сэрцам

Невыносна было б жыць заўсёды тварам адзін да аднаго. Мы нават у грамадскім транспарце імкнёмся сесці або стаць ля акна, за чыёй-небудзь спіной Так спакайней У жывым твары чалавека – у адрознасць ад патыліцы або хаця б маскі – заўсёды адчуваецца нейкая недагаворанасць, нейкае запытанне, метафізічная неўладкаванасць.

Наўрад ці чарга ператварыла малпу ў чалавека, але менавіта яна ператварае чалавека ў асобу Толькі разам з іншымі

і дзякуючы агульнай мэце чалавек можа хоць неяк адбыцца, здабыць сабе для жыцця і пасмяротнай памяці ўсе неабходныя рысы індывідуальнага “я”.

Шукаць сваё “я” трэба ў тым або іншым шэрагу “мы”. Паводле Фрэйда, “індывід вядзе двайное існаванне – як самамэта і як звяно ў ланцугу, якому ён прыналежыць супраць альбо паміма ўласнай волі” Мне ж уяўляецца, што нават у якасці самамэты індывід застаецца звяном ланцуга, але не таго ж самага, а іншага, які абмінуў ягоных суседзяў Хіба мы не ўмеем стаяць у некалькіх чэргах адразу? Кожны з нас прыналежыць некалькім культурным традыцыям, мовам, можа працаваць у некалькіх установах, мець некалькі сем'яў і сяброўскіх колаў.. Па сутнасці, кожны чалавек мог бы сказаць пра сябе не “я”, а “мы”. Ад шызафрэніі нас ратуе толькі здольнасць у кожны канкрэтны момант атаясамляць сябе з нейкім асобным “я”, а пра астатнія забываць, выціскаць іх у падсвядомасць.

Мяркую, нямецкі філосаф Карл Маркс меў рацыю, калі казаў: “Трэба пазбягаць таго, каб супрацьпастаўляць грамадства, як абстракцыю, індывіду Індывід ёсць грамадская істота” Але ж, апрача таго, і грамадства з'яўляецца своеасаблівай індывідуальнай істотай. Калі асобны чалавек – гэта аднаразовае “мы”, то ўсе людзі, што жывуць за і перад ім, – гэта шматаблічнае, шматразовае “я”

І таму стаяць у чарзе нават за нейкай дрэнню (на погляд староннята), казаць пераважна пустыя словы, трываць на працы хамства начальніка асобна для кожнага з нас амаль не сорамна, не зневажальна. мы ўсе – як адзін, у нас агульнае сумленне Разумная істота тут адна на ўсіх сама чарга, а мы – толькі яе сегменты (магчыма, і нейкія больш дыферынцыраваныя органы, калі цела нашай чаргі мае больш складаную структуру, чым дажджавы чарвяк)

Калі мы развітваемся з суседзямі па чарзе або працы без шкадавання, не адчуваючы болю – значыцца, яна была надта кароткай, каб мы паспелі хоць аднойчы ўсміхнуцца адно аднаму і адчуць, што ў кожным чалавеку маем працяг уласнага існавання Там, дзе чэргі вельмі кароткія або зніклі наогул, чалавек не паспявае абрасці іншымі людзьмі. Нам патрэбен час, каб разгледзець у незнаёмым чалавеку спачатку далёкага сваяка, а потым і брата А то і самога сябе

Мілан Кундэра ў рамане “Неўміручасць” сцвярджае, што галоўнае прызначэнне твару – увасабляць не індывідуальнасць чалавека, а ягонае падабенства да іншых людзей· “Калі пакласці побач фатаграфіі двух розных твараў, табе адразу кінецца ў вочы тое, чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго Але калі побач, як у ілюстраваным часопісе, дзвесце дваццаць тры фізіяноміі, ты раптам пачынаеш разумець, што ўсё гэта толькі адзін твар у мностве варыянтаў і што ніякага індывіда ніколі не існавала.

У камп'ютэры Творцы быў спраектаваны толькі прататып чалавека, паводле якога паўстала вялікае мноства экзэмпляраў, якія з'яўляюцца вытворнымі ад першапачатковай мадэлі і не маюць ніякай індывідуальнай сутнасці Гэтаксама, як не мае яе асобны аўтамабіль маркі “рэно” Ягоная сутнасць захоўваецца па-за ім, у архіве галоўнага канструктарскага бюро Асобныя машыны аднолькавай мадэлі адрозніваюцца толькі вытворчым нумарам Вытворчы ж нумар чалавечага матэрыялу – твар, гэтае выпадковае і непаўторнае спалучэнне рысаў. Твар – не больш чым нумар экзэмпляра”.

Трапіўшы разам з астатнім целам у жорсткую сістэму сэнсавых каардынат, якой з'яўляецца ўсялякая чарга, твар паступова губляе рухомасць і застывае, набываючы ледзь не такі ж устойлівы выраз, як пасмяротная маска

У чарзе, прынамсі, напачатку, мы адчуваем псіхалагічны дыскамфорт· яшчэ незнаёмыя, мы мусім стаяць або сядзець надта блізка адзін да аднаго – на інтымнай адлегласці шэпту Адзінае, што дапамагае хоць неяк адасобіцца, павярнуцца адзін да аднаго спінай, а калі гэта немагчыма – зрабіць твар непранікальным, павярхоўным як фатаграфія ў пашпарце

Адзін з парадоксаў чаргі – у тым, што, з аднаго боку, нашыя выпадковыя суседзі паступова праяўляюць усё больш індывідуальных рысаў, а з іншага – сапраўды робяцца ўсё больш падобнымі· гавораць аднолькавыя фразы, думаюць аднолькавыя думкі, нават фізічна імкнуцца да нейкага сярэднестатыстычнага стану· старыя тут становяцца рухлівымі і гаваркімі, а маладыя горбяцца і шаркаюць нагамі

У доўгай чарзе або ў храме можна нечакана зразумець, што ўсе людзі, якія жывуць адзін за адным дзеля агульнай мэты, павінны стацца блізнятамі калі не пры жыцці, то ўжо пасля смерці – дакладна.

Бо смерць для нас – другая маці Калі чалавек тут мае братоў, чаму ён не можа мець іх на іншым свеце – і ранейшых, і новых?

У нашым падабенстве ёсць адразу нешта нябожчыцкае і эмбрыянальнае Чарга – не толькі брацкая магіла чалавечага часу, але і матка, якая гадуе людзей для нараджэння ў нейкім новым абліччы

Твар як ніякая іншая частка цела (за выключэннем, магчыма, рукі і артыкуляцыйнага апарату) падвяргаецца амаль няспыннай, як сам лёс, сацыялізацыі уцягваецца ў працэсы тварнай вытворчасці, рэлігійнай практыкі, мастацкай творчасці ды іншыя крываносныя артэрыі грамадскага жыцця

Свабодны твар занадта няўстойлівы, каб можна было ўпэўнена ідэнтыфікаваць з ім нейкага чалавека. І таму твар трэба спыніць. сфатаграфаваць, увасобіць у мармур або засланіць маскай

На думку расійскага філосафа Валерыя Падарогі, “твар індывідуальны, але не адзінкавы, і таму ніколі не супадае з сабой Формула смерці фізіягнамічна простая адзін чалавек – адзін твар. Вось чаму пакуль мы існуём, мы так упарта супраціўляемся ўласнай ідэнтыфікацыі (цудоўны прыклад фотаздымак на пашпарт, па якім нас апазнаюць, ідэнтыфікуюць, і дзе выпадковы вобраз, фотаадбітак адыгрывае ролю нашага твару) Ралан Барт недарма называў фатографа агентам смерці Часам спачуваеш жаданню фатографа апярэдзіць смерць, з якой так шчыльна знітаванае жыццё”

Жывы твар увесь час імкнецца выслізнуць за межы таго выразу, які яму прадпісвае мець грамадства ў той ці іншай сітуацыі Ці не таму чалавек часта адчувае патрэбу адвярнуцца ад чужых позіркаў або схаваць хай некаторыя рысы за далонямі, макіяжам ці маскай, што ў самім твары часам ёсць нешта непрыстойнае, як у недарэчна аголеных палавых органах?

Калі чалавек незадаволены сабой, калі выпаў з абранага вобраза – ён баіцца паказваць твар нават самому сабе і адварочваецца ад люстэркаў

Цікава, у якім абліччы мусіў бы ўваскрэснуць чалавек для жыцця вечнага пасля другога прышэсця Хрыста? Найпрасцейшы адказ – у тым, у якім ён сканаў. Але тады не зусім зразумела, навошта людзі імкнуцца пражыць як мага даўжэй і памерці ад старасці няўжо яны згодныя быць вечна старымі?

Хацелася б думаць, што мы ўваскрэснем у тым абліччы і ўзросце, у якім мы былі найбольш шчаслівыя ў гэтым жыцці Але цалкам магчыма, што нам вернуць нейкае сярэднеарыфметычнае аблічча альбо пакінуць увогуле без знешнасці – каб не было чорных і белых, спакусліва прыгажунь і вырадкаў, хворых і немаўлят І тады мы станемся нават больш падобнымі, чым блізняты: станемся цалкам празрыстымі

Жыццё выбірае сабе лёс гэтаксама, як цела – найбольш зручную або прыстойную паставу Каб жыццё ператварылася ў біяграфію, трэба да нечага імкнуцца і мець гэтаму сведкаў У біяграфію ніколі не трапляе тое, чаго нельга перадаць словамі, намаляваць, паказаць як і тое, што нельга прывязаць да пэўнага моманту часу. Жыццё ўсялякага чалавека – гэта нешта амаль такое ж бясформеннае, як воблака ці глыба мармуру, з якой можна высечы якую заўгодна скульптуру І зусім невыпадкова, што калі доўга стаіш ці сядзіш у чарзе – фізічна адчуваеш, як халаднеюць і камянеюць рукі і ногі, застываюць вочы, рысы твару і нават думкі. Паступова ператвараешся ў нешта скульптурна-манументальнае.

Часам здаецца (ды так яно і ёсць), што побач з яшчэ жывымі людзьмі ў чэргах стаяць і нават узначальваюць іх помнікі, партрэты і вітрынныя манекены У чарзе неабавязкова быць жывым. Галоўнае, каб пра цябе памяталі або натхнёна марылі Мэрылін Манро аднойчы сказала чарговаму жаніху· “Я ўжо даўно ператварылася ва ўласнасць нацыі Навошта ты хочаш ажаніцца з помнікам?”

Жывому твару недастаткова ўласных прыродных рысаў, каб скласці з іх устойлівы іерогліф нейкага сэнсу, а

таксама засведчыць прыналежнасць чалавека да пэўнага племя, адлюстраваць ягоны сацыяльны статус. Чалавек раней усімі магчымымі сродкамі падкрэсліваў сваю прыналежнасць да той ці іншай сацыяльнай групы – праз узоры на зброі і вопратцы, расфарбоўку і татуіроўкі на твары. Мець чысты натуральны твар азначала як бы не мець твару ўвогуле і быць не патрэбным грамадству

Гэтаксама, мяркую, і казаць ён мусіў не ўсе словы, што прасіліся на язык, а зацверджаныя грамадствам на ўсе выпадкі жыцця формулы – магічныя і побытавыя Менавіта ў першабытную эпоху жыццё чалавека мела найвялікшы сэнс, бо ледзь не кожны жэст і гук быў асэнсаваны, асвячоны шматвяковай традыцыяй Чым болей жыццё ператворана ў рытуал – тым больш твар нагадвае маску, якую чалавек прыняў у спадчыну ад продкаў і мусіць перадаць нашчадкам

Кожны надзявае маску не столькі дзеля іншых, колькі дзеля самога сябе У шматлікіх жыццёвых абставінах завучаны выраз твару дапамагае нам захаваць уласную ідэнтычнасць, адыгрываць патрэбную грамадству ролю, насуперак усім стыхіям трымацца на сваім месцы ў сусвеце Сваю магічную энергію маска пароўну выпраменьвае і ў вонкавы свет, і ўсярэдзіну чалавека, мацуючы ягоны дух і выпраўляючы лёс.

Мы толькі тады можам нешта прачытаць у навакольным свеце і пераканацца ў ягонай асэнсаванасці, калі ўспрымаем яго праз нейкі трафарэт на ўласным або сусветным твары Каб штосьці зразумець у гэтым жыцці, трэба не глядзець на яго ва ўсе вочы, а толькі падглядваць.

Напэўна, немагчыма зрабіць маску, якая была б зусім не падобная на ніякую іншую. Гэтаксама любыя два чалавечыя твары заўсёды маюць нейкія агульныя рысы, а два сказы ў тэксце – аднолькавыя літары Маскі маюць сваю генеалогію, сваіх продкаў, братоў і нашчадкаў Яны ўтвараюць нібыта паралельнае чалавецтва з амаль тымі самымі поламі, класамі і нацыянальнасцямі.

Маску чалавек носіць, як правіла, не на патыліцы, а на твары Яна заўсёды павернута насустрач будучыні, але і ў прасторавым сэнсе крыху апярэджвае плоць свайго гаспадара. Зрэшты, часцей не маскі прыналежаць нам, але мы прыналежым нашым маскам Не мы трымаем дадзеное слова, але слова трымае нас. Маска падуладная нам, толькі пакуль мы трымаем яе ў руках, а не на твары

У працы “Фенаменалогія цела” Валерый Падарога кажа “Твар заўсёды схільны да ператварэння ў маску, ён хутка мярцвее пад позіркам, таму ажывіць твар і зняць з яго амярцвяючую кароcту маскі можа толькі голас: маска-твар, як толькі з’яўляецца голас, пачынае вібрыраваць, змяняцца, абрастаць мімічнымі рысамі і падрабязнасцямі, якія нібыта адлюстроўваюць у сабе гульню разнастайных сілаў цела” Сапраўды, голас надае твару дадатковае вымярэнне, надае глыбіню – але толькі сам голас, а не словы, у якія ён заўсёды імкнецца ператварыцца Не толькі позірк іншага, але і словы, што мы самі кажам, зачароўваюць наш твар, складаюць ягоныя рысы ў нейкі ўстойлівы выраз, падобны да маскі Пакуль мы нешта кажам, гэтыя словы не толькі лунаюць у паветры, але і пакрываюць наш твар, нібыта грым ці першабытная татуіроўка.

В Падарога апісвае сярод іншага твары-маскі ў фільмах С Эйзенштэйна, засяродзіўшы ўвагу на грымасах позірку і крыку· “Крык адкрывае ўсярэдзіне твару бездань, жах небыцця, правал, хаос цёмнага пасярод ярка-белага У разяўленым для крыку роце праяўляецца тое, што прыхавана носіць у сабе кожны чалавечы твар· нішто ягонага ўласнага быцця”. Дык вось, ці не спод патыліцы мы бачым пасярэдзіне твару, калі той лямантуе? Пакуль чалавек проста размаўляе, мы не можам зазірнуць яму ўсярэдзіну галавы, пад покрыва твару· наш позірк перахопліваюць зубы, язык і самі словы

Гэтак званае “асноўнае пытанне філасафіі” магло б гучаць так што першаснае – твар ці патыліца? Спакон веку чалавека атаясамляюць з тварам – гэтаксама, як з розумам, імем ці асобай Менавіта твар, а не патыліцу, малююць на партрэтах, змяшчаюць на фатаграфіі ў пашпарце, цалуюць або нявечаць. Мы ўвесь час баімся “згубіць твар”, “упасці тварам у бруд”, з пагардай ставімся да “безаблічнасці”. І патыліца нават не мае чым выказаць пратэст супраць гэтай





адвечнай дыскрымінацыі! А паміж іншым, яе роля ў нашым жыцці не менш істотная, чым роля твару, гэтага афіцыйна прызнанага прадстаўніка галавы.

Нам цяжка ўявіць сабе чалавека без аніякага твару, але не менш пачварным выглядаў бы чалавек з тварам вакол усёй галавы Галоўнае ж, патыліца – гэта непрыкметны, але надзейны падмурак не толькі асобы, але і самога грамадства І найбольш відавочна гэта ў жывой чарзе, дзе кожны твар трымаецца за патыліцу папярэдніка (у некаторых паслядоўнасцях людзей могуць раздзяляць тысячы кіламетраў або стагоддзі – раздзяляць фізічна, але не духоўна)

Калі мы чытаем ці пішам, літары складаюцца ў нешта паслядоўнае і асэнсаванае дзякуючы прабелам паміж імі Калі размаўляем, то разумеем адзін аднаго дзякуючы нявымаўленым знакам прыпынку – ледзь заўважным паўзам паміж падобнымі словамі і адрознымі сказамі. Немагчыма чытаць па патыліцах, але яны – тая папера, на якой пішуцца твары.

Паміж людзьмі ў чарзе няма непераадольнай мяжы· яны перацякаюць адзін у аднаго, як перацякаюць фізіялагічныя вадкасці з аднаго органа ў іншы. Патыліца – гэта свайго кшталту мембрана, праз якую злучаюцца ў нешта адзінае і жывое два суседнія твары

Ноч – гэта патыліца дня. Як усялякі новы дзень пачынаецца ўначы (а год узімку), так і твар пачынаецца дзесьці на папярэдняй патыліцы

Віктар Карамазаў у “Народнай газеце” так апісвае савецкі лад жыцця “Жыццё такое – трэба ў строй Або ты ў страі, або на абочыне, у канаве Цяпер, калі я агледзеўся з той самай абочыны, дык падумаў· як ішоў я ў страі, то ўсіх бачыў у патыліцу, каркі бачыў – аднолькавыя, а цяпер з абочыны ўсіх бачу ў твары, і твары розныя, адзін на адзін не падобныя”

Многія твары нам падаюцца прыгожымі і разумнымі. Наўрад ці менш жахлівых і брыдкіх. Зрэшты, усялякаму твару можна надаць які заўгодна выраз, як усялякаму слову – які заўгодна сэнс.

Жывы твар заўсёды схіляецца да таго або іншага выразу Патыліца ж заўжды застаецца эмацыянальна і эстэтычна нейтральнай, ёю цяжка прывабіць ці напалохаць. Яна амаль пазбаўлена якой-небудзь уласнай інфармацыі – гэтаксама, як маўчанне, з якога растуць словы.

Патыліца і ўвогуле задняя палова цела амаль нейтральная і ў сексуальным плане Тут чалавек з’яўлены свету не як я, ён ці яна, але як яно Гэта сапраўды безабаронная частка цела (у пэўным сэнсе, патыліца гэта ахілесава пята галавы), і таму найбольш зручная для паслядоўнага ўтварэння сацыяльнай структуры, для трансфармацыі асобнага чалавека ў сегмент агульнаграмадскага цела, што мае дзесяткі або тысячы ног

Асноўны закон, паводле якога існуе грамадства, у вузкім сэнсе быў сфармуляваны Фрэйдам як мэта псіхааналізу. дзе было “яно” (чужая патыліца) – там павінна стаць “я” (мой твар)

Чалавечая псіхіка складаецца з узаемададатных сфераў свядомасці і бессвядомага, і грамадства гэтаксама ўяўляе сабой не толькі відавочную серыю “мы”, але і менш заўважную (прынамсі, для мовы і гісторыі) серыю “яны” множны лік ад бессвядомага “яно”.

“Я жахнуўся і думцы наступнай, працягвае В Карамазаў, – мяне ў страі бачылі, пэўна, таксама ў патыліцу, я таксама тады быў падобны на ўсіх, а маё ўва мне, сваё, ніхто не заўважаў?” Дарэмная турбота чалавеку ў страі твар прыналежыць яшчэ менш, чым патыліца. Менавіта за рысы твару нас трымае пад сваім кантролем грамадства Свабодны духам чалавек ніколі не шкадуе свайго “я”, бо ведае. менавіта гэтае слова часцей за ўсе іншыя крычыць у страі кожны салдат або арыштант

Ледзь не ўсё нашае жыццё праходзіць у чарзе следам за нашымі папярэднікамі мы цярпліва чакаем нараджэння, паступлення ў школу, потым – ва універсітэт, чакаем нараджэння ўласных дзяцей, выхаду на пенсію і, нарэшце, смерці. Зрэшты, смерць заўсёды побач – працягні толькі руку. Панкі нават жартуюць, што жыццё – гэта доўгая чарга па смерць, якую ўвесь час хтосьці спрабуе абысці .

У Вярхоўны Савет СССР аднойчы прыйшоў ліст ад пенсіянера, урывак з якога потым быў надрукаваны ў “Известиях”. “Я ўсё жыццё прастаяў у чэргах, нічога не маю, і адзінае, што я магу пакінуць маім дзецям і ўнукам, –

маю чаргу Прашу прадугледзець у Законе аб інтэлектуальнай уласнасці права перадачы чаргі ў спадчыну"

Паводле Гегеля, каштоўнасць мае не толькі дасягнутая мэта, але ўжо сама спроба наблізіцца да яе. І сапраўды, месца ў чарзе – прадаецца! Добра "ідуць" таксама тыя творы мастацтва ці навуковыя працы, якія прыналежаць да вядомай школы, традыцыі. Каб твае творы паважалі і набывалі, трэба прыладкавацца за кім-небудзь з гучным імём, назвацца адданым вучнем і паслядоўнікам

На Захадзе, а цяпер і ў нас кажуць. "час – гэта грошы" Хто мае шмат грошай – можа набыць усё патрэбнае і без чаргі Каштоўнасць усялякай рэчы вымяраецца тым часам, які спатрэбіўся чалавеку (або чалавецтву), каб яе атрымаць У пэўным сэнсе, рэч – гэта ўвасоблены час.

У сацыялістычнай краіне амаль ніводную рэч нельга было набыць без чаргі. І трэба было б аднімаць з цаны тавару цану таго часу, што быў страчаны на ягоныя пошукі і знясільваючую стомную чаргу – ды толькі тады нам усё мусілі б даваць задарма. Можа, яшчэ і даплачвалі б Вось якім бы, напэўна, выглядаў камунізм!

Многія каштоўнасці вырачаны на звяржэнне, многія вяршыні яшчэ будуць зраўняныя з багнай. Аднак смерць чарговага ідэала не станецца катастрофай для тых, хто набыў квіткі (заняў чаргу) адразу ў некалькі напрамкаў. Чалавек не гіне кожны раз, калі ў чымсьці расчароўваецца, толькі таму, што заўсёды мае напагатове нейкую заднюю думку, якая можа стацца пярэдняй, тваранoснай

Чым далей ты паспееў увайсці ў жыццё, тым цяжэй адмовіцца ад набытых правоў і абавязкаў. У чарзе мы нібыта крок за крокам скараем нейкую вяршыню, але і вяршыня скарае нас. Вельмі цяжка, калі жывеш не першы год, плюнуць на ўсе свае дасягненні і сысці, каб дзесьці пачаць жыццё зноў, з новым імем або целам

Калі б кожная пара ног сараканожкі мела асобныя мазгі – яна б не зрабіла ніводнага кроку наперад. З чаргі нават дзіўна бывае назіраць за дзівакамі, што маюць толькі дзве нагі і самі кудысьці ідуць. Трэба свядома адмовіцца ад лішніх думак і жэстаў, ператварыцца ў нешта сярэднеарыфметычнае, інакш у гэтай чарзе і гэтай краіне трываць цябе не будуць, а галоўнае і сам не вытрываеш.

Нам цяжка лічыць паўнавартаснымі людзьмі тых, каго нельга назваць "мы" Чужы – гэта чалавек з не нашага двара, з іншай рэдакцыі ці навуковай школы. Мы добра ведаем, што самы чалавечны чалавек і ўвогуле найбольш разумныя людзі прыналежалі менавіта да нашай традыцыі, і таму ўсе чужынцы нам здаюцца нешчаслівай памылкай эвалюцыі, байстручнымі лініямі чалавецтва

Напэўна, усялякая чарга, рэлігія або партыя згодная стацца адзінай і ўсеагульнай – так, каб не засталося ніводнага чалавека па-за яе шэрагамі Усялякая супольнасць выпраменьвае моцнае поле прыцягнення· волю да ўлады. З фізікі вядома, што вакол праваднiка электрычнага току паўстае магнітнае поле. І сапраўды, чым болей чарга напружаная і дынамічная, тым мацней прыцягвае да сябе ўвагу, зачароўвае і спакушае ўсіх, хто праходзіць побач.

Крэда кожнай чаргі добра адлюстроўвае адзін з улюбёных лозунгаў юных піянераў-ленінцаў· "Ни шагу назад, ни шагу на месте, а только вперед и только все вместе!".

Чарга – гэта сімвал стабільнасці дзяржавы і маральнага здароўя грамадства. Але, як у свой час адзначаў адзін з белаэмігранцкіх часопісаў, руская рэвалюцыя таксама "вырасла з хвастоў" Сацыяльны выбух непазбежны, калі людзі вымушаны стаяць зусім не ў тых чэргах, казаць не тыя словы, рабіць не тыя справы, на якія было б не шкада часу і самога жыцця

У краіне агульнага дэфіцыту чалавек павінен сведчыць сваю лаяльнасць да рэжыму не толькі словамі, але і ўсімі даступнымі яму жэстамі Канешне, унутры сябе ён можа думаць і рабіць што заўгодна (бо існуюць не толькі ўнутраныя словы, але і ўнутраныя жэсты), аднак навідавоку трэба прытрымлівацца дзяржаўнай харэаграфіі і рыторыкі. І жывая чарга – напэўна, найбольш папулярны сярод рытуальных танцаў, удзельнічаць у якіх быў абавязаны кожны савецкі грамадзянін.

Таталітарызм – там, дзе ўсе чэргі (прамовы, дэманстрацыі, заводскія канвееры) накіраваны ў адзіны бок, да адзінай мэты Нашыя першамайскія дэманстрацыі былі не толькі чаргой да добразычлівага позірку мясцовага і прыезджага начальства, але і сімвалічным паказам усенароднага руху да светлай будучыні пад наглядам і лозунгамі кіруючай партыі.

У святочных дэманстрацыях удзельнічалі прадстаўнікі або выканаўцы роляў усіх пакаленняў савецкіх людзей – ад рэвалюцыйных матросаў, што "ўласнымі рукамі" бралі Зімні, да касманаўтаў Сапраўды, час у чарзе зручней пералічваць не ў хвілінах ці ў гадах, а ў людзях. Чарга – гэта літаральна ачалавечаны час.

У таталітарнай дзяржаве чалавек не мае амаль нічога агульнага з уласным целам. ён існуе пераважна ў нейкіх спісах ды іншай дакументацыі Як яшчэ ўпраўляць людзьмі, калі не выстраіць іх адзін за адным – хаця б у алфавітным парадку на паперы? Усе фізіялагічныя праявы жыцця замоўчваюцца і хаваюцца, усе прасторавыя маніфестацыі цела максімальна абмяжоўваюцца (праз забарону непрыстойных танцаў, інстытут прапіскі, дзяржаўную манаполію на асноўныя ці нават усе сродкі транспарту і г.д) дзеля таго, каб атаясаміць чалавека з часам і Гісторыяй Трэба, каб чалавек быў упэўнены ў заўтрашнім дні, а для гэтага ён павінен жыць на адным і тым жа месцы

Іосіф Бродскі ў эсэ "Менш за адзінку" адкрывае нам сапраўднае імя гэтай упэўненасці. "Формула турмы – недахоп прасторы, кампенсаваны лішкам часу Вось што табе сапраўды назаляе, вось чаго ты не можаш адолець. Турма – адсутнасць альтэрнатываў, і з глузду цябе зводзіць тэлескапічная прадказальнасць будучыні"

Зрэшты, гэтае адчуванне безвыходнасці ўласцівае, мяркую, толькі таму, хто сядзіць у камеры адзін, без суседзяў Бо кожны чалавек, з якім жывеш побач, – гэта не толькі дадатковае акенца ў свет, але і заўсёдная небяспека, магчымасць нейкай прыгоды, якая можа раптоўна змяніць тваё жыццё Пакуль жывеш разам з іншымі людзьмі, хаця б з адным чалавекам, будучыня застаецца непрадказальнай, ды і мінуўшчына можа раптам набыць зусім іншы выгляд і сэнс.

Апрача таго, паўсюль, дзе чалавек зачынены ў абмежаванай прасторы, – у бальніцы, чарзе, турме, – ён шукае выйсце ў самім сабе· пачынае размаўляць з сабой, спрачацца і нават рабіць сабе падарункі. Ці не таму нам часам здаецца, што ў суседа па чарзе або камеры твар нібыта павернуты вонкі сподам, адваротным бокам – як, магчыма, і іншыя органы цела чалавек нібыта абменьваецца жэстамі і размаўляе з кімсьці ўнутры сабе. Немагчыма пазбавіць чалавека волі, пакінуўшы яму памяць і ўяўленне.

Усе правы чалавека – гэта, па сутнасці, права перайсці з адной чаргі ў іншую, і калі трэба, вярнуцца.

Чым вастрэй дэфіцыт тавараў – тым буйней натоўпы, што збіраюцца зранку ля зачыненых яшчэ дзвярэй крамы. Натоўп, які яшчэ не паспеў ператварыцца ў чаргу, нездарма параўноўваюць са стыхіяй гэта сапраўдны пярэдадзень мовы і гісторыі, калі людзі не ведалі адзін аднаго па імёнах, не ўмелі лічыць і складаць спісы, а таму ва ўсялякім учынку мусілі прысутнічаць усім сваім целам. Гэта ўжо потым мы навучыліся шматлікімі спосабамі сімвалічна пазначаць свой удзел у той або іншай падзеі і адначасна прысутнічаць у некалькіх месцах.

Знаёмая пабывала ў Амерыцы і, па яе словах, толькі аднойчы бачыла ў супермаркеце жывую чаргу· па радыё паведамілі пра набліжэнне тарнада – і вось людзі з усёй ваколіцы спяшаліся назапасіць прадуктаў на некалькі дзён А мы, значыцца, дзесяцігоддзямі жылі ў СССР напярэдадні канца свету?

Адной надзеі мала, каб надаць жыццю сэнс і парадак· мы хацелі б ведаць напэўна, што месца ў раі хопіць усім Калі дзверы крамы нарэшце расчыняюцца, чаканцы так шалёна прущца туды, нібыта іх піхае ў спіну ўсё астатняе чалавецтва Напэўна, вось гэтак жа людзі будуць ціснуцца ў дзверы храмаў на досвітку Суднага дня

Трагедыя сусветнай гісторыі – у тым, што шчасця ніколі не хапае на ўсіх. Нельга выратаваць усіх людзей адразу· так вучыць усялякая рэлігія. Ці не вучыць нас гэтаму і чарга? Не кожны, хто кажа· "Госпадзе! Госпадзе!" – увойдзе ў Царства нябеснае Не ўсе здолеюць дайсці да прылаўка і нават проста патрапіць у краму да закрыцця

Ахопленыя энтузіязмам масы, якія штурмуюць неба або дзверы крамы, здараецца, душаць насмерць не толькі

ахоўнікаў і прарокаў, але і сваіх жа, і нават выпадковых мінакоў. Усялякае натхненне альбо ўвесь голас патрабуе ахвяраў, альбо маўкліва пагаджаецца з гібеллю тых, хто недарэчы спатыкнуўся...

Авалоданне мовай у свой час зрабіла чалавека адухоўленай істотай і прыўзняло яго над фізічнай рэальнасцю. Але хіба не безагляднае карыстанне мовай, у якой так шмат небяспечных словаў, забіла безліч людзей, і не толькі паэтаў?

Чалавек становіцца не толькі за тым, што яму патрэбна цяпер, ледзь не часцей ён ахвяруе свой час на тое, што спатрэбіцца невядома калі. Многія стаяць у чарзе, каб набыць нейкія рэчы, веды, знаёмствы на потым, у запас. Нават месца ў раі чалавек хацеў бы атрымаць не вось цяпер, а калі яму не будзе чаго рабіць на зямлі.

Мы зайздросцім тым, хто бліжэй за нас падышоў да агульнай мэты, і імкнёмся не адстаць ні на крок. Амаль не звяртаем увагі на тых, хто наступнічае нам – але забывацца пра іх нельга абыдуць пры першай магчымасці Чалавек у чарзе толькі цяжка ўздыхае, калі бачыць, колькі яшчэ вартых павагі людзей аддзяляе яго ад запаветнай мэты, але, зрэдчас павяртаючыся, ён падбадзёрваецца многіх ён ужо выперадзіў! Усялякі сярэдні чалавек можа, калі азірнецца, усвядоміць сябе ледзь не правадыром

Напэўна, кожнаму хочацца, каб паслядоўнікаў у яго было болей, а папярэднікаў меней У чарзе гэта азначае больш твараў і менш патыліц вакол цябе І мэту сусветнай Гісторыі (перамогу святла над цемрай, розуму – над прыродай і падсвядомасцю) можна ператлумачыць так: усе людзі павінны павярнуцца тварам да нас і адзін да аднаго – нават тыя, хто жыў задоўга перад намі

Чым далей мы жывём, тым менш бачым патыліц перад сабою Я нават думаю, што ў сваё апошняе перадсмяротнае імгненне кожны з нас адчувае сябе Адамам, першым чалавекам на свеце, а ўсіх астатніх, нават бацькоў, – сваімі нашчадкамі

Месца ў чарзе можна не толькі прадаць, але і падараваць. Некаторыя дзівакі прапаноўваюць памяняцца месцамі тым, хто стаіць далёка ў хвасце, не дзеля грошай, а каб знайсці сабе новых сяброў Увогуле кажучы, усялякая дапамога чалавеку палягае ў тым, каб паставіць яго на сваё ці іншае больш выгоднае месца

Звычайна чарга нераўнамерная: дзе пуста, дзе густа. У адным месцы людзей не хапае і стаяць мёртвыя душы, у іншым – натоўп замест аднаго чалавека. Нашыя папярэднікі, парушаючы ўсе пісаныя і няпісаныя законы, уладкоўваюць побач з сабой знаёмых і сваякоў, і праз гэта адсоўваюць штораз далей у няпэўную будучыню наш выхад на волю.

Зрэшты, чаргу можна заняць – і самому адысці ненадоўга· пра цябе не забудуць. Пустое месца прасоўваецца наперад гэтак жа паспяхова, як сам чалавек. Як усё ж такі мала тут чалавека, калі яго можна замяніць адным успамінам!

Ва ўсялякай чарзе чалавечае жыццё, як слова ў сказе, робіцца адназначным, у лепшым выпадку – двухсэнсоўным Ад ператварэння ў нейкую аднавымерную істоту чалавека ратуе толькі тое, што ён запісаны адразу ў некалькіх чэргах. Кожны з нас на працягу жыцця можа змяніць некалькі імёнаў і званняў, а з іншага боку – пад адным імем ці псеўданімам могуць хавацца зусім не падобныя людзі.

Нам не так ужо і шмат патрэбна ў жыцці Навошта асобнаму чалавеку мова альбо гісторыя? Мы б даўно разышліся з чаргі куды вочы глядзяць, але кожны стаіць тут не дзеля сябе аднаго Чалавек не маліўся б ніводнаму богу, калі б не мог згадаць у малітве дзяцей, бацькоў – усіх, хто яму дарагі А як жа часам хочацца "вярнуць свой квіток", паводле выразу аднаго з герояў Дастаеўскага!

Нам дапамагае выстаяць тое, што нас чакаюць дома, і чакаюць не з пустымі рукамі Дачытаць навуковы трактат, дагледзець да канца нудотны фільм нам дапамагае тое, што мы павінны распавесці пра яго іншым людзям І чым больш любім мы тых, дзеля каго стаім у чарзе, тым мы цярплівейшыя Бунтаваць лёгка таму, у каго не ўсе дома ці ўвогуле няма сям'і

Галоўнае, што засмучае, – гэта немагчымасць радасці шырокага кроку Найменшы рух трэба ўзгадняць з суседзямі Добра яшчэ, што не трэба ўзгадняць з імі маўклівыя думкі. пад покрывам цела можна думаць пра што заўгодна і не баяцца дапытлівых позіркаў, але ж сепаратныя рэфлексіі ў чарзе таксама атрымліваюцца нейкія недалёкія, аднакрылыя Паводле Карла Ясперса, асноўнай характарыстыкай розуму з'яўляецца воля да адзінства. Напэўна, на падтрыманне гэтага адзінства розум і траціць свае лепшыя сілы

Чым далей жывеш у чарзе, тым шчыльней зрастаешся са сваімі паплечнікамі – ледзь не да стану сіямскіх блізнятаў з агульным сэрцам і мноствам канечнасцяў. На чужынца, які спрабуе ўлезці ў нашыя шэрагі, глядзіш як на нейкую інфекцыю, як на небяспечны для нашага шматлюднага цела мікраарганізм

Нягледзячы на ўсе захады па ахове парадку, заўсёды знойдуцца нахабнікі, што рвуцца да ўлады, да прылаўка ці першай прыгажуні балю без чаргі, па чужых нагах і галовах Некаторыя абгрунтоўваюць свае льготы працоўным стажам, хваробай альбо моцным кулаком. Чарга забаўляецца сузіраннем спрэчак ля ўвахода ў краму, але ў іх не ўдзельнічае гэта адбываецца так далёка ад нас! Амаль як у наступным стагоддзі

І аднак, чым бліжэй падыходзіш да галавы чаргі, тым больш самасвядомасці вяртаецца да цябе. Цалкам пасіўны раней чалавек ля прылаўка перайначваецца: ён ізноў адчувае сябе чымсьці асобным і ўжо нікога не жадае пускаць перад сабой. З іншага боку, чым далей прасунуўся – тым менш звяртаеш увагі на тое, што адбываецца ў хвасце чаргі, хто там яшчэ да нас прымкнуў Ва ўсялякім народзе, мастацкім ці палітычным руху, зразумела, ёсць выпадковыя людзі, як ва ўсялякім тэксце лішнія словы. З кожным крокам абарочваешся ўсё радзей. надта шмат дапытлівых позіркаў, падобных да зграі галодных мух, адразу кідаюцца табе ў вочы. Калі нарэшце дажываеш да прылаўка, дыплома ці да самой смерці – з палёгкай складаеш з сябе адказнасць за чысціню і стройнасць шэрагаў· няхай наступнікі разбіраюцца самі Не так ужо і шмат у нашым жыцці прыемнага, каб чалавек хацеў памятаць яго і пасля смерці.

У чарзе часам адчуваеш сябе ўдзельнікам нейкага калектыўнага сексуальнага акта людзі складаюць велічэзны напружаны пеніс, а крама, у якую яны ўваходзяць, каб неўзабаве выйсці, падобная да ўтульнай цёплай вагіны Калі дэфіцытны тавар заканчваецца – чарга, затрымаўшыся яшчэ на нейкі час ля пустога прылаўка, ападае і разыходзіцца А найпрыемней за ўсіх пачуваецца той, хто паспеў атаварыцца апошнім

Да чаго б ні імкнуліся людзі – на ўсіх не хапае "Шмат пакліканых, ды мала абраных", – папярэджвае Евангелле. Чарга і само жыццё прываблівае некаторых сваёй рызыкоўнасцю· да самага канца невядома, чым усё скончыцца.

Не кожная эрэкцыя заканчваецца аргазмам. А што такое, дарэчы, сусветная гісторыя, як не эрэкцыя чалавецтва ад зямлі да неба? Калі чалавек упершыню падняўся з чатырох лапаў на дзве, навукоўцы так яго і назвалі – Homo Errectus Ведаць бы толькі, ці не дарма ён падняўся?

Часам здаецца, што лепш зрабіць памылку, чым нічога не зрабіць. Калі перад самым носам закончылася тое, чаго так доўга чакаў, чалавек лёгка пагаджаецца набыць хоць што-небудзь, нават зусім не патрэбнае, абы толькі не сыходзіць з пустымі рукамі· трэба ператварыць страчаны час хоць у нешта матэрыяльнае Цікава, чым людзі прыдумаюць замяніць смерць, калі яе на ўсіх не хопіць?

Калі выходзіш з шматгадзіннай чаргі на свабоду – адчуваеш сябе немаўлятам. глядзіш на свет і напачатку нічога не можаш зразумець. І тое ж самае адчувае чалавек, які выйшаў з абрыдлай, але вядомай ва ўсіх падрабязнасцях турэмнай камеры, звольніўся з войска ці проста адклаў убок захапіўшую яго кнігу Трэба прыдумляць новы ці пакрысе ўзгадваць стары лад жыцця, складаць з аскепкаў напаўзабытых думак і ўчынкаў новае ці старое "я". Трэба вучыцца жыць у паўзбаўленым засвоеных арыенціраў свеце, і можна па недасведчанасці трапіць пад машыну

Кожны ўдала пражыты дзень абуджае ў нас спадзяванне, што і ўсё жыццё можа прайсці недарма, што яго можна прысвоіць і ўпарадкаваць. Кожны раз, калі чалавеку хапае сіл выстаяць да канца чаргу, літургію ці працоўную змену, ён пачынае верыць, што могуць спраўдзіцца ўсе ягоныя задумы і праекты, і нават сама

Гісторыя можа дасягнуць сваёй няўцямнай мэты, а шматвяковае карыстанне мовай таксама да чаго-небудзь, нарэшце, прывядзе. Ці не таму ледзь заўважна ўсміхаецца ён, выходзячы з крамы, заводскай прахадной або храма?

Нам так часта даводзіцца чаго-небудзь чакаць у жыцці, што паступова мы прызвычайваемся чакаць абы-чаго, якой заўгодна падзеі У эпоху перабудовы можна было часам убачыць даўжэзную містычную чаргу да амаль пустой крамы: людзі маглі гадзінамі чакаць, што завязуць які-небудзь тавар, нават не ведаючы наперад, які і на колькі пакупнікоў яго хопіць.

Чарга па нішто сведчыць, што дзеяслоў "чакаць" можа быць непераходным – гэтаксама, як "жыць" або "пісаць" (пра непераходнасць гэтага апошняга ўжо казаў Ралан Барт) Усялякае дзеянне, праз якое жыве чалавек, можа мець нейкую мэту, але ці не часцей яно адбываецца само па сабе, без пэўнага намеру і накірунку І менавіта здольнасць чалавека думаць ні пра што і чакаць невядома чаго дапамагае яму, у адрознасць ад запраграмаванай на пэўны вынік машыны, адаптавацца да якіх заўгодна перастановак у фізічнай і духоўнай паслядоўнасці рэчаў, сярод якіх ён жыве Напрыклад, перабегчы да іншай крамы, калі нечакана там пачнуць прадаваць нешта больш патрэбнае.

Гадзіны чакання, засяроджанага маўчання загартоўваюць наш дух нібыта малітва або нейкая клятва Наколькі чуйнымі і спагадлівымі робімся мы да сваіх суседзяў, настолькі ж глухімі і недасягальнымі – для ўсіх астатніх Мы чарсцвеем як хлеб Калі нас не бароняць ад вонкавага свету глухія каменныя сцены альбо браня танка – мы самі абрастаем нейкай скарынкай, агульнай скурай, падобнай да мацярынскага чэрава. Пакуль чалавек ведае, дзеля чаго жыве – ён яшчэ нібыта не нарадзіўся

Каб знайсці сваё месца ў сусвеце, дастаткова застыць у аднойчы абранай позе Або няспынна паўтараць нейкі набор слоў і жэстаў, як спраўна працуючая дэталь машыны грамадства. Дэкарт, дарэчы, меркаваў, што ўласнае цела чалавека ці жывёлы – не што іншае як адзін з бясконцай колькасці агрэгатаў агульнай машыны сусвету.

Сваім аднастайным, механічным, але ў той жа час жывым рытмам, падобным да пульсацыі крыві ў целе і думак у розуме, чарга мацуе дух, вучыць не саромецца паўтараць сябе або іншых людзей нават у такой безнадзейнай справе, як чалавечае жыццё. У самім рытме ранішняй гімнастыкі, нудотнай працы на канвееры, танцаў і, перадусім, дыхання ёсць нешта сэнсатворнае. Яшчэ ў Старажытным Рыме людзі заўважылі dum spiro – spero ("Пакуль дыхаю – спадзяюся") І нездарма якое заўгодна, нават знарок абсурднае дзеянне, калі яго штодня паўтараць, неўзабаве ператвараецца ў сакральны рытуал, вакол якога можна будаваць і ўсё астатняе жыццё Для нараджэння мовы ў свой час было дастаткова, каб людзі ўпарта паўтаралі, напачатку без аніякага сэнсу, нейкі абмежаваны набор гукаў. І гісторыя, відаць, нарадзілася з нейкіх неасэнсаваных учынкаў, якія выпадкова сталіся працягам адзін аднаго

Ці можам мы ўсе сустрэцца ў адной чарзе? Ці можам загаварыць на адной мове – і, значыцца, дабудаваць Вавілонскую вежу? На мітынгу, у храме, у чарзе чалавека атачаюць адзінадумцы – дык навошта ж ён цішком шукае вачыма знаёмыя твары?

Мысленне заўсёды шырэй за нейкія думкі Чалавек увогуле вельмі шырокая і разгалінаваная істота Ніводная ідэалогія, гісторыя, рэлігія не можа змясціць яго цалкам. кожная патрабуе той або іншай ахвяры. Паўсюль чалавеку не хапае нейкіх слоў, думак, падзей, знаёмых. Няма такой чаргі, дзе чалавек мог бы сустрэцца нават з усім сабой з усімі ўласнымі "я"

Слова ніколі не прыналежыць цалкам тэксту або асобнай фразе Што такое фраза, калі не адна са шматлікіх лінгвістычных сітуацый, якія нагадваюць разнастайныя жыццёвыя абставіны, у якія трапляюць людзі? Ва ўсялякай фразе слова скарыстоўваецца толькі ў адным-двух з усіх сваіх значэнняў, астатняе ж семантычнае поле ператвараецца ў нябачную пры чытанні і нячутную пры вымаўленні "падсвядомасць" слова, якая ўсё ж такі можа спарадзіць нечаканыя для самога чытача ці слухача асацыяцыі Слову ў сказе гэтаксама цесна, як чалавеку ў чарзе

Але, з іншага боку, няма такой фразы, у якой хай сабе два словы былі б злучаныя абсалютна, праз усе свае значэнні. Няма двух чалавек, якія не мелі б пунктаў судакранання або здолелі б прыцісну цца адзін да аднаго ўсёй паверхняй скуры ці розуму

Зусім незнаёмыя людзі ў чарзе лёгка знаходзяць агульную мову нават лягчэй, чым самі з сабой Сапраўды, тут няма ні паўнавартаснага "я", ні, паколькі суседа бачыш хіба што ў профіль, паўнавартаснага "ты" Наколькі цяжка тут адасобіць аднаго чалавека ад іншага, настолькі ж – і дыялог ад маналога І ці не ў гэтай "палутарнай" суб'ектыўнасці разгадка таго, як нараджаюцца чуткі, палітычныя анекдоты, а раней нараджаліся паданні? Кожнае пакаленне паўтарае тое, што пачула ад папярэдняга, але неяк ператтлумачвае Магчыма нават, што гэтае раздваенне асобы – заўсёды няпоўнае і таму плённае – ляжыць у падмурку ўсялякай творчасці У кожнага аўтара, кожнага творцы ёсць, прынамсі, адзін безыменны сааўтар

Калі праўда, што мы лепш ведаем мінулае, чым будучыню, то гэта напэўна таму, што будучыня ў нас не перад вачыма, а за спінай Мы рэдка азіраемся, часцей глядзім перад сабой і, адпаведна, бачым пераважна патыліцы людзей і краін, якія нас выперадзілі Наперадзе ў нас толькі чыясьці мінуўшчына Затое мы самі – нейчая будучыня

Напэўна, лягчэй сканаць за кагосьці іншага, чым за самога сябе Але ці згодныя мы гэтак жа лёгка і безаглядна нараджацца замест нейкіх іншых людзей? Многія адчуваюць, што нарадзіліся не ў свой час і не там

Чалавек фатальна не супадае з уласным лёсам· у ягоным жыцці заўсёды ёсць месца для іншых людзей, бо і сам ён жыве шмат дзе яшчэ

Людзі адыходзяць з чаргі і вяртаюцца, прыводзяць знаёмых Адсюль – бясконцыя спрэчкі, хто за кім стаяў і чый старэйшы брат дужэй А ў выніку – кожны прыходзіць да фінішу не зусім у свой час. Апрача таго, як часта высвятляецца, чалавек дасягае зусім не той мэты, дзеля якой ахвяраваў свой час (не да таго начальніка, не да таго прылаўка прабіўся)

Пераважная колькасць нашых думак, крокаў, гадоў праходзіць дарма І каб з гэтым прымірыцца, трэба так іх і ўспрымаць – як дарунак іншым людзям, продкам і нашчадкам: праз тваю памылку хтосьці з іх ужо дасягнуў або дасягне сваёй мэты Аднак часцей мы ўспрымаем іншых людзей як зладзеяў, што выкрадаюць не скарыстаныя намі магчымасці і гады

У зародкавым стане кожны з нас прызвычайваецца адчуваць сябе цэнтрам сусвету, пакуль абмежаванага целам уласнай маці Нават пасля нараджэння мы яшчэ доўга ўяўляем сябе гаспадарамі дому і галавою сям'і Дзяцей вельмі цяжка прымусіць стаяць у чарзе побач з дарослымі яны ўсё хочуць мець адразу. Але чым больш жыве чалавек, тым лягчэй пагаджаецца на ролю нейкай другаснай, перыферыйнай істоты. Навукоўцы ўсё больш катэгарычна адпрэчваюць антрапацэнтрычную мадэль сусвету

На кожным кавалку зямлі, за выключэннем хіба Антарктыды, па чарзе жылі розныя народы І напэўна, кожны ўяўляў сябе апошнім, назаўсёдным Але, здаецца, няма такога племя, якое дажыло б да нашых дзён ад самога пачатку гісторыі І мы не апошнія на гэтай зямлі· яна заўсёды шырэйшая за чыюсьці радзіму

Усе мы – пасажыры гісторыі, мовы, уласнага лёсу Многім квіткі перайшлі ў спадчыну, але ёсць і такія, хто едзе "зайцам", пакуль не высадзіць кантралёр.

І ўсе мы – пасажыры планеты, што катае нас вакол сонца па адной і той жа арбіце з мінулага ў будучыню Або ў пазамінулае?

Франц Кафка аднойчы запісаў у дзённіку· "Канвеер жыцця нясе чалавека кудысьці – невядома куды ." Гэта так, але ці не з'яўляецца і сам чалавек нейкім канвеерам, што нясе кудысьці ўласнае жыццё? Кажуць, кожны мусіць быць сам

кавалём уласнага шчасця, але ж мы дзеля таго і прыдумалі мову, гісторыю, каб каваць і збіраць свае лёсы супольна і паслядоўна паводле той або іншай мадэлі І ці не таму, дарэчы, насельніцтва планеты за апошняе стагоддзе павялічылася ў некалькі разоў, што людзі навучыліся збіраць сваё жыццё канвеерным спосабам з ужо гатовых словаў, жэстаў, светапоглядаў ды іншых неабходных дэталяў чалавечага існавання?

## II. ГЕАМЕТРЫЯ ЖЫЦЦЯ

Чалавечае жыццё – гэта поўная паслядоўнасць фізіялагічных працэсаў, учынкаў, слоў і думак А з іншага, неантрапацэнтрычнага гледзішча, усё наадварот. людзі нараджаюцца і паміраюць, а словы гавораць тыя самыя, у бальніцы змяняюцца хворыя і дактары, а сама хвароба застаецца, чалавек нічога не стварае і не думае сам: за яго гэта робіць нехта іншы – мова, багі, машыны ці расклад зорак на небе Сама рэчаіснасць нясе чалавека, нібыта канвеер – ад нараджэння і невядома куды.

Амаль штодня мы паўтараем адны і тыя ж думкі, словы, рухі цела. І ў гэтым карагодзе аднолькавых дзён і гадоў чалавек аднойчы можа зрабіць адкрыццё, што жыве ён следам не за кім-небудзь, а за самім жа сабой – жыве, так бы мовіць, за ўласнаю спінай.

Паводле вядомага фізічнага закону, цела не падае, пакуль яно захоўвае хуткасць, а найспрытней мы робім тыя рэчы і вымаўляем тыя думкі, у якіх нічога новага для нас няма Рух па коле з аднолькавай хуткасцю самая шматлюдная траекторыя мыслення і жыцця. Калі чалавек рызыкне абагнаць самога сябе, ён можа заляцець невядома ў якія высокія сферы Аднак часцей людзі падаюць са звыклай арбіты не ў неба, а ўніз, на зямлю. Чалавек падае, калі ў яго не хапае сіл нават на тое, каб жыць сённяшнім днём, калі ўспаміны робяцца для яго даражэйшымі за думкі пра будучыню.

Цывілізацыя чэргаў робіць чалавека падобным да Сізіфа, што з дня ў дзень на мяжы духоўных і фізічных сіл штурхае па загнаным коле адзін і той жа камень уласнага лёсу. Па дарозе на працу, на антыўрадавы мітынг або ў краму напярэдадні чарговага падвышэння цэнаў мы заўсёды трошкі спадзяёмся, што гэта будзе "наш апошні і пераможны бой" Але ўжо назаўтра, ледзьве прачнуўшыся, мы зноў упрагаемся ў тыя самыя цуглі, каб прайсці пад пільным позіркам сонца тую ж самую чаргу за хлебам надзённым або птушыным малаком Кожны дзень мы праходзім амаль што след у след па адных і тых жа тратуарах або сцяжынках у траве, патроху сціраючы ў пыл не толькі падэшвы, але і саму планету

Што такое ўсе нашы прылады працы і мыслення, усе нашы веды, звычкі, імёны, як не праклён багоў? Катаржанін прыланцужаны да тачкі з рудою, сакратарка – да клавіятуры камп'ютэра ці пішучай машынкі, наркаман – да свайго шпрыца, і ўсе мы – да мовы і гісторыі

Паводле Бібліі, зямная гісторыя чалавецтва пачалася з першароднага граху Войны і мірная праца, вучоба ў школе і жыццё на адну пенсію, нараджэнне і смерць – гэта ўсё пакаранне Божае чалавеку, які захацеў мець уласны погляд на дабро і зло Нам мала што вядома пра жыццё нашых продкаў у райскім садзе чалавек там яшчэ не меў біяграфіі

Кожны з нас нясе ад калыскі і да магілы свой крыж, што набывае ўсё новыя формы. ранец школьніка, пагоны салдата, дыплом беспрацоўнага, дзяжурны набор лекаў пенсіянера . На працягу ўсяго чалавечага лёсу доўжыцца асабісты шлях на Галгофу, але мала каму ўдаецца прайсці яго да канца. апраўдаць не толькі ўласнае жыццё, але і ўсё чалавецтва. Зрэшты, заўсёды застаецца надзея прайсці яго ў наступным жыцці

“Куды ні зірні, людзі паўсюль цярпелі няўдачу Зноў і зноў даводзілася ім вяртацца назад, узвальваць на сябе такі ж самы цяжар і зноў намагацца адолець пакручасты ўздым да вяршыні" (Генры Мілер, "Час забойцаў") Паводле падання, Сізіф толькі аднойчы прыпыніў сваю дарэмную працу – каб паслухаць чароўную ліру Арфея, які апусціўся ў апраметную ў пошуках Эўрыдыкі. Ці значыць гэта, што мастацтва можа вызваліць чалавека ад бегу па коле дня і ночы, жыцця і смерці, вяршыні і долу?





Барыс Грабеншчыкоў у "Рамане, які ніколі не будзе скончаны" вуснамі кагосьці з экіпажа Жоўтай Субмарыны на гэты конт кажа так: " ..Таму людзі і становяцца паэтамі Уласнае жыццё аднойчы пачынае бачыцца замалым з дня ў дзень – адны і тыя ж сцэны, сябры, словы. Нічога не змяняецца, нават нечаканасці даводзіцца планаваць самому. А нудотна ж ведаць, што раніцай прачнешся самім сабой, і немагчыма штосьці зрабіць, каб да вечара стацца іншым ..

Потым становішся акцёрам і жывеш штодня новым чужым жыццём Вучышся збіраць жыццё ўсялякі раз інакш – змяняеш рэальнасць, як Пан Бог, сотні разоў вяртаешся ў зыходны момант, каб пачаць жыццё спачатку, – а раптам усё зменіцца, і мы ўбачым, нарэшце, Святло? Аднак усё застаецца на сваіх месцах. П'есу не пераробіш, і фінальная мізансцэна адна і тая ж. Гэта дзіўна – сотні разоў пражыць са шчырай упэўненасцю, што сілай сваёй веры можаш змяніць свет, але напрыканцы ўзгадаць нейкім дзесятым пачуццём, што ўсё гэта ўжо было, і ўсё гэта ты рабіў у нікуды ." Адзінае выйсце з зачараванага кола, – кажа Б.Г, – стварыць самому новы свет з разнастайнымі дзівосамі "Як бог, ствараеш свет, і, як чалавек, абжываеш яго Разам са сваім героем пражываеш усе ягоныя шляхі, якімі ўжо сам яго вядзеш, не ведаючы наперад, чым яны скончацца" А потым прыходзіць здольнасць жыць адначасна ў мностве сусветаў, большасць з якіх нават немагчыма ўявіць.

Аднаго з айцоў царквы, паводле падання, вучань спытаў·

– Ойча, я ўпаў – што мне рабіць?
– Узніміся, – адказаў настаўнік.
– А калі я другі раз упаду і трэці?
– Кожны раз узнімайся.
– Дык да якога ж часу я буду падаць?
– Увесь час, пакуль жыць будзеш

Сапраўды, мы не толькі штовечар падаем на ложак, лежма праходзіць палова нашага жыцця З поўнага гледзішча можна заўважыць, што чалавечае цела коціцца па жыцці нібыта кола ці гімнастычнае сальта. Прынамсі, аднойчы ў суткі чалавек кладзецца адпачыць, каб потым зноў падхапіцца і бегчы на працу, а за ўсё жыццё ён паспявае зрабіць дзесяткі тысяч такіх абаротаў вакол сваёй восі

Зразумела, узнімацца і падаць уласціва не толькі целу, але і духу. Грэх і пакаянне – зачараванае кола кожнага верніка

У некаторым сэнсе, чалавек мае больш агульнага з раслінай, чымсьці з жывёлай· ён таксама расце не ўперад, а ўверх. Лішне казаць, наколькі важным быў фактар двухногага ладу жыцця ў працэсе ператварэння малпы ў цывілізаванага чалавека. ён падараваў нашым продкам рукі, без якіх немагчыма ні працаваць, ні ваяваць. Але здольнасць жыць вертыкальна спарадзіла не толькі гісторыю, не толькі рамёствы, сельскую гаспадарку, навуку, мастацтва і вайсковую справу, яна сталася таксама перадумовай з'яўлення ў людзей рэлігійнага пачуцця

На думку расійскага філосафа Мікалая Фёдарава, "вертыкальная пастава чалавека – гэта малітоўная пастава, гэта першы рэлігійны ўздым, зварот да неба істоты, якая адчула балючую страту"

Арыстоцель тлумачыў, чаму чалавек такі разумны, тым, што ён на сваіх дзвюх нагах далёка адарваўся ад зямлі Чатырохногія жывёлы існуюць амаль што лежма, занадта блізка да пылу зямнога і праз гэта губляюць здольнасць да мыслення (Калі спускацца па "арыстоцелевай лесвіцы" біялагічных відаў далей уніз, можна ўбачыць, як чатырохногія ператвараюцца ў шматногіх, потым у бязногіх і, нарэшце, у расліны, укаранёныя ў глебу)

Леў Шэстаў задаваўся пытаннем, ці не паходзіць частка людзей ад Адама, які саграшыў, і таму ўсё жыццё пакутуе, чагосьці шукае, да нечага імкнецца, а другая частка – ад бязгрэшнай малпы, і таму задавальняецца малым і нічога ў яе душы не баліць.

Нашчадкі Адама прагнуць здабыць "жорава ў небе", нашчадкі ж малпы задавальняюцца "сініцай у руках", але ўтрымаць яе таксама няпроста! У прастытуткі не менш праблем, чым у паэта ці навукоўца У рэкеціра не менш клопатаў, чым у тэрарыста Хіба лягчэй жыць на зямлі, чым лунаць у эмпірэях?

Мне здаецца, у кожным з нас жывуць і малпа, і Адам (або Ева) Наш арганізм харчуецца прадуктамі зямлі, але дыхае паветрам і небам. Абодва варыянты экзістэнцыяльнага выбару паміж нізкім і

ўзнёслым ладам жыцця могуць сведчыць пра трагедыю чалавечага духу, прыкутага да сізіфавай працы і долі. Паводле Сартра, паміж сініцай у руках і жоравам у небе мы мусім выбіраць жаўрука – нават калі ведаем, што ніколі не здолеем да яго дацягнуцца. З іншага боку, Камю раіць нам спыніць выбар на штодзённай сініцы – нават калі няма надзеі, што можна ператварыць яе ў нешта вялікшае

Біялагічнае цела прымушае нас жыць на нейкай цвёрдай паверхні, у той час як душа ці свядомасць цягне нас у неба, за далягляд Цялеснасць і перпындыкулярная ёй духоўнасць – вось сістэма каардынат, што стварае прастору чалавечай істоты Найвышэйшая каштоўнасць для цела – само жыццё, а для розуму і душы – неўміручасць, заслужыць якую можна хіба што праз ахвяраванне шмат якімі цялеснымі ўцехамі і нават самім жыццём Патрэбы цела замінаюць нам заляцець назаўсёды ў думках і марах невядома куды, розум жа і рэлігійнае пачуццё дазваляюць разарваць хай на кароткі час замкнёнае кола інстынктаў і фізіялагічных рэфлексаў

Напэўна, недарма Зігмунд Фрэйд падчас псіхааналітычных сеансаў укладваў сваіх пацыентаў на канапу· у нагах, кажа рускае прыслоўе, праўды няма, гарызантальная пастава дапамагае вызваліць бессвядомыя імпульсы цела з-пад кантролю свядомасці

Паводле Фрэйда, у аснове чалавечага жыцця і ўсёй цывілізацыі ляжаць бессвядомыя памкненні Паводле ж, напрыклад, Сартра, усё наадварот· нашае жыццё прадвызначаецца і кіруецца свядомасцю – асабістым выбарам чалавека Мне, аднак, здаецца, што чалавек ніколі не бывае ў сваім выбары самотны разам з ім выбіраюць тое самае яго́ныя адзінадумцы (магчыма, нават не знаёмыя адно з адным) Усялякі выбар чалавек свядома ці падсвядома робіць ад імя пэўнага кола людзей, з'яднаных агульнай крывёй, духоўнай традыцыяй ці фабрычным канвеерам.

Таталітарнае грамадства – хай сабе першабытнае або індустрыяльнае – увогуле імкнецца вызваліць чалавека ад пакутлівай неабходнасці думаць сваёй галавой Па словах вынаходніка канвеернай вытворчасці і мультымільянера Генры Форда, "аднастайная праца – бясконцы паўтор аднаго і таго ж, у адзін і той жа спосаб – у некаторых людзей выклікае агіду Для мяне думка пра падобнае поўная жаху; для іншых, нават для большасці людзей, пакараннем з'яўляецца неабходнасць думаць. Сярэдні працаўнік шукае, на жаль, такую працу, на якой яму не трэба будзе напружвацца ні фізічна, ні, асабліва, духоўна Людзі, так бы мовіць, творча адораныя, якім праз гэта ўсялякая манатоннасць уяўляецца жахлівай, лёгка схіляюцца да думкі, што і блізкія іхнія такія ж неспакойныя, як яны самі, і цалкам дарма спачуваюць рабочаму, што з дня ў дзень выконвае амаль адну і тую ж працу".

З дня ў дзень адну і тую ж працу выконваюць і мурашы, і дрожджы, і тыя расліны, што робяць для ўсіх нас кісларод. Ніякай трагедыі ў гэтым няма, бо яны не ўсведамляюць, што маглі б жыць неяк інакш Сонца таксама штодня ўзыходзіць на неба без аніякіх сумненняў, свяціць нам або заняцца сёння чымсьці іншым На думку Альбера Камю, міф пра Сізіфа трагічны, бо яго́ны герой надзелены свядомасцю "Сённяшні рабочы жыве гэтак жа сама ўсё сваё жыццё, і яго́ны лёс не менш трагічны Але сам ён трагічны толькі ў тыя рэдкія імгненні, калі да яго вяртаецца свядомасць. Сізіф, пралетарый Багоў, ведае пра бясконцасць сваёй журботнай долі; пра яе думае ён падчас спуску з гары за сваім камянём " Напэўна пра тое ж задумваецца часам і кожны рабочы, калі ідзе дахаты праз заводскую прахадную Таму і прыпыняецца ля піўнога ларка.

Нам няма чаго губляць, апрача сваіх ланцугоў Можна сказаць і так: нам няма чаго губляць, апрача сваіх каранёў Менавіта праз свядомасць чалавек прыкуты да ўласнага лёсу і агульнай гісторыі Усялякі, хто робіць нейкі асэнсаваны выбар – выбірае словы для верша, тавары ў краме або інструменты для працы – ператвараецца сам у суб'екта і вязня гісторыі, мовы, творчай ці спажывецкай традыцыі, ператвараецца на пэўны час з нашчадка малпы ў нашчадка Адама.

Генры Мілер у "Тропіку Рака" прыгадвае, што дапамагло яму пазбыцца сізіфавых пакут: " Чамусьці думка, што ў гэтым свеце няма на што спадзявацца, паўздзейнічала на мяне асвяжальна. На працягу тыдняў і месяцаў, нават гадамі, а па сутнасці ўсё сваё жыццё, я чакаў, што здарыцца нейкая падзея, якая карэнным чынам пераменіць маё жыццё І цяпер, нечакана натхнёны разуменнем усёй безнадзейнасці чалавечага існавання, я адчуў палёгку, нібыта з мяне зваліўся велізарны цяжар" Мне здаецца, мы прагнем перамен не ўсё жыццё, а толькі на працягу нашага лёсу – кароткіх імгненняў асэнсаванага жыцця Пакуль мы ўсведамляем што-небудзь – мы абцяжараныя будучыняй і мінуўшчынай Каб скласці з сябе цяжар уласнага лёсу, трэба адкінуць не толькі спадзяванні, але і ўспаміны Толькі сон розуму дапамагае нам вынырнуць з гісторыі, мовы і ўсіх астатніх чэргаў, але ён жа ўтварае для нас небяспеку захлынуцца фізіялагічным жыццём ва ўласным целе "Нішто не загінула ўва мне, – пярэчыць Г Мілер, – толькі ілюзіі Я мёртвы для гісторыі Мой дух сканаў, але фізічна я існую Існую як свабодны чалавек"

На жаль, вызваліць з-пад ціску тысячагоддзяў цывілізацыі з дапамогай разняволеных інстынктаў і фізіялагічных працэсаў можа не прыроднае незалежнае "я", а толькі падсвядомасць, цялеснасць, рэчавасць чалавека. Авангарднае мастацтва і сучасная філасофія шмат зрабілі дзеля таго, каб скінуць з п'едэстала гісторыі Чалавека з вялікай літары, а таксама Нацыю, Дзяржаву ды ўсе іншыя вертыкальныя каштоўнасці· маўляў, не сон, а бяссонніца Розуму нараджае пачвараў, будуе канцлагеры і вар'ятні Для сучаснай еўраамерыканскай культуры Чалавек сканаў (М Фуко) Постмадэрнізм – гэта "час тых, што ляжаць", як назваў адну са сваіх кніг пра мерцвякоў французскі гісторык Ф. Ар'ес. Напэўна, невыпадкова і ў нашай краіне ў гады руйнавання п'едэсталаў, на якіх трымаўся таталітарызм, нарадзілася прыслоўе "Лепш жыць лежма на сексуальным партнёры, чым паміраць стойма ў вагонах і чэргах"

Канешне, сёння людзі жывуць не толькі лежма, трэба, як кажуць, "круціцца", каб забяспечыць больш-менш прымальны стандарт жыцця. Сучасны чалавек мусіць яшчэ больш часу, чым раней, праводзіць на колах (цяпер ужо ўласнага аўто) і на сваіх дзвюх, але ўсё ж такі жыве ён не ўверх, а толькі ўперад, па гарызанталі, без ніякай высокай мэты, абы хутка было

Для многіх распад Савецкага Саюза і звыклых вертыкальных структур стаўся сапраўдным шокам Папулярны штотыднёвік "Аргументы і факты" на гэты конт заўважае "Кожны з нас ледзь не ад нараджэння нібыта ўступаў на нейкі эскалатар, і вучыцца хадзіць самастойна ніякай неабходнасці не было Але вось калі эскалатар зламаўся і давялося ісці самастойна, то адкрылася, што многія не могуць: няма сілы ў нагах. І замест таго, каб трэніраваць свае цяглічы, сядзяць на тым самым месцы, дзе спынілася іхняя прыступка". Чакаць, калі ж ізноў нехта запусціць паламаны канвеер сацыялістычнага ладу жыцця, можа нават цэлая краіна з 10-мільённым насельніцтвам На працягу некалькіх гадоў незалежнасці ў Беларусі не адбылося амаль ніякіх рынкавых рэформаў На прэзідэнцкіх выбарах перамог кандыдат-папуліст Аляксандр Лукашэнка, які паабяцаў народу "запусціць заводы", што страцілі рынкі збыту, зрабіць ізноў дзяржаўнымі сацыялістычную сімволіку і рускасавецкую мову, і ўрэшце рэшт – адрадзіць былую імперыю. Па словах вядомага палітыка і дэпутата Анатоля Лябедзькі, мэта кіраўніка дзяржавы – паставіць увесь свой народ у адзіную гіганцкую чаргу І на адной з тэлевізійных прэс-канферэнцый у красавіку 1997 г прэзідэнт паўтарыў ажно двойчы "За мной стаяць 11 мільёнаў"

У сваім целе чалавек жыве адзін, а ў грамадстве – разам з іншымі. Толькі разам з паплечнікамі можна вытрымаць і ўзняць яшчэ вышэй цяжар цывілізаванага ладу жыцця з яго́нымі палітыкай, эканомікай і культурай. Для мовы, гісторыі і ўвогуле грамадскага жыцця трэба, каб людзей было шмат, для фізіялагічных жа працэсаў (бегу крыві, сну, вырошчвання валасоў і г.д.) дастаткова ўласнага цела Зямны пажытак чалавек перастраўляе сам, а нябесны – толькі разам з іншымі.

Паводле Геракліта, для нядрэмных існуе адзіны і агульны космас, а той, хто спіць, павернуты ў свой уласны свет Можна сказаць, у адных людзей няма нумара, а ў іншых – выбару. Дакладней, так. уначы чалавек не мае нумара, удзень жа ён не мае выбару. Кожны дзень і ўсю біяграфію мы жывём паміж іншых людзей і толькі ў сне ды падчас перапынкаў на абед адпачываем адзін ад аднаго.

Палову свайго жыцця мы праводзім лежма. І таму даўжыня чалавека не менш істотная, чым ягоны рост. Філосафы неяк не заўважаюць таго факта, што палова чалавецтва – ляжыць. дастаткова падлічыць тых, хто зараз спіць, хварэе, займаецца сексам і, нарэшце, старых і немаўлят У лінгвістычным плане пазагістарычнаму стану "лежма" адпавядае маўчанне Палова чалавецтва (і чалавека) ляжыць, тым часам, як другая штосьці робіць, штосьці кажа ці слухае, шукае ці нішчыць.

Зрэшты, сядзець – гэта таксама напалову ляжаць. І нават калі мы стаім або кудысьці ідзём, то абапіраемся звычайна толькі на палову нашых ног (дакладней – на адну нагу, другая ж у гэты час адпачывае). Апрача таго, стойма ў чарзе многія кладуць рукі ў кішэні або на нейкую апору ці скрыжоўваюць іх на грудзях, схіляюць галаву і заплюшчваюць вочы Нават калі мы стаім – часткова ляжым, калі размаўляем – напалову маўчым і недаслухоўваем.

Аднойчы ўначы да мяне завітала думка. хто мы, адкуль, куды мы ляжым? Мова, гісторыя, грамадства не хочуць адпускаць нас нават уначы Чалавек стойма працягвае часткова ляжаць, але і ў сваім цёплым ложку ён пэўны час перад сном нібыта яшчэ стаіць. узнаўляе падзеі мінулага дня і абдумвае заўтрашні За ўсялякім маўчаннем хаваюцца нейкія словы (ці ўрыўкі таго Слова, з якога ўсё пачалося), а з іншага боку, усе прамоўленыя словы – толькі цвіль на маўчанні, пыркі шуму над касмічным акіянам цішыні

*У доўгіх чэргах*
*Вучуся трыванню.*
*Выжыву не таму,*
*Што куплю,*
*А таму,*
*Што выстаю.*
**(Леанід Галубовіч).**

Ёсць, аднак, падставы меркаваць, што чалавек выжыў на нашай Зямлі (у адрознасць, магчыма, ад іншых планет), таму што навучыўся не толькі стаяць, але і ляжаць, не толькі гаварыць, але і маўчаць, навучыўся адпачываць ад цяжару гісторыі і ўласнага лёсу ў гульні, сексе і ў сне У таталітарным грамадстве чалавек выжывае таму, што знаходзіць не толькі сілы выстаяць, але і магчымасць адляжацца на бальнічным ложку ці на звычайных нарах (а таксама адсядзецца ў хмызняку ці ў прыбіральні падчас чарговага сходу, дзе трэба цягнуць руку ўверх, галасуючы за ўзмацненне рэжыму). Улада вымушана ісці на кампраміс з фізіялогіяй і заплюшчваць вочы на тое, што яе рабы ўцякаюць штовечар у ложак, дзе будуць глядзець непадцэнзурныя сны Ёй дастаткова, што ў спісах добранадзейных круглыя суткі стаіць імя ці парадкавы нумар, пад якім жыве чалавек. "Салдат спіць – служба ідзе", – кажуць у войску. Амаль тое ж кажуць зняволеныя ў турме' "Абы дзень прайшоў, а начы не ўбачым". Улада невыпадкова штовечар і штораніцы выстройвае на пляцы і пералічвае сваіх ахоўнікаў і зняволеных. яна ведае, што ноч – найзручнейшы час для дэзерцірства не толькі душой, але і целам.

Высокія парывы ўласнай душы або дзяржаўнай ідэалогіі заклікаюць чалавека ўзняцца над сваім дробным целам і дацягнуцца да зорак у небе З іншага боку, шматлікія інстынкты настойліва раяць нам не вытыркацца, жыць як мага бліжэй да ўласнага цела і цвёрдага грунту, на якім шмат корму і самак. Духоўнасць ратуе нас ад пажыццёвага зняволення ў замкнёным коле фізіялагічных працэсаў, цялеснасць – ад ператварэння яшчэ пры жыцці ў набор лічбаў ці высокіх словаў Радзіма нашага цела – зямля, радзіма душы – зорнае неба над галавой. Святары кажуць, што цялеснае жыццё – стан паўшага чалавецтва Але хто ведае – ці не ўпадзём мы яшчэ ніжэй без нашых цел? У апраметную, напрыклад.

Мы не можам знайсці адначасна якуюнебудзь рэч і назву для яе Апрача таго, нейкую рэч для прыдуманай намі назвы могуць знайсці або змайстраваць іншыя людзі; яны ж звычайна прыдумляюць шматлікія азначэнні для тых рэчаў, якія робім мы Не дзіва, што кожная рэч можа мець некалькі назваў, а адно і тое ж слова можна прыкласці да розных аб'ектаў і падзей На жаль, мы не можам ні самі, ні з дапамогай іншых людзей зрабіць столькі рэчаў, колькі трэба яшчэ, каб запоўніць да самога верху нашую мову і каб ніводнага пустога слова не засталося. Наўрад ці магчыма і вынайсці такую мову, якая магла б без памылак прагаварыць для нас усю рэчаіснасць.

Рэч і назва ніколі не адпавядаюць цалкам адна адной, тое ж датычыцца свету і светапогляду, чалавечага цела і ягонага імя, жыцця і біяграфіі Не ўсе людзі дажываюць да канца ўласнага лёсу (ім прыпісваюць больш жахлівых ці гераічных учынкаў, чым яны маглі б зрабіць і за некалькі жыццяў), а некаторыя не дажываюць нават да ягонага пачатку, паміраюць без ніякай рэпутацыі Лёс – гэта, безумоўна, не толькі ўсё тое, што робіць сам чалавек, але і ўсё тое, што робяць з ім ці думаюць пра яго іншыя (таму лёс – хутчэй, не дрэва, а лес)

Магчыма, цела – не больш чым падмурак чалавека. Але калі б у нас не было такога падмурка – мы б рассыпаліся на тысячы адасобленых думак, памкненняў і рысаў характару Цела – гэта спалучальная тканка паміж усімі сацыяльнымі ролямі, выявамі, нумарамі, імёнамі і псеўданімамі чалавека (як жанчына – паміж мужчынамі ў кожнай сям'і ці сяброўскай кампаніі, маўчанне – паміж словамі, а зямля – паміж нябёсамі розных рэлігій) Яно дапамагае прымірыць усе памкненні нашага духу, усе мары, адчуванні і ўспаміны, не дае чалавеку разбегчыся адразу ва ўсе бакі свету і часу. Напэўна, невыпадкова дзвюма галоўнымі тэндэнцыямі сучаснага мастацтва і самога ладу жыцця сталіся, з аднаго боку, усё хутчэйшае мільгаценне адасобленых і незавершаных вобразаў і ўчынкаў, абарваных на паўслове навін, а з другога – падкрэсленая ўвага да цела як найбольш надзейнага апірышча ў гэтым заблытаным і фрагментарным свеце, гаранта тоеснасці чалавека самому сабе, нашай партатыўнай радзімы

У старажытнасці і нават у нядаўнім таталітарным грамадстве ўсяго было вельмі мала – і навін, і смачнай ежы, і хатніх рэчаў – але кожная падзея ці ўласная думка мела для чалавека глыбокі сэнс і здавалася невыпадковай Сучасны чалавек жыве ў свеце, дзе ўсяго нібыта шмат, але ўсё нейкае павярхоўнае, выпадковае і не мае ніякага агульнага сэнсу Зрэшты, усе метафізічныя праблемы для яго таксама страцілі сваю ранейшую вагу, бо найбольш актуальнай сталася праблема вагі ўласнага цела

І ў жывой чарзе, і ў спісе на паперы ці экране камп'ютэра паміж людзьмі заўжды застаецца нейкі зазор, пусты прамежак, які прасоўваецца наперад разам з целам або прозвішчам Цікава, адна і тая ж пустата атачае чалавека падчас жыцця або ўвесь час розная? Хутчэй за ўсё, людзі прыходзяць і сыходзяць, а прамежкі паміж імі застаюцца ўсё тыя ж. У кожнай мове, напэўна, ёсць словы, якіх не ведае ці, прынамсі, не можа вымавіць ніхто І ў гісторыі багата падзей, у якіх ніхто не ўдзельнічаў.

Ніводная гісторыя і ніводная мова не можа ахапіць адразу ўсё чалавецтва і нават усяго чалавека Стаім мы нібыта ўсе ў адзін бок – уверх, але, калі зямля сапраўды круглая – то, значыць, стаім ва ўсе бакі сусвету.

Ва ўсялякі асобны момант у людзей няма нічога агульнага, апрача зямлі пад нагамі, кожны жыве ў свой бок пад маленькім кавалачкам неба з уласнай зоркай Каб склалася нейкая супольнасць (традыцыя, канцэрт ці нацыя), патрэбны рух часу, які ператварае нас у шэраг наступнікаў і папярэднікаў Зрэшты, нас яднае і тое, што Зямля ўсё ж такі круціцца. не толькі людзі пераходзяць з адной суполкі ў іншую, але і самі ідэі і мары, дзеля якіх варта жыць, вандруюць па свеце, як зоркі па небе над галавой, і па чарзе свецяць кожнаму

Людзей раздражняе не столькі сама чарга, мова ці гісторыя, колькі прымус рабіць не сваю працу, жыць не ў той сям'і, не ў той краіне, не ў той галактыцы Кожны жыве трохі не ў свой час (паводле Хайдэгера, чалавек заўжды памірае незавершаным, але ў некаторых аспектах, мяркую, ён паспявае вычарпаць сябе задоўга да смерці і далей існуе па інерцыі), кожны жыве за сябе і "за іншага хлопца" Чалавек быў бы рады стаяць на сваім, але, магчыма, часцей яму даводзіцца стаяць на чужым, размаўляць на мове акупантаў, думаць чужыя думкі.

Сучасны чалавек валодае добра калі паловай словаў і граматычных правілаў нават той мовы, якую лічыць роднай (мне, напрыклад, хацелася б думаць, што самых прыгожых і карысных слоў я яшчэ не ведаю). Але і мова валодае толькі часткай чалавечай істоты – узроўнем рэгулярна ўзнаўляльных звыклых думак і жэстаў Дзесьці, несумненна, існуюць людзі, што не ведаюць або не ў стане вымавіць ніводнага слова. І не менш верагодна, што існуюць словы, якіх ніколі ніхто не чуў і не казаў

Людзі валодаюць мовай супольна, па чарзе пакаленняў І ў кожным з нас улада мовы распаўсюджваецца толькі на калектыўны, нацыяналізаваны бок нашага жыцця

Чарга – гэта заўсёды не толькі пануры ланцуг паняволеных абставінамі людзей, але і наша ўласная спроба ўцячы ад свабоды (да якой, паводле Сартра, прыгавораны кожны чалавек), схавацца ад бяссэнсіцы існавання за папярэднікаў і паслядоўнікаў Звычайна чалавек жыве ў грамадстве да адных перадам, да іншых задам, а з бакоў яго мала хто ведае "Жыць у грамадстве і быць свабодным ад яго нельга", сцвярджаў Ленін. І ўсё ж такі, мяркую, гэта у нейкай меры магчыма трэба да ўсялякай "кіруючай лініі" (загадаў кіраўніцтва, гістарычнай парадыгмы або тэмы якой-небудзь непрыемнай размовы) ставіцца бокам

Палову імгненняў жыцця кожны з нас існуе на сваю ўласную рызыку, а яшчэ палову – на чужую. Праз нас жывуць і, вядома, чымсьці рызыкуюць нашыя продкі і нашчадкі, настаўнікі і паднастаўныя, начальнікі і падначаленыя У чарзе нам ёсць на каго спаслацца і абаперціся толькі спераду і ззаду, па баках жа да нас падступае прорва чыстай цяперашчыны, у якой няма ні аўтарытэтаў, ні трывалых апірышчаў.

Сучаснікі – гэта тыя, з кім няма пра што гаварыць Усялякая камунікацыя ўяўляе сабой абмен навінамі ці ўспамінамі і таму патрабуе, каб удзельнікі размовы або зносінаў праз пісьмовы тэкст жылі ў розных рукавах часу. У чарзе мы часта пазіраем на гадзіннік і пераліčваем людзей, што стаяць перад намі Час можна лічыць і ў грошах, што засталіся да зарплаты, у прыпынках аўтобуса ці ў колькасці паходаў у лазню, як гэта робяць салдаты Магчыма, свабода чакае нас там, дзе не будзе ўжо ні гадзіннікаў, ні самой гісторыі? Вялікі Поўдзень наступіць тады, калі сонца, нарэшце, спыніцца ў зеніце Ці не ў надзеі на гэта людзі вынайшлі электрычную лямпу?

Выключальнік святла дазваляе імгненна ператварыць поўнач у поўдзень і наадварот, а кандыцыянер – захоўваць у жытле ўпадабаную пару года. У электрычным святле і мігценні камп'ютэра робіцца прывіднай не толькі гісторыя, але і геаграфія. дастаткова некалькіх жэстаў рукі, каб імгненна праз Інтэрнет перакінуць на іншы кантынент свой позірк ці голас Раней людзі марылі адчуваць сябе паўсюль нібы дома, сёння ж хочуць быць дома нібыта паўсюль.

Мы гаворым усё больш, але ўсё менш самі ведаем, пра што. Яшчэ нядаўна мова была нашым агульным домам, камунальнай кватэрай быцця Але сучасны чалавек ужо не жадае жыць, як шматлікія пакаленні продкаў, у чатырох сценах аднолькавых слоў, спраў і дзён Ён марыць пра шматпавярховы палац у прэстыжным раёне ці спрабуе прабіць у сценах бацькоўскага ладу жыцця новыя акенцы і галерэі вывучае замежныя мовы, уладкоўваецца на працу ў некалькі ўстаноў, у дадатак да жончынага наведвае ложкі каханак. Мы жывём ужо не ў доме, а ў лабірынце.

Ралан Барт· "Чалавек, нават у найбольш патаемных кутках сваёй істоты, складаецца з мноства моў" Зрэшты, і адна родная мова можа нагадваць лабірынт: "Мова для ўсіх рыхтуе падобныя пасткі, заблытаную сетку пешаходных дарог І мы бачым людзей, якія ідуць адзін за адным па гэтым лабірынце, наперад ведаючы, што вось тут чалавек збочыць, а там будзе ісці проста перад сабой, не заўважаючы адгалінаванняў шляху " (Людвіг Вітгенштэйн).

Мы часта памыляемся ў сваіх разважаннях таму, што словы толькі часткова адпавядаюць тым рэчам, пра якія мы думаем і гаворым Усялякі прадмет ці ўчынак нават у адной мове мае некалькі назваў, кожная з якіх адлюстроўвае яго толькі часткова, метанімічна, але ўжываецца намі як бездакорна поўны адпаведнік. Апрача таго, няма не толькі аднаслоўных рэчаў, але і адназначных слоў Нам здаецца, што мы гаворым пра адно, а на самай справе – пра многае

Гісторыя і нават сам час мне таксама ўяўляецца не ўзыходзячай лініяй, спіраллю ці колам, а лабірынтам (сеткай, павуціннем), дзе ёсць усе гэтыя ды іншыя элементы Менавіта ў лабірынце можна бясконца блукаць (рабіць новыя памылкі і старыя адкрыцці, паўтараць адны і тыя ж учынкі, думкі і словы, разыходзіцца ў розныя бакі і нечакана сустракацца), але можна ўсё ж такі ісці і наперад у надзеі знайсці калі-небудзь выхад (зрэшты, дзе тут перад і зад, мы пагодзімся не раней, чым гэты выхад знойдзем). Дарэчы, ёсць падставы меркаваць, што гісторыя – гэта не толькі бясконцы тупік, але і бясконцы парог. І нават стойма на месцы мы кудысьці ідзём

Усялякая чарга, мова, традыцыя – гэта адгалінаванне сусветнага павуціння цывілізацыі Мы ад самога пачатку жывём у Інтэрнеце калектыўнага бессвядомага, лунаючых у паветры думак, агульначалавечых учынкаў Калі кажуць, што людзі – звёны аднаго ланцугу, гэта не зусім дакладна. мы прыналежым мноству ланцужкоў адразу

Вядомая тэорыя рэінкарнацыі сцвярджае, што пасля смерці чалавека ягоная душа перасяляецца ў цялесную абалонку істотаў, якія будуць жыць пасля яго. Аднак, магчыма, душа можа перасяліцца не толькі ў будучыню, але і ў мінуўшчыну? І, напрыклад, душа майго ці вашага цела прыналежала раней не продку, а камусьці з далёкіх нашчадкаў?

Наша біялагічная чарга ў будучыню наўрад ці магла б існаваць, калі б побач не было іншых ланцужкоў эвалюцыі Паводле вядомай гіпотэзы "Гея", жыццё на Зямлі ўяўляе сабой сетку ўзаемазалежных сувязяў і прымушае планету дзейнічаць як самарэгулюемая жывая сістэма. Амерыканскі біёлаг Лін Маргуліс кажа "Сур'ёзныя генетычныя наступствы сімбіёзу многімі ігнаруюцца Даследчыкі-дарвіністы працягваюць будаваць папуляцыйныя мадэлі і маляваць дрэвы эвалюцыі, якія з'яўляюцца толькі галінамі Але гэтыя галіны заўсёды злучаюцца ў сімбіятычных саюзах"

Сімбіёз з'яўляецца ладам жыцця большасці арганізмаў Батанікі мяркуюць, што 90 працэнтаў усіх наземных раслін існуюць супольна з грыбамі грыбы дапамагаюць карэнням раслін даставаць пажыўныя рэчывы з глебы. Большасць траваедных жывёлін залежыць ад мікраарганізмаў, што жывуць у іхнім кішэчніку і перастраўляюць клятчатку, якую ядуць гэтыя жывёлы. "Хіба можна гаварыць пра эвалюцыю каровы без абмеркавання ролі перастраўляючых клятчатку мікробаў?" – пытаецца Маргуліс. На яе думку, сімбіёз з'яўляецца сапраўдным "аўтарам" усяго новага, што мы бачым у эвалюцыі, а натуральны адбор выконвае ролю толькі "рэдактара".

Такім чынам, існуюць не асобныя віды і арганізмы, а скрыжаваныя супольнасці відаў і арганізмаў з агульным генафондам Ніхто не жыве сам па сабе, гэта планета жыве праз нас усіх Лішайнікі ў свой час нарадзіліся ў выніку сужыхарства грыбоў з водарасцямі ці бактэрыямі Клеткі вышэйшых раслін, жывёлін, а таксама грыбоў – гэта нашчадкі сімбіятычных саюзаў больш простых арганізмаў – бактэрый, спірахетаў і пракарыётаў. Адзін без аднаго мы засталіся б звычайнымі мікробамі, ці, яшчэ верагодней, папросту арганічнымі малекуламі

Пасаджанае Ч Дарвінам дрэва эвалюцыі, дзе аднойчы адасобленыя галіны больш не перакрыжоўваюцца і не ўз'ядноўваюцца, пара замяніць вобразам сеткі (лабірынта, віхру) эвалюцыі, дзе няма адзінага вытоку і цэнтра, дзе ўсе гены могуць калісьці сустрэцца і памяняцца месцамі, гэтаксама, як органы – функцыямі і арганізмы – формамі Паскорыць гэты працэс, здаецца, і маюць на мэце генетычныя ды іншыя біятэхналогіі, што зараз пачалі імкліва развівацца

Лёс кожнага чалавека – гэта адгалінаванне сусветнай гісторыі і нават самой касмагоніі Відавочна, што і гэтыя галінкі прарастаюць адна ў адну, утвараючы амаль безвыходнае кола існавання Кожны з нас яшчэ пры жыцці ўдзельнічае ў кругавароце вады ды іншых хімічных рэчываў, а таксама ў кругавароце імёнаў, думак і ўчынкаў Але і пасля смерці спакою няма трэба амаль адразу нараджацца ў выглядзе іншых людзей, істот ці рэчаў (імёны некаторых з нас, напрыклад, даюць вуліцам і цеплаходам)

Грамадства звычайна атаясамляюць з людзьмі, якія ў ім жывуць у даны момант· толькі іхнія галасы ўлічваюцца, напрыклад, падчас выбараў і рэферэндумаў На маю ж думку, у склад соцыуму ўваходзяць не толькі жывыя людзі, але таксама нашы нябожчыкі і нашчадкі, героі міфаў і твораў мастацтва, рэчы (прынамсі, зробленыя чалавечай рукой), хатнія жывёлы і культурныя расліны І часам шкада, што іх не запрашаюць на выбары Хатняя жывёла – ужо трохі чалавек, а калі ўся зямля – наш дом, то ўсялякая жывёла, – трохі чалавекападобная. Дарэчы, было б лагічна, каб разам з доўгімі пакаленнямі людзей уваскрэслі, калі прыйдзе час, і ўсе нашчадкі створаных Богам жывёлін, раслін і бактэрый – прынамсі, тая

мікрафлора, што жыла ў кішэчніку нашых продкаў, а таксама малыя сябры чалавека – коткі, сабакі і г.д. У некаторых краінах ужо існуюць цвінтары хатняй жывёлы, а дзеці дык здаўна хаваюць сваіх пестуноў дзе-небудзь у садзе і часта ставяць на гэтых магілах маленькі крыжык, каб Гасподзь не забыўся пра іхніх сяброў Лішне казаць пра пахаванні коней разам з ваярамі ў старажытнасці.

Аналаг чаргі ў будысцкай філасофіі – кругабег смярцей і нараджэнняў (самсара), у хрысціянскай – "дурная бясконцасць" чалавечага роду Кафка аднойчы ў дзённіку прыйшоў да высновы, што Сізіф быў бяздзетны Нават калі і сапраўды так, то сам ён, безумоўна, быў чыімсьці сынам. Мы спадзяёмся, што нараджэнне дзіцяці будзе для нас выдахам з бессэнсоўнага кола аднолькавых учынкаў і думак. Гэта выхад для нас, але не для яго.

Чалавек бясконца пераўвасабляецца з адной чаргі ў іншую, пакуль шукае самарэалізацыі, а значыцца – уласнасці. Уся наша маёмасць, а таксама веды і ўлада – гэта сізіфаў камень і крыж, які і валачы цяжка, і кінуць страшна. без іх, напэўна, нічога ад нас не застанецца

Не багацце, а маёмасць прыланцужвае чалавека да зямлі Не толькі багацей, але нават той, хто ўсведамляе сябе бедняком, не здолее прайсці скрозь вушка іголкі на неба Ганарыцца багаццем ці скардзіцца на галечу – хіба не адно і тое ж, па вялікім рахунку? Не магу, дарэчы, пагадзіцца, што "апошнія ў гэтым свеце стануцца першымі ў тым". у нябесным царстве, мяркую, ніякіх чэргаў не будзе – ні гісторыі, ні звыклай для нас мовы, ні парадкавых лічбаў. Ды і ў гэтым свеце, паводле Алеся Разанава, усе знаходзяцца на роўнай адлегласці ад Бога, хаця і на рознай – да Бога.

Каб спыніць паўторнае, недасканалае існаванне і выйсці з будысцкага кола пакутаў або хрысціянскага кола грахоў (у якім кожны віток набліжае смерць і аддаляе выратаванне), трэба адмовіцца ад уласцівай чалавеку чаргі псіхалогіі – адмовіцца ад жадання стаць першым або здабыць нейкі іншы прэстыжны нумар Паводле В. Пелевіна, асоба чалавека падобная да набору кашуляў ці сукенак, што па чарзе вымаюцца з шафы, і чым менш рэальны чалавек, тым больш вопраткі ў гэтай шафе. І столькі розных роляў чакае сваёй чаргі на тваё розум і цела, што, пакуль ты імі ўсімі станавіцца будзеш, усё жыццё міне "На цябе ўнутры такая чарга, як пры камуністах за каўбасой не было". Вызваленне ж нам можа прынесці толькі адмаўленне ад усіх навязаных грамадствам і ўласна прыдуманых жаданняў і роляў.

Свабодны толькі той, каму нічога не трэба і нічога не шкада У будысцкім светапоглядзе ўсе рэчы пустыя, і няма нічога прывабнага, да чаго варта было б імкнуцца. Сутры кажуць. імкненне цягне за сабой пакуты; калі вы пакідаеце імкнуцца да ўяўных каштоўнасцяў (а ўсе каштоўнасці – ўяўныя) – вы дасягаеце нірваны Сам Буда Шак'я-Муні дасягнуў прасвятлення тады, калі ўсвядоміў, што межаў самаўдасканалення (не кажучы ўжо пра ўдасканаленне свету) няма Заганнае кола – не толькі прага ўласнасці, ведаў, улады, але і прага пазбыцца іх праз фізічную і духоўную аскезу. "Няма мяжы ні вытворчасці, ні спажыванню", – кажа сучасны настаўнік дзэн-будызму Д. Судзукі

П. Валеры на схіле жыцця занатаваў у дзённіку: "Часам рэчы, сонца, мае паперы нібыта кажуць мне ізноў ты! Што ты робіш тут? Хіба ты недастаткова бачыў нас? Ты ізноў хочаш запаліць цыгарэту? Але ты паліў яе ўжо трыста семдзесят тысяч разоў. Ты ізноў хочаш углядацца ў гэту мігатлівую ідэю? Але ты сузіраў яе нараджэнне, прынамсі, 10 000 разоў І я саджуся і той жа рукой падпіраю той жа падбародак." І далей· "Тая ж ранішняя цыгарэта, тая ж кава, той жа сшытак, тыя ж ідэі"

Сёння ўжо мала хто мае гэткія трывалыя каардынаты жыцця Людзі імкнуцца разамкнуць заганнае кола аднолькавых дзён праз новыя мадальнасці існавання ўласнага цела (я маю не ўвазе новыя дыеты, імклівую моду, сексуальныя эксперыменты, шматмерныя камп'ютэрныя гульні, наркатычныя "падарожжы", пластычную хірургію). Каб вызваліцца з палону чэргаў, трэба было б знямецць і вызваліць розум ад усялякіх жаданняў Сучаснае грамадства абрала іншы шлях няспыннае абнаўленне матэрыяльнага і вербальнага асяроддзя, замест кола – лабірынт..



# Раіса ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ

НАША



*Тут – дождж імгнення*
*каменьне сьпляміў,*
*рассыпаў кроплі ў траве,*
*ў лісьці...*
*Няйначай –*
*Нехта дзесь там, над намі,*
*наш Крыж вадою сьвятой*
*хрысьціў.*

## *Пра Раісу Жук-Грышкевіч*

**Удзельнікі Першага з'езду беларусаў свету, які адбываўся ў Менску ўлетку 1993 года, не маглі не запомніць яскравы эмацыйны выступ прадстаўніцы Канады Раісы Жук-Грышкевіч. "Мы хочам нашай мовы, – казала яна. – Мы хочам нашай школы. Мы хочам нашай незалежнай Беларускай дзяржавы". У вечаровым рэпартажы "Беларускага" тэлебачання спадарыня Раіса хацела ўжо значна меней – толькі школы...**

**Яе дзявочае прозвішча – Жукоўская, малая радзіма – Пружаны, дзе Раіса прыйшла на свет у 1919 годзе ў сям'і заможных беларусаў, продкі якіх ніколі не ведалі прыгоннага права. Пасля заканчэння гімназіі яна пераехала ў Вільню і ў 1938-м стала студэнткай юрыдычнага факультэта alma mater і сяброўкаю віленскага "Беларускага студэнцкага саюза". Але будучая грамадская дзяячка і пісьменніца вымушаная была пакінуць універсітэт і з 1939 года выкладала на Пружаншчыне беларускую мову.**

**У гады другой сусветнай вайны Раіса трапіла ў лік маладых беларусаў, вывезеных на прымусовую працу ў Нямеччыну, і з бацькамі ўжо ніколі не сустрэлася.**

# МАЕ ЎСПАМІНЫ ПРА НАТАЛЬЛЮ АРСЕНЬНЕВУ-КУШАЛЬ

Быць у бліжэйшых адносінах з Натальляй Арсеньневай-Кушаль я мела гонар і шчасьце дзякуючы таму, што мой муж Вінцэнт і Натальля Арсеньнева былі сябрамі яшчэ з пачатку 20-х гадоў, з часоў Віленскае Беларускае Гімназіі. У вершы "Дарагому Вінцуку – сябру юнацтва", прысвечаным ягоным сямідзесятым угодкам жыцьця, Натальля Арсеньнева кажа:

*...Вось Базыльянскія муры.*
*У клясе – цішыня густая...*
*А мы,*
*да позьняе пары,*
*з Табой наш часапіс складаем ..*
....... .... ........ ..........
*І хай Ты Прэзыдэнт цяпер,*
*хай муж дастойны, санавіты, –*
*а для мяне Ты ўсьцяж, самперш –*
*сябрук ціхі і працавіты.*
*Ня той, што шлях пакут, дакук*
*прайшоўшы,*
*нас тут сяньня госьціць,*
*а ў шэрым фрэнчыку Вінцук*
*з тых вечароў,*
*з той маладосці...*

Сяброўства Натальлі Арсеньневай і Вінцэнта Жук-Грышкевіча трывала да сьмерці Вінцука, калі Натальля Арсеньнева ўзноў яму піша:

*Памёр ... няма. . і анідзе у сьвеце*
*не пакрыжуюцца ўжо нашыя шляхі,*
*хай восень зноў сьпляце нам залатыя сеці,*
*хай зазяленяцца узноў вясновыя лагі.*
..... .........................

**Ліпень 1949-га – эміграцыя ў Канаду. Там, ва універсітэце горада Таронта быў атрыманы дыплом аб вышэйшай медычнай адукацыі. Там у 1953 годзе Раіса выйшла замуж за доктара філасофіі Вінцэнта Жука-Грышкевіча (1903–1989), які ў 1970–1982 гадах быў старшынёй Рады Беларускай Народнай Рэспублікі на эміграцыі.**

**Раіса Жук-Грышкевіч заўсёды актыўна супрацоўнічала ў беларускіх эміграцыйных арганізацыях. Яна заснавала і ўзначальвала Задзіночанне беларускіх жанчын Канады, была старшынёй Згуртавання беларусаў гэтай краіны. Ёй належыць ідэя ўзвядзення ў Мідлянду, штат Антарыо, Беларускага памятнага крыжа, прысвечанага 1000-годдзю хрысціянства ў Беларусі. Спадарыня Раіса з'яўляецца сябрам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, Усебеларускага жаночага фонду імя Еўфрасінні Полацкай, Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. Яна часта выступае з дакладамі на навуковых канферэнцыях, друкуецца ў англамоўным часопісе "Ethno Canada", наладжвае ў замежжы выставы з беларускай тэматыкай.**

**Галоўным навукова-літаратурным здабыткам нашай канадыйскае суайчынніцы застаецца яе выдадзеная ў 1993 годзе ў Таронта біяграфічная кніга "Жыцьцё Вінцэнта Жук-Грышкевіча", без якой ужо цяжка ўявіць гістарыяграфію беларускага нацыянальнага руху.**

**Уладзімір АРЛОЎ**





*... як замірыцца з тым, што ня сустрэцца болей*
*нам у жыцьці з Табой*
*ні ў шчасьці, ні ў бядзе?*

Раней, у 60-х і 70-х гадох, мне з мужам часта прыходзілася бываць у Нью-Ёрку, і ня раз мы гасьцілі ў спадарства Кушаляў у Брукліне, а пасьля па дарозе дамоў заязджалі да іх у Рочэстар. Некаторыя сябры жартавалі, што Рочэстар належыць больш да Канады, чымся да ЗША.

У 1965 годзе пры ЗБК* сарганізаванае было Згуртаваньне Беларускіх Жанчын Канады. Жанчыны запрасілі паэтку Натальлю Арсеньневу быць ганаровай сяброўкай іхняй арганізацыі, на што яна ласкава згадзілася. А вясной 1969 году запрасілі мы – сяброўкі ЗБЖК – яе ў Таранта на прысьвечаны ёй і ейнай творчасьці літаратурны вечар. Імпрэза была люднай і надзвычай удалай Бралі ў ёй удзел ня толькі беларусы з розных мясцоў Канады, але й ЗША. Былі даклады пра творчасьць паэткі, яна расказвала пра сваё жыцьцё, удзельнікі імпрэзы дэклямавалі яе вершы, усе разам пялі ейныя песьні. Зрабілі мы супольную фатаграфію, Паэтка атрымала падаркі – чырвоныя ружы й салодкія прысмакі. Знаёмства й цясьнейшая сувязь замацаваліся. Бывала Паэтка ў нас на розных імпрэзах. У часе сьвяткаваньня тысячагодзьдзя дзяржаўнасьці Беларусі ў 1980 годзе яна афіцыйна адкрыла выстаўку, што была наладжаная з нагоды сьвята.

Былі шчасьлівыя часіны й тады, калі Натальля Арсеньнева із сваёй унучкай Натай езьдзілі з намі на летнія канікулы на раку Атаву Там, на лодцы, на неабсяжным прасторы вады, "пад сінім небам", цешыліся мы жыцьцём і сьветам, чыстым, як званок, паветрам, а на захадзе сонца разам зь ім услаўлялі Усявышняга Там злоснымі хвалямі бушаваў ня раз вецер, грозна кідаў з боку набак лодку А ў цёмнай глыбіні ракі жыравалі на меншую рыбку шчупакі

Там над ракой Атавай хадзілі мы з Паэткай па лясох у грыбы. У тым-жа разьвітальным вершы яна кажа Вінцуку·

*Любіў і Ты – як я – блукаць па пералесках,*
*спыніцца ў гушчары, скамечыць мох мяккі,*
*яшчэ й яшчэ чытаць ад крэскі і да крэскі*
*баляды, што дубы зьбіралі празь вякі...*
............. ... ......... .
*Мой сябра дарагі!*
*Нялёгкімі гадамі*
*нам давялося жыць –*
*відаць, наш Кон такі.*
*Ды мы брылі. Ступой*
*ішоў і Кон за намі,*
*ды запыніў Цябе кіўком рукі.*
*Стаю... ужо адна..*

Ды пакуль гэта сталася, Паэтка на працягу 87-га й 88-га году цесна супрацоўнічала з намі ў пабудове Беларускага памятнага Крыжа ў канадыйскай прошчы паўночнаамэрыканскіх пакутнікаў у Мідлянду, Антарыо. Яна была прысутнай 5-га верасьня 1988 году на асьвячэньні Крыжа й апела падзею адзначэньня намі тысячыгодзьдзя хрысьціянства ў Беларусі вершам "КРЫЖ"·

*Як вокам ськінуць –*
*сьцяг пушчаў сініх. .*
*За пушчай далеч, яшчэ сіней..*
*А тут, на ўзвышшы, стаіць над намі*
*наш Крыж прыгожы, маўляў у сьне...*

*Шмат чулі сьвету крыжы маленьняў,*
*шмат просьбаў, выкліканых бядой,*

* Згуртаванне беларусаў Канады.

*прыйшлі й мы ў Прошчу сагнуць каленьні,*
*сьвяціць ня нечы ўжо крыж, а свой*
*"Зрабі свабоднай, зрабі шчасьлівай*
*краіну нашу", маліўся хор,*
*і ўторыў натаўп, і сьпелай нівай*
*хіліўся, ветру на перакор.*

*А вецер дужаў, кудысь аблокі*
*зусім павосеньску ўжо плылі.*
*Маўчала прошча, ўнізе-ж далёка*
*сінелі зарасьнікі й палі.*

*"Магутны Божа", бяз слоў прасілі*
*мы ўсе, а рукі узьняўшы ўзвыш,*
*стаяў нязрушна на ўзгорку-сьхіле*
*ён, гэткі родны ўжо сэрцу Крыж.*

*Тут – дождж імгненна каменьне сьпляміў,*
*рассыпаў кроплі ў траве, ў лісьці...*
*Няйначай –*
*Нехта дзесь там, над намі,*
*наш Крыж вадою сьвятой хрысьціў*

**Прошча, 5 верасьня, 1988 году.**

За год прыйшоў час на першае паломніцтва да Беларускага Крыжа Прыехала з Рочэстару Натальля Арсеньнева, але ня стала ўжо ейнага сябры, кіраўніка пабудовы Крыжа, Вінцука Жук-Грышкевіча. 14 лютага 1989 году "Кон запыніў Яго кіўком рукі" На гэтым скончылася сяброўства Натальлі зь Вінцуком, а ўзмоцнілася яно між Ёй і мною. Ужо разам зь Ёю ў паразумленьні з айцом Аляксандрам Надсонам ды Дырэктарам Прошчы а. Джэймсам Фарэлам, таксама ўжо нябожчыкам, мы зрыхтавалі для Прошчы ў Мідлянду беларускія малітоўныя карткі. Яна зрэдагавала ў цяперашняй беларускай мове малітву Францішка Скарыны з "Малой падарожнай кніжкі" (Вільня, 1522) і зрабіла пераклад малітвы да паўночна-амэрыканскіх пакутнікаў з ангельскай на беларускую мову.

Кожны год у чэрвені перад паломніцтвам да Крыжа прыяжджала да мяне ў Бэры на тыдзень Натальля Арсеньнева рыхтавацца і быць удзельнікам паломніцтва. Прыяжджаў праводзіць паломніцтва й айцец Аляксандр Надсон зь Лёндану. Кожнай раніцы ў нашай сталовай перад сьвятымі абразамі Укрыжаваньня й сьв Еўфрасіньні Полацкай адпраўляў ён Літургію. Тады маліліся мы й за супакой душ сьв. пам Францішка Кушаля й Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Ішлі гады. І з году ў год з тым самым энтузіязмам і запалам прыяжджала Натальля ў паломніцтвы: другое, трэцяе, чацьвертае, пятае, і здавалася, што так яно будзе заўсёды.

Але гэта толькі здавалася. Прыйшоў час, і Натальля кажа. "Не магу прыехаць. Нешта не здаровіцца". Нічога, Наталка, – кажу, – на наступны год прыедзеш!" Прыйшоў 1996 год, набліжаецца важнае 8-ае паломніцтва. Важнае тым, што ў часе яго адбудзецца высьвячэньне помніка памяці ахвяраў камуністычнага тэрору ў Беларусі. У тэлефанічнай гутарцы гаворым аб гэтым з Натальляй Арсеньневай Ізноў яна кажа. мусіць, не змагу прыехаць.. Ізноў яна перадае паломнікам свае прывітаньні, і шкадаваньні, што ня можа быць разам з намі. Паломнікі выслалі Ёй свае прывітаньні на падпісанай усімі паштоўцы беларускага Крыжа. Пасьля, калі ў тэлефанічнай гутарцы я расказвала пра паломніцтва, пра тое, што мы Яе ўспаміналі, Яна мне кажа. "Трэба было табе прачытаць верш "КРЫЖ"...

Таму я ведала, што ў часе пахованаў Паэткі абавязкава трэба было прачытаць ейны верш, запяяць "Магутны Божа", што мы і зрабілі. І веру, што ці то Сьвяты Дух, ці дух Натальлі Арсеньневай натхніў Сьвятара запрапанаваць мне прачытаць у касьцёле верш Паэткі, што я з удзячнасьцяй зрабіла. Таму я й тут цытую Ейныя вершы. Ведаю, што Яна гэта жадала бы.

Прыйшла зіма й вясна 1997 году. Звоніць унучка Паэткі й кажа: "Благая вестка. Баба ўпала, зламала бядро й руку. Цяпер яна ў шпіталі" Падала ўнучка Ната нумар тэлефону, куды можна званіць да бабулі. Падумала я сабе: палом бядра дабра не варожыць. Вінцук на чацьверты дзень пасьля такое прыгоды памёр. Сэрца ня вытрывала. Але Натальля Арсеньнева мела моцнае сэрца й, як здавалася, зялезнае здароўе. Хутка пасьля апэрацыі звоніць ізноў унучка й кажа. "Добрая вестка. Баба ўжо магла стаць на свае ногі й зрабіла некалькі крокаў. За тыдзень, лекар казаў, пойдзе дамоў"

Званіла я ў шпіталь. Натальля гаварыла пра сваё гора і цяжкасьці, але была добрае надзеі. Вярнулася дамоў й памаленьку стала пры дапамозе апірышча хадзіць. А думкі ейныя ўсьцяж кружылі вакол зьяўленьня ў "Запісах" ейнага перакладу на беларускую мову паэмы Гусоўскага "Песьня пра зубра" і выхаду з друку ў Менску кнігі ёйнай творчасьці. Ды, як то бывае, бяда паганяе бяду. Да ўсяго гора Паэтка траціць зрок. Шукае ў лекараў дапамогі, а тыя нічога добрага не варожаць. Бядуе мне па тэлефоне, што з вачыма няма папраўы, "Няўжо яно так і застанецца, няўжо я зусім асьлепну?!." Ды ўсё ня траціць надзеі. І думкі сабе не дапускае, што, можа, гэта прыходзяць ёй канцы .. Церпіць болі ў паломах і цемнату ў вачох. "Але фізічныя болі я магу пераносіць – кажа мне – найцяжэй з духовымі. Чуюся такая самá й пакінутая прыяцелямі й сябрамі. Здаецца мне, што я адна на ўсім цалюськім сьвеце. Ніхто не пазвоніць. Што чуваць зь Нью-Ёрку?"

"У Нью-Ёрку амаль нікога не засталося, – кажу ёй. – Шмат хто з Тваіх сяброў і калісьняйшых супрацоўнікаў адыйшоў ужо на той сьвет". Кожны раз, як канчаем гутарку, яна дзякуе, што яе не забываю, і просіць далей не забываць... Званіла я да яе кожную суботу, а пасьля й часьцей.

Прыходзяць лісты зь Беларусі, ня можа на іх даць адказу. Просіць мяне напісаць зацемку ў "Беларусе" пра ейную трагічную сытуацыю. Зацемка мела водгук. Галена Скурат з Канады піша да мяне й цёплы ліст да Паэткі, запэўняе яе аб нашай да яе пашане й любові.

У цёплыя сонечныя дні захапляецца Натальля: "У нас сёньня такі цудоўны дзень! На душы лягчэй, толькі вось нічога ня бачу Бачу толькі зарысы стала, крэсла, і што нехта стаіць. Болей нічога. Па галаве ходзяць усьцяж фразы, рыфмы. .. Пісала бы, каб бачыла..." Пазьней стала наракаць на вялікае аслабаленьне, і што нічога есьці ня можа.

Ізноў візыта ў лекара, ізноў дасьледаваньні й ізноў благая навіна. 25 чэрвеня лекары зрабілі дыягнозу рака, які ўжо разыйшоўся па целе. Засталося два, тры месяцы жыцьця, кажуць.

"Што рабіць?! – пытаецца Натальля ў мяне – Засталося мне толькі тры месяцы жыцьця!" Кажу ёй "Дзякуй Богу за такое даўгое й творчае жыцьцё Ты пакінеш па сабе не абы які сьлед. Усё тое, што Ты напісала, застанецца на заўсёды. Цешся, і дзякуй Богу за гэта!" Яна прызнае, што пражыла амаль 95 год, але гэта ніякае для яе апраўданьне, што за тры месяцы павінна памерці Не, хоць цела слабее, ды дух дамагаецца жыцьця!

Цяпер я старалася тэлефанаваць да Яе часьцей. Паэтка стала моцна слабець, і гутарыць Ёй зрабілася цяжка. Пазваніла я неяк, тэлефон узяў сын. Пытаю, ці магу гаварыць з ягонай мамай Кажа. "Нажаль не, мама надта слабая. Ня зможа ўстаць падыйсьці да тэлефону"

"Перадайце ёй, калі ласка, ад мяне прывітаньні й маю для яе любоў" – кажу "Пачакайце", кажа Влодак. Па нейкім часе, калі ўдалося ім там перанесьці тэлефон да ложка, слабенькім голасам адазваляся Наталка. З цяжкасьцяй вымаўляла слова за словам. "Не забывай!. " – былі яе апошнія словы, ейная апошняя просьба.

"Цябе, Наталка, я моцна, моцна люблю й ніколі, ніколі Цябе не забуду" – былі мае апошнія словы да Яе жывой Я ведала, што гэтым я абяцала ёй прыехаць на паховіны Хто ведае, мо й яна пра гэта й прасіла?. Пазваніла я праз дзень, ці два. Сын сказаў, што мама ў шпіталі, у коме А ў пятніцу, 25 ліпеня, роўна месяц пасьля злавеснае дыягнозы, пазваніў Влодак, што ў 5 гадзін раніцы памерла мама. Вечны ёй супакой!

Абяцала я спадару Кушалю паведаміць беларускае грамадзтва Канады й перадаць вестку ў ЗША. Пазваніла ў Лёндан айцу А. Надсону, які адслужыў паніхіду. Замовіла кветкі ад Каардынайцыйнага Камітэту Беларусаў Канады, а тым самым і ад сябе, і на другі дзень, у суботу, выехала ў Таронта, а стуль у нядзелю зранічкі накіравалася аўтобусам у Рочэстар. А другой гадзіне дня была я ўжо ў пахавальным доме, дзе між кветак у дамавіне спачывала цела мае дарагое сяброўкі Натальлі Арсеньневай Над целам яе прачытала я паніхіду. Гэтак калісь дома ў Пружанах, у Беларусі, суседзі зьбіраліся чытаць бесперапынна над целам нябожчыка малітвы. Малілася за Яе й дзякавала Богу, што дазволіў мне ў гэты апошні час быць зь Ёю – нашай паэткай Натальляй Арсеньневай. І было ў мяне такое адчуваньне, што моцны дух Натальлі з намі, кіруе намі й кажа нам:

"Цяпер, пазбыўшыся зьнішчанага жыцьцём й хваробай цела, я вольная й мацнейшая, як калі!"

# 21 x 1

# КАЛІ Б Я БЫЎ ПРЭЗІДЭНТАМ

То ў першай прэзідэнцкай прамове я сказаў бы: "Суайчыннікі, ЖЫЦЬ ТРЭБА ПРЫГОЖА І СПРАВЯДЛІВА! Фундамент любой дзяржавы – чалавек! А крапасныя муры дзяржаўных сістэм – законы. ЗАКОН ГРАМАДСКІ НЕ ПАВІНЕН РАЗЫХОДЗІЦЦА З ЗАКОНАМ СУМЛЕННЯ, які запісаны на скрыжалях сэрцаў ЗАКОНЫ Духу і законы дзяржавы з заўтрашняга дня будуць гарманіраваць. Свет падзелены іерархічна, таму ад пачатку майго праўлення ўступаюць у сілу грамадскія лозунгі: "БОГАЦЭНТРЫЗМ І СВАБОДА! Ніякай роўнасці і ніякага братэрства. СВАБОДА, НЯРОЎНАСЦЬ і РАЗДЗЯЛЕННЕ – у гэтым сапраўдная традыцыя і мараль, і справядлівасць. Свабода – гэта няроўнасць свабода быць жрацом, імператарам, воінам ці рабом. Роўнасць хоча аднолькавых, ніверліраваных, толькі няроўнасць патрабуе індывідуальнай свабоды кожнаму ў рамках яго магчымасцяў Заўтра ў газетах вы прачытаеце новыя законы дзяржавы, якія ўступаюць у сілу з моманту іх абнародавання Грубае парушэнне законаў караецца смерцю. Вы вольны ў тым, як вам жыць далей, а я свабодны ў тым, як вамі кіраваць. Калі вы выбралі прэзідэнтам мяне, вы далі мне гэтае права. Не забывайце, што ёсць Бог у небе і ў сэрцы кожнага чалавека. Няхай Ён нам дапаможа! З Богам!"

Прэзідэнцкая прамова была б кароткай, а пасля яе пачалося б давядзенне мяне да прысягі Я сказаў бы: "Грамадзяне Белай Русі, Я, Кудласевіч Анатоль, міласцю Божай ваш Валадар, перад Богам і людзьмі прысягаю на вернасць зямлі продкаў і вернасць свайму народу

Левую далонь я кладу на свяшчэнныя кнігі народаў свету: "Трыпітаку", "Біблію", "Каран", а правую руку я кладу на зямлю, якая ўзята з магіл маіх прадзедаў, дзядоў і бацькі, на гэтай жа зямлі ляжаць свяшчэнныя пісанні нашых продкаў славян-арыяў РУСКІЯ ВЕДЫ: "Кніга Вялеса", "Кніга Каляды", Кніга Святавіта" і "Баянавы гімны" – на іх кладу я ПРАВУЮ руку і клянуся ВЕРАЙ і ПРАЎДАЙ служыць свайму народу Калі я парушу гэтую клятву, няхай мяне пакарае смерцю Бог або людзі Замацоўваю слова клятвы ўласнай крывёю!"

Тут падышоў бы старац і разрэзаў бы рытуальным мячом далонь правай рукі так, каб кроў сцякла на зямлю продкаў, на свяшчэнныя кнігі і на тэкст клятвы

А заўтра ва ўсіх газетах былі б надрукаваны новыя законы

**Законы дзяржавы Белая Русь:**

1 ЗАКОН АБ МАЦЯРЫНСТВЕ. За маці, якая знаходзіцца ў дэкрэтным адпачынку, тэрмінам на тры гады захоўваецца поўны заробак апошняга месца працы, пры нараджэнні другога дзіцяці, дэкрэтныя павялічваюцца на палову, пры трэцім – яшчэ на пяцьдзесят працэнтаў

2. АБ ПАДАТКАХ. Падаткамі абкладаюцца толькі сродкі вытворчасці, а не прыбытак. Забараняецца двайное і трайное падаткаабкладанне. Усе падаткі збіраюцца не цэнтралізавана, а палова пакідаецца ў мясцовых бюджэтах, адна чацвёртая забіраецца ў абласныя структуры і адна чацвёртая ў цэнтралізавана-дзяржаўныя

3. АБ МІНІСТЭРСТВАХ. Увесці паралельны кабінет міністраў, які складаецца з жонак высокіх чыноўнікаў і карыстаецца правам вета на ўсе рашэнні, якія прымаюцца іхнімі мужамі.

4. АБ ЗАРОБКАХ І ПЕНСІЯХ. Заробак не абмежаваны ў сферы бізнесу. У сем разоў падняць заробак дзяржаўным служачым, якія заняты ў сферы інтэлектуальнай дзейнасці, медыцыне, сілавых структурах, воінам У сем разоў падняць пенсію. Па дасягненні пенсійнага ўзросту грамадзянам забараняецца працаваць за грошы, можна толькі на грамадскіх пачатках і то толькі ў якасці дарадчыкаў на тых пасадах, на якіх яны працавалі да адпраўкі на заслужаны адпачынак.

5 ПА СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ Усім сродкам масавай інфармацыі (далей СМІ) забараняецца ўхваляць палітыку прэзідэнта і вышэйшых дзяржаўных служачых: сабода слова на пахвальбу не распаўсюджваецца. Паўсямесна заахвочваюцца тыя СМІ, якія абнародваюць крытычныя матэрыялы Для гэтых мэт па ўсіх СМІ праводзіць конкурсы на лепшы крытычна-аналітычны артыкул тыдня, месяца, квартала і года. Пераможцы ўзнагароджваюцца грашовымі прэміямі і падарункамі

6. АБ ДЗЯРЖАЎНЫХ СІМВАЛАХ. Дзяржаўная мова беларуская. На дзяржаўнай мове вядзецца ўся справаздача і справавытворчасць, выкладанне ў сярэдніх і вышэйшых навучальных установах. Дзяржаўны гімн "Магутны Божа" Дзяржаўная сімволіка: бел-чырвона-белая палотнішча, чацвёртую частку якога ў правым верхнім кутку займае чырвона-зялёны сімвал, на чырвонай паласе гістарычнага сімвала залатая пяціканцовая зорка, а з абодвух бакоў зоркі арыйскія знакі левабаковай і правабаковай "сваст асты" Дзяржаўны герб – "Пагоня"

7. АБ КУЛЬТУРЫ Аддаваць перавагу нацыянальнаму выхаванню і нацыянальным мастацтвам перад іншымі Мецэнаты і спонсары пазбаўляюцца дзяржаўнага падатку на культуру Увесці прамое дзяржаўнае фінансаванне таленавітых людзей. Спрыяць правядзенню конкурсаў, фестываляў і народных святаў Аднаўляць ведычныя культы і арыйскія традыцыі

8. АБ ДЗЯРЖАЎНЫХ СЛУЖАЧЫХ. Да ўладных дзяржаўных структур дапускаюцца толькі тыя людзі, продкі якіх пахаваны на тэрыторы Белай Русі. Іншародцы да кіравання краінай не дапускаюцца.

9 АБ ДУЭЛЯХ. Пры сур'ёзнай аргументацыі дапускаецца правядзенне дуэляў публічна. Зброя дуэляў: слова, меч, агнястрэльная – выбіраецца народным судом Выклік на дуэль адхіляецца народным судом пры недастатковай аргументацыі і пры нізкіх матывах выкліку

10 Іншыя законы дзяржавы Белая Русь распрацоўваюцца прэзідэнтам і кастай вешчуноў Пры грубым парушэнні і зневажанні вышэйабнародаваных законаў грамадзян чакае суровае пакаранне, не выключаючы смяротнага.

Пасля гэтага я зноў выступіў бы з кароткім зваротам да народа: "Шаноўныя грамадзяне, – сказаў бы я, – вы выбралі мяне прэзідэнтам, даверылі над вамі ўладу. Таму я адзінаўладным рашэннем распускаю парламент, як непатрэбную структуру, і ўводжу самаўладнае праўленне, якое будзе дзейнічаць да стварэння Вялікай Рады Вешчуноў. З сённяшняга дня забараняюцца ўсякія рэферэндумы і дэмакратычныя дэбаты. Законы дзяржавы не абмяркоўваюцца, а выконваюцца. Кожны павінен займацца сваёй справай: я – кіраваць вамі, а вы – выконваць мае загады і працаваць на карысць бацькаўшчыны Наступныя выбары будуць праз пяць гадоў, таму да гэтага часу вы павінны выбраць з кожнага раёна па адным чалавеку для кандыдацтва ў Вялікую Раду Вешчуноў, якая праз пяць гадоў і абярэ новага прэзідэнта. А зараз кожнаму займацца той справай, да якой ляжыць яго сэрца. Да сустрэчы праз пяць гадоў!"

Затым я прыступіў бы да дзяржаўных спраў Утварыў бы новыя законы, сачыў бы за іх выкананнем, наладжваў бы выгадныя кантакты з суседнімі дзяржавамі Праз чатыры гады дабрабыт маіх грамадзян настолькі палепшыўся б, што ні ў адной краіне свету не жылі б так добра, як на Белай Русі. Справядлівыя законы спрыялі б развіццю эканомікі, росту духоўнасці і ўмацаванню дзяржавы. Грамадзяне суседніх краін таксама захацелі б жыць як людзі. Першымі папрасіліся б у межы Белай Русі Смаленская і Бранская вобласці. Я далучыў бы іх мірным шляхам. Потым далучыліся б некаторыя вобласці



Украіны і Польшчы, затым прыбалтыйскія народы і ўся Расія з астатняй часткай Украіны, пасля гэтага Балгарыя, Чэхія, Славакія, Чарнагорыя, Сербія, Македонія Словам, большая частка славянскіх народаў, так што пад канец свайго праўлення я кіраваў бы магутнай імперыяй. За пяць гадоў маёй улады ўтварылася б каста мудрых вешчуноў – ім і належала б вышэйшая духоўная ўлада ў дзяржаве Магчыма, мяне выбралі б і на другі тэрмін, але не дэмакратычнымі выбарамі, якія па сутнасці сваёй прафанацыя веча і фальсіфікацыя, а народным веча, а вешчуны зацвердзілі б выбар і памазалі б мяне на царства.

А праз пяць гадоў паўтарылася б тое ж самае. Ад пачатку майго праўлення вешчуны выхоўвалі б з маленства некалькі будучых імператараў і затым, па дасягненні паўналецця кандыдатаў у імператары, прапаноўвалі б народнаму веча. Выбіраўся б лепшы з лепшых Людзі ў маёй дзяржаве з кожным годам жылі б больш шчасліва. Законы дзяржавы з кожным годам станавіліся б мудрэйшымі і праз гады на землях Еўразіі раскінулася б магутная арыйская імперыя, царства дабра і справядлівасці. І багі спусціліся б з нябёсаў і жылі б сярод людзей, як гэта было ў сівой даўніне.

Усё было б менавіта так, калі б мяне не забілі ворагі бацькаўшчыны на другі дзень майго кіравання, таму што ахову я распусціў бы адразу пасля прысягі

**Імператар**
**аб'яднанай арыйскай імперыі**
**Белая Русь**
**Анатоль КУДЛАСЕВІЧ.**

Не пабаюся сказаць, што мець уладу жадаюць усе: кухарка і пастух, вучоны і паэт Нехта – над усім светам: як Напалеон, Гітлер ці Сталін, нехта – над статкам авечак ці невялікім статкам людзей, балазе чалавек, гэты "агнец Божы", як любіць уладарыць, так любіць і падпарадкоўвацца. У кожнага свае здольнасці, спрыт і розум, або адсутнасць іх, што таксама не замінае дасягнуць значнай улады, нават стаць прэзідэнтам Усё залежыць ад жыццёвых абставін.

Памятаю, па суседству са мною жыў хлопчык Алесь – сірата. Бацька пакінуў сям'ю, калі яму не споўнілася і года. Неўзабаве памерла маці. Жыў ён у бабулі На вуліцы, а асабліва ў школе дзеці дражнілі яго байструком Спачатку ён плакаў, але потым змірыўся са сваёй мянушкай Дакладней – замкнуўся ў сабе

Нядаўна, наведаўшы вёску свайго маленства, я даведаўся, што Алесь стаў аўтарытэтным злодзеем у законе, трымае ў руках увесь Ваўкавыск. Мабыць, недахоп чалавечай увагі і дабрыні, штодзённае адчуванне прыроднай недасканаласці, затоеная пагарда да іншых зрабілі сваю справу· яму таксама захацелася быць на вышыні, мець хоць нейкую ўладу, якімі метадамі і шляхамі здабытую, – гэта не важна.

Мой сусед Алесь стаў верхаводам-злодзеем. Нехта стаў прэзідэнтам

Ці мог бы стаць прэзідэнтам я? Мабыць, пры вялікім жаданні і невялікім шанцаванні – змог бы Але з якою мэтаю, што я зрабіў бы?

Пяць гадоў быў я дэпутатам Брэсцкага абласнога Савета. Мне здавалася, калі стану народным выбраннікам, дык многае зраблю для сваіх выбаршчыкаў. Праз год зразумеў, што ўсе мае намаганні – пусты гук, ілюзія. Я грукаў у дзверы чыноўнікаў, але перада мной была высокая мёртвая сцяна. Дэпутаты ў сваёй большасці на сесіях чыталі газеты ці проста спалі, выбаршчыкі маўчалі, а яны, чыноўнікі-валадары, – гаварылі Яны – абяцалі А зрухаў было – кот наплакаў.

Сёння зноў абяцанкі-цацанкі. Між тым гіне нацыя, гіне мова, гіне нацыянальная культура, людзі скочваюцца да жабрацтва, паразітызму, маральнай разбэшчанасці.

Дык мо і праўда, сабрацца з духам і на чарговых выбарах вылучыць сваю кандыдатуру, каб стаць прэзідэнтам? Не дзеля самой улады, як гэта сёння ёсць, не дзеля самаўзвышэння перад статкам-народам, як гэта сёння ёсць таксама. А – каб правесці эканамічныя і культурныя рэформы, што будуць спрыяць гарманічнаму росквіту нацыі, каб вярнуць народу гістарычную памяць і ягоныя духоўныя рэліквіі, каб аднавіць дэмакратычную дзяржаўную структуру, павыпускаць "дысідэнтаў" з ізалятараў і турмаў, вярнуць добрае імя Беларусі ў свеце. Калі ж гэтага неймавернага цяжару "не пацягнуў" бы, папрасіў бы прабачэння ў люду беларускага і падаў бы ў адстаўку А потым пайшоў бы зноў пісаць вершы, бо ўлада ў паэта адна – улада над мастацкім словам



Зрэшты, і карпеючы над мастацкім словам, не перастаў бы разважаць над гамлетаўскім пытаннем дадзена нам ці не дадзена распазнаваць і ў маўчуну, і ў гаваруну-абяцальніку сутнасць – падымецца ён да абаронцы людзей або стане абкрадальнікам іх, фізічным і маральным, злодзеем у законе?

**Анатоль ДЭБІШ**

Аlso, нейкая асоба , прыкладам я, – прэзідэнт Вядома, сімвалічна, ці як казалі старажытныя рымляне: in absentia (без асабістай прысутнасці).

Думкі, вызначаныя гэтай асобай ніжэй, – гэта, так бы мовіць, першы, агульны напрамак дзейнасці, коратка сфармуляваны.

Дык вось, спачатку кансультацыі са спецыялістамі і аднадумцамі, з якімі неабходна паставіць самы глыбокі аналіз сэнсу існавання народа, што насяляе краіну, магчымасці яго выжывання і перспектывы на бліжэйшую і самую аддаленую будучыню ў найжорсткай канкурэнцыі з іншымі народамі А канкурэнцыя гэта, да слова, "вечная і маральная" Такое жыццё. І тут няма чаго саромецца, бо самыя дробныя саступкі прывядуць да самаедства.

"Народ, які ведае, НАВОШТА яму жыць, можа

вытрымаць амаль любое ЯК" Гэтае выказванне Ф Ніцшэ, мяркую, дае сакраментальны адказ на самы шырокі шэраг пытанняў

НАВОШТА?

У чым сэнс існавання любога этнасу? Жыць, каб забяспечыць сябе ежай, працаваць і нараджаць дзяцей? Менавіта такое існаванне, якое цьмяна і сарамліва сінтэзуецца ў сучасных сродках інфармацыі, з'яўляецца ледзь не асноўным пастулатам прагназіравання ў галінах сацыялогіі, дэмаграфіі, маралі і г.д. Але такое існаванне ўласціва хіба што жывёлам. Увесь народ ператвараецца такім чынам у corpus vile – танны арганізм, які скарыстоўваецца для эксперыментаў у медыцынскіх мэтах. Між тым, выжыць у сучасным свеце – ужо найвялікшая праблема. А трэба не толькі выжыць, а і авалодаць энергетычнымі, геапалітычнымі, этнічнымі, касмалагічнымі і іншымі вартасцямі Народ, які адным з першых паставіць сябе ў суадносінах да ПРЫРОДЫ І КОСМАСУ, здолее авалодаць не толькі новымі, альтэрнатыўнымі відамі энергіі, але, у будучым, верагодна, і неўміручасцю, прарвецца да віртуальных таямніц Сусвету

Нават звычайнаму чалавеку з сярэдняга ўзроўню інтэлектам стане ўрэшце зразумела, што дэнацыяналізаваная большасць (прыкладам, тыя ж 8 – 9 мільёнаў) праз усялякія "саюзы" і разблакіроўку межаў пацягне за сабой у нябыт усіх беларусаў як нацыю. Ну, што з таго, што мы ў мазахісцкім імпэце "сольёмся" з ласкутнай расійскай большасцю? Нас назаўсёды падключаць "да трубы"? І мы зноў вернемся да таго ж: працаваць – каб жыць і нараджаць дзяцей? Са "здачай" мовы і рэштак нацыянальнай свядомасці завяршыцца вялікае этнічнае раскраданне народа, а ў атрымаўшай падмацунак Расіі хіба што на нейкі час паменшыцца велічыня скул. Знікне цэлы непаўторны этнас, і, кажучы словамі таго ж А. Салжаніцына, "кому мы тогда сунем в нос нашу классовую борьбу"?

Народы, якія выберуць сабе ўдзелам "ежу, работу і нараджэнне дзяцей", хутка будуць выцеснены з этнічнай нішы сучаснага існавання Яны стануць тым гноем, на якім, магчыма, узрасце новае грамадства, калі, вядома, будуць паспяхова пераадолены праблемы шматлікіх экалагічных, дэмаграфічных, этнічных катастроф

Прэзідэнт павінен усвядоміць, што ў сучаснай дэмаграфічнай сітуацыі беларусы ўступілі ў працэс нацыянальнага распаду Пра гэта сведчаць прыклады пасіўнасці і фенаменальнага негатывізму да сваіх прэрагатыўных вартасцяў фактычнае адрачэнне ад актыўнага існавання – ад культуры, мовы, сімволікі, волі, раўнадушша да наступу чужых рэлігійных канфесій, манкіраванне іншымі нацыянальнымі каштоўнасцямі Нават аўстралійскія пігмеі, якія харчаваліся чарвякамі, актыўна супрацьстаяліся ўварванню белых каланістаў у іх рэзервацыі, захоўваючы і да гэтага часу свае культуралагічныя вартасці Нацыянальны мазахізм трывала ўкараніўся ва ўсе праявы нашага грамадскага існавання. А народы, якія не берагуць і не памнажаюць, а самі садзейнічаюць паслабленню свайго генафонду, пасылаючы сваіх дачок "па размеркаванні ў аддаленыя кішлакі", а сыноў на смерць у імя "інтэрнацыянальнага абвязку"; не могуць разлічваць нават на фізічнае існаванне ў бліжэйшай будучыні

У данай сітуацыі яшчэ не позна выхаваць грамадства, пазбаўленае як ксенафобіі, так і згубных тэндэнцый самаедства і самазнішчэння, якія навязваюцца нацыі звонку. Яшчэ не позна пазбегнуць масавага этнічнага разбазарвання і раскрадання. Яшчэ не позна захаваць нацыю. Толькі вось – ЯК?

ЯК?

Гэта пытанне пытанняў Вытрымаць *як*, калі не абумоўлена *навошта*? Працягваць жыць *як не трэба*, спадзеючыся на выпадак? Што толку, напрыклад, змагацца за якую адну нацыянальную школку, калі праз межы краіны свабодна прасочваюцца і асядаюць сотні тысяч сквапных, галодных і ад таго энергічных чужынцаў, якія запаўняюць этнічныя нішы і выцясняюць мову і культуру тубыльцаў? Нават У Жырыноўскі, якому часам не адмовіш у пэўнай дасціпнасці, заўважыў, напрыклад, што ў нейкай краіне ". мужчыны ўжо пачынаюць жаніцца адзін з адным, а ў гэты час туркі, якія панаехалі з сваёй метраполіі, заводзяць па пятнаццаць дзяцей у сям'і, дык хто хутка будзе большасцю ў той краіне?"

Дэ Голь, атрымаўшы пасаду прэзідэнта, добра разумеў небяспеку для нацыі апынуцца залежнай ад чужынцаў. Дайшло да таго, што ён спецыяльна выступіў па тэлебачанні з заклікам да французскіх жанчын нараджаць "ад французаў і – не менш за траіх дзяцей", бо існаванне нацыі апынулася пад пагрозай. Да яго прыслухаліся.





Зазірніце цяпер у любы мінскі дзіцячы садок і пабачце, колькі там дзяцей-напаўсірот з чорнай, жоўтай скурай? Сумнеўна, што яны будуць шчаслівыя ў будучым і яшчэ больш сумнеўна, што ўключацца ў стваральны нацыянальны рух.

Пытанне *як* стаіць зараз у стольких рэтраспекцыях, што патрабуе самага шырокага і навуковага аналізу. Тым не менш, зразумела асноўнае народ, які паяднаны нацыянальнай ідэяй, які захоўвае і памнажае свой генафонд, культуру, мараль, можа ўпэўнена разлічваць на доўгае існаванне ў гэтым свеце. Брутальная, энергічная нацыя апярэдзіць іншыя і заваюе сваё месца на Планеце і ў Космасе. Нягледзячы на тое, што агульная дэградацыя і дэарызацыя ставяць пэўныя перашкоды ў гэтым напрамку Але на прыкладзе такіх малых, але дзеяздольных дзяржаў, як Фінляндыя, Японія, Ізраіль, Нарвегія, Эстонія, Ічкерыя, Літва і інш., можна ўпэўніцца ў перспектыўнасці такога шляху.

Ці здольны этнас, які насяляе краіну, на татальную нацыяналізацыю? Ці вернецца да страчаных вартасцяў? А страчаны: сталіца (Вільня), нацыянальная святыня (крыж Еўфрасінні Полацкай), тэрыторыі (Беласточчына, Смаленшчына, Чарнігаўшчына і г.д.), герб ("Пагоня"), сцяг, гімн, урэшце – мова і г.д. Страчаны пазітыўны імідж у свеце. Затое *страх* і *здрада* могуць у пэўных варунках стаць складнікамі менталітэту

Яшчэ *ніводзін кіраўнік* у нашым друку і сродках электроннай інфармацыі не ставіў перад сваім народам пытання глабальнага выжывання Не акрэсліваў *мэты* існавання.

Дык, *як* выкажацца народ? Мала дзе ён так размежаваны, як у нас і мала дзе настолькі інертны і пасіўны. Ён падзелены. Такім чынам:

*Прэзідэнт аб'яўляе рэферэндум па нацыянальным выжыванні* У ходзе яго і пасля заканчэння той мільён (ці, можа, больш, ці, можа, менш), які хоча незалежнасці і монаэтнічнасці, аб'яўляецца крывічамі з адначасовым усталяваннем краіны Крывіі са сталіцай – Менскам (ён, дарэчы, разлічаны недзе на 500 тысяч чал.), сваім сцягам, гербам, гімнам, мытняй, грашыма, межамі, з калідорам на Захад. Межы ўстанаўліваюцца па дамоўленасці з суседняй дзяржавай – Беларуссю (яе сталіца, прыкладам, Магілёў).

Увесь гэты складаны працэс праходзіць у рамках канстытуцыі. Народ, які выкажацца за поўную інтэграцыю з іншай краінай, зойме большую частку тэрыторыі сучаснай рэспублікі і вольны ўтвараць на ёй спрыяльны для сябе грамадскі парадак. Перасяленне і міграцыя, якія будуць непазбежныя, з часам стабілізуюцца.

Нешта падобнае здолелі правесці на Чэхаславаччыне (зараз Чэхія і Славакія), а таксама яўрэі, якія стварылі незалежны Ізраіль і адрадзілі мову і культуру свайго народа.

Адно відавочна: лёс нашай няшчаснай, напаўзасыпанай радыеактыўным попелам краіны, як бы ён ні склаўся далей, усё яшчэ залежыць ад саміх беларускіх жыхароў І ў пэўнай ступені ад той асобы, якую яны выбралі і выберуць у Прэзідэнты.

**Юры СТАНКЕВІЧ**





**агад А**
Усталяваць на цэнтральнай плошчы сталіцы помнік мне – Зміцеру Вішнёву На ўсіх астатніх плошчах сталіцы ўсталяваць помнікі ўсім маім сваякам

**Загад Б**
Толькі Саюз Вольных Краін можа задаволіць наш гераічны і афрыканічны народ! Таму загадваю пайсці на аб'яднанне паміж нашай краінай і Заірам. Толькі гэты Саюз можа прывесці нас да светлай будучыні, што знаходзіцца каля возера Мабуту

**Загад В**
Усталяваць помнікі літаратарам з Бум-Бам-Літа. Юрасю Барысевічу – у горадзе Бумба, Ганцы Шханавай – у горадзе Лубумбашы, Вальжыне Морт – у горадзе Мбандака, Іллю Сіну – у вёсцы Селішчы, Алесю Туровічу – у горадзе Кісангані, Валянціну Акудовічу – у горадзе Кіншаса. Усім бумбамлітаўцам, не ўключаным у спіс помнікаў, самім падрыхтавацца назаўсёды з'ехаць у аддаленыя мястэчкі нашай неабсяжнай дзяржавы.

**Загад Ш**
Абавязваю дзяржаўныя і камерцыйныя структуры! Усіх звольненых і скарочаных супрацоўнікаў – на сталы нашых грамадзян! Будзем пераймаць тысячагадовыя традыцыі некаторых афрыканскіх плямён! Бо вараны, смажаны альбо марынаваны лянотнік лепшы стымул для росту прамысловасці нашых прадпрыемстваў!

**Загад Д**
Усім фальклорным калектывам спяваць толькі на суахілі. Хто супраць – тыя здраднікі! Я – прэзідэнт!

**Загад Ф**
Стварыць Храм Сонца і Кракадзіла. Бо я люблю ляжаць пад сонцам, а кракадзілы заўсёды былі, ёсць і будуць маімі лепшымі сябрамі!

**Загад Р**
Інтэр'еры ўсіх крам, школ, лякарняў, аптэк і кінатэатраў павінны быць афрыканізаваныя. Працоўны персанал гэтых устаноў у гутарках з наведнікамі абавязаны скарыстоўваць бумеранг Хто супраць, тых на заірскія руднікі!

**Загад М**
На ўсіх дзяржаўных і камерцыйных прадпрыемствах прэміі павінны выдавацца толькі бананамі альбо какосамі. Хто не згодны – тым каштаны.

**Загад Л**
Усім, хто мяне любіць, прапаноўваю гучна сказаць. "Гаў!" Бо праз пэўны час і гэта вымаўляць будзе забаронена.

**Загад І**
Каб у нашай краіне адбывалася планавая афрыканізацыя, дазваляецца наведваць толькі краіны Афрыкі. У паездках за мяжу кожны грамадзянін абавязаны мець з сабой амулет і тазік. Хто будзе парушаць даны загад, тых саджаць у чаротавую хібару і некалькі гадзін прымушаць смяяцца. Потым злачынцу дазваляецца пасыпаць перцам і з'есці.

**Загад П**
Дзяржаўнымі мовамі аб'яўляюцца суахілі, лінгала, кіконга і чылуба. Хто будзе супраць, тых дазваляецца выслаць у Індыйскі акіян альбо з'есці.

**Загад Э**
Мастакам дазваляю маляваць толькі кракадзілаў і ўласныя вушы. Прычым у мастацкіх творах можна скарыстоўваць толькі белыя фарбы, белыя палотны і белую паперу А хто будзе супраць – выслаць у Папуа-Новую Гвінею да майго сябра чарадзея Барнабаса.

**Загад Ч**
Сантэхнікаў прымушаю заўсёды насіць на спіне мой партрэт Хто будзе незадаволены, тых сантэхнікі могуць стукаць гаечным ключом па вялікім пальцы правай нагі А хто супраць майго рашэння, тым абавязваю трымаць у ваннай кракадзіла 1,5 х 1,5 метра.

**Загад Т**
Усім распранууца! Мы павінны быць бліжэй да прыроды. Дазваляецца насіць толькі шлёпкі, фескі, лапці, галошы, мой партрэт і майткі.

**Загад Я**
Пенсіянераў у нядзелю выводзіць на плошчы і няхай пад грукат бубнаў спяваюць у мой гонар гімн нашай краіны! За імі павінны рухацца танкавыя калоны Страляць толькі па маім сігнале.

**Загад У**
Вайскоўцаў навучыць грызці бамбук! Зубы, толькі зубы выратуюць нашу армію ад магчымых нападаў варожых краін! Хто супраць – тых на мыла!

**Загад Ж**
Жанчынам забараняю крычаць падчас родаў. Можна толькі спяваць гімн нашай краіны. Таксама падчас родаў дазваляю есці кашу з геркулесу

**Загад Ю**
Аб'яўляю свой Дзень нараджэння 7 жніўня вялікім святам У гэты дзень можна піць толькі малако і бананавую гарэлку Дазваляю прысвяціць верш майму вялікаму розуму і майму вялікаму носу

**Загад Ё**
Чытаць можна толькі мае кнігі Прычым ноччу і пры святле месяца. Хто супраць, той абавязваецца ведаць усе мае творы на памяць. Падчас чытання можна танчыць ламбаду, але ў поўнай адзіноце.

**Загад Н**
У аўторак усім выйсці на вуліцу і прыкідвацца жырафамі, бегемотамі і суслікамі Ролі можна агучваць. Лепшых сяброў і лепшых ворагаў трэба мазаць зубной пастай

**Загад К**
Паміж вуліцамі выкапаць траншэі У парках пасекчы ліпы, дубы і пасадзіць пальмы Да ліхтарных слупоў прычапіць каналізацыйныя люкі

**Загад О**
Аб'яўляю сябе валадаром свету І загадваю свайму сакратару намаляваць мне трэцяе вока і трэцюю руку

**Загад Ы**
Машына XXI стагоддзя – камбайн! Таму ўсе астатнія віды транспарту загадваю пераплавіць у камбайны Будзем камбайнерамі Будзем мець хлеб Будзем жыць шчасліва.

**Зміцер ВІШНЁЎ**



**КРЫНІЦА № 12**

**1997**

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-КУЛЬТУРАЛАГІЧНЫ ЧАСОПІС

ВЫДАЕЦЦА СА СТУДЗЕНЯ 1988 ГОДА

**Заснавальнікі:**
**СП Беларусі, калектыў рэдакцыі**

**Рэгістрацыйны нумар 630**



**Выдаецца на беларускай мове**

**Рукапісы аўтарам па пошце не вяртаюцца**

**Пішыце:**
**220807, г. Мінск, ГСП, вул. Кісялёва, 11**

**Звaніце:**
**366-071, 366-142**

Падпісана да друку з арыгінала-макета 19. 12. 97 Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера друкарская № 2. Ум.друк.арк. 13,02. Ум.фарба-адб. 14,35.
Ул.-выд.арк. 14,52.
Тыраж 2000 экз.
Кошт дагаворны. Зак. 2783.

**Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва**
**«Беларускі Дом друку», 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.**



# *Лаўрэаты*
## *часопіса "Крыніца" за 1997 год*



проза **"Вайсковае Евангелле"** (№ 32)

*Язэп ПАЛУБЯТКА*



паэзія **"Заўсёды восень"** (№ 34)

*Юрась ПАЦЮПА*



драматургія **"Лабірынт"** (№ 30)

*Мікола АРАХОЎСКІ (пасмяротна)*



культуралогія **"Чарга"** (№ 37)

*Юрась БАРЫСЕВІЧ*